УДК
ББК
Т

Навуковы рэдактар:
*І. А. Чарота*, загадчык кафедры славянскіх літаратур
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, доктар філалагічных навук, прафесар

Рэцэнзенты:
*В. М. Ляшук*, дацэнт кафедры славянскіх моў
Універсітэта імя Мацея Бела ў Банскай Быстрыцы (Славакія),
кандыдат філалагічных навук, дацэнт
*А. У. Вострыкава*, дацэнт кафедры славянскіх літаратур
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук, дацэнт
*Л. А. Козік*, дацэнт кафедры гісторыі паўднёвых і заходніх славян
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат гістарычных навук, дацэнт

**Трус, М.**

Т Купалаўскія адрасы ў Славакіі : манаграфія / Мікола Трус ; навук. рэд. І. А. Чарота ; аўт. прадм. М. Сэрватка. – Мінск, 2018. – 288 с. : іл.

ISBN

У манаграфіі асвятляюцца невядомыя старонкі жыццяпісу Янкі Купалы і гісторыі беларуска-славацкіх культурных сувязей. Праца з архівамі дазволіла дэталёва прадставіць падарожжа па Славакіі ў кастрычніку 1935 года дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў, у якой браў удзел класік беларускай літаратуры. У навуковы зварот уводзіцца шэраг невядомых дакументаў і матэрыялаў: інтэрв'ю, аўтографаў, фотаздымкаў, замежных газетных публікацый і інш. Плённыя навуковыя росшукі сталі фактаграфічнай асновай шэрагу міжнародных ініцыятыў, у тым ліку беспрэцэдэнтнага культурнага праекта «Славацкімі шляхамі Янкі Купалы», ажыццёўленага ў чэрвені 2015 года. Такім чынам прадэманстравана інтэграванасць навукі ў сучасную практыку міжнароднага супрацоўніцтва.

**УДК**
**ББК**

**ISBN**

# Змест

Кніга, якую чытач трымае перад сабой, створана ў актуальным рэчышчы змены ракурсаў бачання і асэнсавання нацыянальнай класікі, яе прысутнасці ў свеце. Спачатку спакваля набывала свае адметныя рысы прыватнае навуковае даследаванне, якое зыходна ішло насуперак устаялым меркаванням. Спецыялістам было вядома, што Янка Купала наведаў Славакію ў кастрычніку 1935 года ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў і журналістаў. Але гэта быў толькі факт, нічым не прыкметны сярод іншых згадак у жыццяпісе класіка, без аніякіх відавочных прэтэнзій на самадастаковасць тэмы, перспектыўнай для распрацоўкі.

Зварот да беларускіх і славацкіх архіваў, скрупулёзная пошукавая праца, звязаная з паездкамі па гарадах Славакіі, паклікалі з нябыту ці напаўзабыцця шэраг імёнаў, фактаў, падзей еўрапейскага грамадска-культурнага працэсу, якія паступова кампанаваліся ў артыкулы, а потым былі ўзбуйнены і канцэптуальна аформлены ў манаграфію “Янка Купала ў Славакіі” (2012), прадмову да якой напісаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Мар’ян Сэрватка. Кніга стварыла метадалагічны прэцэдэнт, а ў беларуска-славацкіх адносінах на ніве навукі і культурна-асветніцкай дзейнасці – спарадзіла

своеасаблівую ланцуговую рэакцыю міжнародных ініцыятыў: сустрэч, прэзентацый, круглых сталоў, выставак і г. д.

Урэшце ўзнікла задума міжнароднага культурнага праекта "Славацкімі шляхамі Янкі Купалы", які быў паспяхова рэалізаваны ў 2015 годзе. Дэлегацыя беларускіх пісьменнікаў, журналістаў, навукоўцаў, музейных работнікаў рушыла па купалаўскім маршруце з адмысловай місіяй, падказанай 1935 годам: у кожным горадзе ладзіліся сустрэчы з мясцовым кіраўніцтвам, зацікаўленай грамадскасцю; вяліся адрасныя абмеркаванні перспектыў супрацоўніцтва, славацкім бібліятэкам перадаваліся беларускія кнігазборы. Гэтая акцыя стала прыкладам ажыццяўлення ў сучасных умовах магчымасцей народнай дыпламатыі, стварыла культурны і навуковы прэцэдэнт у міжнародным маштабе, выпрацавала свой фармат актуалізацыі купалазнаўчай тэмы і яе шматграннай распрацоўкі.

Прапанаванае выданне сабрала пад адной вокладкай архіўнае даследаванне "Янка Купала ў Славакіі" – у якасці перадгісторыі і фактаграфічнай асновы, а таксама публікацыі адносна ключавых этапаў міжнароднага праекта "Славацкімі шляхамі Янкі Купалы".

Такім чынам, тэма купалаўскіх адрасоў у Славакіі паўстае як найбольш распрацаваная на сучасным этапе, прыклад удалай інтэграванасці беларускага навуковага даследавання ў міжнароднае культурнае супрацоўніцтва. Часавыя пераклічкі і своеасаблівы кругазварот падзей толькі ствараюць ілюзію завершанасці – наперадзе новыя цікавыя архіўныя знаходкі, навуковыя даследаванні, культурныя акцыі. Народная спрактыкаванасць падказвае: на добры ўраджай варта спадзявацца толькі ад шчыра ўробленай нівы.

## На выхад манаграфіі "Янка Купала ў Славакіі"

Мы прывыклі гаварыць пра Славакію, як пра "малую вялікую краіну": малую – геаграфічна, вялікую – з яе прыроднай прыгажосцю, культурай і гісторыяй. Тое самае я рады тут і цяпер сказаць пра Беларусь і яе жыхароў.

Мы, славакі, ганарымся, што на нашай зямлі ў IX ст. па запрашэнні нашага валадара Расціслава адбылася адзіная рэлігійна-культурная місія святых Кірыла і Мяфодзія, якія прынеслі нашым продкам пераклад Бібліі. Вынікам іх дыпламатычнага поспеху ў Рыме стала прызнанне папам Адрыянам II літургіі на старaславянскай мове. Мова нашых славянскіх продкаў стала чацвёртай мовай набажэнстваў разам з лацінскай, грэчаскай і яўрэйскай. Усё гэта адбывалася ў часы, калі не было яшчэ ні тэлефонаў, ні інтэрнэту ці скайпа. Аднак думкі вялікіх мужоў рэалізаваліся. Існавала ліставанне, кантакты правіцеляў, адбываліся сустрэчы.



За кнігай дацэнта Мікалая Труса стаіць гістарычны візіт Янкі Купалы ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў і журналістаў у Славакію ў 1935 г., а таксама яго працоўныя наведванні, як самастойнага даследчыка, славацкіх архіваў, бібліятэк.

Нягледзячы на тое, што ў сучаснасці вельмі цяжка прапанаваць штосьці новае з біяграфіі літаратурных класікаў, кніга "Янка Купала ў Славакіі" можа даць новыя кірункі ў даследаванні творчасці беларускага волата. Размова ідзе пра новыя факты культурнага супрацоўніцтва, якія пацверджаны дакументальнымі матэрыяламі. Таму выданне з'яўляецца беспрэцэдэнтнай падзеяй у гісторыі беларускай літаратурнай навукі. Манаграфія вызначае шырокія магчымасці працы ў славацкіх і беларускіх архівах і бібліятэках і перспектыву адкрыцця новых цікавых фактаў з гісторыі нашых узаемадносін.

Я перакананы, што публікацыя будзе карыснай славакістам і славістам у Беларусі, Славакіі і ў цэлым свеце.

Беларусы і славакі – абодва нашыя народы – прайшлі праз шмат цяжкіх выпрабаванняў. Славакам таксама пагражала знікненне роднай мовы. Венгерскія ўлады забаранялі карыстацца мовай ва ўстановах, школах і касцёлах. За выкарыстанне славацкай мовы можна было трапіць у турму, было шмат арыштаў і ахвяр. Але і гэта славацкі гістарычны досвед.

Сёння, у XXI ст., у час, калі свет паменшыўся, калі ўсё блізка, а ў нас ёсць шмат інфармацыі, узнікае новы парадокс: мы мала ведаем адзін пра аднаго. У большасці пра малыя народы, малыя славянскія народы, якія зрабілі вялікі ўклад у еўрапейскую і сусветную культуру.

І таму маюць сваё першачарговае значэнне лектарат беларускай мовы ў Славакіі і нядаўна заснаваны курс славакістыкі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце ў Мінску. Я рады, што як пасол Славацкай Рэспублікі, спрыяў яго ўзнікненню, а таксама выданню "Граматыкі

славацкай мовы для беларусаў", "Беларуска-славацкага размоўніка-даведніка для турыстаў", манаграфіі "Славацкі фальклор: жанры, формы, паэтыка" І. Швед. Я вітаю новыя пераклады са славацкай мовы; нядаўна напісаную кнігу "Славянскае сэрца. Аповесць пра Рудольфа Яшыка" А. Усоўскага, прысвечаную вядомаму славацкаму пісьменніку, падрыхтоўку манаграфіі пра Оскара Марыкса, народнага мастака Беларусі, які меў славацкія карані, вітаю выставы і ўсе кантакты, што дапамагаюць беларусам знаёміцца з нашымі рэаліямі, а найперш тыя, якія двухбакова дапамагаюць пацвердзіць феномен надзвычайнай блізкасці моў нашых народаў хоць яны і не суседзі.

У купалаўскі год я вітаў ініцыятыву супрацоўніцтва Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску з Музеем Людавіта Штура ў Модры, у малым славацкім горадзе, які таксама наведваў Я. Купала.

Выказваем нашу падзяку аўтару спадару дацэнту Мікалаю Трусу за шматгадовыя даследаванні беларуска-славацкіх літаратурных і культурных зносін. Няхай яго праца "Янка Купала ў Славакіі" будзе натхненнем для наступных даследчыкаў, славакістаў і беларусістаў.

Мар'ян СЭРВАТКА,
доктар філасофіі, кандыдат навук,
Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол
Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь. 2012 г.

## АД АЎТАРА

Калі падбіраць ключавыя словы да праведзеных росшукаў, плён якіх сабраны ў гэтай манаграфіі, то найбольш падыдуць *знаёмства* і *знаходка*, дакладней, формы множнага ліку гэтых слоў. Чытача будуць суправаджаць разложыстыя тэматычныя абсягі, мноства новых (ці малазнаёмых) імёнаў, назваў, рэалій. Такой паўстане найперш Славакія, але і на сваю гісторыю давядзецца паглядзець трохі па-іншаму, праз прызму бачання славацкіх журналістаў 1930-х гадоў.

Сённяшні статус Рэспублікі Беларусь як суверэннай дзяржавы прадвызначае ўвагу да міжнародных кантактаў мінулых часоў, замацаваных з беларускага боку поціскам рукі класіка літаратуры. Асвятленне пытанняў міжнародных узаемадачыненняў дае магчымасць і стымул лакалізаваць пошукі: трымаючы пад увагай аб’ектыўныя абставіны між*дзяржаўных* сувязей (Савецкі Саюз і Чэхаславакія), перайсці да канкрэтыкі вывучэння між*народных* стасункаў (Беларусь і Чэхія, Славакія, Падкарпацкая Русь).

Біяграфічны факт паездкі Янкі Купалы ў Чэхаславакію ў кастрычніку 1935 года ў складзе дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў агульнавядомы, але даследчыкі не маглі меркаваць, колькі цікавых старонак гэтага візіту звязаны менавіта са Славакіяй.

Цэлы пласт новай інфармацыі адкрыўся аўтару гэтых радкоў у час адной з навуковых камандзіровак, арганізаванай дзякуючы Пагадненню паміж міністэрствамі адукацыі Славацкай Рэспублікі і Рэспублікі Беларусь. Горад Браціслава стаў зыходным пунктам скрупулёзнай працы з фондамі бібліятэк і архіваў.

Славацкія калегі засцерагалі мяне перад марнасцю пошукавых клопатаў, маўляў, усё, што тычыцца славацка-савецкіх сувязей у сацыялістычныя часы, сабрана і апублікавана. Уласны ж даследчыцкі вопыт падказваў, што ніколі не трэба ўспрымаць тэму як вычарпаную; ранейшая праца з матэрыялам самых масцітых вучоных не значыць, што ўсё выяўлена і ўключана ў навуковы ўжытак. Перад даследчыкамі другой паловы XX стагоддзя былі свае засцярогі і забароны: што можна друкаваць, а што нельга з цэнзурных меркаванняў. Да таго ж каштоўнасць многіх матэрыялаў узрастае з часам, раней дробнае сёння бачыцца як неабходны штрых, заценены ў свой час больш кідкім і аб'ёмным матэрыялам.

Што звычайна бярэ ў дарогу пісьменнік у прадчуванні сустрэч з чытацкай аўдыторыяй і калегамі па пяры? Вядома, свае кнігі. Па публікацыях на старонках перыёдыкі 1935 года прасочваецца, што ў некаторых навучальных установах Славакіі дэлегацыя пакідала ў дар захопленыя з сабой зборы савецкіх выданняў. Вось прыкладна так для даследчыка вымалёўваецца адзін з кірункаў росшукаў.

З тагачасных выданняў класіка беларускай літаратуры, якія яшчэ пахлі друкарскай фарбай, былі заклікаsuccessfully адзначыць 30-гадовы юбілей творчай дзейнасці песняра, варта прыгадаць “Избранные стихи” (1934) з прадмовай Л. Бэндэ. (У фондах Дзяржаўнага

літаратурнага музея Янкі Купалы захоўваецца экзэмпляр гэтага выдання акурат вясны 1935 года з дарчым надпісам паэта Канстанцыі Буйло *"Мілай Костцы на мілы ўспамін. Янка. Масква 9/III-35 г."*). У Мінску ўбачылі свет другое ілюстраванае выданне паэмы "Над ракою Арэсай" (1934), першы том "Выбраных твораў" (1935, том I, 1905 – 1916); у Маскве – "Избранные стихи и поэмы. 1906 – 1935" (1935). *Крывіцкая Мекка* вітала творчы юбілей песняра трэцім выданнем паэтычнага зборніка "Шляхам жыцьця" (Вільня, 1935).

Асноўная праца са славацкай перыёдыкай 1930-х гадоў праводзілася ва Універсітэцкай бібліятэцы ў Браціславе (Univerzitná knižnica v Bratislave). Слова "Універсітэцкая" ў назве вядучага кнігасховішча Славацкай Рэспублікі гістарычнае, сёння бібліятэка не прымацавана да Універсітэта Я. А. Коменскага, а функцыянуе ў статусе, параўнальным з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі. Выданні міжваеннага перыяду даступныя тут у падшыўках арыгіналаў і на мікрафільмавых копіях.

Вывучэнне дакументаў патрабавала паглыблення ў культуралагічны кантэкст Славакіі 1920 – 1930-х гадоў. Перад аўтарам гэтых радкоў паўставалі разложыстае тэматычнае поле для даследавання, мноства праблемных атожылкаў міжкультурнага дыялогу і палілогу міжваеннага перыяду.

Культурнае жыццё Славакіі 1920 – 1930-х гадоў асвятлялася на старонках перыядычных выданняў* "Slovenské pohľady", "Živena", "Mladé Slovensko", "Luk", "Svojeť", "Vatra", "DAV" і іншых. Візіту дзеячаў савецкай культуры найбольшую ўвагу аддавалі газеты і часопісы "Ľudový denník", "Nástup", "Robotnícke noviny",

---

* Назвы выданняў пададзены ў адпаведнасці з тагачасным правапісам.

“Slovák”, “Slovenská politika”, “Slovenský deník”, “Slovenský Robotník”. Звесткі пра ўсе прагледжаныя перыядычныя выданні пададзены ў адным з дадаткаў да манаграфіі.

Аўтар гэтых радкоў напоўніцу выкарыстаў магчымасці метаду “дэ візу”, г. зн. працы з матэрыялам у руках, без інфарматыўнага пасярэдніцтва. Так навобмацак, перабіраліся, вывучаліся падшыўкі газет, часопісаў ці пакадрава пракручваліся мікрафільмавыя копіі даўніх выданняў.

Пасля першых знаходак інфармацыі пра дэлегацыю савецкіх журналістаў і пісьменнікаў у Славакіі ўся славацкая перыёдыка чыталася і перачытвалася асабліва пільна. Цікавіла ўсё: актуальныя падзеі грамадска-культурнага жыцця таго часу, унутранае палітычнае жыццё і міжнародная палітыка. Урэшце з асаблівай увагай успрымалася інфармацыя, якая ў іншай сітуацыі хутчэй за ўсё была б абмінутай: надвор’е тых дзён, побытавыя пытанні будзёнага жыцця Браціславы і іншых славацкіх гарадоў, рэклама тавараў і паслуг і іншае. Так паступова ў маім уяўленні жыццёвыя і культурныя клопаты славянскага народа набывалі жывую пульсацыю. Узнікла магчымасць прасачыць ледзь не пагадзінна знаходжанне савецкіх журналістаў і пісьменнікаў у Славакіі 15 – 18 кастрычніка 1935 года.

Янка Купала, як вядома, дзённікавых запісаў не вёў. Але дзякуючы вялікай журналісцкай дэталізацыі таго візіту (у тым ліку з савецкага боку) раз-пораз мільгала думка скласці своеасаблівы “славацкі дзённік” беларускага песняра, з’яўляліся магчымасці даць візуальнае падмацаванне такіх “дзённікавых” запісаў.

Задума і паэтапнае ажыццяўленне праекта пад назвай “Янка Купала ў Славакіі” самым непасрэдным чынам звязаны з часопісам “Роднае слова”. Артыкулы

ствараліся па ланцужковым прынцыпе: адна тэма цягнула за сабой наступную, кожная публікацыя адначасова станавілася самадастатковай і захоўвала цесную лагічную сувязь з папярэднімі, а таксама акрэслівала перспектывы наступных даследаванняў.

Традыцыі і выдавецкія магчымасці "Роднага слова", адметныя ў масмедыйнай прасторы беларускіх навуковых выданняў, дазвалялі суправаджаць тэкст візуальным радам – архіўнымі і сучаснымі фотаздымкамі, копіямі ўнікальных дакументаў, пад многімі з якіх была пазнака "публікуецца ўпершыню". Сярод іх невядомыя аўтографы Янкі Купалы, якія суседнічалі з подпісамі іншых вядомых прадстаўнікоў дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў, – факт такой аўтаграфічнай канцэнтрацыі подпісаў знакамітасцей вельмі рэдкі, калі не ўнікальны, у гісторыі крыптаграфіі. Асобна варта ўзгадаць інтэрв'ю, што не ўвайшло ў Поўны збор твораў Янкі Купалы ў 9 тамах, графічны партрэт песняра, а таксама першы артыкул у Славакіі, прысвечаны класіку літаратуры, тэкст якога змешчаны ў манаграфіі для азнаямлення ў перакладзе на беларускую мову.

Дзесяць роднасловаўскіх артыкулаў стварылі зместавую аснову здзейсненага зараз выдання кніжнага фармату. З завяршэннем часопісных публікацый рупіла папоўніць артыкулы неахопленым, але важкім даследчыцкім матэрыялам, але потым я вырашыў спыніцца на апрабаванай схеме, няспешлівым пагружэннем чытацкай увагі ў маштабны пласт новай, іншанацыянальнай інфармацыі.

У манаграфію ўлучаны толькі некаторыя з аскепкаў сабранага і ўзноўленага мінулага. Прадстаўлены матэрыял – частка фактаграфічнага плёну маіх навуковых замежных росшукаў. Аўтар гэтых радкоў перакананы,

што славацкі кірунак купалазнаўчых даследаванняў – адзін з нечакана перспектыўных, бо звязаны найперш з добрай захаванасцю славацкіх архіваў, дзяржаўных і прыватных.

Пра перспектыўнасць даследаванняў сёння сведчыць актывізацыя шматбаковых беларуска-славацкіх культурных, навуковых, эканамічных сувязей, пільная ўвага да іх з боку дзяржаўных структур і прадстаўнікоў дыпламатычнага корпусу.

Аўтар манаграфіі выказвае шчырую ўдзячнасць за падтрымку, кансультацыі, дапамогу пры падрыхтоўцы выдання дырэктару Алене Ляшковіч і супрацоўнікам Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, галоўнаму рэдактару Зоі Падліпскай і калектыву рэдакцыі часопіса "Роднае слова", прафесару кафедры славянскай філалогіі Універсітэта св. Кірыла і Мяфодзія (Трнава, Славакія) Ліліяне Бяловічавай, дацэнту кафедры рускай мовы і культуры Каталіцкага ўніверсітэта ў Ружамберку (Славакія) Вікторыі Ляшук. Шэраг паважаных асоб, да якіх скіравана аўтарская ўдзячнасць, згаданы ў асноўным корпусе тэксту выдання.

# Пачатак знаёмства

Беларуска-славацкія культурныя сувязі маюць адметную гісторыю. Міжнацыянальны дыялог двух славянскіх народаў перайшоў на якасна новы ўзровень на пачатку 1990-х гг. з наступленнем гістарычных падзей – набыццём Беларуссю і Славакіяй дзяржаўнага суверэнітэту. Відавочным стала двухбаковае імкненне да актыўных кантактаў і супрацоўніцтва.

Даследчыкам даводзіцца канстатаваць, што ў плане знаёмства культур сучасныя Беларусь і Славакія нечым нагадваюць дзве малавядомыя планеты. Гэта самабытныя краіны, у якіх багатая гісторыя, але маладая дзяржаўнасць.

Адна з асноўных прычын такога стану рэчаў у тым, што працяглы час беларуска-славацкія культурныя сувязі ў плане асвятлення і асэнсавання былі другаснымі ў маштабе кантактаў Савецкага Саюза і Чэхаславакіі. Між тым гэтыя кантакты маюць цікавыя старонкі, якія, на жаль, на пэўны час засталіся ў баку ад магістральных шляхоў збору матэрыялу, а таму належным чынам не сістэматызаваныя і не даследаваныя.

Можна гаварыць пра трывалыя кантакты Беларусі і Славакіі ва ўсіх сферах грамадска-культурнага жыцця пачынаючы з 1960-х гг. Беларуска-славацкія сувязі міжваеннага перыяду ў літаратуры прадстаўлены толькі фрагментарна. Аднак гэтыя старонкі адзначаныя тым, што пісаліся рукой класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы.

Пасля Першай сусветнай вайны ў 1918 г. на абломках Аўстра-Венгерскай імперыі ўзнікла новая дзяржава – Чэхаславакія. Перад славацкім народам разгарнуліся

перспектывы для эканамічнага, культурнага развіцця, актыўнага міжнароднага супрацоўніцтва. Славацкая мова стала мовай не толькі пісьменніка, але і чыноўніка, заняла належнае месца ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. На скрыжалях нацыянальнага будаўніцтва пазначаны наступныя гістарычныя падзеі: 6 сакавіка 1919 г. афіцыйна замацавалася славацкая назва галоўнага горада – Браціслава (у венгерскай культурнай традыцыі назва горада – Пажоны, у нямецкай – Прэсбург, Прэшпарк); у 1919 г. адчынены Універсітэт імя Я. А. Коменскага; у 1920 г. заснаваны Славацкі нацыянальны тэатр. Аднавіла дзейнасць Маціца славацкая (Matica slovenská), якая знаходзілася пад забаронай з 1875 г. Імкліва развіваліся ўсе кірункі творчай дзейнасці: выяўленчае мастацтва, архітэктура, камерная музыка і інш. У краіне актывізаваліся шматлікія партыі і непалітычныя арганізацыі, з’явілася разгалінаваная сістэма сродкаў масавай інфармацыі.

Развіццё славацкай літаратуры 1920 – 1930-х гг. было цесным чынам звязана з палітычнымі, сацыяльнымі, ідэйна-эстэтычнымі зменамі свайго часу. На новым узроўні ўсталёўваліся сувязі з чэшскай культурай, сусветнай літаратурай увогуле. Галоўным дасягненнем было тое, што прыгожае пісьменства атрымала магчымасць адысці ад традыцыйнай абарончай накіраванасці, ад пастаяннай засяроджанасці на праблемах нацыянальнага выжывання.

Старэйшая генерацыя славацкіх пісьменнікаў працягвала адстойваць у асноўным традыцыі рэалістычнай літаратуры (Марцін Кукучын, Ёзаф Грэгар Таёўскі, Цімрава). З першай паловы 1920-х гг. дынаміка літаратурнага развіцця звязана з творчасцю новага пакалення славацкіх пісьменнікаў (Ян Смрэк, Міла Урбан, Іван

Хорват, Лаца Навамескі, Петэр Ілямніцкі і інш.). У гісторыі славацкай літаратуры 1920 – 1930-я гады называюцца пераходным перыядам паміж дзвюма эпохамі прыгожага пісьменства. Міжваенны перыяд прадстаўлены шэрагам мастацкіх кірункаў і тэндэнцый. Сярод іх сацыяльна арыентаваная літаратура, паэтызм, надрэалізм і інш.

Тагачасныя беларуска-славацкія культурныя сувязі развіваліся ў агульным рэчышчы чэхаславацка-савецкіх стасункаў і ўзаемадачыненняў.

Урад Чэхаславакіі выступіў з ініцыятывай, якая атрымала назву “Руская акцыя”. Маладая дзяржава дапамагала прадстаўнікам рускай, украінскай, беларускай эміграцыі ўладкавацца на працу, атрымаць адукацыю, садзейнічала захаванню культуры народаў былой Расійскай імперыі. Тут працягвала даследчую і творчую дзейнасць кагорта прызнаных навукоўцаў і літаратараў, жыццёва звязаных з Беларуссю. Сярод іх літаратуразнаўца Яўген Ляцкі, пісьменнік Яўген Чырыкаў. З Прагай і Карлавым універсітэтам суаднесены важныя старонкі творчага сталення, грамадскай дзейнасці Уладзіміра Жылкі, Ігната Дварчаніна, Тамаша Грыба і інш. Некаторых далейшы лёс парадніў з Браціславай. Так, выпускніца беларускай гімназіі ў Дзвінску (Даўгаўпілсе) Людміла Краскоўская (1904 – 1999) пасля заканчэння Карлава ўніверсітэта жыццё прысвяціла Славацкаму нацыянальнаму музею, стала прызнанай даследчыцкай славацкай археалогіі і нумізматыкі.

Упершыню Янка Купала наведаў Прагу ў кастрычніку 1925 г. разам з Цішкам Гартным, Міхасём Чаротам і Міхасём Зарэцкім. Знаёмства з горадам прайшло ў атмасферы цёплых сустрэч і літаратурных вечарын. У снежні беларускі культурны асяродак у Празе

ўрачыста адзначыў 20-годдзе творчай дзейнасці песняра. Пра розгалас падзеі рупілася беларускае студэнцтва. Так, У. Жылка ў артыкуле "Янка Купала. Да юбілею 20-гадовай літаратурнай дзейнасці", які быў надрукаваны на рускай мове ў альманаху "Славянская книга", пісаў, што паэт *"з'яўляецца адным з найбольш яркіх прадстаўнікоў мадэрнай беларускай літаратуры і дакладным адлюстраваннем спадзяванняў і патаемных надзей беларускага свету"*.

Янка Купала выступіў адным з ініцыятараў стварэння ў 1926 г. Таварыства культурных сувязей Савецкай Беларусі з заграніцай. Галоўнай задачай арганізацыі было спрыянне дружбе і супрацоўніцтву беларускага народа з народамі іншых краін. Менавіта як член праўлення таварыства паэт наведаў Прагу ў верасні 1927 г.

Наступная яго паездка ў Чэхаславакію ў кастрычніку 1935 г. істотна пашырыла геаграфію знаёмства з краінай. Янка Купала прадстаўляў Беларусь у складзе дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў. Паездцы папярэднічалі важныя падзеі: 16 мая 1935 г. была падпісана дамова паміж Урадам Чэхаславакіі і СССР аб узаемнай дапамозе. У гэты час ажывіліся і культурныя сувязі паміж краінамі, пра што сведчыў і абмен дэлегацыямі.

Дэлегацыю савецкіх журналістаў і пісьменнікаў узначальваў Міхаіл Кальцоў. У яе склад уваходзілі асобы, якія вызначалі аблічча рускай, украінскай, беларускай літаратур, прадстаўлялі вядучыя перыядычныя выданні краіны. З пісьменнікаў гэта былі Аляксей Талстой, Аляксандр Фадзееў, Ганна Караваева, Іван Мікітэнка, Сяргей Траццякоў. Журналісцкую палову дэлегацыі, акрамя М. Кальцова, складалі галоўны рэдактар

часопіса "За индустриализацию" Г. Васількоўскі, галоўны рэдактар украінскага часопіса "Вісті" Ф. Таран, рэдактар "Правды" І. Багавой, супрацоўнік ТАСС І. Кавальскі, супрацоўнік Камісарыята замежных спраў Б. Міронаў.

Візіт праходзіў пад эгідай падрабязнага знаёмства з эканамічным, культурным жыццём розных гарадоў і рэгіёнаў краіны. Дамінанта афіцыйных сустрэч – выступленні за ўмацаванне міру ў Еўропе, за аб'яднанне сіл перад пагрозай фашызму.

Гэта была першая дэлегацыя такога ўзроўню, якая амаль тыдзень падарожнічала па Славакіі. У інтэрв'ю і М. Кальцоў, і А. Талстой падкрэслівалі, што менавіта пра Славакію ў Савецкім Саюзе было вядома на той час найменш. У адказах на пытанні супрацоўніка газеты "Slovenský deník" кіраўнік дэлегацыі М. Кальцоў адзначаў: *"У Славакію мы едзем з асаблівай цікавасцю. Мушу канстатаваць: Славакія ў нас – зямля амаль што невядомая. І гэткай неінфармаванасці трэба пакласці канец. Мы хацелі б, каб наша знаходжанне ў Славакіі – на жаль, вельмі кароткае – было менш забрана афіцыйнай часткай, а каб было больш магчымасці для жывога знаёмства з Браціславай і Славакіяй, яе дзеячамі, працай і народам"*. Са славацкага боку, адчуваючы патрэбу і магчымасць выправіць пэўным чынам сітуацыю, газета "Robotnícke noviny" адзначала: *"У нашых інтарэсах паказаць савецкім гасцям вынікі працы ў вызваленай Славакіі як найлепшы доказ таго, якім ёсць жыццё і рост славацкага народа ў атмасферы дэмакратыі і свабоды"*.

Візіт дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў 1935 г. у гісторыі беларуска-славацкіх стасункаў адметны тым, што гэта быў, можна лічыць, першы

непасрэдны кантакт культур, асветлены прысутнасцю класіка беларускай літаратуры. На старонках славацкіх газет друкаваліся першыя кароткія характарыстыкі-візіткі Я. Купалы. Ён называўся *“літаратурным будзіцелем”*, *“самым вядомым паэтам беларускай галіны рускага народа”* і інш.

Пра праграму, маршрут паездкі купалазнаўчая літаратура сёння практычна не дае ніякай інфармацыі. Энцыклапедычны даведнік “Янка Купала” абмалёўвае, па сутнасці, адным штрыхом знаходжанне паэта ў Браціславе, фіксуе толькі тое, што ён *“пабываў на прадпрыемствах горада”*. Яго інтэрв’ю, дадзеныя карэспандэнтам газет “Звязда” і “Літаратура і мастацтва” адразу пасля вяртання на радзіму, дыпламатычна хваласпеўныя і не ўтрымліваюць падрабязнай інфармацыі. Між тым праца аўтара гэтых радкоў у бібліятэках і архівах Славакіі паказала, што малавядомыя старонкі жыцця народнага паэта можна разгледзець дэталёва. Такая магчымасць існуе дзякуючы некаторым акалічнасцям і найперш таму, што адказным за прыняцце дэлегацыі быў Сіндыкат чэхаславацкіх журналістаў. Кожная сустрэча, імпрэза падрабязна апісвалася ў перыядычных выданнях. Для даследчыкаў творчасці Я. Купалы гэта сапраўды ўнікальная магчымасць: славацкія журналісты, надаючы вялікае значэнне візіту, па сутнасці, склалі падрабязны дзённік жыцця беларускага песняра ў Славакіі – ад гарачага вітання дэлегацыі на платформе чыгуначнага вакзала ў Браціславе да развітальных сустрэч на ўлонні дзівосных краявідаў Высокіх Татраў.

У час візіту рабіліся здымкі, афіцыйна-ўрачыстыя і будзённыя. Дасціпнае журналісцкае пяро па-свойму ставіла подпісы пад такімі здымкамі. Адзін з допісаў у газету пераводзіў напышлівую афіцыйнасць у сферу

фельетоннасці, падаваў трохі шаржавую галерэю партрэтаў савецкіх класікаў: "*Паміж удзельнікамі твары розных тыпаў, бо ўдзельнікі з'ехаліся з розных краёў неабдымнай Расіі. Але пераважаюць паміж імі ў значнай большасці славянскія тыпы: шырокія рускія твары старых рускіх сялянскіх тыпаў. Паміж імі і некалькі жвавых семіцкіх твараў. Ёсць тут вядомы пісьменнік Аляксей Мікалаевіч Талстой, нашчадак старой рускай графскай фаміліі, з тварам ладным, як бохан хлеба. Потым Траццякоў, таксама, паводле прозвішча, старая руская купецкая дынастыя. Пісьменніца Ганна Аляксандраўна Караваева мае твар, які мы бачылі ў рускіх студэнтак. А гэта малады ўкраінскі драматург Іван Мікітэнка з адкрытым славянскім тварам. Вы бачыце жвавы твар маладога Фадзеева і востра выразаны твар народнага беларускага паэта Янкі Купалы. А паміж імі выдзяляецца рухавы кіраўнік дэлегацыі дасціпны Міхаіл Яфімавіч Кальцоў*".

Праграма візіту была насычаная. Акрамя Браціславы дэлегацыя наведала Святы Юр, Модру, Пешцяны, населеныя пункты ў Высокіх Татрах. Гэта было знаёмства з культурным жыццём гарадоў, эканомікай, функцыянаваннем школ, бальніц, грамадскіх інстытуцый. Пералік знаёмых Янкі Купалы пры гэтым можа быць прадстаўлены шэрагам імёнаў адметных славацкіх пісьменнікаў таго часу: Гана Грэгарава, Эла Шандар, Янка Алексы, Гейза Вамаш і інш.

На карысць актыўных кантактаў дэлегацыі сведчыць і той факт, што да справы годнага прыёму гасцей з СССР далучыўся шэраг грамадскіх арганізацый: Таварыства культурных і эканамічных сувязей з СССР, Звяз сяброў СССР, Суполка славацкіх пісьменнікаў, Звяз славацкага студэнцтва і інш. Такі журналісцкі

ажыятаж тлумачыў адзін з аўтараў на старонках газеты: “*Было зразумела, што візіт журналістаў і пісьменнікаў з савецкай Расіі выкліча большую цікавасць, чым падобная дэлегацыя з любой іншай краіны. І гэта насуперак усялякім чуткам пра гэтую велізарную славянскую зямлю, таму што там яшчэ столькі загадкавага, што ўзбуджае цікавасць і варушыць фантазію… І ўрэшце гэта грамадзяне вялікай Расіі, з якімі нас, як пра гэта казаў яшчэ Ваянскі, 200 мільёнаў*”.

Усе нюансы знаходжання дэлегацыі ў Славакіі прыцягнулі ўвагу перыядычных выданняў розных партый, спарадзілі дыскусіі пра ўнутранае і знешнепалітычнае жыццё, якія доўжыліся яшчэ некалькі месяцаў пасля ад’езду дэлегацыі. З гэтай нагоды славацкія газеты поўніліся фельетонамі, сяброўскімі шаржамі на гасцей з Савецкага Саюза. Да таго ж восень 1935 г. у Славакіі была багатая на юбілеі: 300 гадоў святкаваў універсітэт у Трнаве, 120 гадоў спаўнялася з дня нараджэння народнага будзіцеля Людавіта Штура. З асаблівай увагай пісалі славацкія газеты пра 25-годдзе з дня смерці Льва Талстога, аддаючы належнае памяці генія рускай літаратуры, нагадваючы пры гэтым, што сакратаром і асабістым доктарам Талстога быў славак Душан Макавіцкі.

Ганна Караваева ва ўспамінах пра Янку Купалу адзначала, што падчас гэтай паездкі ён быў вельмі засмучаны, выглядаў надта засяроджана. Такі стан паэта яна тлумачыла трывогай перад фашысцкай пагрозай, той атмасферай напружанасці і чакання, якой тады поўнілася грамадства ўсіх еўрапейскіх краін.

Сёння пра тое, што засмучала чуйную душу паэта, можна толькі здагадвацца. Ці хваляваў яе неспакой за мір? Ці вярэдзіла рана 1930 г., калі пасля допытаў

ён зрабіў спробу самагубства? Ці да сумных высноў прыводзілі назіранні-параўнанні эканамічных поспехаў Чэхаславакіі і СССР? Ганне Караваевай запомнілася адна эмацыйная фраза Янкі Купалы, яго ўражанне ад убачанага: "*Зямля як уроблена, як цудоўна дагледжана!*". Можна меркаваць, што ўсе клопаты сышліся ў галаве і сэрцы песняра. Пэўна, што і на падушках шыкоўных чэхаславацкіх гатэляў яму сніліся сны аб Беларусі.

**Літаратура**

1. Янка Купала : Энцыклапедычны даведнік. – Мінск : БелСЭ, 1986.
2. Жылка, У. Выбраныя творы / У. Жылка; уклад., прадм. і камент. М. Скоблы. – Мінск, 1998.
3. Кенька, М. Мастацкі пераклад са славацкай мовы на беларускую / М. Кенька // Slovensko-bieloruské jazykové, literárne a kultúrne vzťahy. – Prešov, 2003. – S. 45 – 56.
4. Богданов, Ю. Словацкая литература / Ю. Богданов // История литератур западных и южных славян : в 3 т. – Москва, 2001. – Т. 3 : Литература конца XIX – первой половины XX века (1890-е годы – 1945 год).
5. Караваева, А. Свет вчерашний / А. Караваева. – Москва, 1964.
6. Мирочицкий, Л. Белорусско-чехословацкие культурные и научные связи / Л. Мирочицкий. – Минск, 1981.
7. Семакова, С. Эскиз о белорусско-словацких отношениях / С. Семакова // Взаимодействие литератур в мировом литературном процессе (проблемы теоретической и исторической поэтики). – Гродно, 1998. – С. 199 – 203.
8. Kahanček. Hostia z Ruska v Bratislave / Kahanček // Slovenský deník. – 1935. – 17 októbra. – S. 3.
9. Rozhovor s vodcom výpravy sovietskych spisovateľov a novinárov na Slovensko // Slovenský deník. – 1935. – 15 októbra. – S. 1.
10. Šmatlák, S. Dejiny slovenskej literatúry II (19. Storočie a prvá polovica 20. Storočia) / S. Šmatlák. – Bratislava, 2001.
11. Vzácní hostia // Robotnícke noviny. – 1935. – 16 októbra. – S. 1.




З чэшскімі калегамі па пяры. Ёзаф Гора, Яраслаў Кратахвіл, Янка Купала. Чэхаславакія, Карлавы Вары, 1927 г.



Янка Купала, Міхась Зарэцкі, Міхась Чарот, Цішка Гартны. Прага, 1927 г.



Міхась Чарот, Цішка Гартны, Янка Купала і Міхась Зарэцкі са студэнтамі-беларусамі. Прага, 1927 г.



Янка Купала. 1935 г.






Чэхаславакія (чэш. Československo, славацк. Česko-Slovensko) у 1928 – 1938 гг.



Госці і гаспадары. Дэлегацыя савецкіх журналістаў і пісьменнікаў з прадстаўнікамі Таварыства культурных і эканамічных сувязей з СССР. Прага, 19 кастрычніка 1935 г.

# Брацілава вітае ганаровых гасцей

Брацілава сярэдзіны 1930-х гг. уяўляла з сябе горад, які дынамічна развіваецца. Ужо тады гэта быў сапраўдны цэнтр эканамічнага, культурнага жыцця Славакіі, у якім суседнічалі сівая даўніна архітэктуры мінулых стагоддзяў і аблічча сучаснага прамысловага горада з развітой інфраструктурай. Паспяхова рэалізоўваліся праграмы дзяржаўнага будаўніцтва, на нацыянальныя рэйкі пераводзілася дзейнасць устаноў культуры і адукацыі. Як у цяжкім сне помніліся славакам умовы жыцця зусім нядаўніх першых дзесяцігоддзяў XX ст.: актыўны працэс мадзьярызацыі, ідэйнымі лідарамі якога былі сумнавядомыя венгерскія графы Коламан Ціса (Koloman Tisza) і Альберт Апані (Albert Apponyi), эканамічны заняпад часу Першай сусветнай вайны.

Паважаных гасцей з Савецкага Саюза ў кастрычніку 1935 г. рыхтаваліся сустрэць асабліва ўрачыста. Гэтае пытанне спецыяльна разглядалася на пасяджэнні гарадскога кіравання Брацілавы [14, с. 534]. Было чым пахваліцца, рупіла таксама не найгоршым чынам выглядаць на фоне прыёму ў Чэхіі, дзе перад тым ужо тыдзень была дэлегацыя журналістаў і пісьменнікаў з СССР. Напярэдадні прыезду гасцей славацкія газеты пачалі сістэматычна друкаваць матэрыялы пра ўмовы жыцця ў савецкай Расіі, з усім дыяпазонам ацэнак і крытыкі: ад паказу адшліфаванага механізму масавых рэпрэсій да ўсхвалення здабыткаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі, моцы Чырвонай Арміі як абаронцы міру ў Еўропе.

Пагроза спакою і дзяржаўнай незалежнасці тады ўжо набывала канкрэтныя абрысы: сродкі масавай інфармацыі поўніліся звесткамі пра тое, што фашысцкая Італія акупавала Эфіопію (Абісінію), убіраўся ў сілу новы магутны агрэсар – Германія. Невыпадкова адной з асноўных афіцыйных місій дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў была ідэя міру, што падкрэслівалася ледзь не ў кожнай афіцыйнай прамове на ўрачыстых мерапрыемствах.

На афіцыйных прыёмах савецкая дэлегацыя паводзіла сябе, што называецца, згодна з зацверджаным пратаколам. Прамоўцы вызначаны загадзя, экспромты выключаны.

У Браціславе Янка Купала ў цені, ён не выступае, не дае інтэрв'ю. Пазней, вярнуўшыся ў Мінск, на старонках беларускіх газет ён будзе, у асноўным, ганьбіць буржуазных эксплуатататараў-прамыслоўцаў, як таго і патрабавала камуністычная ідэалогія.

Славацкія газеты таго часу цікавымі допісамі разбуралі пратакольную сухасць мерапрыемстваў. Многае з апісанага беларускі пясняр бачыў на свае вочы. Цікавыя штрыхі брацілаўскіх сустрэч падалі журналісты. Узнаўленне тых падзей ужо само па сабе дазваляе акрэсліць новую тэму – купалаўскія мясціны сталіцы Славакіі.

15 кастрычніка 1935 г. для сустрэчы ганаровых гасцей на брацілаўскім чыгуначным вакзале сабралася ўпаўнаважаная дэлегацыя: бацькі горада, дэпутаты мясцовага кіравання, журналісты, сябры Таварыства за культурнае і эканамічнае збліжэнне з СССР, а таксама шматлікія жыхары славацкай сталіцы.

Савецкія пісьменнікі і журналісты прыбылі ў Брацілаву ў аўторак вечарам у 19.45 на цягніку са Зліна. На вакзале для ўрачыстай сустрэчы сабраліся

рэдактары газет на чале з шэф-рэдактарам браціслаўскага філіяла Сіндыката чэхаславацкіх журналістаў Каралам Гушкам (Karol Hušek). У прывітальным слове ён сказаў: “*Я маю гонар сардэчна вас прывітаць ад імя мясцовай філіі Сіндыката, якая аб’ядноўвае чэхаславацкіх журналістаў у Браціславе. Паколькі мой сябра Кальцоў выказаў шкадаванне аб тым, што Славакію яшчэ не ведае, мы хочам пастарацца, каб вы добра пазнаёміліся з нашай зямлёй. Будзьце ў нас, у Славакіі, дарагімі гасцямі, пачувайце сябе тут па меншай меры так добра, як пачуваліся ў Чэхіі*” [10, с. 1].

Гасцінную ўрачыстаць прадоўжыў стараста Браціславы доктар Уладзімір Крно (Vladimír Krno): “*Як стараста сталіцы Славакіі я сардэчна вітаю вас на тэрыторыі гэтага горада. Мая радасць асабліва вялікая ад таго, што я маю магчымасць прывітаць журналістаў сяброўскай дзяржавы – Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, з якім нас аб’ядноўвае не толькі кроўная еднасць, але і агульны клопат пра мір. Вы прыехалі ў сталіцу Славакіі, сталіцу таго народа, які з дапамогай сваіх братоў здабыў свабоду, сёння хуткімі тэмпамі імкнецца рэалізаваць усё тое, што ў мінулым для яго было пад забаронай. Вы будзеце непасрэднымі сведкамі таго, наколькі нам гэта ўдалося. Я жадаю, каб вы адчувалі сябе ў нас як найлепш*” [10, с. 1].

Прадстаўляючы Таварыства за культурнае і эканамічнае збліжэнне з СССР, дэлегацыю па-руску вітаў пісьменнік Эла Шандар (Elo Šándor), які адзначыў, што “*славацкі народ ад веку быў русафільскі, меў сталую сімпатыю да рускага народа і жадае з ім як найшчыльнейшых сувязей*” [10, с. 1].

Ад імя дэлегацыі на шчырыя вітанні браціслаўцаў адказаў старшыня Саюза савецкіх журналістаў Міхаіл

Кальцоў: «*З вялікай радасцю прыехалі мы да вас у Браціславу. Калі ў мінулым годзе да нас прыязджала дэлегацыя чэхаславацкіх журналістаў, яе найпапулярнейшым членам быў рэдактар Гушак. Тады пры расстанні мы казалі, што не развітваемся, але кажам "Да пабачэння!". І цяпер гэта здзейснілася на вашай прыгожай зямлі, у вашым горадзе. Гэта сувязі, якія з'яўляюцца не толькі сувязямі пачуцця, але і рацыі, таму што наша сяброўства заснавана не толькі на тым, што нашы народы адносяцца да славянскіх, але і на тым, што яны маюць агульныя канкрэтныя інтарэсы, і не толькі культурныя, але, адзначу, актуальныя, асабліва што датычыцца абароны незалежнасці. Гэтыя праўдзівыя і канкрэтныя інтарэсы з'яўляюцца тым, што ўмацоўвае наша сяброўства. І калі я вам дзякую за прыём, то тым самым запэўніваю, што мы зробім усё для таго, каб нашы адносіны як найбольш развіваліся*». М. Кальцоў завяршыў сваю прамову па-славацку: *"Nech žije slovenský národ, nech žije Slovensko, táto krásna čiastka Československej republiky, nech žije priateľstvo slovenského a ruskégo národa!"* (Няхай жыве славацкі народ, няхай жыве Славакія, гэта прыгожая частка Чэхаславацкай Рэспублікі, няхай жыве дружба славацкага і рускага народаў!) [8, с. 1].

Словы М. Кальцова былі прынятыя прысутнымі бурнымі воплескамі і воклічам "Nazdar!" (Вітаем!). Воклічы яшчэ больш узмацніліся, калі савецкія госці выйшлі з вагона на перон, дзе іх чакаў вялікі натоўп. Паветра скаланалі заклікі "Няхай жыве славянская Расія!", "Няхай жыве савецкая Расія!", "Няхай жыве Савецкі Саюз!". (Пазней выданні правых партый іранічна пакепвалі з таго, што на хвалі эйфарыі на пероне прагучаў і рэвалюцыйны заклік "Няхай жыве *савецкая* Славакія!".)

А 20-й гадзіне на вялікім гарадскім аўтобусе дэлегацыю адвезлі ў самы прэстыжны браціслаўскі гатэль "Карлтан" ("Carlton").

У гэты самы дзень вечарам а 21-й гадзіне ў гонар высокай дэлегацыі даваў урачыстую вячэру Сіндыкат чэхаславацкіх журналістаў. Са славацкага боку былі высокія цывільныя і паліцэйскія чыны, прадстаўнікі генералітэту, дэпутаты парламента краіны, рэктар Універсітэта Я. А. Коменскага прафесар Богуслаў Полак (Bohuslav Polák), а таксама старшыня Таварыства за культурнае і эканамічнае збліжэнне з СССР пісьменніца Гана Грэгарава (Hana Gregorová), яе намеснік Эла Шандар, кіраўнік Славацкага нацыянальнага тэатра Ян Барадач (Ján Borodač), браціслаўскія журналісты і інш.

Першым савецкіх гасцей вітаў па-славацку і па-руску Карал Гушак. У прамове ён сказаў наступнае: *"Надзвычай дарагія госці прыехалі да нас, у сталіцу Славакіі: прадстаўнікі газет і пісьменнікі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, ці, як мы скарочана называем, савецкай Расіі. Яны аддаюць даніну зваротнай ветлівасці на візіт чэхаславацкіх журналістаў, які адбыўся ў снежні мінулага і студзені гэтага года. Былі ўжо ў Празе, Плзні, Брне, Оламоўцы, Зліне і іншых гарадах чэшскай зямлі, а цяпер завіталі да нас і праз нашу Славакію, праз нашы хмарачосныя Татры павядзе іх дарога на Падкарпацкую Русь.*

*Я меў гонар быць у дэлегацыі журналістаў у савецкай Расіі. Пра гэта я ўжо некалькі разоў гаварыў. Зараз я хацеў бы ўрачыста сведчыць тут, перад прадстаўнікамі савецкай Расіі, што нас прымалі надзвычай сардэчна, не толькі дыпламатычна-афіцыйна, а з любоўю, якая можа ісці толькі ад шчырага паразумення. Доказам гэтага з'яўляецца тое, што нас прывіталі*

*міністры замежных спраў нашых краін, прадстаўнікі арміі, з якімі мы таксама добра паразумеліся. Сёння такая сітуацыя, што дзве дзяржавы ў свеце праводзяць абсалютна падобную знешнюю палітыку. Гэтыя дзяржавы – Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і наша Чэхаславацкая Рэспубліка.*

*Мы маем за гонар тут, у Славакіі, як гэта было і ў чэшскіх землях, аддзячыць за сардэчнасць сардэчнасцю, за любоў любоўю і за паразуменне паразуменнем. Мы, тут прысутныя прадстаўнікі газет, культурных, гаспадарчых і дзяржаўных устаноў, упэўненыя, што нашы госці будуць у Славакіі адчуваць сябе добра. Яны пераканаюцца ў сардэчнасці нашых адносін, калі будуць падарожнічаць па Славакіі, адчуюць, якім ёсць наша стаўленне да вялікай краіны, якую яны прадстаўляюць. Сардэчнасць і паразуменне не залежаць ад вялікасці народа і краіны. Сардэчнасць ідзе ад сэрца, а паразуменне ідзе ад розуму – гэта нас яднае з тымі, што прыбылі да нас у якасці ганаровых гасцей. Таму мы ўпэўнены, што візіт рускіх калег у нас, у Славакіі, пакладзе трывалы пачатак умацаванню нашых сумесных пазіцый, якія заклікаlittlesия бараніць нашы супольныя інтарэсы ў свеце.*

*<…> Мы, славяне, верым, што нашы лёсы вырашацца тады, калі нашы самыя шырокія культурныя і навуковыя інтарэсы будуць не толькі пастаўлены на ўзровень астатніх, але будуць узнятыя яшчэ вышэй. А сёння ў нас найлепшыя прадстаўнікі журналістыкі і пісьменніцтва Саюза Савецкіх Рэспублік, куды ўваходзяць Расія, Украіна, Белая Русь і іншыя рэспублікі, яны робяць вялікую справу, вартую ўдзячнасці. І ў Славакіі, дзе яшчэ нядаўна пад пагрозай было наша права чытаць і пісаць па-славацку, мы гэтую працу добра разумеем і цэнім*” [6, с. 2].

Карал Гушак зазначыў, што славацкі народ шануе сваю культуру, традыцыі, умее працаваць. З паездкі ў Савецкі Саюз ён прывёз уражанне ад таго, як хутка будуюцца новыя гарады. Гэтаксама хутка мяняе сваё аблічча і Браціслава, якая на вачах становіцца сучасным горадам, расце эканоміка краю, відавочныя дасягненні ў сферы культурнага будаўніцтва. Як адзначыў прамоўца, *"у нас, у Славакіі, дзе калісьці было эльдарада феадалізму і манархізму, мы будуем рэспубліканскую дзяржаву рука ў руку з чэхамі"* [8, с. 1].

На прывітальнае слова К. Гушака ад імя гасцей адказаў украінскі пісьменнік Іван Мікітэнка: *"Дазвольце мне сказаць на сваёй роднай украінскай мове – так, як у нас свабодна размаўляюць на сваіх мовах усе 170 народаў Савецкага Саюза, што маюць роўныя правы. Дзякуй вам за паразуменне і любоў. Мы прыйшлі да вас з ідэяй міру, якую разам з жыхарамі Савецкага Саюза падзяляе і грамадства Чэхаславацкай Рэспублікі.*

*З радасцю мы прыехалі ў Браціславу, сталіцу славацкай часткі Чэхаславацкай Рэспублікі. Нам вядомы пакручасты лёс вашай зямлі і народа пачынаючы ад Вялікамараўскай імперыі і да прыгнёту мадзьярамі і Габсбургамі, што спрычыніліся да таго, што славацкая культура не магла развівацца так, як было патрэбна. Мы ведаем, які гэта быў вялікі ўдар для вас, калі была зачынена Маціца славацкая і калі венгерскі прэм'ер-міністр граф Ціса аб'явіў, што славацкага народа няма, і калі граф Апані выдаў закон, згодна з якім славацкае слова павінна было быць поўнасцю выдалена са школ. Гэтыя ўчынкі мадзьярскіх прыгняtaльнікаў застануцца іх вечнай ганьбай. Уражвае той факт, што славакі насуперак усялякаму свайму ўціску змаглі зберагчы сваю мову, а сваю нацыянальную адметнасць захаваць і далучыць*

*да Чэхаславацкай Рэспублікі, дзе цяпер могуць вольна жыць і развівацца. Росквіт Славакіі ў Чэхаславацкай Рэспубліцы сведчыць пра хлусню графа Цісы, таму што славацкі народ ёсць, жыве і жыць будзе.*

*Падобна да іншых высокаразвітых народаў, меў славацкі народ яшчэ падчас свайго прыгнёту такіх выдатных духоўных лідараў, якімі былі паэт Сладкавіч, паэт Святазар Гурбан Ваянскі, раманіст Кукучын і вялікі нацыянальны паэт Гвездаслаў, які палымянымі словамі вітаў узнікненне дэмакратычнай Чэхаславацкай Рэспублікі. Не менш слаўная і сучасная славацкая літаратура, прадстаўленая такімі імёнамі, як Міла Урбан, Гана Грэгарава, Лаца Новамескі, Янка Есенскі.*

*Народы Савецкага Саюза, на варце якога стаіць Чырвоная Армія, вітаюць славацкі народ. Савецкі народ не мае звычкі дзяліць народы на вялікія і малыя. Мы ведаем, што Чэхаславацкая Рэспубліка з'яўляецца нашым вялікім сябрам, і мы ўпэўненыя, што Чэхаславацкая Рэспубліка зможа абараніць сваю незалежнасць.*

*Няхай жыве Славакія! Няхай жыве Браціслава! Няхай жыве сяброўства нашых народаў!*" [7, с. 1].

Прыўкрасай вечара сталі выступленні салістаў Славацкага нацыянальнага тэатра. На вячэры некалькі славацкіх песень кампазітараў Новака, Шнайдэра-Трнаўскага, Фолпрэхта заспявалі прызнаныя майстры сцэны: Гелена Благава-Барташова (Helena Blahová-Bartošová, сапрана) і Арнольд Флёгл (Arnold Flögl, бас).

Пасля вячэры творчая грамада перамясцілася ў больш дэмакратычны асяродак – карчму на Угорскай вуліцы, улюбёнае месца гараджан, у якім звычайна смакаваўся дарунак новага ўраджаю – маладое славацкае віно. Тут сабралася больш шырокая супольнасць браціслаўскіх пісьменнікаў і мастакоў.

Першую палову наступнага дня творчая дэпутацыя з Савецкага Саюза мела магчымасць паглядзець горад, ацаніць яго прыгажосць і сучаснае аблічча. Сярод агледжаных мясцін – прыстань на Дунаі (яна асабліва спадабалася гасцям), Цэнтральны кааператыў (Ústredné družstvo), школы, студэнцкі інтэрнат.

Дастаткова сціслую інфармацыю газетных перадавіц пра прыём дэлегацыі, яе перамяшчэнні па горадзе ажыўлялі публікацыі, якія часта размяшчаліся ў рубрыцы “Фельетон”. Падаваліся каментары такога кшталту: *“У сухім дакладзе пра агляд горада было толькі тое, што савецкія журналісты агледзелі гарадскія славутасці. Ну, бачылі мы з таго мала. Таму што атрымалі такі аўтобус, з якога можна было бачыць толькі блакітнае неба. Але і з гэтым былі спакойныя, пэўна і ў іх неба такое самае, як і ў нас. А яно прыгожае. Паколькі пастаянна глядзець на нябёсы жадання не было, то зацягнулі некалькі рускіх і ўкраінскіх песень. Было гэта таксама прыгожа”* [4, с. 2].

Дысцыплінаваныя госці з Савецкага Саюза ўважліва аглядалі тыя мясціны, якія ім прапаноўвалі, і толькі “чырвоны граф” Аляксей Талстой дазволіў сабе заўпарціцца і не пайсці на чарговы аб’ект агляду. Адносную свабоду паводзін ён прадэманстраваў ужо на другі дзень, як пісалі журналісты, паскоранага курса азнаямлення з Чэхаславакіяй. Пасля насычанай праграмы першых дзён ён папрасіў літасці, жартаўліва прыпомніў працоўны кодэкс і права на выходныя дні [13, с. 4]. На гэты раз пісьменнік апеляваў да таго, што дастаткова ўжо пабачыў канцылярый, хоча пешшу прайсціся па горадзе, надыхацца браціслаўскім паветрам ды купіць сабе што-небудзь на памяць. Яго паслухалі і адпусцілі. Вярнуўся А. Талстой з індывідуальнай прагулкі ў прыўзнятым настроі, усё яму

вельмі спадабалася: *"Было гэта яшчэ лепш, як калі мы сядзелі на беразе Дуная на прыстані"* [4, с. 2].

Зрэшты, усе члены дэлегацыі пасля наведання Цэнтральнага каапературыва атрымалі магчымасць прайсціся па Браціславе. Пільнае журналісцкае вока зафіксавала, што асаблівай папулярнасцю карысталіся ў пакупнікоў грамафонныя пласцінкі.

Палітычны падтэкст у жартаўлівых рэпартажах таксама праглядваўся. Так, у адным з фельетонаў газеты "Slovenský deník" апісвалася падгледжаная цікавая сітуацыя: трое прадстаўнікоў дэлегацыі (імёны не называліся) зайшлі ў краму купіць кашулі. "Які памер?" – спытаў прадавец. "Сорак", – быў адказ. "А вам?" – спытаў ён у другога пакупніка. "Сорак", – паўтарыўся адказ. Трэці адказ не быў іншым: "Сорак, прашу". "Савецкі стандарт ёсць і ў кашулях", – зрабіў выснову аўтар фельетона і пракаментаваў лінгвістычную сутнасць камічнага эфекту: па-славацку "сорак" – *štyridsať* (чатыры дзясяткі) [4, с. 2].

Водгукі выданняў партый кансерватыўна-хрысціянскага кірунку былі больш сур'ёзныя. Перш-наперш у іх адзначалася, што бальшавікі – сапраўдныя майстры прапаганды, кожную дробязь яны імкнуцца запісаць на свой рахунак, свае поспехі ў вачах усяго свету неверагодна павялічваюць, а няўдачы замоўчваюць. Газета "Slovenský Robotník" пісала наконт гэтага наступнае: *"З Расіі, у якой бяды заўсёды шмат, зрабілі сапраўдны рай. <u>Толькі</u> там няма беспрацоўя, <u>толькі</u> там ёсць справядлівасць, <u>толькі</u> там ёсць дабрабыт! І шмат ёсць тых, якія гэтым наіўным казкам паверылі. І гэта не толькі простыя рабочыя, але часта людзі, якіх свой уласны погляд павінен быў засцерагчы ад небяспекі паддацца гэтай выкшталцонай прапагандзе. Расія стала моднай…"* [12, с. 1].

Па сутнасці, паралельна з артыкуламі афіцыйных газет вымалёўвалася свая апазіцыйная карціна візіту ў Славакію *"камуністычнага панства ці паноў таварышаў"*. Газеты перадрукоўвалі матэрыял пра іншы, незаўважаны прыезд з Савецкага Саюза.

Праз два дні пасля прыёму шаноўных гасцей на тую самую станцыю сціпла прыбыла іншая група людзей. Гэта была сям'я простых рабочых: дзевяць чалавек, родам з усходняй Славаччыны, якія, паддаўшыся прапагандзе, у пошуках лепшай долі тры гады таму пераехалі ў савецкую Расію – *"зямлю абяцаную, дзе малако і мёд цякуць ракой"*. Газеты зацята іранізавалі: *"...гэтую другую дэлегацыю не прывітаў у Браціславе ніхто: ні стараста горада, ні дэпутаты, ні простыя людзі. <...> Наадварот: хто быў сведкам прыезду гэтай другой дэлегацыі з бальшавіцкай Расіі, жахнуўся да глыбіні сваёй душы, занік ад узрушэння, адвярнуўся і як хутчэй адышоў, каб нічога не чуць і не бачыць, каб забыць тое, што бачыў і чуў"* [5, с. 1]. Сям'я вымушана была вярнуцца, бо не засталося моцы трываць "бальшавіцкі рай".

Аўтара допісу ўразіў знешні выгляд паязджанаў: *"Кожны ўжо на першы погляд мог здагадацца, што гэта грамада родзічаў. Яны былі аднолькава абарваныя, амаль што босыя, аднолькава галодныя, ценькія, худыя і бледныя, у іх запалых вачах аднолькава тлела нянавісць, а на тварах аднолькава застыў адчай"* [5, с. 1]. Бацька сямейства расказваў жахлівыя рэчы пра ўмовы, у якіх жывуць у савецкай Расіі рабочыя. Але для слухачоў іх выгляд быў больш пераканальны за ўсялякія расповеды.

Не абышлі ўвагай названыя выданні і красамоўнае выступленне І. Мікітэнкі на ўрачыстай вячэры ў гатэлі

“Карлтан”. Украінскага пісьменніка палічылі за афіцыйнага аратара дэлегацыі. Было аддадзена належнае яго пранікнёнаму выступленню, бо гаварыў ён, як адзначалася, *“народна, нацыянальна”*. З удзячнасцю былі ўспрынятыя яго словы, якія тычыліся праблемы вялікіх і малых народаў. Але журналістаў ад апазіцыі насцярожылі яго выказванні, што ў дзяржаўных выданнях не цытаваліся. Датычылася неапублікаваная частка выступлення І. Мікітэнкі той праблемы, што *“славацкі народ і сёння акружаны сваімі даўнімі прыгнятальнікамі, але ён не павінен баяцца, таму што ёсць Савецкі Саюз, ён пра нас [славакаў] не забудзе, ён стане на нашу абарону, ён не дазволіць, каб дрэнныя старыя часы вярнуліся”* [9, с. 1].

На гэтае выказванне была дадзена наступная водпаведзь: *“Калі мы слухалі гэтыя словы, то нам здавалася, што тут гаворыць чырвоны патомак старых царскіх шляхцічаў, які маляваў у душы нашых славацкіх продкаў вобраз бацюшкі цара і яго Расіі, якая не дасць нам загінуць і якая богам пастаўлена абаронцай усіх малых і слабых славянскіх народаў”*. Як адзначалася, прамова ўкраінскага пісьменніка прыгадала *“стары, цяпер трошкі начырвона падфарбаваны панславізм”* [9, с. 1].

Такія публікацыі ні ў якім разе не мелі на мэце зацяніць традыцыйную славацкую гасціннасць. Яны спрыялі актывізацыі грамадскай думкі, агульнанацыянальнаму рэзанансу ўзнятых праблем. У процівагу складзенаму афіцыйнаму хваласпеву, што шырока разыходзіўся па дзяржаўных сродках масавай інфармацыі, прапаноўвалася крытычнае асэнсаванне гісторыі і сучаснасці славацка-рускіх узаемадачыненняў, на фоне агульнаеўрапейскага клопату пра мір закраналася праблема малых народаў, аналізаваліся перашкоды на шляху нацыянальнага будаўніцтва.

Прыезд дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў развярэдзіў замоўчаныя праблемы, акрэсліў пазіцыі дзвюх партыйных сістэм-канкурэнтаў: сацыял-дэмакратаў і хрысціян-кансерватараў на чале з Андрэем Глінкам. Актуальныя матэрыялы перадрукоўваліся многімі выданнямі, да іх дадаваліся каментары. Пільна адсочваліся справаздачы, якія друкавалі журналісты і пісьменнікі – члены дэлегацыі – у савецкіх выданнях. Актыўныя дыскусіі, агляды суправаджалі важных гасцей у далейшым перамяшчэнні па Славакіі. Яны не сыходзілі са старонак газет яшчэ некалькі месяцаў пасля завяршэння ўрачыстай місіі.

**Літаратура**


1. Encyklopédia dramatických umení Slovenska. – Bratislava : Veda, 1989. – T. 1 : A – L.
2. Encyklopédia Slovenska. – Bratislava : Veda, 1980. – IV zväzok : N – Q.
3. Slovník slovenských spisovateľov 20. storočia. – Bratislava : Slovenská národná knižnica, 2001.
4. ak. Dva dni so sovietskymi novinármi / ak. // Slovenský deník. – 1935. – 19 októbra. – S. 2.
5. I drugá výprava zo sovietskego Ruska // Slovenský Robotník. – 1935. – 24 októbra. – S. 1.
6. Medzi Ruskom a Československom : Z prívetu šefredaktora Karla Huška // Slovenská politika. – 1935. – 17 októbra. – S. 2.
7. Mykytenko, I. Slovenský národ tu je, žije a žiť bude / I. Mykytenko // Slovenský deník. – 1935. – 17 októbra. – S. 1.
8. Ruskí hostia v Bratislave // Slovenský deník. – 1935. – 17 októbra. – S. 1.
9. Sidor, K. Zradná báseň / K. Sidor // Slovák. – 1935. – 22 októbra. – S. 1.
10. Sovetski hostia v Bratislave // Slovenská politika. – 1935. – 17 októbra. – S. 1.
11. Sovjetskí spisovatelia a novinári v Bratislave // Robotnícke noviny. – 1935. – 17 októbra. – S. 2.
12. Tak žijú robotníci v Rusku! // Slovenský Robotník. – 1935. – 24 októbra. – S. 1.
13. Urýchlený kurz sovjetských novinárov o Československu // Robotnícke noviny. – 1935. – 16 októbra. – S. 4.
14. Zprávy mesta Bratislavy. – 1935. – 14 októbra.

PROLETÁRI SVETA SPOJTE SA!

# ľudový denník

CENA 40 hal.

ŠÉFREDAKTOR ŠTEFAN MAJOR

Ročník II. Útorok, 15. októbra 1935. Číslo 118.

## Сердечный привет товарищам советским журналистам и писателям

Srdečný pozdrav súdruhom sovietskym novinárom a spisovateľom!

V. CLEMENTIS.

## Trochu zemepisu

(—k) Nebýva síce úlohou denného časopisu nahradzovať ľudovú školu, ale v tomto prípade sme nútení dávať lekcie zo zemepisných poznatkov, ktoré má každé školské dieťa v malíčku. Komu? Komu inému ako redakcii »Slováka«.

Tento úradný orgán Hlinkovej ľudovej strany venoval úvodník nášmu nedávnemu článku o Benešovi, úvodník, ktorý sa nám zdá byť pozoruhodným, pretože po dlhšom čušaní vedúca klika v ľudovej strane v ňom zase raz prezradila svoju zahraničnú-politickú »koncepciu«. »Slovák« nie je spokojný so zahraničnou politikou ministra Beneša a to preto, že nás spája so Sovietskym sväzom, a poučuje: »Reálnou politikou by bolo stavať na dobrom pomere susedných štátov...« »Beneš robí opak toho« — vysvetľujú v »Slovákᵫ svoju myšlienku — »stavia na priazni ďaleko od nás rozložených štátov.«

Raz sa tedy zase vykĺzlo šídlo z vreca. Ale stalo sa tak v dobe, keď v Habeši už tečie krv a keď, využívajúc vojenskej konjunktúry, Hitler, Gömbös a poľskí pilsudčíci už utvorili známy fašistický trojspolok, ktorého vojenné dobyvačné úmysle až tak kričia. Keď ešte v takejto dobe sa »Slovák« osmeľuje opakovať svoju starú zahraničnepolitickú piesničku, značí to, že sidorovci sa nemienia dať poučiť ani najtvrdšími skutočnosťami.

Tváriť sa vedia, pravda, stále ešte veľmi nevinne. O čo ide? Spojiť sa so susednými štátmi a nie so vzdialenejšími. Ako by otec radil nádejnej ratolesti: Hľadajže si ty kamarátov v našej ulici a nebehaj za ďarvancami bohvie až kam. A to je tiež všetko. Ozaj veľmi nevinné. Tak »nevinné«, že sme sa museli odhodlať k malej lekcii zo zemepisu, aby sme strhli ľuďáckým pánom závoj nevinnosti.

Ktorí sú tedy susedia Československej republiky?

Predovšetkým Nemecko. Alebo dnes správnejšie: hitlerovské Nemecko. Chápeme síce Hlinkov dobrý pomer k Hitlerovi, jeho sympatie s režimom, ktorý vzal ľudu všetky práva a pokúša sa ich nahradiť šírením stredovekej a ešte staršej povery — ale to nestačí k tomu, aby bol uspokojujúci pomer medzi Nemeckom a Česko-

Cena 80 hal.

Ročník XVII. Číslo 236

# Slovák

Vychodí denne okrem pondelka. Zakladateľ a vodca: ANDREJ HLINKA. Bratislava, štvrtok 17. októbra 1935

KAROL SIDOR:

## Na margo cesty sovietskych novinárov po Slovensku

Márne námahy

## Hroziace nebez... svetovej vojny

Nepriateľstvo taliansko-anglické môže vyšľahnúť každú chvíľu

## Obe strany pripravené na v...

Maršal Badoglio prevzal hlavné vedenie nad ...

# SLOVENSKÝ DEN...

Ročník XVIII. V Bratislave vo štvrtok 17. októbra 1935 Číslo 250.

Ivan Mykytenko:

## Slovenský národ tu je, žije a žiť bude.

Čo potrebuje naša armáda.

## Minister Machník o obrane štátu.

## Pred novou italskou ofenzívou?

Značné italské vojská v Libyi.

## Ruskí hostia v Bratislave.

Generál Nasilo.

Славацкія газеты, якія асвятлялі візіт дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў.



Spisovatel Tretjakov.



Spisovatel Alexei Tolstoi.







ANNA KARAVAJEVA

Сяброўскія шаржы мастака Крауса на прадстаўнікоў дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў, якія публікаваліся на старонках чэшскіх і славацкіх газет.



На тэрасе гатэля “Carlton”. Янка Купала за чалавекам з разгорнутай газетай.




Гатэль “Carlton”. Сучасны выгляд.



На набярэжнай Дуная.



Прыстань на Дунаі. Сучасны выгляд з Новага моста.

# Памятнае гасцяванне ў мястэчку Святы Юр

*Святы Юр* (у сацыялістычныя антырэлігійныя часы горад называўся *Юр пры Брацiславе*) знаходзiцца ля падножжа Малых Карпат. У 1930-я гг. гэты невялiкi населены пункт, слаўны вiнаградніцтвам i рамесніцтвам, налiчваў больш за 700 гадоў існавання. Першы чыгуначны маршрут у гiсторыi краю звязаў у XIX ст. Брацiславу менавіта са Святым Юрам.

Ваколiцы мястэчка здаўна былі адметныя клiматычнымі ўмовамi. Тут застыла ў часе ўнiкальная прыродная рэзервацыя – *Шур* (Šúr), самая вялiкая ў Сярэдняй Еўропе спадчыннiца разложыстых балот, якiя ў мiнулым займалi тэрыторыю памiж сучаснымi Брацiславай i Модрай, сапраўдны кландайк для батанiкаў i заолагаў, бо тамтэйшы лес з яго багатым раслiнным i жывёльным светам захаваў рысы трапiчнага пралесу. Сёння гэта нацыянальны прыродны запаведнiк.

Агляд мястэчка дэлегацыяй савецкiх журналiстаў і пiсьменнiкаў у 1935 г. нiяк не мог прайсцi мiма мясцовых дастапомнасцей: фарнага касцёла Святога Юра XIII ст. (адкуль i назва мястэчка), вядомага роспiсамi i каменным рэнесансавым алтаром, кляштара i Палфiцкага касцёла (ад iмя фундатара Палфi) пачатку XVII ст. На гары над Святым Юрам сiвой пасмай застылi рэшткi старадаўняга замка Белы Камень XIII ст. У мястэчку захавалася шмат тыповых вiнаграднiцкiх дамоў са старымi пiўнiцамi, дзе здаўна падтрымлiвалiся традыцыi вырабу якаснага славацкага вiна.

Гісторыя Святога Юра звязана з шэрагам адметных імёнаў у культуры Славакіі. Менавіта тут нарадзіўся і пахаваны каля касцёла Ян Гергат (Ján Hergott, 1817 – 1873), паплечнік славацкіх будзіцеляў Людавіта Штура і Ёзафа Міласлава Гурбана. Святаюрскі перыяд жыцця і творчай дзейнасці можна прасачыць у біяграфіях шэрагу пісьменнікаў XX ст. У іх пераліку – Францішак Гечка (František Hečko), Марыя Янчава (Mária Jančová), Ян Грушоўскі (Ján Hrušovský), Люда Зубек (Ľudo Zúbek) і інш.

У 1930-я гг. таксама пісалася свая літаратурная старонка краю, бо сярод людзей, якія прымалі дэлегацыю творчай эліты Савецкага Саюза, быў тады даволі малады пісьменнік-камуніст, а потым шырокавядомы ў пасляваеннай Чэхаславакіі народны пісьменнік Петэр Ілямніцкі (Peter Jilemnický, 1901 – 1949). Са Святым Юрам звязана яго выкладчыцкая дзейнасць 1936 – 1939 гг. Пасля вайны ў мястэчку ў яго доме быў створаны мемарыяльны музей, адзін з першых літаратурных музеяў Славакіі. З гэтай культурна-асветнай установай у свой час падтрымліваў шчыльныя сувязі, вёў перапіску музей Янкі Купалы ў Мінску. У пачатку 1990-х гг. са зменай палітычнай сітуацыі ў краіне святаюрская памятка гэтага пісьменніка і палітычнага дзеяча была ліквідавана.

Варта адзначыць, што з іменем П. Ілямніцкага звязваецца другі ў гісторыі культурных стасункаў пераклад твораў славацкай літаратуры на беларускую мову. Першы вопыт, як вядома, – беларускамоўнае пераўвасабленне апавядання “Юдава поле” Светазара Гурбана-Ваянскага. Твор быў надрукаваны ў “Нашай Ніве” ў 1909 г., падпісаны крыптанімам *М. Б*. Яго

творчае перастварэнне прыпісваецца Максіму Багдановічу.

Часопіс "Маладняк" (1931, № 4) змясціў пераклад аповесці "Падвей" П. Ілямніцкага, падпісаны крыптанімам *Р. М*. Гэта, па сутнасці, адзіны вядомы на сёння факт славацка-беларускага перакладу міжваеннага перыяду.

Цікавыя сведчанні пра гасцяванне савецкай дэлегацыі ў гэтым мястэчку восенню 1935 г. можна і сёння прачытаць у "Памятнай кнізе горада Святы Юр", што зберагаецца ў архіве горада Модры. Гэта сапраўдная хроніка новага часу, якая выдатна захавала даўнія традыцыі жыццяпісу невялікага, але слаўнага гарадка вінаградараў і рамеснікаў. У 1930-я гг. у ёй, як і раней, занатоўваліся асноўныя падзеі жыцця горада: ці ўдалымі былі кліматычныя ўмовы для гаспадарання ў тым ці іншым годзе, што з сельскагаспадарчых культур урадзіла, якім стаў кошт асноўнай агародніцкай прадукцыі, якім быў вінаград, колькі і якіх дамоў паставілі, колькі нарадзілася і памерла людзей, якія ганаровыя госці наведалі горад і інш.

Пра цікавую нам падзею муніцыпальны храніст Юрай Павэлэк запісаў наступнае: "*Дня 16 кастр.*[ычніка] *меў Св.*[яты] *Юр ганаровы візіт: савецкіх журналістаў і пісьменнікаў, якія завіталі ў нашу рэспубліку. Іх подпісы ў гэтай кнізе на стар.*[онцы] *35 увекавечаны. Ад горада іх вітаў уладны камісар Антон Лёвенштайн. На прывітальнае слова адказаў старшыня дэлегацыі пісьменнік Аляксей Талстой. У іх гонар даваў горад банкет у гасцініцы Франц.*[ыска] *Ліярскага (каля евангел.*[ісцкага] *касцёла). Госці паглядзелі між іншым піўніцу ў Палфіцкім касцёле*".

Як адзначалася ў рэпартажах славацкіх журналістаў, у Святым Юры гасцям вельмі спадабалася. Цыганскі музычны збор зайграў некалькі славацкіх песень, і яны настолькі кранулі прысутных, што члены дэлегацыі жартам выказвалі жаданне застацца ў гэтым горадзе. *"А што хвалілі святаюрскае віно,* – пісалася ў газетах, – *гэта само па сабе зразумела"*.

Найбольшым поспехам у гасцей карысталася песня "Tancuj, tancuj, vykrúcaj". Расчулены Міхаіл Кальцоў звярнуўся да першай скрыпкі цыганскага збору з просьбай перапісаць ноты. Пажылы захавальнік народнай культуры адказаў на тое: *"Ой, вяльможны пан, калі ж я ўмею толькі граць, а не ўмею ноты пісаць"*. М. Кальцоў паўтарыў просьбу аднаму са славацкіх калег па пяры. Адказ таксама не ўсцешыў просьбіта: *"Гэй, сябра Кальцоў, я не ўмею ані граць, ані ноты пісаць"*. Урэшце дамовіліся, што славакі дашлюць у Савецкі Саюз грамафонную пласцінку з гэтай песняй.

Вельмі маляўніча і эмацыйна-ўзрушана перадала ўражанні ад гасцявання і народнай музыкі пісьменніца Ганна Караваева: *"Ніколі не забуду сельскі аркестр у мястэчку Святы Юр, не забуду першую скрыпку, шчуплага вялікагаловага чалавека, – ён і дырыжор, які граў з такой непадробнай і палкай страсцю, што нават безнадзейна глухі мог бы лёгка ўявіць, што гэта была за музыка!.. Я не забуду гэтай асенняй вясковай бяседы з вялікімі гронкамі зялёнага і сіняга вінаграду, вырванымі разам з лазой, – вінаград замяняў тут кветкі"*.

Асабліва запомніўся "місіянерам міру" каларытны з выгляду гаспадар вінаградніку. Сфатаграфавацца з ім савецкія госці палічылі за абавязковую

кропку святаюрскага візіту. На адным з гэтых здымкаў у вясёлай, нязмушанай абстаноўцы зняты і Янка Купала.

Ганна Караваева ў сваіх дарожных дзённіках зафіксавала эпізод знаёмства з гэтым гасцінным славакам, гаспадаром вінаградніку, – кідкім, запамінальным на выгляд: «*Потым падышоў пажылы мужчына, худы і стройны, як юнак. На ім быў шыракаполы лямцавы капялюш і беласнежная кашуля, на якую звісалі доўгія запарожскія вусы. Ён падаў мне карычневую жылістую руку з рэўматычнымі, скурчанымі пальцамі і глухім басам сказаў: "Мір-мір…". Потым, па-старэчы расчуліўшыся, усхліпнуў і паказаў рукой тры разы ўроўніцу з сабой, а затым рука яго правяла ў паветры "лесвічку" – ён безумоўна хацеў сказаць, што ў яго вялікая сям'я: трое дарослых і куча дзяцей. Ён яшчэ расказваў пра нешта, але так хутка і блытана, што нават падобныя да нашых чэшскія словы разабраць было немагчыма. "Мір!" – сказаў ён, нарэшце, перавёўшы дых. "Ано, ано! (Так, так!)" – сказала я па-чэшску. Ён усміхнуўся і, раптам, узрушана ўзняў калматыя сівыя бровы, з сілай пацікснуў маю руку*».

Трэба адзначыць, што госці з СССР не мелі на мэце падаваць у справаздачных матэрыялах, адрасаваных савецкаму чытачу, пастаральныя замалёўкі славацкага вясковага жыцця. У допісах-уражаннях яны паўсюдна расстаўлялі ідэалагічна выверaныя акцэнты. Так, Сяргей Траццякоў у артыкуле "Краіна-перакрыжаванне" зазначыў, што варта было "*патрапіць у славацкія вёскі, як стала відавочнай на фоне вінаграднай раскошы і садавіннай пышнасці вялікая вясковая ўбогасць. Склепы вінаробаў у Святым Юры захоўвалі*

*бочкі дарагога старога віна, а міма падвалаў па вясковай шасіраванай вуліцы беглі ў школу кепска апранутыя дзеці, і тры чвэрці з іх былі босыя".*

Зрэшты, у чарговы раз, але ўжо мімаволі, павесяліў усіх прысутных у славацкім мястэчку Аляксей Талстой. Пісьменнік меў падрыхтаваны матэрыял пра падарожжа па Чэхаславакіі і прасіў, каб яму дапамаглі тэрмінова адаслаць яго ў Ленінград паветранай поштай. Наконт таго, што ўладкаваць справу такім чынам немагчыма, гаспадары жартавалі: *"Паветра ў нас дастаткова, але няма яшчэ самалётаў, каб прызямляліся ў Святым Юры"*. Таму допіс пісьменніка, да ўзаемнага паразумення, быў адпраўлены звычайнай поштай.

**Літаратура**


1. Кенька, М. Мастацкі пераклад са славацкай мовы на беларускую / М. Кенька // Slovensko-bieloruské jazykové, literárne a kultúrne vzťahy : Zborník príspevkov z medzinárodného vedeckého seminára, 20 – 21. Septembra 2000 // Acta facultatis philosophicae universitatis prešoviensis : Literárnovedný zborník, 15. – Prešov : Filozofická fakulta Prešovskej univerzity. – 2003. – S. 45 – 50.
2. Караваева, А. В стране гуситов. Дорожные дневники / А. Караваева // Молодая гвардия. – 1936. – № 9. – С. 30 – 53.
3. Третьяков, С. Страна-перекресток / С. Третьяков // Огонёк. – 1936. – № 21. – С. 8 – 10.
4. Pamätná kniha mesta Svätý Jur. Obecná kronika. Diel I. Od 1.januára 1934 do 31.decembra 1946.
5. Uhrin, P. Literárny sprevodca po Slovensku / P. Uhrin. – Bratislava : Šport, vydavateľstvo SV ČSTV, 1966.



Святы Юр. Панарама. Здымак 1920 – 1930-х гг.



Старая святаюрская вуліца. 1920 – 1930-я гг.




Муніцыпальны дом у мястэчку Святы Юр. 1938 г.



На чыгунцы ў Святым Юры. Янка Купала – у цэнтры групы, за Ганнай Караваевай.



Святаюрская ўрачыстая памятка. Янка Купала на пярэднім плане злева (у профіль, з капелюшом у руках).



З гаспадаром вінаградніку. Янка Купала – стаіць другі справа. За сталом: першы справа – гаспадар вінаградніку, другі – Міхаіл Кальцоў, трэці – Петэр Ілямніцкі.




Абед у мястэчку Святы Юр.



Pamätná kniha

mesta Svätý Jur

Obecná kronika.

Diel I.

Od 1. januára 1934 do 31. decembra 1946.

Obsahuje 500 strán, z toho 265 popísaných.

Tytulná starónka

Тытульная старонка "Памятнай кнігі мястэчка Святы Юр".



Návšteva sovětských novinárov v Sv. Juri 16. X. 1935 :

V. Ossinsky

A. Fadjejev

Аўтографы прадстаўнікоў дэлегацыі і славацкіх калег у "Памятнай кнізе мястэчка Святы Юр".

samý deň konala sa aj školská výstava, ktorá bola hojne navštívená

Návštevy.

Dňa 16 okt. mal Sv. Jur vzácnu návštevu: sovjetskych novinárov a spisovatelov, ktorí zavítali do našej republiky. Ich podpisy sú v tejto pamätnej knihe na str. 35. zvečnené. Za mesto ich pozdravil vládny komisár Anton Löwenstein. Na pozdrav odpovedal vodca výpravy, spisovatel Alexej Tolstoj. Na ich počesť dávalo mesto banket v hostinci Frant. Szarskeho (vedľa evanj. kostola) Hostia prezreli si medzi iným aj pivnice v palfyckom kaštieli. Dňa 18. nov. zavítali do Jura dvaja norskí novinári: Petter a Hanstein.

Koncerty.

Dňa 17. febr. a 13. okt. konal hudobný sbor Spolku voj. vyslužilcov celovečerné koncerty v telocvični. Dirigoval učitel J. Kedro.

Kino.

Dňa 17. nov. zahájené bolo premietanie v novom, modernejšom zvukovom kine v budove na rohu Masarykovej ul. a Krajinskej cesty. Staré kino „Edison" bolo ešte z jari zatvorené. Nové kino nesie meno „Hollywood."

Mestská verejná knižnica.

Do verejnej knižnice slovenskej pribudlo 105 kníh v cene 1400 Kč.

Ľudopisné pomery, zriadenie športového ihriska.

Dňa 28. apr. odovzdané bolo verejnosti športové ihrište, ktoré bolo mestom zriadené z mestského skladu dreva. Najprv bol slávnostný sprievod s hudbou z mestom na ihrište, kde starosta Eug. Klačko v prítomnosti členov mestskej rady po prejave, v ktorom ocenil význam športu, odovzdal ihrište miestnemu Sportovému klubu, za ktorý urobil ďakovný prejav predseda klubu Dr Pavel Zahlbruckner.

Старонка "Памятнай кнігі мястэчка Святы Юр" з запісам пра наведванне дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў.

# Янка Купала і Людавіт Штур: рэха знаёмства са славацкай Модрай

Наступным пунктам пасля Святога Юра ў праграме знаёмства дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў са Славакіяй значылася Модра (Modra), куды шаноўныя госці рушылі ў другой палове дня 16 кастрычніка 1935 г.

Пра гэты прыпынак падарожжа майстроў слова з Савецкага Саюза славацкія газеты пісалі вельмі мала. Такой акалічнасці ёсць тлумачэнне: невялікі славацкі гарадок выконваў нязначную ролю ў плане агульнага знаёмства з культурай і гаспадаркай Славакіі. Сюды госці адправіліся пасля абеду ў Святым Юры. Газета "Ľudový denník" пісала, што "*тут наведалі вядомую керамічную майстэрню, дзе чакалі прадстаўнікі ўсіх культурных арганізацый. Слова прамаўляў украінец Таран. Госці атрымалі ў падарунак розныя керамічныя вырабы. Кнігі, прывезеныя з сабой, госці падаравалі вучням школы*".

Модра – адзін з самых адметных вінаградніцкіх гарадоў на паўднёва-ўсходнім баку Малых Карпат. У пісьмовых крыніцах ён узгадваецца ўжо ў XII ст. Статус свабоднага каралеўскага горада Модра займела ў пачатку XVII ст. Горад знакаміты керамікай. Майстэрства мясцовых умельцаў, яго прызнанасць, неабходнасць арганізацыі больш шырокай вытворчасці сталі

падставай адкрыцця тут яшчэ ў 1883 г. керамічна-прамысловага вучылішча. У 1884 г. пры дзяржаўнай падтрымцы была адчынена і вінаградніцкая школа.

З Модрай звязаныя жыццёвымі і творчымі лёсамі, грамадска-асветніцкай дзейнасцю некаторыя выбітныя асобы ў гісторыі Славакіі і славянскага свету ўвогуле. У модранскай гімназіі выкладаў у 1839 – 1846 гг. паэт, нацыянальны будзіцель Карал Штур (Karol Štúr, 1811 – 1851), старэйшы брат паэта і публіцыста Людавіта Штура. К. Штур гуртаваў вакол сябе нацыянальна свядомую славацкую і сербскую моладзь. Зрэшты, паўднёваславянскі імпульс нацыянальнага руху ў Модры вядзе пачатак яшчэ з 1777 г., калі тут, у гімназіі, навучаў сербскіх студэнтаў радыкальны асветнік, пачынальнік новай сербскай літаратуры на народнай мове Дасітэй Абрадавіч (1739 – 1811), які, дарэчы, у 1787 г. наведаў беларускі Шклоў.

Пасля смерці Карала Штура ягонае месца выкладчыка гімназіі заняў прадстаўнік штураўскай генерацыі пісьменнікаў празаік, літаратурны крытык Ян Калінчак (Ján Kalinčiak, 1822 – 1871).

З Модрай XX ст. звязана большая частка кругабегу жыцця драматурга і празаіка Кветаслава Урбанавіча (Kvetoslav Urbanovič, 1885 – 1963), які тут нарадзіўся, вучыўся і тут пахаваны. Ягоным найлепшым творам прызнаны раман “Ралля” (“Oračina”, 1933).

У пасляваеннай сацыялістычнай Славакіі прызма ідэалагічнага бачання гісторыі літаратурнай Модры факусавала ўвагу ці не ў першую чаргу на імені народнага пісьменніка Ладзіслава Новамескага (Ladislav Novomeský, 1904 – 1976) – паэта, грамадска-палітычнага дзеяча, які ў 1930-я гг. быў рэдактарам некалькіх газет і часопісаў камуністычнага кірунку, у пасляваеннай

Чэхаславакіі займаў адказныя пасады на ніве асветы, літаратурнага і культурнага жыцця рэспублікі. У гісторыю славацкай літаратуры Л. Новамескі ўвайшоў найперш як прадстаўнік авангарднага мастацтва, сацыяльна і палітычна ангажаванай паэзіі. З Модрай звязана яго навучанне ў тутэйшым педагагічным вучылішчы ў 1919 – 1923 гг.

Сённяшняе прачытанне гісторыі Модры ў асобах выбітных дзеячаў у сваёй агульнанацыянальнай вартасці пазначана перш за ўсё іменем Людавіта Штура (Ľudovít Štúr, 1815 – 1856), нацыянальнага будзіцеля, публіцыста, паэта, прызнанага лідара славацкай моладзі 30 – 40-х гг. XIX ст., для якой ім была вызначана высакародная мэта: абараняць правы прыгнечанага люду, заваяваць яму годнае месца ў сям'і еўрапейскіх народаў. Л. Штур стаў кадыфікатарам новай славацкай літаратурнай мовы. Кола пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў, што гуртаваліся вакол гэтай яркай постаці, увайшло ў нацыянальную гісторыю як штураўскае пакаленне (штураўцы). Дарэчы, славацкія газеты, прадстаўляючы Янку Купалу як аднаго з членаў дэлегацыі, часам называлі яго ў духу славацкай гістарычнай традыцыі – беларускі будзіцель.

У Модры ў кастрычніку 1935 г. адбылася сімвалічная сустрэча двух пакаленняў змагароў за нацыянальную свабоду. Тут, у намоленым месцы нацыянальнага смутку і годнасці, у сімвалічным поціску знаёмства рукаліся памяць пра славацкага будзіцеля Людавіта Штура і жывы голас прарока беларускага нацыянальнага адраджэння Янкі Купалы.

Цяпер у Модры знаходзіцца філіял Дзяржаўнага архіва Міністэрства ўнутраных спраў Славацкай Рэспублікі (Štátny archiv Ministerstva Vnutra Slovenskej

Republiky, pobočka Modra), у фондах якога зберагаецца "Памятная кніга горада Святы Юр" (Pamätná kniha mesta Svätý Jur. Obecná kronika. Diel I. Od 1. januára 1934 do 31. decembra 1946) з аўтографамі членаў дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў (Міхаіла Кальцова, Аляксея Талстога, Аляксандра Фадзеева, Ганны Караваевай, Івана Мікітэнкі і інш.), у тым ліку Янкі Купалы, а таксама славацкіх журналістаў і пісьменнікаў.

Штураўская Модра мае адметную гісторыю. Стала Л. Штур пасяліўся тут у 1853 г. пасля таго, як бурлівае славацкае адраджэнне 1848 г. – вясны народаў – захлынулася, наступіла рэакцыя. Раней ён даволі часта бываў у гэтым невялікім гарадку – адведваў старэйшага брата Карала і яго сям'ю.

Жыццё Штура ў Модры праходзіла пад паліцэйскім наглядам. Пачуццё прыгнечанасці і адзіноты імкнуліся развеяць блізкія сябры модранскага перыяду жыцця будзіцеля: пісьменнік Ян Калінчак, вінаградар Даніэл Лачні і паліцыянт Месік. Гасцямі Штура былі Павал Мудрань (Pavol Mudroň, 1835 – 1914), вядучая асоба славацкага грамадска-палітычнага жыцця 60-х гг. XIX – пачатку XX ст., і адзін з ідэолагаў славацкага адраджэння Ёзаф Міласлаў Гурбан (Jozef Miloslav Hurban, 1817 – 1888).

Ян Калінчак настойліва раіў пісаць. З-пад пяра Штура ў гэты час выйшлі працы "Пра народныя песні і паданні плямён славянскіх" ("O národných piesňach a povestiach plemien slovanských"), "Спевы і песні" ("Spevy a piesne") і, як прынята лічыць, яго публіцыстычны тастамент "Славянства і свет будучыні" ("Slovanstvo a svet budúcnosti").

Модранскую самоту Штур імкнуўся развеяць паляваннем. Такое баўленне часу стала для яго

лёсавызначальным. Здарыўся няшчасны выпадак: калі Штур пры чарговым абыходзе модранскіх ваколіц пераскокваў ручай, стрэльба выстраліла, куля патрапіла ў нагу. Праз тры тыдні пасля гэтага здарэння Людавіта Штура не стала.

Сёння мясціны, звязаныя з жыццём, грамадска-палітычнай дзейнасцю Л. Штура, ствараюць цэлую сетку найбольш шанаваных у Славакіі дастапомнасцей. Штураўскімі памяткамі як нацыянальнымі рэліквіямі ганарацца Угравец, Зволен, Міява, Глбоке і інш. Між імі Модра займае адметнае месца. Гэта горад самотнага, заключнага этапу жыцця славацкага будзіцеля. У адным з гістарычных будынкаў знаходзіцца мемарыяльны пакой Л. Штура. У 1965 г. быў адкрыты музей выдатнага нацыянальнага дзеяча.

Славацкія газеты ў 1935 г. нічога не паведамлялі наконт таго, ці пабывалі госці з Савецкага Саюза каля магілы Людавіта Штура. Сведчанняў, якія пацвярджалі б гэта, пакуль адшукаць не ўдалося. Але цалкам лагічна, што журналісты, якія суправаджалі дэлегацыю са славацкага боку, не маглі абмінуць такую важную акалічнасць, тым больш што ў 1935 г. адзначалася 120-годдзе з дня нараджэння славацкага будзіцеля. Горад невялікі, гістарычныя могілкі знаходзяцца зусім блізка ад цэнтра.

Сённяшні надмагільны помнік, аўтар якога – народны мастак Ёзаф Костка (Jozef Kostka), уяўляе з сябе алегарычную паставу дзяўчыны з вянком. Скульптурная выява ўвасабляе вясну славацкага нацыянальнага адраджэння. Яна была ўрачыста адкрыта 26 чэрвеня 1964 г. Помнік, які мог бачыць Янка Купала, быў пастаўлены ў 1872 г. на народныя грошы. Ён і цяпер даступны для агляду, непадалёк ад магілы, каля цвінтарнай агароджы.

Гістарычная прыцягальнасць Модры, трагічны надлом жыцця Людавіта Штура сталі аб’ектам мастацкага адлюстравання для шэрагу славацкіх пісьменнікаў XX ст. З модранскай духоўнай скарбонкі чэрпалі натхненне Войцех Мігалік (Vojtech Mihálik), Людавіт Петраўскі (Ľudovít Petrovský), Люда Зубек (Ľudo Zúbek), Вінцэнт Шыкула (Vincent Šikula), Ёзаф Мігалкавіч (Jozef Mihalkovič) і інш.

У 1998 г. Модру наведаў пісьменнік Сяргей Панізнік, у кола навуковых інтарэсаў якога ўжо даўно і трывала ўваходзіць гісторыя славацка-беларускіх культурных сувязей. На той час С. Панізнік працаваў вучоным сакратаром Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, таму меў афіцыйныя паўнамоцтвы на наладжванне кантактаў і акрэсленне перспектыў супрацоўніцтва Купалавага дома і музея Людавіта Штура. Ён перадаў музею шэраг матэрыялаў, што сталі асновай беларускага фонду.

Аўтар гэтых радкоў падчас сваёй навуковай стажыроўкі ў Славакіі ў 2007 г. таксама быў “упаўнаважаны” перадаць афіцыйнае запрашэнне да супрацоўніцтва ад імя тагачаснага дырэктара музея Я. Купалы Сяргея Вечара. І выканаў даручэнне. Славацкія калегі былі надзвычай ветлівыя, выказалі зацікаўленасць у двухбаковых кантактах, далі шэраг каштоўных парад у пошукавай працы.

Пасля таго як я сам некалькі разоў у розныя гады пагасцяваў у гэтым невялікім славацкім гарадку (папрацаваў з матэрыяламі ў тамтэйшым архіве, пабываў у музеі Л. Штура, на мясцовым цвінтары, удосталь паблукаў па вузкіх вулках), хацелася пераканаць сябе, што хоць у нейкай ступені адчуў нетаропкі поступ гісторыі гэтага мястэчка, сілавое поле яго прыцягнення.

Модра (свядома іду па зманлівым шляху міжмоўнай аманіміі) – *мудры* горад, засяроджаны нетаропкай працай мясцовых ганчароў і вінаградараў, філасофскім роздумам нацыянальных мысляроў і майстроў слова. У XIX ст. гісторыя еўрапейскіх народаў размашыстым почыркам манаршых сталіц пісалася ў Вене, Парыжы, Берліне, Маскве, а ў такіх ціхіх населеных пунктах, як Модра, яна асэнсоўвалася. Тут у 50-я гг. XIX ст. удалечыні ад бурлівых шляхоў рэвалюцыйных рухаў, у душы самотнага, расчараванага, засяроджанага на будучыні сваёй радзімы Людавіта Штура пазначаліся тыя крывавыя расколіны, якія, па словах Г. Гейнэ, праходзяць праз сэрца паэта.

Гістарычны покліч нацыянальных адраджэнцаў, агульны клопат і духоўную ўзаемнасць славацкай і беларускай класікі выдатна ўвасобіў паэт Сяргей Панізнік. Паэтам – паэтава. Рэхам асэнсавання стаў верш, які пачынаецца стрыманымі словамі, што сёння маглі б быць памятнай шыльдай на адным з гістарычных будынкаў горада ля падножжа Малых Карпат: *“У кастрычніку 1935 года Янка Купала наведаў горад Модру. Там знаходзіцца музей Людавіта Штура (1815 – 1856), дзеяча славацкага вызвольнага руху”*.

*Даўно Купалы след астыў.*
*Жыццё – імгненне.*
*А нам “Купалінкі” матыў*
*на суцяшэнне.*

*А мы – які? – пакінем след:*
*адно ад шынаў?*
*Купалы, Штура запавет*
*у сне ажынаў.*

*Лунае ранняй смерці страх*
*далей ад стрэлу…*
*Славацкі шлях, каго ў гарах*
*цяпер сустрэну?*
*…Трымалі мой бацькоўскі дом*
*бярвёны маціц.*
*Купала! Штур! Калі разлом, –*
*як утрымацца?*
*У поціску рукі – шытво*
*раскрыжаванняў.*
*Як Модра, высіцца брыво*
*перажыванняў.*

*Штур і Купала – след у след:*
*на пераловы*
*паэта выгукнуў паэт…*
*Мы ловім Словы.*

**Літаратура**


1. Панізьнік, С. Пры сьвячэньні… : Зб. вершаў / С. Панізьнік. – Вільня : Наша Будучыня, 2004.
2. Encyklopédia slovenských spisovateľov. – Bratislava : Obzor, 1984. – Zväzok 1 – 2.
3. Hučko, J. Život a dielo Ľudovíta Štúra / J. Hučko. – Martin : Osveta, 1988.
4. Hučko, J. Slovenská jar / J. Hučko. – Bratislava : Mladé letá, 1994.
5. Malá Encyklopédia Slovenska. – Bratislava : Veda, 1987.
6. Ruskí hostia v Bratislave // Slovenský deník. – 1935. – 17 októbra. – S.1.
7. Slovník slovenských spisovateľov 20. storočia. – Bratislava : Slovenská národná knižnica, 2001.
8. Uhrin, P. Literárny sprevodca po Slovensku / P. Uhrin. – Bratislava : Šport, vydavateľstvo SV ČSTV, 1966.
9. V Sv. Jure a v Modre // Ľudový denník. – 1935. – 18 októbra. – S. 2.
10. Dubovský, J. Dejiny Modry / J. Dubovský, J. Žudel [a kolektív]. – Modra : Mestský urad Modra, 2006.



Людавіт Штур. 1840-я гг.
Мастак Ёзаф Клеменс.



Модранская гімназія XIX ст.




Памятная дошка на будынку Модранскай гімназіі.



Сустрэча дэлегацыі каля модранскай керамічнай майстэрні.



Модранская
кераміка.



Надмагільны
помнік Л. Штуру.
Скульптар Ёзаф Костка.
Сучасны выгляд.



Помнік на магіле
Л. Штура. Фотаздымак
з газетнай публікацыі
1935 г.



Помнік Л. Штуру
і яго паплечнікам.
Скульптар Фрыца
Моташка.



Музей Л. Штура ў Модры. Сучасны выгляд.




Мемарыяльны пакой Л. Штура ў музеі пісьменніка. Сучасны выгляд.

# “*Угаварыць яго выступіць – гэта майстэрства*”: Янка Купала ў Пешцянах

Горад Пешцяны (Piešťany, пры кірылічнай транслітарацыі назвы гэтага населенага пункта сустракаюцца таксама варыянты *Пішцяны, Піешцяны, П’ешцяны*) знаходзіцца на беразе ракі Ваг, за 80 *км* ад сталіцы Славацкай Рэспублікі Брацiславы. Ва ўсім свеце Пешцяны вядомыя перш за ўсё дзякуючы курорту, які ў розныя часы наведвалі венцаносныя асобы Еўропы, індыйскія магараджы і арабскія шэйхі, славутыя дзеячы палітыкі і культуры.

Карыснае ўздзеянне пешцянскай вады і гразей было заўважана яшчэ ў глыбокай старажытнасці. Агульнаеўрапейскую вядомасць гэтая ўнікальная мясцовасць атрымала ўжо ў XVI ст., калі Юрай Вернгер расказаў пра будучы курорт у сваёй кнізе “Сказ пра дзівосныя воды Венгерскага каралеўства” (1549).

Першым дыфірамбам на лаціне “Saluberrimae Pistinienses Thermae” (“Вельмі карысны пешцянскі курорт”, 1642) праславіў тутэйшыя дары прыроды паэт Адам Траян (Adam Trajan, каля 1586 – ?). Сёння яго імем названа адна з крыніц тэрмальнай мінеральнай вады.

Новы час існавання Пешцян прынята адлічваць ад 1889 г., калі ўласнікі курорта Эрдэдзі, прадстаўнікі венгерскай знаці, здалі яго ў арэнду заможнай сям’і Вінтэр. Вінтэры мадэрнізавалі курорт, пабудавалі гатэлі і бальнеатэрапеўтычныя аддзяленні ў адпаведнасці

з еўрапейскімі патрабаваннямі. У пачатку XX ст. паўсталі будынкі-візітоўкі курортных Пешцян: “Kursalon”, галоўная рэпрэзентатыўная гасцініца “Thermia Palace” і курортны дом у стылі мадэрн “Irma”.

Сама прырода парупілася пра спакой курорта: ён знаходзіцца па-за межамі горада, на востраве, утвораным рукавом ракі Ваг. Такая асаблівасць стала вельмі дарэчнай для прыцягнення багатых, рэспектабельных кліентаў, і не толькі для аздараўлення: у 1917 г. на тэрыторыі курорта сустрэліся аўстрыйскі імператар Карл І, кайзер Германіі Вільгельм ІІ і балгарскі цар Фердынанд І. Тры манархі рахавалі над лёсам Першай сусветнай вайны. Галоўнае пытанне, што тады іх займала, – актывізацыя ролі падводных лодак у ходзе вайсковых дзеянняў, вынікам якой стала ўступленне ў вайну ЗША. Да таго часу адносіцца і палітычная карыкатура, што зберагаецца ў фондах пешцянскага бальнеалагічнага музея, – Вільгельм ІІ у ваннай, пэўна, калі падпісвае дакумент аб абвастрэнні вайны пад вадой.

Сапраўдны размах набыло жыццё курорта пасля Першай сусветнай вайны і ўтварэння ў 1918 г. Чэхаславакіі. Людавіт і Імрых Вінтэры сканцэнтравалі ўвагу на новых інвестыцыях, маркетынгавай дзейнасці. Пабудавалі каланадны мост праз раку Ваг – славацкі ўзор функцыяналізму, добраўпарадкавалі парк. У тэрмальных азерцах набыла пастаянную прапіску далікатная госця з Паўднёвай Амерыкі, мара батанічных садоў кветка вікторыя рэгія, якая стала прыгожай любіміцай курорта.

Істотна пабольшаў спіс выдатных гасцей пешцянскага курорта: лаўрэатка Нобелеўскай прэміі пісьменніца Сельма Лагерлёф, дыпламат Ян Масарык, кампазітар Франц Легар, пісьменнік Яраслаў Гашак і многія

іншыя. Пастаянны госць Пешцян сусветна вядомы мастак, класік мадэрну Альфонс Муха на знак удзячнасці за лячэнне дачкі ў 1932 г. падараваў курорту сваю карціну пад назвай “Слаўся, добраславёная крыніца здароўя!”, яна і зараз упрыгожвае рэстаранную залу гатэля “Thermia Palace”.

Славацкая інтэлігенцыя хутка зразумела, што Пешцянам недастаткова быць толькі добрым курортным горадам. Гасцям, даволі заможным і ўплывовым, трэба прапанаваць цікавае і годнае баўленне часу. Паколькі тутэйшыя гаючыя мясціны ўжо даўно аблюбавалі людзі з усёй Еўропы, у горадзе склаліся выдатныя ўмовы для ўмацавання міжнароднага супрацоўніцтва, папулярызацыі нацыянальных культурных здабыткаў. У Пешцянах атабарылася так званая мастацкая калонія, прадстаўнікі якой (Янка Алексы, Людавіт Ілечка і інш.) арганізоўвалі выставы новага славацкага мастацтва.

У кастрычніку 1935 г. Пешцяны рыхтаваліся сустрэць місіянераў міру з краіны, што ў змененым пасля Першай сусветнай вайны свеце адыгрывала адну з ключавых роляў.

Нягледзячы на тое, што візіт дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў і так праходзіў на дзяржаўным узроўні, пешцянцы выявілі высокі краёвы патрыятызм і арганізаванасць.

Газета “Ľudový denník” 16 кастрычніка 1935 г. паведаміла пра тое, што народная сацыялістычная арганізацыя “Вартавы свабоды” (“Stráž slobody”) выступіла з заклікам да ўсіх сацыялістычных партый, у тым ліку камуністычнай, аб’яднаць сілы, каб годна сустрэць савецкіх пісьменнікаў і журналістаў. “Вартавы свабоды” прапанаваў прывітаць гасцей перад муніцыпальным

будынкам, каб як мага больш жыхароў Пешцян маглі паўдзельнічаць ва ўрачыстым мерапрыемстве, паколькі для ўлад і кіраўніцтва курорта ўжо даўно стала заганнай звычкай прыхоўваць сваіх ганаровых кліентаў ад вачэй паспалітага люду адразу на курортным востраве. Адной з культурна-асветніцкіх ініцыятыў была таксама арганізацыя лекцыйнага вечара ў гонар гасцей з Савецкага Саюза, куды планавалі запрасіць і прадстаўнікоў чэхаславацкай арміі. Для сустрэчы майстроў пяра абралі дэпутацыю працоўных.

"Ľudový denník" у гэтым самым нумары надрукаваў прывітанне савецкім гасцям ад работніка чыгункі ўчастка "Жыліна – Горна Штубня". Яго імя не называлася. З ліста прадстаўніка славацкага пралетарыяту цытаваліся наступныя радкі: *"Гэтым разам прыедуць да вас пісьменнікі і журналісты з СССР, перадайце ім таварыскае прывітанне ад нашага краю. Нас вельмі парадавала б, каб яны глыбей пазнаёміліся з нашым краем, і тады яны адчулі б крык сацыяльнай беднаты Славакіі"*.

20 кастрычніка 1935 г. названая газета давала справаздачу пра арганізацыю сустрэчы. Сярод іншага паведамлялася: *«Ужо тыдзень перад прыездам савецкіх гасцей праходзілі вялікія прыгатаванні, і гэта не толькі прыгатаванні тых, каму належала афіцыйна прывітаць гасцей, але і ўсёй прагрэсіўнай інтэлігенцыі і працоўных. Нашым гасцям не бракавала гарачага вітання. Ужо ў панядзелак вечарам у гонар гасцей быў наладжаны лекцыйны вечар пра літаратуру і міралюбную палітыку СССР. У перапоўненым тэатры чыталі свае паведамленні пісьменнік Гейза Вамаш, інж. Фігуш і праф. Ант. Недвед. Моцнымі воплескамі віталіся высновы ўсіх выступоўцаў, якія пераканальнымі фактамі*

*даказвалі магутнасць сацыялістычнай справы. У сераду ад абеду ў горадзе напагатове чакалі масы працоўных, каб прывітаць сваіх гасцей. Да апошняй хвілі ніхто не ведаў, калі і як яны прыбудуць, таму працоўныя занялі ўсе падыходы да курортнага вострава. Калі госці толькі пад'язджалі, то былі здалёк пазнаныя, і пакуль аўтобус даехаў да Тэрмія Паласа, там ужо сабраліся натоўпы людзей, з грудзей якіх вырываўся "Інтэрнацыянал", а пазней і магутныя авацыі з выкрыкамі "Няхай жыве Савецкі Саюз!", "Няхай жывуць савецкія пісьменнікі і журналісты!" і г. д. Расчуленыя госці адказалі на прывітанні, а потым іх адабралі для афіцыйнага вітання. Да гасцей звярнуўся пан Краус і пісьменнік др.* [доктар] *Вамаш. Узрушаны настрой працоўных працягваўся аж да адыходу дэлегацыі*».

Пагасцяваўшы ў Святым Юры і Модры, савецкія журналісты і пісьменнікі прыбылі ў Пешцяны ўжо зацемна, на 2 дзве гадзіны пазней, чым запланавалі. Афіцыйная сустрэча праходзіла ў зале гатэля "Thermia Palace". Гасцей прывітаў стараста горада Шындэлар (Šindelar). На прывітальныя словы адказаў кіраўнік дэлегацыі М. Кальцоў. Потым госці агледзелі дастапомнасці курортнага вострава. Як пісала газета "Slovenske narodne noviny", *"асаблівую ўвагу прыцягнуў новы мост. Яны заўважылі, што дагэтуль у Расіі не маюць падобнага моста з такім выдатным архітэктанічным рашэннем, але абавязкова прымуць захады да яго пабудовы"*.

Госці з савецкай краіны, ахопленай рэвалюцыйным духам сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў, не маглі абысці ўвагай сімвал курорта, устаноўлены ля ўвахода на каланадны мост з боку горада, – мужчына, што ломіць кастыль-мыліцу. Савецкім гасцям не магла

не імпанаваць рашучасць і радасць чалавека, які, хоць і з лекавай дапамогай курорта, перамог хваробу.

Падчас экскурсіі госці параўноўвалі Пешцяны з каўказскімі сернымі крыніцамі, вельмі пахвальна выказваліся наконт дасканалай арганізацыі курорта.

Увесь час не згасала цікавасць і ўвага працоўных Пешцян да майстроў пяра з СССР. Газета "Ľudový denník" пісала: *"Дзе толькі маглі гасцей заўважыць, радасна іх віталі. Работніцы чакалі моманту, каб хоць яшчэ раз убачыць пісьменніцу Караваеву, якая падчас прыезду горача адказвала на іх прывітанні, і падрыхтавалі ёй менш чым за паўгадзіны прыгожы букет кветак. Калі яна з'явілася на каланадным мосце, паціснуць ёй руку пацягнуліся дзясяткі мазолістых далоняў. Усіх, хто вітаў яе, яна горача абдымала і цалавала са слязьмі радасці на вачах. Аб 11-й гадзіне ночы моладзь разбеглася па горадзе, каб сабраць для гасцей некалькі памятак ад пешцянскага пралетарыяту"*.

Сяргей Траццякоў пасля пешцянскага і ўвогуле чэхаславацкага гасцявання прадставіў сваю версію падзей. Аналіз курортнай сістэмы краіны ён спалучыў з аналізам сацыяльна-палітычнай сітуацыі: *"Калі гаворыш, што Чэхія – гэта краіна, пад якой варушацца вулканічныя сілы, звычайна прымаюць гэта за палітычны жарт. Але ў сапраўднасці сённяшняя геалогія Чэхіі няўстойлівая і бурная. Схаваная ў недрах вулканічная энергія не толькі б'е 70-градуснымі гейзерамі Карлсбада, яна бурліць і ў Маравіі падводнымі кратарамі на дне ракі Ваг, замешваючы гарачую цёмна-шэрую гразь знакамітаму курорту Пішцянам, на гербе якога адлюстраваны малады атлет, які ломіць аб калена ўжо непатрэбны кастыль. Гаючы глей высцілае тут дно басейнаў. <…>*

*У спецыяльнай вітрыне стаяць палкі, кастылі, бандажы і гіпсавыя карсеты тых, для каго яны перасталі быць патрэбнымі пасля Пішцян. Гэтую рэкламную калекцыю адкрываюць кастылі знакамітай германскай кінаактрысы Жэні Портэн.*

*Амаль ва ўсіх курортных месцах Чэхаславакіі, побач з першакласнымі, разлічанымі на багатую публіку, сваю і замежную, гатэлямі і санаторыямі, вырастаюць больш простыя, але ўсё ж добра абсталяваныя здраўніцы сацыяльнага страхавання, дзе хворыя могуць атрымаць стол, пакой і лячэнне за адносна невысокую плату. Але і гэтая плата па кішэні нямногім у той час, калі доўжыцца крызіснае беспрацоўе.*

*Вось чаму пустуе не толькі шыкоўны апартамент, дзе жыў, лечачыся, цар Фердынанд балгарскі, але і многія пакоі таннай здраўніцы".*

Кіраўніцтва курорта ў гонар гасцей давала вячэру. На ёй ад імя акругі вітаў прысутных намеснік акруговага начальніка, камісар паліцэйскага ўпраўлення Мінарык. Ад імя браціслаўскага філіяла Сіндыката чэхаславацкіх журналістаў слова трымаў краёвы дэпутат Корман. Пісьменнік і мастак Янка Алексы ў сваім выступленні засяродзіў увагу на гісторыі сувязей славакаў і рускіх. Пісьменнік Эла Шандар падзякаваў за візіт у Славакію прадстаўнікам украінскага і беларускага народа, г. зн. Мікітэнку, Тарану і Купалу.

У пераказе дэталей урачыстай вячэры газета "Slovenský denník" заняла палітэсна вытрыманую, нейтральную пазіцыю: *"Ад імя дэлегацыі слова мелі 7 выступоўцаў. Пісьменніца Караваева зноў адзначыла стараннасць славацкага народа, выказала ўдзячнасць пешцянскаму курорту і прапанавала тост за далейшае*

*развіццё ўзаемных сувязей. Пісьменнік Фадзееў прапанаваў тост за пісьменніка Алексы. Аляксей Талстой прапанаваў тост за чэхаславацкіх жанчын, якія нараджаюць працавіты, прыстойны народ. Намеснік старшыні загранічнага камісарыята Барыс Міронаў – за пані Паўлаву і самога пасла Паўлава. Старшыня дэлегацыі Кальцоў прапанаваў тост за дзяржаўных суправаджальнікаў дэлегацыі. Пісьменнік Мікітэнка ў сваім пешцянскім выступе жадаў, каб не забываліся, што Савецкі Саюз – гэта не толькі Расія, яго ствараюць і іншыя народы, якія цяпер, у параўнанні з царскай Расіяй, свабодныя і раўнапраўныя. Па-беларуску сказаў тост пісьменнік Купала".*

Іншыя выданні пры апісанні нюансаў вячэры былі больш раскаваныя. На асаблівую ўвагу фельетаністаў пашанцавала пісьменніку і мастаку Янку Алексы, культавай асобе славацкай культуры міжваеннага перыяду, аднаму з ініцыятараў стварэння ў Пешцянах "мастацкай калоніі": *"Тут нам мастак і літаратар нарэшце прадставіўся як гісторык. Савецкія журналісты, магчыма, не праявілі вялікай цікавасці да гэтай нашай гісторыі, але нам, аднак, карысна запомніць яе для сябе".*

Аляксея Талстога, відаць, яшчэ з пачатку падарожжа па Чэхаславакіі асабліва палюбілі за каларытнасць фігуры, дасціпнасць гумару. Калі аўтар гэтых радкоў знаёміўся з газетнымі матэрыяламі таго часу, у яго склалася ўражанне, што журналісты, па сутнасці, "палявалі" на яго досціпы. Так было і гэтым разам: *"Ну, а скончылася вітаннем славацкіх жанчын. Зноў вызначыўся гэты наш дарагі Талстой, які ў Пешцянах прапанаваў тост за здароўе чэхаславацкіх жанчын, каб і надалей нараджалі вялікіх сыноў".*

Надзвычай жывое апісанне ўрачыстага вечара прапанавала чытачам газета “Slovenske narodne noviny”: «*Вячэра, якую давалі ў гатэлі “Тэрмія”, была вельмі вясёлай. Да стварэння адпаведнага настрою спрычыніліся цыганская музыка, Эла Шандар і Міхал Корман. Госці папрасілі выканаць славацкія песні і закупілі вялікую колькасць нот. Некаторыя з іх танцавалі і чардаш. Іх выступленні былі гарачымі. Найбольшае ўражанне зрабіла прамова Івана Мікітэнкі, пісьменнік сказаў, што хоць яны не доўга ў Славакіі, але адчуваюць тут сябе як дома, і ўсё дзякуючы сардэчнаму прыёму, што быў такі, як толькі можна пажадаць: без вялікіх пышнасцей і фармальнасцей, гасціннасць была шчырай – сапраўды славянскай. На вячэры слова меў і паэт-беларус Янка Купала, якога ўгаварыць выступіць, як казалі астатнія ўдзельнікі, – гэта майстэрства*».

Перад самым ад’ездам працоўныя горада перадалі кіраўніку дэлегацыі М. Кальцову вышываную карціну, адна работніца падаравала прыгожую пешцянскую вышыўку, а для пешцянскага пралетарыяту дэлегацыя пакінула ў падарунак гліняны збан з надпісам “Слава труду!”.

А 24-й гадзіне дэлегацыя на цягніку адправілася ў Высокія Татры.

Праз два тыдні пасля дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў курорт у Пешцянах наведаў інкогніта былы балгарскі цар Фердынанд са світай. Апошні раз ён быў тут 18 гадоў таму разам з кайзерам Вільгельмам II і імператарам Карлам I. Невядомы журналіст газеты “Slovenský deník” у сваёй рэтраспектыве былых гістарычных падзей з гэтай нагоды не без іроніі напісаў: «*У памятнай кнізе гатэля “Thermia Palac” ёсць ад таго часу тры подпісы: “Vilhelm Rex*

*Imperator", "кароль Карл" і трэці подпіс "граф Муранскі". Калі б графолаг гэтыя подпісы падверг экспертызе, то абавязкова б ахарактарызаваў дрыжачы рукапіс Вільгельма як сейсмограф душэўнай буры і патрасенняў. Пад яго подпісам сціпла мнуцца подпісы Фердынанда і Карла, нібы хочуць адысці ў цень. 21 лютага Фердынанд запісаў у кнізе: "Важны час – цяжкае цярпенне". Зараз гэтую кнігу яму зноў паднеслі: задуменна глядзеў на подпісы пасля 18 гадоў».*

Падчас прагулак Фердынанд наведаў пешцянскі музей, дзе захоўваліся памяткі пра яго візіт у 1917 г., найперш карыкатура, на якой Вільгельм паказаны ў ваннай. Былы цар звярнуў увагу на славацкую этнаграфію. Фердынанд выказаў жаданне мець у сваёй калекцыі славацкі строй, папрасіў мастака, каб той намаляваў для яго партрэт славацкай дзяўчыны. Доўга затрымаўся, разглядаючы памяткі пра генерала Штэфаніка. Паглядзеў багатую музейную калекцыю. Але найбольшым захапленнем колішняга ўладара, як аказалася, былі кветкі, таму яму паказалі і пешцянскі батанічны сад. Фердынанд шчыра здзівіўся, што вікторыя рэгія распускаецца і цвіце ў тую пару, позняй восенню.

Пасля Пешцян былы цар Балгарыі адправіўся ў Вену. Пэўна, у такія моманты і прыгадваецца лацінскае выслоўе "Sic transit gloria mundi" ("Так праходзіць слава свету").

А ў Пешцянах усё ішло сваім парадкам. Газета "Slovenska politika" ў канцы лістапада паведамляла пра арганізацыю падчас сезона наступнага года канцэртаў твораў трох каралёў музыкі – Л. Бетховена, Ф. Ліста, В. А. Моцарта, а таксама выстаў дакументаў да іх жыцця і творчасці. У Пешцянах у 1936 г. было запланавана правесці і з'езд славацкіх і венгерскіх пісьменнікаў.

Аўтар гэтых радкоў, узнаўляючы дакладнасць падзей кастрычніка 1935 г., правёў пошукавую працу непасрэдна ў Пешцянах. Вялікую дапамогу мне аказалі менеджар курорта пані Яна Обертава (Jana Obertova), а таксама дырэктар бальнеалагічнага музея пан Уладзімір Крупа (Vladimir Krupa).

Сапраўдным адкрыццём і знаходкай сталася памятная кніга гатэля "Thermia Palace" (у нашай традыцыі – кніга запісаў ганаровых гасцей). Які скарб! Яна рыхтавалася да рэстаўрацыі, але для мяне было зроблена выключэнне, каб пазнаёміцца з ёй і зрабіць неабходныя фотаздымкі. Тут аўтографы і прэзідэнта Чэхаславакіі Эдуарда Бенеша (у кастрычніку 1935 г. ён быў яшчэ міністрам замежных спраў краіны), і славутага спевака Фёдара Шаляпіна, і прадстаўнікоў генералітэту Савецкай Арміі ў першыя дзесяцігоддзі пасля Другой сусветнай вайны, адным словам – гісторыя Еўропы ў імёнах. На адной са старонак знаходзяцца подпісы членаў дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў, у тым ліку Янкі Купалы. Гэтая кніга – адна з чарговых – распачата ў 1928 г. Тытульную старонку да яе аформіла мастачка – дачка прэзідэнта Чэхаславакіі Масарыка.

Пешцянскія падзеі зафіксаваны ў фотаздымках. У 2007 г. на старонках газеты "Культура" і часопіса "Полымя" ўбачылі свет публікацыі вядомага даследчыка-славіста Івана Чароты. Вольга Кухтава, дачка ўдзельніка падзей пісьменніка Элы Шандара, перадала яму шэраг фотаздымкаў пра паездку дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў па Славакіі ў кастрычніку 1935 г. Некалькі фота яшчэ раней В. Кухтава падаравала музею Янкі Купалы ў Мінску. Матэрыялы артыкулаў паважанага прафесара аказаліся сапраўды сенсацыйнымі. Іх адкрыццё і публікацыя прыйшліся акурат на юбілейны год песняра.

Да таго ж яны падкрэслілі адзін важны момант устаноўкі даследчыцкага пошуку: няма кірункаў даследавання факультатыўных, вычарпаных, як радовішча, кожны можа таіць нечаканыя, сапраўдныя адкрыцці.

Сёння ёсць магчымасць устанавіць час і месца выдання першых публікацый некаторых фотаздымкаў, прынамсі аднаго. Адзін са здымкаў, пададзены ў гэтым артыкуле, можна ахарактарызаваць як афіцыйны, на ім члены савецкай дэлегацыі разам са славацкімі калегамі, прадстаўнікамі дыпламатычных службаў і мясцовых улад зняты ля ўвахода ў "Thermia Palace". Упершыню фота апублікавана ў газеце "Slovenský deník" 22 кастрычніка 1935 г. Пад ім зроблены наступны запіс: *"Савецкія журналісты ў Пешцянах. Дэлегацыя савецкіх журналістаў завітала і ў Пешцяны, дзе яны былі гасцямі кіраўніцтва курорта. На нашым здымку ў першым радзе пасярэдзіне Ал. М. Талстой, каля яго справа кіраўнік дэлегацыі рэд. Кальцоў, а злева яго жонка. Апошні справа ген. дырэктар Л. Вінтэр"*.

Інтэр'ер рэстараннай залы гатэля "Thermia Palace" і сёння захоўвае першапачатковы выгляд, ашчадна зберагаюцца і іншыя дастапомнасці славутага на ўвесь свет пешчянскага курорта. Не пашчасціла толькі каланаднаму мосту – у гады Другой сусветнай вайны яго моцна пашкодзілі. Сёння ён адноўлены з некаторымі адхіленнямі ад першапачатковай аўтарскай задумы.

Аўтару гэтых радкоў быў аказаны гонар пакінуць свой запіс у чарговым, новым экзэмпляры памятнай кнігі. З думак, што не ўвайшлі тады ў мой тэкст, хочацца зафіксаваць наступнае: такія мясціны, як курортныя Пешцяны, акрамя цудоўнага ўздзеяння на арганізм чалавека, маюць яшчэ адну асаблівасць – карэкціраваць, узнаўляць забытыя аскепкі гістарычнай памяці народа.



Чалавек, які ломіць кастыль. Скульптурная выява перад каланадным мостам. Сучасны выгляд.



Каланадны мост пра раку Ваг. Сучасны выгляд.




Альфонс Муха. Слаўся, добраславёная крыніца здароўя!
Інтэр'ер рэстарана гатэля "Termia Palace". Пачатак 1930-х гг.



Янка Алексы.
Горцы (Hôrni
chlapci). 1927 г.



Урачысты здымак перад гатэлем "Termia Palace". У першым радзе сядзяць (злева направа): Л. Вінтэр, Г. Васількоўскі, М. Кальцоў, А. Талстой, М. Остэн (жонка М. Кальцова), Г. Караваева, С. Траццякоў. За С. Траццяковым стаіць Я. Алексы. У трэцім радзе другі злева Э. Шандар, Янка Купала – у другім радзе ў цэнтры, за А. Талстым.




Гатэль "Termia Palace". Сучасны выгляд.



Урачыстая вячэра ў рэстаране гатэля “Termia Palace”.
Янка Купала ў глыбіні залы на другі бок стала. Леваруч ад яго Г. Вамаш і Г. Васількоўскі (чытае).



Гатэль “Slovan” (былы “Grand Hotel Royal”). Сучасны выгляд.




«Памятная кніга гатэля “Termia Palace”».




Аўтограф Фёдара Шаляпіна ў «Памятнай кнізе гатэля “Termia Palace”».




Тытульная старонка «Памятнай кнігі гатэля “Termia Palace”», аформленая Вольгай Масарыкавай, дачкой першага прэзідэнта Чэхаславацкай Рэспублікі Томаша Гарыка Масарыка. 1928 г.




Аўтографы дэлегацыі ў «Памятнай кнізе гатэля "Termia Palace"».



Эдуард і Гана Бенешы. 1934 г.

Аўтографы Эдуарда і Ганы Бенешаў у «Памятнай кнізе гатэля “Termia Palace”».

21. 9. 36.

# На вастрыі палітыкі і дыпламатыі: апошнія дні ў Славакіі. Забытае інтэрв'ю Янкі Купалы 1935 г.

У адпаведнасці з праграмай знаёмства са Славакіяй паважаным гасцям з Савецкага Саюза ў 1935 г. прапанавалася агледзець курортныя мясціны, дзівосныя краявіды і дастапомнасці Высокіх Татраў. Можна меркаваць, што на гэтым этапе славацкая прэса вырашыла асабліва не назаляць савецкім калегам, даць ім магчымасць хоць трохі адпачыць без пільнай увагі фотааб'ектываў на ўлонні прыроды, *"дзе па паўднёвым схіле гор, што стаяць над мяккай засмужанай і вялікай, як мора, далінай, раскінутыя цэлыя гронкі выдатных санаторыяў, гасцініц і дач, пабудаваных і абстаўленых рацыянальна і вытанчана"* [3, с. 10].

Бадай што толькі адна газета – "Slovenský deník" – у сваім артыкуле "Шлях рускіх журналістаў і пісьменнікаў па Славакіі" [4, с. 1] дала інфармацыю пра гэты прыпынак візіцёраў. У ёй сцісла, без асаблівых каментарыяў пералічваліся тыя мясціны, курорты, якія агледзелі госці з СССР.

Дэлегацыя савецкіх журналістаў і пісьменнікаў прыбыла цягніком з Пешцян у Татранскую Ломніцу (Tatranská Lomnica) раніцай 17 кастрычніка. Гасцей сустракалі і суправаджалі кіраўніцтва татранскай камісіі па турызме і дырэкцыя дзяржаўных курортаў. У экскурсійную праграму ўвайшло знаёмства з Ломніцай, а таксама наведванне

горнай катлавіны пад назвай Татранска котліна (Tatranská Kotlina) з заходам у Бельскую пячору. У Ждзяры (Ždiar), мястэчку, слаўным самабытнай драўлянай архітэктурай і звычаямі, госці паглядзелі на адметныя ждзярскія танцы, засведчылі, як развіваецца турызм у гэтым рэгіёне Славакіі. Цікавасць гасцей выклікала новабудоўля чэхаславацкай транспартнай галіны – дарога Свабоды.

Абед праходзіў у гатэлі "Palace" у Новым Смокаўцы. Пасля абеду наведалі горнае возера Штрбскае плеса (Štrbské pleso), паглядзелі на велічную будову Масарыкавага санаторыя (у нашай традыцыі – імя Масарыка) у Вышніх Гагах. Потым быў турыстычны цэнтр у Новым Смокаўцы, агляд абсталявання для скалалажання, знаёмства з арганізацыяй службы бяспекі і дапамогі турыстам. Бліжэй пад вечар гасцей чакала экскурсія па санаторыі ў Новым Смокаўцы, дзе прайшло знаёмства з працай грамадскіх установ у Высокіх Татрах. Тут у кінатэатры гасцям быў прапанаваны гукавы этнаграфічны фільм "Зямля спявае" ("Zem spieva") рэжысёра Карала Рыцкі*.

У гатэлі "Palace" у гонар савецкай творчай эліты была арганізавана ўрачыстая вячэра, на якой прысутнічалі прадстаўнікі цэнтральнай дырэкцыі дзяржаўных курортаў, а таксама мясцовыя службоўцы. У планах наступнага дня, як паведамляў "Slovenský deník", значылася наведанне Шробарава дзіцячага аздараўленчага цэнтра ў Дольным Смокаўцы і ад'езд пражскім хуткім цягнікам у Мараўскую Астраву.

Пра маршрут паездкі дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў па Славакіі ў папярэдняй інфармацыі паведамлялася, што апошнія прыпынкі павінны быць

* У такой форме зафіксавалі ў сваіх допісах удзельнікі савецкай дэлегацыі. Правільнае напісанне прозвішча "Пліцка".

у Падкарпацкай Русі. Невядома, на якім этапе праграма карэктавалася, але такога завяршэння падарожжа не адбылося. Відаць, па меркаванні арганізатараў, змену павінна была кампенсаваць дэманстрацыя фільма "Зямля спявае", прысвечанага жыццю русінаў – аўтахтоннага народа Падкарпацкай Русі (іншая назва – Угорская Русь).

Ганна Караваева (дарэчы нагадаць, шчыры сябра і добры знаўца творчасці Я. Купалы) пры апісанні гэтага эпізоду побыту ў Чэхаславакіі ў сваіх успамінах (надрукаваны спачатку як асобны артыкул у часопісе "Огонёк" [2, с. 16], потым як фрагмент дарожных дзённікаў у часопісе "Молодая гвардия" [1, с. 51 – 53]) звярнулася па гістарычную даведку да кнігі "Падкарпацкая Русь і Чэхаславакія" гісторыка Каміла Крэфта, якая ўбачыла свет у Празе акурат у 1935 г. Пройдземся ўслед за згаданымі пісьменніцай звесткамі з гэтай кнігі.

Падкарпацкая Русь была далучана да Чэхаславакіі 10 верасня 1919 г. Гэты край, насельніцтва якога складалі "галоўным чынам сяляне і пастухі", дастаўся маладой Чэхаславакіі пасля распаду Аўстра-Венгерскай імперыі. За сваю пакутніцкую гісторыю тутэйшы народ зведаў шмат прыцясненняў і ад каралёў, што былі тут яшчэ да Габсбургаў, і ад нямецкіх каланізатараў, і ад венгерскіх памешчыкаў. З 60-х гг. XIX ст. у Падкарпацкай Русі праводзілася жорсткая палітыка мадзьярызацыі насельніцтва. Русіны жылі з земляробчай працы і жывёлагадоўлі. Але ўласнай зямлі і ўласнага статку было так мала, што большую частку года даводзілася галадаць. К. Крэфт у кнізе выказаў наступную думку: *"...яшчэ многа трэба тут зрабіць, вырашыць многа складаных задач, каб завяршыць нацыянальнае, культурнае і палітычнае адраджэнне падкарпацкага народа"* [2, с. 16]. Зрэшты, першае беларускае знаёмства з гісторыяй і нацыянальным адраджэннем русінаў адбылося яшчэ ў 1914 г. дзякуючы артыкулу "Угорская Русь" Максіма Багдановіча.

Восенню 1935 г. дэлегацыя савецкай журналісцкай і пісьменніцкай эліты мела магчымасць пазнаёміцца з жыццём русінаў апасродкавана, праз прызму рэжысёрскага бачання К. Рыцкі. Г. Караваева вельмі каларытна і эмацыйна апісала асобныя эпізоды з фільма ў сваіх дзённікавых нататках: «*Мы сядзім у вялікай глядзельнай зале санаторыя пенсійных кас у курортным мястэчку Смокавец у Высокіх Татрах. На экране перад намі спачатку праходзяць вуліцы Прагі з іх шумным натоўпам, рака Влтава з аркамі старажытнага Карлава моста, пражскі крэмль, Градчаны з вострымі шпілямі і стральчатымі вежамі старога гатычнага сабора Св. Віта. Вось Прага знікае. На экране ўздыбіліся Высокія Татры і вядомыя нам мясціны з жывапіснымі горнымі курортамі Чэхаславакіі. Потым знікаюць і гэтыя ціхія куточкі з камфортнымі гатэлямі, турысцкімі клубамі, фунікулёрамі, і глядач, як бы завяршыўшы кола культурных прагулак па краіне, патрапляе цяпер на ўлонне дзікай некранутай прыроды. На ўзгорыстых лугах пастухі ў лямцавых капелюшах і дубленых аўчынных куртках пасуць статкі. Старое шыракалістае дрэва з каравымі галінамі гойдаецца на ветры. Пастух трубіць у ражок, авечкі, піхаючыся, збягаюцца да яго. За крутым выступам гары падае нанач сонца. Пастух і авечкі таксама спяць. Аднекуль здалёку даносіцца песня, якая нагадвае пераклічку пастуховых ражкоў. І вось цішыня. Ноч.*

*На вясновых палях, ледзь пакрытых травой, дзяўчаты водзяць карагоды, мільгаюць на сонцы белымі вышытымі кашулямі, стужкамі і шырачэзнымі, як ветразі, стракатымі спадніцамі. Хуткая, як тупат ног у танцы, вясёлая абрадавая песня нясецца з экрана. Хлопцы ў аўчынных куртках спяваюць гульнёвыя песні, з вялікім захапленнем аддаюцца прастадушнай*

*весялосці. Яны ездзяць адзін на адным, бегаюць, гуляюць у "куча малая" і з гучным смехам утвараюць потым жывую піраміду палымяных твараў. Дзяўчаты зноў спяваюць абрадавую песню і пераможнай грамадой нясуць да вогнішча пудзіла зімы, а потым кідаюць яго ў раку. Хваля гуляе, дзявочая песня звініць і льецца, сонца іскрыцца, звабліва шумяць веснавыя воды. Цяпло. Свята. Ідылія. Зямля спявае…*

*А вось і будні. На схіле гары, услед за сахой, ідзе селянін. Месца, кожны бачыць, нязручнае, прымітыўная прылада – сошка – цягнецца няроўна, каняка спатыкаецца. Пасля высокай тэхнікі заводаў "Шкоды" дзіўна бачыць гэтую сошку і каняку, але гэта сапраўды так і ёсць: на ўзгорках і палях Падкарпацкай Русі аруць зямлю менавіта такім першабытным спосабам. Пад усё тыя ж даўнія песні жанчыны-русінкі мыюць у рацэ пучкі льну, мнуць яго, чэшуць і нарэшце ткуць на гэткіх жа прымітыўных, як сошка, кроснах, на якіх працавалі іх прабабулі*» [2, с. 16].

Акрамя кантрастаў унутры краіны, Г. Караваева згледзела "*падабенства з жыццём нашай рускай дарэвалюцыйнай вёскі*", вельмі крытычна ахарактарызавала зафіксаваныя аператарам праўдзівыя сцэны царкоўнага жыцця, як безумоўную карысць і мастацкую вартасць фільма вызначыла тое, "*што ў карціне гэтай нічога не прыдумана*". З усяго пералічанага вынікала падсумаванне ўражанняў пісьменніцы: "*…як не адзначыць грамадскую чуйнасць маладога рэжысёра Карала Рыцкі, які не толькі здолеў праўдзіва ахапіць усё яскравае і характэрнае для свайго культурфільма, але і з любоўю і павагай аднёсся да творчасці маленькага русінскага народа, які скрозь шматвекавое сваё, сапраўды батрацкае быццё данёс да лепшых часоў свае гульні, скокі і свае цудоўныя, багатыя на пачуццё і гучанне песні*" [2, с. 16].

Можна толькі меркаваць, які водгук у сэрцы беларускага песняра мела ўбачанае на экране славацкага кінатэатра восенню 1935 г. Адно пэўна: Я. Купалу не маглі пакінуць абыякавым талент, цяжкая праца селяніна, пастуха – адным словам, усходнеславянскага пабраціма па цяжкай долі і надзеі на лепшае жыццё.

Чым вышэй у горы падымалася дэлегацыя савецкіх майстроў пяра, чым далей яна ад'язджала ад Браціславы, Прагі, тым вышэйшай станавілася тэмпература дыскусій у Славакіі. Актуалізацыя многіх пытанняў ішла, як з сейсмаактыўнага цэнтра, з Прагі, дзе газеты, што прадстаўлялі розныя палітычныя партыі, браліся падбіць рахунак пад значэннем двухтыднёвага падарожжа па краіне паважанай дэлегацыі з Савецкага Саюза.

Камуністы і сацыял-дэмакраты падавалі вынікі візіту як станоўчыя. Заўважна акрыялі грамадскія таварыствы, асноўнай дзейнасцю якіх было азнаямленне чэхаў і славакаў з культурнымі і эканамічнымі дасягненнямі маладой краіны Саветаў.

Газеты левых партый хваласпеўна "смакавалі" асобныя эпізоды, што, на іх меркаванне, дэманстравалі асаблівую прыязнасць прадстаўнікоў савецкай дэлегацыі да працоўнага люду Чэхаславакіі. У такім стылі, напрыклад, славацкая газета "Ľudový denník" са спасылкай на чэшскія "Haló-noviny" апісвала адзін з эпізодаў наведання савецкімі журналістамі Аламоўца: «*На аламоўцкі чыгуначны вакзал прыбылі дарагія госці – савецкія журналісты. Вакзал змяніўся з выгляду, на пероне многа рабочых з жонкамі, якія прыйшлі паглядзець… Ля выхаду з вакзала ціснуліся тыя, што не мелі Кч* [крон чэшскіх] *1.20 на перонны квіток. Рабочы ў шэрай кашулі з чырвоным гальштукам праціснуўся*

*наперад і з натхненнем у вачах крыкнуў: “Здравствуйте!” – але тут жа з’явіўся паліцайны камісар і абарваў рабочага такім спосабам, які мы прывыклі бачыць у час дэманстрацый і паліцэйскіх патрабаванняў: “Разыдзіцеся!” Не ведаю, хто гэта быў з савецкіх журналістаў, але ён звярнуўся да камісара, паклаў яму руку на плячо і сказаў тым прыемным тонам, які магчымы толькі ў рускай мове: “Не трогайте товарища!” Потым ён падаў рабочаму руку з таварыскім поціскам і зноў сардэчна прамовіў: “Здравствуйте, товарищ!” Гэта было неафіцыйнае, але самае сардэчнае і самае прыемнае прывітанне»* [7, с. 2].

Той жа “Ľudový denník” акрэсліў неадназначнасць стаўлення да нядаўніх падзей з боку іншых партый і іх выданняў: «*Зараз, калі нашы савецкія госці завяршаюць сваю невялікую афіцыйна зацверджаную праграму падарожжа па Чэхаславакіі, пачынаюць з’яўляцца закіды ў бок прадуманасці праграмы іх побыту ў нас. “Lidové noviny” пісалі пра тое, што добрую палову дэлегацыі складалі пісьменнікі, а з чэхаславацкімі майстрамі слова савецкія госці так і не сустрэліся і часу не мелі, каб наведаць розныя творчыя арганізацыі. Влада Клеменціс ужо напісаў у газеце “Ľudový denník”, наколькі варта жалю тая акалічнасць, што складальнікі праграмы побыту савецкай дэлегацыі ў Славакіі не запланавалі для дэлегацыі наведанне Мацiцы, да якой – як пра гэта сказаў украінец Мікітэнка – савецкая культурная грамадскасць праяўляе зацікаўленасць. Не мелі магчымасці наведаць і Славацкі нацыянальны тэатр, пры гэтым трэба адкінуць пасквіль Сідара ў “Славаку”, у якім ён папракае савецкіх гасцей і пасмейваецца са славацкага тэатра, маўляў, наколькі ён і так прапанаваў са свайго рэпертуару найбольш савецкія п’есы, таму савецкія*

*госці туды і не пайшлі. Гэтыя закіды адрасаваны арганізатарам праграмы падарожжа, якія вазілі дэлегацыю журналістаў па ўсіх магчымых курортах, але што савецкія госці хацелі, тое маглі назіраць па-за афіцыйнай праграмай»* [6, с. 4].

Узгаданыя ў артыкуле Влада (Уладзімір) Клеменціс (Vladimir Clementis, 1902 – 1952) і Карал Сідар (Karol Sidor, 1901 – 1953) – яркія фігуры ў славацкім грамадска-палітычным жыцці 30 – 40-х гг. ХХ ст. Яны прадстаўлялі крайнія пазіцыі палітычнага супрацьстаяння таго часу. В. Клеменціс – перакананы камуніст, у 1924 – 1935 гг. ён быў рэдактарам часопіса "DAV". К. Сідар – актывіст правай славацкай народнай партыі Андрэя Глінкі, у 1930-я гг. ён быў галоўным рэдактарам тыднёвіка "Славак". У сацыялістычнай гістарыяграфіі гэтае імя прыгадвалася толькі з кляймом "*клерафашыст, ідэйны і палітычны рэпрэзентант антыкамунізму, нацыяналізму і супрацьчэшскага шавінізму*" [5, с. 462]. У апошнія дзесяцігоддзі ацэнкі яго дзейнасці ў палітычным і культурным жыцці Славакіі пазбаўлены такой катэгарычнасці [10, с. 409].

Імітуючы ў артыкуле няспешны рытм падарожжа, К. Сідар іранічна пакепваў з застольнага характару візітаў, маўляў, пра якую сур'ёзнасць тут можна гаварыць: *"Жыццё ішло далей сваім шляхам. Ішлі далей і савецкія пісьменнікі і журналісты, аглядалі нашу Славакію за шклянкай добрага віна ў Святым Юры і Модры, за багатым сталом пешцянскага курорта, а потым зноў бавілі час у атачэнні беласнежных і небатычных славацкіх Татраў"* [9, с. 1].

Іронія "Славака" пераходзіла ў з'едлівы сарказм. Паколькі з гэтым візітам савецкі бок, відавочна, разыгрываў славянскую карту, імкнуўся ў некаторай ступені

рэанімаваць чэшскае і славацкае русафільства XIX ст. (усюды падкрэслівалася, што ў дэлегацыі – прадстаўнікі рускага, украінскага і беларускага народаў), адзін з аўтараў тыднёвіка выступіў з выкрывальніцкім артыкулам з яўна антысеміцкім ухілам. У ім пісалася: *«У нядаўняй дэлегацыі рускіх журналістаў у ЧСР быў адзін савецкі журналіст, які меў гучнае рускае прозвішча Кальцоў. Хто такі Кальцоў, пра гэта піша зараз "Národní politika". Гэта не рускі, а яўрэй, які раней называўся Гінзбург* (сапраўднае прозвішча Міхаіла Кальцова Фрыдлянд. – М. Т.)*, а бальшавіцкі рэжым узяў яго на працу ў прапагандысцкае аддзяленне крыважэрнага ЧК (ГПУ).*

*Таму нас не здзіўляе, чаму такім вялікім было натхненне нашых камуністаў, таксама адной нацыянальнасці з Гінзбургам, у час прыёму савецкай дэлегацыі. Вядома, свае да сваіх прыехалі»* [8, с. 2].

На вастрыі палітыкі і дыпламатыі нечакана апынулася мастацкая літаратура, прытым тыя яе жанры і акалічнасці іх стварэння, якія са староннягa погляду былі абсалютна бяскрыўднымі. Нечаканае абурэнне ў зацятых крытыкаў выклікаў развітальны верш Івана Мікітэнкі, дзе ён выказваў найлепшыя пажаданні народу і ўдзячнасць за прыём. Але якому народу? Гэта і стала падставай гучных прэтэнзій і абвінавачанняў з боку К. Сідара: «*І нарэшце савецкая дэлегацыя дабралася да Мараўскай Астравы, каб адтуль накіравацца назад у Савецкі Саюз. І тут пісьменнік Іван Мікітэнка сказаў развітальную прамову, пахваліў нашы адносіны, зноў паабяцаў, што пра нашу рэспубліку чырвоны бацюшка цар, які сядзіць зараз у Маскве, не забудзе, і напрыканцы, перапоўнены пачуццямі, якія вельмі цяжка падрабіць, пісьменнік Мікітэнка прачытаў свой украінскі верш "На развітанне"*» [9, с. 1].

Артыкул К. Сідара гучна называўся “Здрадніцкі верш”. У чым жа была здрада Івана Мікітэнкі, які, здавалася б, з першых сваіх прамоў у Славакіі выклікаў сімпатыю шчырасцю, увагай да тэмы малых народаў. Аб’ектам жорсткай крытыкі стала тое, якому народу адрасаваны найлепшыя зычэнні ўкраінскага пісьменніка. “Славак” прыводзіў урывак з украінскага арыгінала, дзе адрасатам пажаданняў выступаў “Чэхаславаччыны народ”, і той жа ўрывак з перакладу на чэшскую мову, што быў змешчаны ў выданні “A-zet” 20 кастрычніка 1935 г., дзе адрасатам быў ужо “чэхаславацкі народ”. Не хочучы таго, І. Мікітэнка развярэдзіў балючыя пытанні чэшска-славацкага федэралізму. У Чэхаславакіі адразу пасля яе ўзнікнення ішоў актыўны працэс выпрацоўкі дзяржаўнай ідэі. Адным з праграмных момантаў новай ідэалогіі, дарэчы, на пэўным этапе значылася стварэнне чэхаславацкай літаратурнай мовы. Са славацкага боку гэтае пытанне выклікала далёка не адназначнае стаўленне. Да сярэдзіны 1930-х гг. яно было адным з краевугольных камянёў супрацьстаяння славацкай народнай партыі Андрэя Глінкі і “цэнтралістаў”, камуністаў у Празе.

Карал Сідар рабіў высновы: “*...у вершы, напісаным у Мараўскай Астраве, ужо няма гаворкі пра малы славацкі народ, якому Масква прапануе абарону на далейшым шляху жыцця. У вершы ўжо гаворыцца пра чэхаславацкі народ, якому зычыцца росквіт. Словам, няхай квітнее чэхаславацкі народ, няхай квітнее гэты большы народ, а не наш народ, няхай квітнее нават на магіле славацкага народа.*

*Падман з камуністычным нацыяналізмам тады не ўдаўся. Ён быў выкрыты яшчэ да таго, як савецкія журналісты і пісьменнікі пакінулі нашу рэспубліку. У нас ужо няма ілюзій, няма бела-чырвоных мрой*

*пра дапамогу і бацькоўскую падтрымку славянскага велікана. Засталіся мы са сваімі думкамі і клопатамі зноў адны, якімі і былі яшчэ да савецкага візіту. Няма розніцы паміж графам Коламанам Цісам і ўкраінскім пісьменнікам Іванам Мікітэнкам. Абодва аднолькавым спосабам раскрылі жыццё славацкага народа, аспрэчылі яго месца пад сонцам. <…> Здрадніцкі верш. З яго крычыць рэальнае ўсведамленне: славацкі народ у сваім нацыянальным развіцці не можа спадзявацца на дапамогу Савецкага Саюза. Савецкі Саюз і яго інтэлектуалы стаяць за чэхаславацкі народ"* [9, с. 1].

На гэтым фоне словы Янкі Купалы, якія цытавалі славакі, выглядаюць падкрэслена выверанымі, дыпламатычнымі. Газета "Ľudový denník" пісала, што *«знаходжанне савецкіх гасцей у нас мае вялікае значэнне і для іх.* ***Беларускі паэт Купала*** (вылучана мною. – М. Т.) *такім чынам выказаўся рэдактару "Lidových novin" пра свае ўражанні ад наведання Чэхаславакіі:* ***"І калі мы пакінем па-за ўвагай усе афіцыйныя прывітанні, у якіх усё-ткі можам адразу вылучыць блізкі, сардэчны тон, нам застаецца яшчэ сардэчная цікавасць простых людзей. Як толькі куды-небудзь прыедзем або дзе толькі пакажамся, вітаюць нас адразу людзі на вуліцы. І па вачах тых людзей мы бачым, што яны рады, што маюць магчымасць нас прывітаць".*** *А знаёмства гэтых сімпатый самых шырокіх мас у адносінах да прадстаўнікоў Савецкага Саюза – гэта вялікі набытак нашых савецкіх таварышаў»* [6, с. 4].

Славацкая газета змясціла толькі вытрымку з інтэрв'ю, толькі тыя словы, дзе беларускі паэт выказаўся агулам пра шчырыя вітанні простага люду краіны, не канкрэтызуючы пры гэтым, пра якія мясціны ідзе гаворка.

Чэшская газета “Lidové noviny” 18 кастрычніка 1935 г. змясціла інтэрв’ю з Я. Купалам пад назвай “З размоў з рускімі гасцямі. Прага ўсё прыгажэе”. На пачатку асноўнага тэксту былі пазначаны месца і дзень размовы: Прага, 17 кастрычніка. Побач з тэкстам пададзены графічны партрэт песняра, яго аўтар не ўказаны. Гэтае інтэрв’ю трэба аднесці да катэгорыі малавядомых ці, дакладней сказаць, забытых, паколькі ў Поўным зборы твораў у дзевяці тамах яно не ўзгадана.

Прыводзім яго поўны тэкст у перакладзе з чэшскай мовы аўтара гэтых радкоў і дацэнта БДУ Алены Вострыкавай. Напачатку адзначу, што прыведзены вышэй пераклад невялікага ўрыўка са славацкай газеты мае нязначныя разыходжанні з адпаведным фрагментам поўнага тэксту. Аўтар гэтых радкоў не імкнуўся іх знівеліраваць. Відавочна, што тут маюць месца дробныя нюансы перакладчыцкага падыходу.

*“Прага чым далей, тым прыгажэй,* – адказвае Янка Купала, беларускі пісьменнік з рускай дэлегацыі, на пытанне, як яму падабаецца Прага.

***Як гэта, чым далей? Вы ж ведаеце Прагу ўжо з больш ранняга часу. Якое адрозненне вы назіраеце?***

*Так, я быў у Празе ў 1925 г. А адрозненне вельмі значнае. Горад больш шумны, ажыўленыя вуліцы поўныя руху. У той раз яшчэ здаралася, што я павінен быў шукаць таксі, а сёння іх усюды поўна. Сёння Прага – гэта радасная сталіца.*

***Вы былі ў крамах. Якое ваша меркаванне наконт якасці нашых тавараў?***

*Пра гэта нават лішне гаварыць, вы самыя ведаеце, что вашы тавары папросту знакамітыя. Мы ў захапленні ад таго, што вы можаце гэтым ганарыцца. Вы малая краіна, але мы ўпэўнены, што ў гэтым вы*

*можаце параўноўваць сябе з любой прамысловай імперыяй. У астатнім, калі вы самі гаворыце, што вы малая краіна, то ў гэтым вельмі многа сціпласці, таму што, напрыклад, ваша прамысловасць павялічвае ваша значэнне. Я думаю, што многа вашых людзей паедзе да нас працаваць, калі не зараз, то праз некаторы час.*

***Што вы мне скажаце пра тое, як вас прымалі ў Чэхаславакіі? Ці думаеце вы, што гэта шчыры прыём сапраўдных сяброў?***

*У гэтым няма ніякага сумнення. І нават калі мы пакінем збоч усе афіцыйныя вітанні, у якіх усё ж можна вызначыць унутраны сардэчны тон, яшчэ нам застаецца сардэчная цікавасць простых людзей. Як толькі мы куды-небудзь прыязджаем, усюды на вуліцах нас вітаюць людзі. І па вачах гэтых людзей мы бачым, што яны радыя, што маюць магчымасць нас прывітаць*" [11, с. 5].

**Літаратура**


1. Караваева, А. В стране гуситов. Дорожные дневники / А. Караваева // Молодая гвардия. – 1936. – № 9. – С. 30 – 53.
2. Караваева, А. Земля поет / А. Караваева // Огонёк. – 1935. – № 36. – С. 16.
3. Третьяков, С. Страна-перекресток / С. Третьяков // Огонёк. – 1936. – № 21. – С. 8 – 10.
4. Cesta ruských novinárov a spisovateľov po Slovensku // Slovenský deník. – 1935. – 18 októbra. – S. 1.
5. Malá Encyklopédia Slovenska. – Bratislava : Veda, 1987.
6. Najväčší zisk sovietskej delegácie // Ľudový denník. – 1935. – 20 októbra. – S. 4.
7. Nechájte továryša! // Ľudový denník. – 1935. – 18 októbra. – S. 2.
8. On reprezentoval Rusov // Slovák. – 1935. – 21 novembra. – S. 2.
9. Sidor, K. Zradná báseň / K. Sidor // Slovák. – 1935. – 22 októbra. – S. 1.
10. Slovník slovenských spisovateľov 20. storočia. – Bratislava : Slovenská národná knižnica, 2001.
11. Z hovorů s ruskými hosty. Praha je stále krásnější // Lidové noviny. – 1935. – 17 října. – S. 5.



Пастух-русін. Кадр з фільма "Зямля спявае" (рэжысёр К. Рыцка).



Штрбскае плеса.



Ждзяр. Сучасны выгляд.



Санаторныя будынкі ў Новым Смокаўцы. Сучасны выгляд.




Палітычная карыкатура “Голуб міру”. Подпіс пад малюнкам – размова народнага камісара замежных спраў СССР М. Літвінава і міністра замежных спраў ЧСР Э. Бенеша.
Літвінаў да Бенеша: “Не пужайцеся, эксцэленцыя, галубы ў нас за час рэвалюцыі падохлі, цяпер лятаюць гарматы і танкі” (“Nastup”, 1935, № 3).




Дэлегацыя савецкіх журналістаў і пісьменнікаў на мінскім вакзале. “ЛіМ”, кастрычнік 1935 г.



Дэлегацыя савецкіх журналістаў і пісьменнікаў. Чэхаславакія, 1935 г.

# Славацкія сустрэчы Янкі Купалы: Гана Грэгарава, Ян Понічан, Гейза Вамаш

Пісьменнікі заўсёды вельмі чуйна ставяцца да новых, важных падзей ва ўласным і грамадскім жыцці, імкнуцца па магчымасці зафіксаваць ці ў памяці, ці пісьмова ўсе нюансы ўбачанага, перажытага. Частка такой інфармацыі і эмацыйнага ўражання потым арганічна ўваходзіць у мастацкую тканку твора, частка застаецца ў дзённіках як асобны, самавартасны штрых у біяграфіі аўтара, нарыс пэўнага этапу жыцця грамадства. Для ўдумлівага, назіральнага майстра пяра няма нічога лішняга і выпадковага – нават праз дробязі мастак слова фіксуе гісторыю. Такія нататкі вельмі часта ўспрымаюцца з не меншай цікавасцю, чым арыгінальныя творы, а яны ж маюць і пазнавальную, і навуковую каштоўнасць. Мастак праз прызму ўласнага бачання фіксуе час, людзей, прымушае застыць у вокамігнароджаную эмоцыю.

Славакі надавалі візіту дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў у кастрычніку 1935 г. вельмі важнае, сапраўды гістарычнае значэнне. Гасцям паказвалі ўсё самае лепшае, суправаджалі ганаровую місію таксама прызнаныя нацыянальныя майстры пяра. Як правіла, гэта былі палітычна ангажаваныя пісьменнікі, якія з вялікай сімпатыяй ставіліся да Савецкага Саюза, змагаліся супраць сацыяльнай няроўнасці ў сваёй краіне. Лёс кожнага з іх у далейшым склаўся па-рознаму. Падзеі Другой сусветнай вайны, пасляваенныя грамадска-палітычныя

змены прадвызначылі тое, што многія з іх, як кажуць, апынуліся па розныя бакі барыкады, хтосьці стаў ахвярай малоха жорсткай гісторыі, пра некаторых папросту забылі. За апошнія амаль два дзесяцігоддзі многія імёны былі вернуты з небыцця, іх уклад у нацыянальную культуру карэнным чынам пераасэнсаваны.

Сёння істотна пашыраюцца гарызонты і магчымасці асвятлення і асэнсавання беларуска-славацкіх культурных сувязей ХХ ст. Важную фактаграфічную базу для навуковых даследаванняў у гэтым кірунку складаюць успаміны і перапіска славацкіх пісьменнікаў – сведкаў і ўдзельнікаў тых падзей. Шмат матэрыялаў зберагаецца ў сховішчах Маціцы славацкай у Марціне. Дакладная назва ўстановы, дзе захоўваюцца дакументы падобнага кшталту, – Славацкая нацыянальная бібліятэка, Архіў літаратуры і мастацтва (Slovenská národná knižnica, Archív literatúry a umenia).

Самы чынны ўдзел у прыёме гасцей з Савецкага Саюза ўзяло Таварыства культурных і эканамічных сувязей з СССР (Spoločnosť pre kultúrne a hospodárske styky s SSSR). Яно было заснавана ў Браціславе 2 лютага 1928 г. як філія аднайменнага пражскага таварыства. Дастаткова актыўна і шматгранна дзейнасць гэтай арганізацыі змагла праявіцца толькі пачынаючы з 1934 – 1935 гг. у сувязі з актывізацыяй двухбаковых кантактаў паміж ЧСР і СССР. Сіламі таварыства арганізоўваліся публічныя лекцыі савецкіх і славацкіх пісьменнікаў. Сябры таварыства мелі магчымасць наведаць краіну Саветаў. Вынікі, уражанні ад паездак агучвалі на лекторыях, якія ахоплівалі не толькі горад, але і вёску. У славацкіх газетах за аўтарствам сяброў таварыства рэгулярна змяшчалася інфармацыя пра Савецкі Саюз, на старонках перыядычнага друку вялася дыскусія з іншымі грамадска-палітычнымі

арганізацыямі наконт справядлівасці асвятлення сутнасці і метадаў сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў у маладой савецкай краіне. Даваенная дзейнасць таварыства была афіцыйна забаронена 17 кастрычніка 1938 г. у сувязі са зменай палітычнай сітуацыі ў Славакіі.

Старшынёй таварыства ў той час з'яўлялася пісьменніца Гана Грэгарава, яе намеснікам быў пісьменнік, банкаўскі служачы Эла Шандар, які фактычна і выконваў асноўную працу ад імя арганізацыі па прыёме гасцей, іх суправаджэнні па краіне, асвятленні візіту ў славацкім друку. Гана Грэгарава, па сутнасці, толькі адзін раз сустракалася з прадстаўнікамі дэлегацыі – яна афіцыйна прадстаўляла таварыства на ўрачыстым вечары ў Браціславе ў гатэлі "Carlton" 15 кастрычніка 1935 г.

Адразу пасля ўзнікнення Чэхаславакіі ў 1918 г. Гана Грэгарава (Hana Gregorová, 1885 – 1958) праявіла сябе як актыўны дзеяч на ніве асветы і літаратуры. Яе далучэнне да культурнага жыцця маладой краіны, думаецца, адбылося не без уплыву і падтрымкі мужа – вядомага празаіка і драматурга Ёзафа Грэгара-Таёўскага (Jozef Gregor-Tajovský, 1874 – 1940).

Першы зборнік малой прозы пісьменніцы "Жанчыны" ("Ženy", 1912) умацаваў адну з асноўных тэм усёй яе творчасці: роля і месца жанчыны ў жыцці грамадства. Пацверджаннем стала кніга, прысвечаная менавіта лёсам славацкіх жанчын "Славачка каля каміна і каля кнігі" ("Slovenka pri krbe a knihe", 1929). Тэма сацыяльнай несправядлівасці распрацавана аўтаркай у зборніках навел "Мой свет" ("Môj svet", 1920), "Пакорлівыя людзі" ("Pokorní ľudia", 1924), "Ад сэрца" ("Zo srdca", 1930). 30-я гады XX ст. пазначаны працай Г. Грэгаравай у буйных празаічных жанрах. У гэты час выйшлі яе раманы "Хвалі душы" ("Vlny duše",

1933) і "Час не спыніш" ("Čas nezastavíš", 1935). Акурат у памятным 1935 г. выйшлі яе дарожныя нататкі "Свет такі прыгожы" ("Svet je tak krásny").

Гана Грэгарава ўважліва сачыла за новымі павевамі ў літаратуры, падтрымлівала пошукі маладой генерацыі пісьменнікаў, з некаторымі з іх, як з Гейзам Вамашам, напрыклад, стала ліставалася. Ужо пасля смерці выйшлі яе "Успаміны" ("Spomienky", 1979).

Справу бацькоў-пісьменнікаў прадоўжыла дачка Ё. Грэгара-Таёўскага і Г. Грэгаравай публіцыстка Дагмар Грэгарава-Прашылава (Dagmar Gregorová-Prášilová), якая апублікавала іх перапіску пад назвай "Час ніколькі не мяняецца" ("Ani čas nemení", 1972).

На жаль, нельга сказаць, што літаратурная спадчына Г. Грэгаравай стала прыцягвае ўвагу славацкіх даследчыкаў. Гэта, урэшце, справа сённяшніх культурных прыярытэтаў. І ўсё ж такі яе багаты жыццёвы і мастацкі вопыт, зафіксаваны, акрамя арыгінальнай творчасці, таксама і ва ўспамінах, і ў перапісцы, раскрывае адну з неаспрэчных граняў патэнцыйнай увагі навукоўцаў: Гана Грэгарава – сведка і непасрэдны ўдзельнік важных падзей свайго часу. Сяброўства з яркімі прадстаўнікамі нацыянальнага пісьменства, замежнымі майстрамі слова робіць яе мемуары і эпісталярную спадчыну каштоўнай крыніцай інфармацыі пра час, людзей, міжнародныя культурныя кантакты.

Узнаўляючы па магчымасці ўсе штрыхі да агульнай карціны знаходжання дэлегацыі савецкіх майстроў пяра ў кастрычніку 1935 г. у Славакіі, канечне, рупіла перш за ўсё знайсці сведчанні пра тое, хто са славацкіх калег выклікаў у Янкі Купалы найбольшую цікавасць. Гэта давала б магчымасць хоць у некаторай ступені вырваць асвятленне падзей з моцных абдымкаў нешматслоўнай

афіцыйнасці, вырашыць звышзадачу – "вылушчыць" са стрымана занатаванага ў розных крыніцах звесткі пра ўласна Купалавы сустрэчы. Відавочна, што тагачасная перыёдыка і архівы не маглі даць такой інфармацыі. Між тым на некаторыя цікавыя сведчанні відавочцаў удалося натрапіць. У фондах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы захоўваецца некалькі лістоў сведкі і ўдзельніцы падзей Вольгі Шандаравай. Так з'явілася адна з жывінак асвятлення нюансаў гістарычнага візіту. У кароткіх успамінах В. Шандарава занатавала: "*Памятаю, у нас у Брацiславе, на беразе Дуная ён доўга размаўляў з нашым паэтам Янкам Понічанам, з якім як з калегам знайшоў агульную мову*" [1, с. 2].

Ян Понічан (Ján Poničan, 1902 – 1978) увайшоў у гісторыю славацкай літаратуры як паэт, празаік, драматург, перакладчык. Выпускнік юрыдычнага факультэта Карлава ўніверсітэта ў Празе (1926), у 1933 – 1947 гг. ён трымаў адвакацкую кантору ў Браціславе. У міжваеннае дваццацігоддзе выступаў як *«сябра згуртавання лева арыентаваных інтэлектуалаў, адзін з заснавальнікаў часопіса "DAV"»* [11, с. 374]. Вершамі, якія былі сабраны пад вокладкай зборніка "Дэмантаж" ("Demontáž", 1929), паэт пратэставаў супраць збяднення свайго народа ва ўмовах капіталістычнага ладу. Уражанні ад падарожжа па Савецкім Саюзе Я. Понічан, захоплены энтузіязмам сацыяльна-палітычных змен у краіне Саветаў, адлюстраваў у зборніку "Ангара" ("Angara", 1934). Лічыцца, што раманамі "Машыны рушылі" ("Stroji sa pohli", 1935), "Павуціна" ("Pavučina", 1945) ён увасобіў у славацкай прозе прынцыпы сацыялістычнага рэалізму. Творчасць Я. Понічана мае відавочныя рысы аўтабіяграфізму. Выразная палітычная ангажаванасць прадвызначыла пэўны схематызм і зададзенасць яго тэкстаў. П'есы Понічана істотна ўзбагацілі

рэпертуар славацкіх тэатраў. У пасляваенны час творчасць пісьменніка была звязана ў асноўным з прозай, мемуарыстыкай, перакладамі французскай, нямецкай, рускай класічнай літаратуры.

Пісьменнік Гейза Вамаш (Gejza Vámoš, 1901 – 1956) прыйшоў у славацкую літаратуру на хвалі нацыянальнага будаўніцтва, што ахапіла землі былой перыферыі Аўстра-Венгерскай імперыі пасля абвяшчэння ў 1918 г. незалежнай Чэхаславацкай Рэспублікі. У гісторыі нацыянальнага пісьменства 20-х гг. ХХ ст. гэтае пакаленне пазіцыянавала сябе як новая генерацыя *“з прызваннем быць першапраходцамі, апосталамі, якіх прызнае народ”* [7, с. 30]. Да актыўнага літаратурнага жыцця Г. Вамаш далучыўся яшчэ падчас навучання ў 1919 – 1925 гг. на медыцынскім факультэце Карлава ўніверсітэта ў Празе. Разам з Янкам Алексы ён рэдагаваў часопіс “Svojeť” (1922). Потым было супрацоўніцтва з шэрагам перыядычных выданняў 20 – 30-х гг. ХХ ст., якія прытрымліваліся, як правіла, радыкальных поглядаў на сучасны літаратурны працэс, крытычна ставіліся да грамадска-палітычнага жыцця краіны (“Mladé Slovensko”, “Pero”, “DAV” і інш.). Першая яго кніга “Эдзіціна вочка” (“Editino očko”) выйшла ў 1925 г. Навелы, што ўвайшлі ў дэбютны зборнік пісьменніка, пазначаны *“песімістычна-скептычным светапоглядам з выразнымі экспрэсіяністычнымі рысамі”* [11, с. 492].

Першы раман Г. Вамаша “Атамы Бога” (“Atómy Boha”) убачыў свет у 1928 г. Ён меў вельмі шырокі рэзананс, і найперш дзякуючы таму, што ўспрымаўся як *“твор наватарскі, у некаторых аспектах скандальны, нават цынічны”* [8, с. 247]. Асаблівая чытацкая ўвага, якая суправаджала выхад гэтага твора, тлумачыць тое, што за наступнае менш чым дзесяцігоддзе (і гэта беспрэцэдэнт-

ны факт у гісторыі славацкай літаратуры) раман быў перавыдадзены тройчы (1933, 1934, 1936). Чацвёртае яго выданне ажыццёўлена праз 75 гадоў у 2003 г.

Сучаснікі не шкадавалі гучных характарыстык творчасці пісьменніка. Добраслаў Хробак (Dobroslav Chrobák) сказаў, што Вамаш – гэта «*“enfant terrible”* славацкай літаратуры*»; Даніэл Окалі (Daniel Okáli) адзначыў, што «“Атамы Бога” – раман пра “геройства” і сіфіліс»; Штэфан Крчмеры (Štefan Krčméry) ахарактарызаваў яго як *“самы нігілістычны твор славацкай літаратуры”*. Невыпадкова ў славацкім літаратуразнаўстве Гейза Вамаш «*доўгі час разглядаўся як аўтар без папярэднікаў і паслядоўнікаў, як “неславацкая” з’ява, адзінай літаратурнай мэтай якога было шакаваць мешчаніна*» [7, с. 30].

Сённяшні больш стрыманы і ўзважаны падыход да творчасці Г. Вамаша характарызуе раман з таго пункту погляду, што пры яго напісанні аўтар абапіраўся перш за ўсё на ўласны лекарскі вопыт. Звышзадачай пісьменніка было інтэграванне ў мастацкі тэкст медыцыны, філасофіі і літаратуры. Насуперак устаяламу ўспрыманню рэчаіснасці ён імкнуўся паказаць, што ў свеце менавіта зло перамагае дабро: гэта заклікаць прадэманстраваць лёс галоўнага героя, маладога лекара-альтруіста, які разам каханай заканчвае жыццё самагубствам, заразіўшыся на невылечную хваробу.

У наступным буйным творы – рамане “Адломленая галіна” (“Odlomená haluz”, 1934) – Г. Вамаш выступіў з рэзкай крытыкай жыцця, выкрыццём нораваў арыстакратычных вярхоў грамадства Венгрыі, галоўным чынам яўрэйскага. Гэтым ён выклікаў на сябе, яўрэя па пахо-

* З фр. ‘невыноснае дзіця’; чалавек, які ставіць іншых у няёмкае становішча сваёй бестактоўнасцю і непасрэднасцю.

джанні, шквал выпадаў з боку суродзічаў. Гэты канфлікт у гісторыі Славакіі 30-х гг. XX ст. вядомы пад назвай "багнянскай аферы" ("bahnianskej aféry"). Як зазначае даследчыца творчасці Г. Вамаша Дагмар Крочанава (Dagmar Kročanová), ужо тады пісьменнік задумаўся пра эміграцыю як выйсце з сітуацыі гнятлівага непаразумення і нападаў.

Творчасць Г. Вамаша стала аб'ектам "культурных чыстак" у 1939 г., яго кнігі выкідаліся з бібліятэк. З нарастаннем пагрозы нацыянальнага праследу ў тым жа годзе пісьменнік пераязджае ў Кітай, потым на Тайвань, урэшце перабіраецца ў Бразілію, дзе працуе ў якасці доктара і цалкам пакідае літаратурную дзейнасць.

З 1928 да 1939 г. Г. Вамаш – лекар Пешцянскага курорта. Паралельна з асноўнымі прафесійнымі абавязкамі ў Пешцянах ён рэдагуе часопісы "Piešťanské zprávy" і "Piešťanské okolie", дбаў пра папулярызацыю гэтага аздараўленчага цэнтра Славакіі, яго паўнавартаснае культурнае жыццё. Пісьменнік з вялікай ахвотай падарожнічаў: некалькі разоў пабываў у Вялікабрытаніі (1929, 1930, 1935, 1936) і Савецкім Саюзе (1931, 1933).

Самы актыўны ўдзел браў Вамаш у падрыхтоўцы і прыёме ў Пешцянах у кастрычніку 1935 г. дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў. Ці па волі абставін, ці па волі дыпламатычнага пратакола яму выпала сядзець побач з Янкам Купалам на ўрачыстай вячэры, якую 16 кастрычніка 1935 г. кіраўніцтва курорта давала ў гонар гасцей. Можна меркаваць, што Я. Купала ў асобе Г. Вамаша меў у той вечар цікавага суразмоўцу – славацкі калега па пяры быў нядрэнна знаёмы з савецкай рэчаіснасцю. Да таго ж, асабліва ў публіцыстыцы, Вамаш дэманстраваў левыя погляды, быў абаронцам сацыяльна прыніжаных людзей, выступаў супраць грамадскай несправядлівасці. Вядома, што захаваліся

дзённікі Вамаша, яго перапіска з Г. Грэгаравай. Праца з архівам пісьменніка магла б даць некаторыя цікавыя штрыхі да абмалёўкі пешцянскага вечара 1935 г., праведзенага ў кампаніі з беларускім песняром.

Беларуская прысутнасць у Чэхаславакіі міжваеннага перыяду мае сваю літаратурную рэалізацыю. Украінцы ўжо колькі часу звыкла і асэнсавана вядуць гаворку пра пражскую школу ўкраінскай літаратуры. Так ці інакш, невялікая еўрапейская краіна, "Еўропа ў мініяцюры", як яе называлі, дала прытулак шматнацыянальнай эміграцыі і студэнцтву. Не так даўно ў Беларусі надрукаваны раман былога беларускага студэнта ў Чэхаславакіі Віктара Вальтара "Народжаныя пад Сатурнам" (Дзеяслоў, 2005, № 16 – 19). Твор дае відавочную глебу для параўнальнага даследавання з прозай Г. Вамаша, аднаго з яркіх прадстаўнікоў пакалення славацкіх пісьменнікаў 1920-х гг., бескампраміснага творцы ў гісторыі нацыянальнай прозы XX ст.

Славацкая літаратуразнаўчая думка звярнулася да спадчыны Г. Вамаша толькі ў канцы 60-х гг. XX ст. У 1971 г. выйшла адзіная на сёння манаграфія, прысвечаная мастацкім здабыткам гэтай яркай і неадназначнай постаці міжваеннага перыяду, – кніга "Бунтар Гейза Вамаш" ("Burič Gejza Vámoš") Д. Окалі.

Сапраўдны Вамашаў рэнесанс пачаўся ў сярэдзіне 1990-х гг. Творчасць выбітнай асобы ў славацкім пісьменстве стала прадметам аналізу асобных публікацый, персанальна яму прысвечанай канферэнцыі, дысертацыйных даследаванняў. Перавыдадзены раманы "Атамы Бога" (2003) і "Адломленая галіна" (2004). Асобна выйшла даследчыцкая праца "Прынцып жорсткасці" ("Princíp krutosti"), якую Вамаш абараніў пасля заканчэння экстэрнам у 1932 г. філасофскага факультэта Універсітэта Я. А. Коменскага ў Брацiславе. Істотна пашыраюцца

гарызонты бачання творчасці гэтага яркага і неадназначнага пісьменніка. З імем Г. Вамаша сёння звязваюць праявы паэтыкі натуралізму, дэкадансу, сюррэалізму, экспрэсіянізму ў славацкай літаратуры міжваеннага перыяду. Арыентацыя на найноўшыя здабыткі сусветнай літаратуры была свядомай творчай пазіцыяй аўтара. Гэта павінна было працаваць і, як паказаў час, працавала на інтэлектуалізацыю нацыянальнай прозы.

Чакаюць даследчыка і публікацыі дзённікі і перапіска “бунтара” Гейзы Вамаша, іншых славацкіх майстроў слова – як патэнцыйна цікавыя крыніцы падсветкі таленту аўтараў, а таксама невядомых старонак узаемасувязей і тыпалагічнай блізкасці і адметнасці гісторыі нашых літаратур.

**Літаратура**


1. ДЛМЯнК. Фонд *Уш*. – Воп. ХІІІ-р. 6. – Адз. зах. 19. – Арк. 1 – 5.
2. Encyklopédia slovenských spisovateľov. – Bratislava, 1984. – Zväzok 1 – 2.
3. Chorvát, M. Literárne dielo Jána Poničana / M. Chorvát. – Bratislava, 1977.
4. Chrobák, D. Odlomená haluz / D. Chrobák // Slovenské smery 1. – 1933/1934. – № 11. – S. 395 – 397.
5. Okáli, D. Burič Gejza Vámoš / D. Okáli. – Bratislava : Slovenský spisovateľ, 1971.
6. Okáli, D. Román o “hrdinstve” a syfilise / D. Okáli // Slovenské hlasy. – 1929. – № 52. – S. 1.
7. Kročanová, D. Gejza Vámoš / D. Kročanová // Portréty slovenských spisovateľov. 1. – Bratislava : Univerzita Komenského, 2004. – S. 30 – 39.
8. Kročanová-Roberts, D. Edičná poznámka / D. Kročanová-Roberts // Vámoš, G. Atómy Boha / G. Vámoš. – Bratislava : Dilema, 2003. – S. 247 – 248.
9. Rosenbam, K. O diele Hany Gregorovej / K. Rosenbam // Trpké údely / H. Gregorová. – Bratislava, 1958.
10. Šándor, E. Zpráva o činnosti Spoločnosti pre kultúrne a hospodárske styky s SSSR / E. Šándor // Bratislava – Moskva. – 1945. – № 2 – 3. – S. 28 – 30.
11. Slovník slovenských spisovateľov 20. storočia. – Bratislava : Slovenská národná knižnica, 2001.



Гана Грэгарава
з дачкой Дагмар.
1935 г.



Ян Понічан.
1930-я гг.




Гейза Вамаш.
1930-я гг.



Гейза Вамаш,
Гана Грэгарава,
Ціда Ё. Гашпар.
1930-я гг.

# Славацкія сустрэчы Янкі Купалы: сям'я Шандараў

Знаёмствы Янкі Купалы і іншых прадстаўнікоў дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў з творчай інтэлігенцыяй Славакіі ў кастрычніку 1935 г. пакінулі розныя сляды. Фрагментарнасць абсалютнай большасці з іх, засведчаная ў тагачаснай славацкай перыёдыцы, тлумачыцца дыпламатычным характарам місіі, а таму вытрыманасцю, можам меркаваць, загадзя вызначанага пратакола. Дзяржаўны характар візіту відавочны, а таму асвятленне ў сродках масавай інфармацыі нейкіх прыватных момантаў сустрэч было папросту ні да месца. Ды і вядомая сціпласць і некаторая замкнёнасць характару самога Я. Купалы, думаецца, адыгрывалі не апошнюю ролю.

Цікавым выключэннем на агульным фоне з'яўляюцца стасункі беларускага песняра з сям'ёй Шандараў: пісьменнікам Элам Шандарам, яго жонкай і дачкой Вольгамі. Знаёмства, дакладней, яго рэтраспектыўнае асвятленне самімі ўдзельнікамі тых падзей, мела працяг у пасляваенным 1945 г. на старонках часопіса "Браціслава – Масква", які рэдагаваў Э. Шандар. (Знакава ўжо тое, што менавіта ў № 1 гэтага выдання змешчаны артыкул пра Янку Купалу.) У пачатку 1960-х гг. да росшукаў, узнаўлення славацкіх старонак Купаліяны падключылася В. Шандарава*-

---

* У славацкай традыцыі напісання жаночых прозвішчаў да асновы дадаецца суфікс -*ав*- і постфікс -*а* (*Шандар – Шандарава*).

старэйшая. Матэрыялы не былі надрукаваныя, а значыць, пакуль што не занялі належнага месца ў шэрагу аб'ектаў купалазнаўчых даследаванняў.

Багатым на знаходкі і адкрыцці стаў юбілейны купалаўскі 2007 год, калі на старонках часопіса "Полымя" [5] і газеты "Культура" [4] убачылі свет невядомыя здымкі, а таксама цікавыя згадкі пра падзеі кастрычніка 1935 г. Вольгі Кухтавай (Шандаравай-малодшай), перададзеныя Івану Чароту і данесеныя ім беларускай аўдыторыі. Лёс падараваў гэтай жанчыне доўгі век і магчымасць стаць непасрэдным звенчаком гістарычнай памяці пакаленняў. Сёння і ў Беларусі няшмат знойдзецца людзей, якія могуць пахваліцца тым, што былі асабіста знаёмыя з Купалам, а тут голас з няблізкага замежжа, да таго ж падмацаваны ўнікальнымі матэрыяламі, каментарыямі да іх і ўзгадкамі пра памятныя падзеі без прывычных аглядак на ідэалагічныя заслоны. Думаецца, наспеў час увесці ўсе факты, у абсалютнай большасці абыдзеныя ўвагай даследчыкаў, у купалазнаўчы навуковы ўжытак.

Пра назіральнасць і аб'ектыўную староннасць узгаданых пані Кухтавай эпізодаў мінулага сведчыць трапна абмаляваны ёю партрэт Я. Купалы: *"Гэта быў мужчына знешне элегантны і ў манерах з відавочнай інтэлігентнасцю, далікатнасцю… Выгляд у яго спакойны, але нейкі сумны. Пры сустрэчы, размове паводзіў сябе асцярожна…"* [цыт. паводле: 4, с. 19]. Добра запомніліся ёй абставіны знаёмства з песняром у Браціславе 15 кастрычніка 1935 г., *«калі большасць дэлегацыі пайшла глядзець Дунай. Яны ж* [Э. Шандар і Я. Купала] *засталіся, каб абмеркаваць жыццё "тут і там". Вялі працяглую і зацікаўленую размову, а потым таксама пайшлі прагуляцца. Увесь гэты час я стаяла перад*

*тэатрам, на плошчы Гвездаслава, чакала бацьку. І ён падышоў да мяне разам з Янкам Купалам. Тады бацька нас і пазнаёміў. Паколькі Купала быў першым беларусам, якога я ўбачыла, у мяне вырвалася фраза: "Я думала, што ўсе беларусы белавалосыя". І ў Купалы, і ў бацькі гэта выклікала смех*» [цыт. паводле: 4, с. 22].

Эла Шандар (Elo Šándor, 1896 – 1952) – банкаўскі служачы па прафесійных абавязках, празаік, публіцыст па творчай рэалізацыі. Прыезд дэлегацыі савецкай творчай эліты прыпаў на той час, калі ён служыў у банку ў Браціславе, да гэтага ў яго паслужным спісе былі іншыя гарады прызначэння: Новае Места над Вагам, Трнава, Кошыцэ. Вяршыняй і завяршэннем чыноўніцкай кар'еры Э. Шандара сталі 1945 – 1952 гг., калі ён узначальваў Інвестыцыйны банк у сталіцы Славакіі.

Як пісьменнік Эла Шандар дэбютаваў у драматургіі, але *"цэнтрам цяжару яго літаратурнай дзейнасці стала гумарыстычная проза"* [6, с. 138]. Запачаткавалі такое сталае вызначэнне аўтарскага амплуа тры зборнікі прыгодаў гарбара – прадпрымальніка і фігляра – пад назвай "Дзядзька Раган з Брэзавай" ("Sváko Ragan z Brezovej"; 1927, 1929, 1931), што *«адлюстроўваюць імправізацыйную манеру працы аўтара, актуалізаваную жывой дыялектнай мовай дыялогаў, у якіх герой з пазіцый "здаровага смеху" ў камічных сітуацыях выказвае свае адносіны да "моды, усяго новага, фабрыкі і палітыкі"*» [6, с. 138]. Падмацавалі такое рэнамэ пісьменніка зборнік гумарыстычных малюнкаў і накідаў "Ад Лабарца, Горнада, ад Вага і ад Дуная" ("Od Laborca, Hornádu, od Váhu i od Dunaja", 1930), а таксама зборнік гумарэсак "Вясёлыя здарэнні" ("Rozmarné historky", 1935), у якім выразна праявілася сатыра на

адміністрацыйныя парадкі і дзяржаўную бюракратычную сістэму. Кнігай палітычна ангажаванай сатыры "Заканадаўцы" ("Zákonodarci", 1936) Э. Шандар выкрываў заганы "*буржуазнага парламентарызму і псеўдадэмакратыі*".

Шандар-публіцыст сцвердзіў сябе як аўтар кніг рэпартажаў пра наведанне Савецкага Саюза "Мае ўражанні з падарожжа па СССР" ("Moje dojmy z ciest po ZSSR", 1936), "Браціслава – Масква" ("Bratislava – Moskva", 1937).

Даволі рана, яшчэ ў гады навучання, пачала афармляцца выразная нонканфармісцкая пазіцыя будучага пісьменніка. У перыяд яго асобаснага сталення яна выявілася ў канфлікце з шавіністычна настроенымі венгерскімі настаўнікамі. У пошуках рэальнага ўвасаблення грамадскай справядлівасці погляды Э. Шандара скіроўваліся ў бок Савецкага Саюза. Як адзначаюць біёграфы пісьменніка, з 1934 г. ён становіцца актыўным функцыянерам, пазней старшынёй Таварыства культурных і эканамічных сувязей з СССР. За гэта Шандар пацярпеў у час вядомых палітычных падзей 1939 г., калі быў на паўтара месяца зняволены ў Іляве (Ilava). Пазней успаміны пра перажытае ў лагеры інтэрнаваных знайшлі адлюстраванне ў аднайменнай кнізе "Ілава" (1947).

У 1935 г. Эла Шандар, можна сказаць, на піку прызнання: вядомы пісьменнік, фармальна намеснік, але фактычна кіраўнік Таварыства культурных і эканамічных сувязей з СССР. Менавіта з гэтых прычын ён сярод тых вядомых грамадскіх асоб, што сустракалі дэлегацыю савецкіх журналістаў і пісьменнікаў яшчэ на браціслаўскім чыгуначным вакзале 15 кастрычніка 1935 г., потым у ліку журналістаў і пісьменнікаў, якія суправаджалі высокіх гасцей у паездцы па Славакіі.

Якраз напярэдадні закранутых намі падзей у верасні 1935 г. Эла Шандар разам з жонкай Вольгай меў магчымасць на ўласныя вочы пазнаёміцца з новымі парадкамі ў Савецкім Саюзе, якія так насцярожвалі людзей на Захадзе, і гэтую насцярожанасць у Чэхаславакіі ў немалой ступені падагравала эміграцыя з былых абшараў Расійскай імперыі. Нават тыя, хто з сімпатыяй ставіўся да культурных здабыткаў рускага народа, не маглі даць веры, што ў краіне Саветаў існуюць больш-менш людскія ўмовы жыцця і належнае стаўленне да асобы. Таму паездка актывістаў Таварыства культурных і эканамічных сувязей з СССР сям'і Шандараў мела яўныя прапагандысцкія задачы. І такія ідэалагічныя ўстаноўкі вельмі хутка, так бы мовіць, у справаздачным парадку, увасобіліся Элам Шандарам у яго публіцыстычным рэпартажы "Мае ўражанні з падарожжа па СССР", напісанне якога было завершана 10 студзеня 1936 г. Каб пазбегнуць блытаніны ў назве справаздачнай працы візіцёра ў краіну Саветаў, адзначым, што на вокладку кнігі выдаўцамі ці аўтарам вынесена трохі іншая назва – "Skúsenosti z ciest po SSSR" ("Вопыт падарожжа па СССР").

Жанр рэпартажу, замацаваны за кнігай у славацкіх крыніцах, на нашу думку, не зусім дакладны. Хутчэй за ўсё, мы маем справу з жанравым сінкрэтызмам: тут прадстаўлена і падрабязная інфармацыя для турыстаў з мэтай іх азнаямлення з практычнымі нюансамі савецкага жыцця (пасажырскі транспарт, грашовая сістэма, гасцініцы, кошт прадуктаў і г. д.), і дзённікавыя запісы, і ўласныя развагі з іх яўнай устаноўкай на пераадоленне стэрэатыпаў, што панавалі ў Еўропе ў дачыненні да Савецкага Саюза. Як сам аўтар патлумачыў сваю задачу ў прадмове да кнігі: *"Для нас важна, каб мы пра савецкія рэаліі паведамілі праўду і расказалі таксама*

*пра іх значэнне з пункту гледжання грамадскага, культурнага, палітычнага, і ў немалой ступені – дзяржаўнай бяспекі. Разумны чалавек не заплюшчыць вочы перад рэчаіснасцю"* [8, с. 3].

Разбураючы перасцярогі заходняга свету, пісьменнік сцвярджаў, што *"Саветы ўжо далёка ад рэвалюцыі, што наладжваюцца працоўныя метады, якія акрэсліваў класік камунізму Маркс. Гэта, напрыклад, здзельная праца, выкарыстанне грошай і частковае прызнанне прыватнай уласнасці, магчымасць мець свой уласны домік, грошы на ўкладах у банках і ў каштоўных паперах"* [8, с. 16].

Эла Шандар толькі зрэдку канстатаваў факты некаторых хібаў і праблем савецкага жыцця (чэргі, перакупшчыкі, недахоп тавараў лёгкай прамысловасці і г. д.), не даючы каментарыяў, адзначаў, што гэта ўсё часовыя з'явы. Прадстаўлены ў яго кнізе і такія зацемкі, якія без каментарыяў былі для заходнееўрапейскага абывацеля вельмі красамоўнымі. Вось толькі адзін штрых з убачанага пісьменнікам у Ленінградзе: «*Непадалёку ад нас ззялі пазалочаныя макаўкі праваслаўнага "Храма на крыві", у якім зараз знаходзіцца склад*» [8, с. 10].

Шандара як прадстаўніка "малога" народа не ў апошнюю чаргу цікавіла нацыянальнае пытанне, яго вырашэнне ў шматнароднай сацыялістычнай краіне. У рэчышчы прынятай еўрапейскай тэрміналогіі пісьменнік вёў гаворку пра нацыяналізм (у нас гэтае паняцце цяпер найчасцей ужываецца з негатыўным значэннем, як тоеснае шавінізму): «*І не забудзем, што ў СССР нацыяналізм вельмі актуальны, і гэта датычыць усіх яго народаў. Звыклы па форме нацыяналізм, аднак, па змесце сацыялістычны, адрозны ад халоднага, кансерватыўнага англійскага. Нацыяналізм савецкіх народаў малады і энергічны, горды. У савец.*[кім] *Саюзе нават*

*паводле назвы ўсё народнае; напр.*[ыклад], *"Наркоминдел" = Народный комиссариат иностранных дел, або Міністэрства замежных спраў*» [8, с. 16].

Пісьменнік мог толькі похапкам пазнаёміцца з Беларуссю, прытым не з якой-небудзь яе нацыянальнай адметнасцю, а з памежным пунктам, фарпостам краіны Саветаў. Асноўнымі кропкамі маршруту паездкі былі гарады Расіі і Украіны. Тым не менш і гэтая невялікая замалёўка перасячэння памежнага пункта ў беларускім Негарэлым уяўляе некаторую цікавасць: абстаноўка фарпоста краіны Саветаў прадстаўлена вачыма чалавека з буржуазнага замежжа, які пабываў тут упершыню. Абмалёўка ўбачанага пададзена аўтарам з відавочнай сімпатыяй і ўстаноўкай на развеянне насцярожанага стаўлення да СССР, яна даволі дэталёвая, што істотна падвышае яе пазнавальную, гістарычную вартасць.

«*Маім даўнім сном было дабрацца да Расіі і ўбачыць найвялікшы славянскі народ ці народы ў сябе на радзіме. Сон стаў явай толькі ў верасні мінулага года* [1935 г.]. *Дарогу праз Польшчу я не буду апісваць. Толькі ўзгадаю, што палякі, маю на ўвазе іх афіцыйныя службы, былі да нас, праўда, па службовых абавязках ветлівымі, але прахалоднымі.*

*У Саюз я прыехаў праз польскую памежную станцыю Стоўбцы, што на паўночны ўсход ад Варшавы; дарога з Варшавы доўжылася ад 9 гадзін раніцы да 18 гадзін. Увесь гарыш ад нецярпення чым хутчэй убачыць мяжу і апынуцца на беларускай тэрыторыі, што ўласна ёсць Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, член Саюза, мяжуе з Польшчай. Цягнік ад Стоўбцаў праз мінуту будзе на савецкай тэрыторыі. Над уездам, хоць ужо вечарэла, мы ясна прачыталі надпіс на драўлянай арцы: "Привет трудящимся Запада".*

*За гэтымі варотамі, на савецкай тэрыторыі, цягнік спыніцца на дзве мін.*[уты], *каб савецкія мытнікі маглі праверыць шасі вагонаў, ці не едзе там нелегальна які-небудзь пасажыр. Мы між тым паспелі агледзець унутраны бок уязных варот, дзе зноў-такі быў другі надпіс: "Коммунизм сметет все границы". А непадалёку за 50 крокаў гучыць заліхвацкая песня савецкіх салдат, бойцов, красноармейцев, як іх тут называюць. Усё роўна як пачуў песню з фільма "Увесь свет смяецца"* (па-славацку "Celý svet sa smeje". – М. Т.), *які ў Саюзе называюць "Веселые ребята".*

*Мы на тэрыторыі дзяржавы. Вочы ўважліва сочаць за ўсім, што робіцца навокал. Не застаецца без увагі і тое, што афіцэры, салдаты, мытнікі, персанал на станцыях – усе маладыя людзі, каля 40 гадоў і яшчэ маладзейшыя. Цягнік спыняецца на доўгай, добра асветленай станцыі. Уваходзіш на мытню, што знаходзіцца ў будынку станцыі. Яна моцна асветлена. Памяшканне абсталявана па-параднаму: паркетная падлога, новыя касы, усюды чыста. На сценах надпісы на многіх мовах свету: "Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!" На высокіх пастаментах у кутах вылучаюцца скульптуры Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна, па-мойму, толькі Варашылаў увасоблены на карціне. Мы ведаем, бальшавікі – майстры прапаганды, нават тут яны выдатна выкарыстоўваюць зацікаўленасць чужаземцаў.*

*У глыбіні залы якраз размешчана канцылярыя "Інтурыста", потым Торгсин, рэстаран, побач абмен грошай, дзе касір у сваім распараджэнні мае нашых 5-галеравых манет больш, чым я калі-небудзь у жыцці бачыў разам.*

*Агляд мытні варты таго. Газеты, літаратуру, што вязеш з сабой, у цябе не адбіраюць. Адзін наш папутнік*

*з Аўстрыі вёз з сабой (у Польшчы куплены) Гітлераў часопіс “Välkischer Beobachter”. Мытнік і афіцэр памежнай службы прагледзелі гэты часопіс і аддалі назад яго ўласніку. Той жа самы дагляд робяць палякі пры звароце з Саюза. Але ў падарожных канфіскуюць савецкія часопісы.*

*Я трохі перажываў за цукар і мыла, якія вёз з сабой, каб не адчуваць недахопу ў самым неабходным, бо пра гэта папярэджвалі некаторыя рускія эмігранты ў нас. Зараз у Саюзе з прадметамі першай неабходнасці няма праблем. Таксама і наконт правозу ігральных картаў я з мытнікам добра паразумеўся. Гэта быў смешны эпізод.*

*Ад станцыі Негарэлае пра замежнага наведвальніка дбае таварыства “Інтурыст”. Яго прадстаўнік пастараўся, каб нашы вячэра і абед былі прынесены ў вагон, а як хто хацеў, то мог павячэраць у вагоне-рэстаране, які па дарозе да Масквы ехаў з нашым цягнікам*».

З апісанага Э. Шандарам нас асабліва зацікавілі радкі, прысвечаныя жыццю пісьменнікаў у СССР. Не выключана, што яны шліфаваліся не без уплыву прадстаўнікоў дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў. Відавочна апалагетычнае бачанне славацкім калегам умоў творчай дзейнасці майстроў пяра ў краіне Саветаў:

«*Савецкаму пісьменніку жывецца непараўнальна добра. Асабліва выбітнаму пісьменніку, члену Саюза, спецыяльнай творчай арганізацыі. Пісьменнікаў, і асабліва гумарыстаў, у Саюзе не хапае. Кожнай рэдакцыі газеты патрэбны па меншай меры два літаратурныя рэдактары, а іх няма. Значыць, іх трэба спачатку падрыхтаваць. І такая падрыхтоўка ідзе там кожны дзень. Кожнае прамысловае і іншае прадпрыемства, кожны калгас мае свой*

*літаратурны гурток, дзе чытаюцца, крытычна разбіраюцца літаратурныя творы, тут жа адбываюцца дэбюты выхаваных, надзейных пісьменнікаў. І з такіх ужо выраслі велічыні, якія былі прыняты ў Саюз савецкіх пісьменнікаў (напрыклад, рабочы Аўдзеенка за раман "Я люблю"). Савецкаму пісьменніку плацяць грошы ў адпаведнасці з каштоўнасцю яго працы. Мае ён без праблем удосталь усялякіх тутэйшых выгод, камфорту. Мае камфортнае жыллё, аўтамабіль, друкавальную машынку, а асобная канцылярыя клапоціцца пра яго камфортны адпачынак, з падарожжам ці на месяцы, у адпаведнасці з выбарам, для таго, каб ён меў магчымасць чэрпаць тэмы для новых твораў. Савецкі пісьменнік карыстаецца павагай, і яго праца цэніцца надзвычай высока. Савецкі пісьменнік не абавязкова павінен быць камуністам, але яго літаратурная творчасць павінна быць заснавана на прынцыпах сацыялістычнага рэалізму. Статус савецкіх пісьменнікаў вызначаецца як паплечнікаў у справе будаўніцтва Савецкага Саюза і новага грамадскага ладу. Разам з арміяй народ бачыць іх месца сярод першых піянераў грамадскай перабудовы і вартавых савецкай культуры ў Саюзе ССР. Невыпадкова краіна бальшавікоў называе іх інжынерамі душы»* [8, с. 25 – 26].

Дзеля аб'ектыўнасці адзначым, што Э. Шандар меў магчымасць перагледзець некаторыя ўласныя пазіцыі, прытым выказваўся пісьменнік у межах свайго вызначанага мастакоўскага дыяпазону смехавага адлюстравання рэчаіснасці. Са слоў В. Кухтавай, «*сам бацька пра сябе, пра сваё жыццё ў перыяд сацыялізму неаднойчы выказваўся такім чынам: "Як рабіў, так і меў. Чорту служыў, чорт і прыбраў". І хацеў нават, каб гэта напісалі на яго помніку… А пад чортам разумелася кампартыя*» [цыт. паводле: 4, с. 22].

Нечаканы працяг шандараўская Купаліяна займела ў пачатку 1960-х гг. Па волі выпадку з Вольгай Шандаравай на адным з курортаў Чэхаславакіі пазнаёмілася Анастасія Дзятлоўская. Як узгадвала шматгадовая захавальніца Купалавай спадчыны, апякунка музея песняра Ядвіга Юльянаўна Раманоўская, А. Дзятлоўская пасля Вялікай Айчыннай вайны сябравала з жонкай Я. Купалы Уладзіславай Францаўнай, была яе частым госцем.

Вядома, пры такім знаёмстве, расказах пра сябе, традыцыйным высвятленні ліній перасячэння ў біяграфіях В. Шандарава не магла не ўзгадаць памятныя падзеі кастрычніка 1935 г., якія пазнаёмілі яе з Купалам, а значыць, і з Беларуссю. Завязалася перапіска. Лісты В. Шандаравай да А. Дзятлоўскай, што захоўваюцца ў Дзяржаўным літаратурным музеі Я. Купалы, прасякнуты духам часу, яны, што называецца, пульсуюць тагачасным энтузіязмам сацыялістычнага будаўніцтва і міжнароднага супрацоўніцтва, гонарам за поспехі савецкай касманаўтыкі. Пра космас, як відаць з лістоў, мроілі яе маленькія ўнукі Юра і Яра. Радасць за ўмацаванне чэхаславацка-савецкіх кантактаў, думаецца, не была для пані Шандаравай пустой гучнаслоўнай рыторыкай. Пра гэта яна як актыўны сябра Таварыства культурных і эканамічных сувязей з СССР разам з мужам дбала яшчэ з даваеннага часу. Да таго ж у В. Шандаравай быў свой сантымент да Расіі, падмацаваны кроўнай повяззю: у Варонежы жыла яе маці, па перапісцы з А. Дзятлоўскай вядома, што ў 1963 г. В. Шандарава намервалася пабываць у гэтым горадзе, марыла пра наведанне музея Я. Купалы ў Мінску. Дарэчы, у адным з лістоў яна пачала падпісвацца ў адпаведнасці з рускай традыцыяй: з іменем па бацьку – Вольга Данілаўна Шандарава.

Па просьбе А. Дзятлоўскай Вольга Шандарава перабрала сямейны архіў, занялася росшукам матэрыялаў пра той аддалены ў часе амаль на 30 гадоў візіт. У выніку з Браціславы былі дасланы копіі трох фотаздымкаў з іх частковай расшыфроўкай.

З лёгкай рукі А. Дзятлоўскай эстафета ліставання перайшла да музея Я. Купалы. Перапіску вёў тагачасны вучоны сакратар музея Алесь Есакоў. В. Шандарава ўдзячна адгукнулася на просьбу музейшчыкаў напісаць больш падрабязна пра сустрэчу з Я. Купалам у Браціславе ў 1935 г., адказаць на шэраг пытанняў: *"Пры якіх абставінах гэта адбылося? Пра што гаварылі? Хто прысутнічаў пры сустрэчы? Якія мясціны наведаў Купала ў Браціславе? Ці публікаваліся ў браціслаўскім друку яго вершы і вершы пра яго?"* [2, с. 1].

У хуткім часе з'явіўся некаторы плён пошукавай працы. Музей атрымаў копію артыкула пра Янку Купалу, надрукаванага ў часопісе "Браціслава – Масква" (1945, № 1) [11]. Падчас вечарыны, наладжанай у музеі П. Ілямніцкага ў Юры пры Браціславе ў гонар пісьменніка Элы Шандара, высветлілася пра захаванасць памятнай кнігі мястэчка з аўтографамі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў. Разам з копіяй старонкі з яе В. Шандарава даслала і "Мае ўспаміны пра знаёмства з народным паэтам Беларусі Янкам Купалам". Чытаючы іх сёння, разумееш, чаму яны не былі надрукаваны. На час напісання гэтых сціслых успамінаў мінула трохі больш за 20 гадоў з дня смерці песняра, яны не мелі нейкай выніковай каштоўнасці. Сёння ж, калі магістральныя шляхі ці гасцінцы купалазнаўства ўжо даўно пракладзены, нават такія невялікія зацемкі-сцяжынкі ў асвятленні жыцця песняра вартыя ўвагі. Яны маюць сваю інфармацыйную каштоўнасць, хоць, відавочна,

пры знаёмстве з гэтымі мемуарнымі запісамі неабходна рабіць пэўную папраўку на час.

«*Успаміны звязаныя з глыбока перажытымі ўражаннямі і назаўсёды застануцца ў маёй памяці – першая ў жыцці сустрэча з пісьменнікамі і журналістамі Савецкага Саюза, якія наведалі нашу краіну ў кастрычніку 1935 года.*

*У той час Таварыства культурных і эканамічных сувязей з СССР у Браціславе пачало сваю працу.*

*Паколькі мы з мужам пісьменнікам Элам Шандарам былі актыўнымі працаўнікамі і аднымі з заснавальнікаў таварыства (муж быў нам.*[еснікам] *старшыні, я вяла бібліятэку таварыства, прымала кніжныя пасылкі ВОКСа*, і мы даволі добра валодалі рускай мовай), нам выпаў вялікі гонар прывітаць і суправаджаць нашых дарагіх гасцей у Браціславе і яе ваколіцах. Савецкая група пісьменнікаў і журналістаў СССР на чале з М. Кальцовым прыбыла да нас з Прагі. На станцыі віталі дарагіх нашых гасцей прадстаўнікі горада, грамадскіх, культурных і палітычных арганізацый.*

*Вялікай групай падышлі да аўтобуса рабочыя завода "Герц" і замест вітанняў заспявалі "Інтэрнацыянал". Гэта было нечакана і глыбока кранула ўсіх нашых гасцей і нас.*

---

* Всесоюзное общество культурной связи с заграницей (ВОКС) – грамадская арганізацыя, вакол якой гуртаваліся дзеячы савецкай навукі, літаратуры, мастацтва, адукацыі і спорту. Заснавана ў 1925 г. У задачы ВОКС уваходзіла азнаямленне грамадскасці СССР з дасягненнямі культуры замежных краін і папулярызацыя культуры народаў Савецкага Саюза за мяжой. Па запрашэнні ВОКС у СССР прыязджалі дэлегацыі замежных таварыстваў, а таксама асобныя выбітныя дзеячы навукі і культуры (Рамэн Ралан, Рабіндранат Тагор і інш.). У сваю чаргу арганізацыя накіроўвала за мяжу свае дэлегацыі і асобных прадстаўнікоў савецкай навукі і культуры, творчыя калектывы, арганізоўвала абмен літаратурай і экспанатамі для розных выставак і г. д. Інфармацыйны "Бюллетень ВОКС" выходзіў на англійскай, французскай і нямецкай мовах. У 1958 г. у сувязі з арганізацыяй Саюза савецкіх таварыстваў дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі ВОКС спыніў існаванне.

*Так адбылося наша знаёмства з народным паэтам Беларусі. Янка Купала ў час свайго знаходжання ў Брацілаве праяўляў вялікі інтарэс да ўсяго навокал, цікавіўся нашым старадаўнім горадам, яго культурай і дастапомнасцямі, але найбольш яго цікавілі людзі, іх жыццё. Дзякуючы таму, што славацкая мова даволі блізкая, ён лёгка паразумеўся з нашымі людзьмі.*

*Праўда, гэта было ўжо даўно, больш за 30 гадоў таму, але я як зараз памятаю яго прыветлівы сімпатычны твар, добрыя адухоўленыя вочы паэта, – калі я яму расказвала пра нашу і сваю працу ў Таварыстве культурных і эканамічных сувязей з СССР.*

*Памятаю, у нас у Брацілаве, на беразе Дуная ён доўга размаўляў з нашым паэтам Янкам Понічанам, з якім, як з калегам, знайшоў агульную мову.*

*У гарадку Святы Юр паблізу ад Брацілавы нашы госці агледзелі знакамітыя ў краіне вінаграднікі. Народны паэт Янка Купала меў тут магчымасць паразмаўляць і пацікавіцца жыццём і працай рабочых, з якімі ён вёў сяброўскую гутарку.*

*Нашы дарагія госці наведалі таксама вядомы ў свеце курорт Пешцяны, знакаміты сваімі гарачымі гаючымі крыніцамі і гразямі для рэўматыкаў.*

*Пасля прагляду курорта адбыўся банкет у гонар дэлегацыі пісьменнікаў і журналістаў СССР, у якім узялі ўдзел мясцовыя прадстаўнікі грамадскіх і культурных арганізацый. Памятаю, прысутнічаў пісьменнік і мастак Янка Алексы з жонкай.*

*Народны паэт Янка Купала неаднаразова меў гутарку з маім мужам пісьменнікам Элам Шандарам, іх размовы былі жывыя і вясёлыя, пэўна, муж як гумарыст яго нечым развесяліў.*

*У напісанай мужам кнізе “Браціслава – Масква” я знайшла нататку пра тое, як яму хацелася пабачыцца з народным паэтам Янкам Купалам. Ён піша ў сваёй кнізе, што калі праязджаў праз Мінск у Маскву, выйшаў на перон вакзала паглядзець, раптам яго там убачыць, але сустрэча, на жаль, не адбылася!*

*Нас вельмі засмуціла вестка пра смерць народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Так і не давялося ў жыцці больш сустрэцца з цудоўным чалавекам, сябрам нашай краіны, але спраўдзіліся нашы агульныя мары пра вечную дружбу нашых народаў у барацьбе за мір, за вялікую агульную справу пабудовы камунізму ў нашых краінах!*

*Гонар працы народнага паэта Янкі Купалы, дарагая мне памяць пра яго.*

*В. Д. Шандарава.*
*Браціслава 20.XII.1963 г.*» [3].

**Літаратура**

1. ДЛМЯнК. Фонд *Уш.* – Воп. XIII-р. 6. – Адз. зах. 12. – Арк. 17 – 18.
2. ДЛМЯнК. Фонд *Уш.* – Воп. XIII-р. 6. – Адз. зах. 17. – Арк. 1.
3. ДЛМЯнК. Фонд *Уш.* – Воп. XIII-р. 6. – Адз. зах. 19. – Арк. 1 – 5.
4. Чарота, І. Неспадзяваная рэтраспекцыя замежнай паездкі песняра / І. Чарота // Культура. – 2007. – 1 – 7 верасня. – С. 20 – 22.
5. Чарота, І. Янка Купала ў Славакіі / І. Чарота // Полымя. – 2007. – № 7. – С. 114 – 118.
6. Encyklopédia slovenských spisovateľov. – Bratislava, 1984. – Zväzok 2.
7. Šándor, E. Bratislava – Moskva / E. Šándor. – Bratislava, 1937.
8. Šándor, E. Moje dojmy z ciest po ZSSR / E. Šándor. – Bratislava, 1936.
9. Šándor, E. Zpráva o činnosti Spoločnosti pre kultúrne a hospodárske styky s SSSR / E. Šándor // Bratislava – Moskva. – 1945. – № 2-3. – S. 28 – 30.
10. Slovník slovenských spisovateľov 20. storočia. – Bratislava : Slovenská národná knižnica, 2001.
11. Verchovskaja, V. Janka Kupala – talentovaný básnik bieloruský / V. Verchovskaja // Bratislava – Moskva. – 1945. – № 1. – S. 10 – 11.



Эла Шандар.




Вокладка кнігі "Вопыт падарожжа па СССР" Элы Шандара. 1936 г.



Вольга Шандарава. 1935 г.



Вольга Шандарава-малодшая. 1935 г.



27
2

Мои воспоминания на знакомство и встречу с Народным поэтом Белоруссии Янкой Купалой

Воспоминания связаны с глубоко пережитыми впечатлениями и навсегда останутся в моей памяти о первой в жизни встрече с писателями и журналистами Советского Союза посетившими нашу страну в октябре 1935 году.
В то время „Общество культурной и экономической связи с СССР." в Братиславе, начало свою работу.
Насколько мы с мужем писателем Эло Шандором были активными работниками и одними из основателей общества, муж был зам. председателя, я вела библиотеку Общества, принимала книжные посылки ВОКСу. и мы довольно хорошо владели русским языком, поэтому досталось нам большой чести приветствовать и сопровождать дорогих наших гостей в Братиславе и ее окрестностях.
Советская група писателей и журналистов СССР под ведением М. Кольцова прибыла к нам из Праги. На станции приветствовали дорогих наших гостей представители города, общественных, культурных организаций и политических.
Большой групой подошли к автобусу рабочие завода Герц и вместо приветствий запели интернационал. Это было неожиданно и глубоко тронуло всех наших гостей и нас.

Старонка ўспамінаў
Вольгі Шандаравай
пра Янку Купалу.



Уладзіслава Луцэвіч,
палкоўнік Зубараў,
Анастасія Дзятлоўская.
Сочы, 1953 г.

# Янка Купала і беларуская тэматыка на старонках славацкага часопіса "Браціслава – Масква"

Новы этап актывізацыі дзейнасці славацкага Таварыства культурных і эканамічных сувязей з СССР пачаўся адразу пасля Другой сусветнай вайны. У летапісе новай гісторыі вехавыя этапы вызвалення краіны звязаны са Славацкім нацыянальным паўстаннем і дапамогай Чырвонай Арміі. Са зменай грамадска-палітычнай сітуацыі істотна падвысіўся статус таварыства: з браціслаўскага філіяла чэхаславацкай арганізацыі з цэнтрам у Празе яно ператварылася ў самастойную нацыянальную арганізацыю з правам адкрываць філіялы па ўсёй Славакіі.

Пісьменнік і грамадскі дзеяч Эла Шандар змог у поўнай ступені рэалізаваць сябе як паўнамоцны старшыня таварыства, натхняльнік і непасрэдны выканаўца ініцыятыў арганізацыі па прапагандзе дасягненняў сацыялістычнай сістэмы, яе пераваг над капіталістычнай, умацаванні славацка-савецкіх культурных сувязей.

Упершыню за час існавання таварыства займела ўласны друкаваны орган. Ім стаў часопіс "Браціслава – Масква", першы нумар якога ўбачыў свет у лістападзе 1945 г. Відавочна, што ўжо самой назвай гэтага выдання Э. Шандар як галоўны рэдактар рэанімаваў і прадставіў на якасна новай ступені плён сваёй даваеннай працы па ўмацаванні кантактаў паміж Славакіяй і Савецкім Саюзам. Дакладна так называлася адна з яго кніг рэпартажаў пра наведанне

краіны Саветаў, выдадзеная ў 1937 г. [6]. Усяго выйшла 10 нумароў часопіса: частка іх у здвоеным варыянце (№ 2-3, № 4-5, № 7-8), апошні – у снежні 1946 г.

На першай старонцы першага нумара часопіса кіраўніцтва арганізацыі выступіла з заклікам да інтэлігенцыі рэспублікі, а таксама дэкларавала асноўныя кірункі працы: *"Таварыства культурных і эканамічных сувязей з СССР заклікае ўсіх сваіх старых сяброў, усіх культурных і навуковых работнікаў Славакіі да актыўнага супрацоўніцтва. Мы працягнем нашу дзейнасць, распачатую 17 гадоў таму, мы будзем інфармаваць наш народ пра культурнае і эканамічнае жыццё ў братнім Савецкім Саюзе. Пастараемся таксама інфармаваць народы СССР пра культурныя і эканамічныя дасягненні ў нас. Будзем арганізоўваць выставы, канцэрты, тэатральныя і кінапрадстаўленні. Пашырым сваю перакладчыцкую і выдавецкую дзейнасць, створым для сяброў арганізацыі як у цэнтры, так і ў філіялах бібліятэкі і чытальні. Будзем арганізоўваць экскурсіі ў Савецкі Саюз. Мы павінны даказаць, працай і сяброўствам, што заслужылі дапамогу Чырвонай Арміі"* [11].

Змест першага нумара часопіса пацвердзіў рэальныя крокі ўвасаблення праграмных намераў таварыства. Славацкія аўтары (сярод якіх былі Я. Есенскі, Э. Шандар, Б. Гечка) інфармавалі чытачоў пра культурнае і эканамічнае жыццё ў рэспубліцы. Парытэт асвятлення аналагічных працэсаў у Савецкім Саюзе адстойвалі на старонках выдання допісы В. Вярхоўскай, А. Міхайлава, А. Горскага і інш.

У першыя пасляваенныя гады Славакію актыўна наведвалі дэлегацыі з СССР. Пра некаторыя з іх паведаміў часопіс "Браціслава – Масква". Так, у 1946 г. у рэспубліцы пабывала група савецкіх кінематаграфістаў і акцёраў,

сярод якіх былі рэжысёр Р. Аляксандраў, зоркі савецкага экрана Любоў Арлова і Рына Зялёная. Як і дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў у 1935 г., ім былі прапанаваны для азнаямлення турыстычныя дастапомнасці краіны. Часопіс даў фотасправаздачу асобных момантаў гэтага візіту (№ 7-8): у Браціславе (Арлова), у Модры на дэгустацыі віна (Аляксандраў, Арлова, Зялёная), у Модры на аглядзе керамікі (Аляксандраў, Арлова).

Падкрэслена ўважліва, з расстаноўкай выверaных ідэалагічных акцэнтаў падаваліся на старонках выдання матэрыялы пра культурнае жыццё шматнацыянальнай краіны-вызваліцелькі. Для славацкага народа, які зведаў на шляху нацыянальнага сцверджання шмат перашкод і адкрытай агрэсіі, было важна пачуць аптымістычную інфармацыю пра справядлівасць вырашэння нацыянальнага пытання, паважлівае стаўленне да нацыянальных меншасцей у краіне Саветаў. Артыкул пра Дзяржаўны ансамбль народнага танца СССР пад кіраўніцтвам Ігара Маісеева даваў магчымасць наглядна і цікава расказаць пра шматаблічны нацыянальны каларыт аднаго з вядучых творчых калектываў. На старонках часопіса (1946, № 2-3) была змешчана падборка здымкаў, якія зафіксавалі найбольш яркія моманты танцавальных нумароў у выкананні праслаўленага калектыву. Славацкі чытач меў магчымасць пабач з фотаздымкамі рускага, украінскага, кіргізскага, малдаўскага танца, польскага “Кракавяка”, гуцульскага “Аркана” пабачыць застылы ў аб’ектыве фотаапарата фрагмент беларускага танца “Бульба” [4].

На старонках часопіса знайшлі адлюстраванне асобныя моманты пасляваеннай дзейнасці Усеславянскага камітэта. 15 мая 1946 г. з двухдзённым візітам Браціславу наведала дэлегацыя прадстаўнікоў гэтай арганізацыі на чале са старшынёй – генерал-лейтэнантам Аляксандрам Гунду-

равым. У яе склад увайшлі вядучыя пісьменнікі савецкіх рэспублік таго часу: рускі Мікалай Ціханаў, украінцы Максім Рыльскі і Мікола Бажан, беларус Кандрат Крапіва.

Эла Шандар у артыкуле "Генерал-лейтэнант А. Гундураў сярод нас" пісаў пра шэраг сустрэч, лекцый, пасяджэнняў, арганізаваных з гэтай нагоды ў сталіцы Славакіі. Аўтар допісу ўспрыняў візіт вельмі ўзрушана. Ён дзякаваў калегам-журналістам з іншых выданняў за аператыўнае і падрабязнае асвятленне ўсіх мерапрыемстваў, наладжаных у гонар прадстаўнікоў камітэта. Э. Шандар коратка распавёў пра А. Гундурава, "*чалавека прамога, добрасардэчнага, прыкладнага Славяніна*", яго асабісты ўклад у справу яднання сіл славянскіх народаў у час Другой сусветнай вайны, важкую працу на ніве славянскай узаемнасці. Быў прыгаданы і факт змагання славакаў з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў беларускіх і ўкраінскіх партызанскіх атрадах.

Аўтар артыкула зазначыў, што сваёй супольнай працай, калі кожны народ ставіцца з павагай да другога народа, блізкага яму па крыві, славяне даюць прыклад іншым народам, не звязаным з імі кроўнай повяззю. Як пісаў Э. Шандар, падкупленыя абаяльнасцю і шчырасцю кіраўніка дэлегацыі, жыхары Браціславы – былыя партызаны, студэнты, звычайныя абывацелі – неафіцыйна, у сваім асяроддзі, пачалі называць старшыню Усеславянскага камітэта "папаша Гундураў", бо "*так гэтаму навучыліся ад рускіх партызанаў, ад чырвонаармейцаў падчас апошняй вайны, якія сваіх палкаводцаў так называлі паміж сабой. Гундураў у Славакіі апынуўся сярод сваіх, а тыя яго сардэчна віталі…*" [7, с. 7]. Адна з просьбаў, адрасаваных генералу з боку браціслаўцаў, як сведчыў аўтар, была наконт дапамогі арганізаваць філіял "Международной книги" ў Браціславе, "*каб*

*спатоліць славацкі голад па рускай навуковай, спецыяльнай, забаўляльнай кнізе”* [7, с. 7]. Артыкул дапаўнялі два фотаздымкі. На адным у кампаніі калег зняты А. Гундураў. Другі здымак зафіксаваў момант працы дэлегацыі, на пярэднім плане – Кандрат Крапіва.

Значнае месца ў часопісе “Браціслава – Масква” займалі матэрыялы, прысвечаныя стану прыгожага пісьменства ў Савецкім Саюзе. Інфармацыю пра яго дасягненні, знакавыя імёны і творы славацкі чытач меў магчымасць атрымаць з артыкула “Пра літаратуру і класікаў” М. Горкага (1946, № 7-8), даклада “Пра савецкую літаратуру” А. Фадзеева (1946, № 10) (у пераліку “залатога фонду” савецкай паэзіі побач з А. Твардоўскім, П. Антакольскім, К. Сіманавым, М. Рыльскім, М. Бажанам і іншымі літаратарамі старшыня Саюза савецкіх пісьменнікаў назваў беларускага паэта Аркадзя Куляшова), а таксама з артыкула “Савецкі пісьменнік” А. Тарасенкава (1946, № 10). Асобны матэрыял выдання быў прысвечаны агульнаму агляду жыцця і творчасці А. С. Пушкіна (1946, № 4-5). Знакавая дата – 85 гадоў з дня смерці Тараса Шаўчэнкі – стала падставай для змяшчэння на старонках часопіса артыкула пра “*геніяльнага ўкраінскага паэта і народнага будзіцеля*” [3].

Літаратурная частка першага нумара часопіса прадстаўлена артыкуламі “Аляксей Мікалаевіч Талстой” Б. Гечкі і “Янка Купала” В. Вярхоўскай. Можна меркаваць, што ў выбары пісьменнікаў для асабліва адказнага прэзентацыйнага нумара выдання не апошнюю ролю адыграў і, так бы мовіць, біяграфічны фактар: галоўны рэдактар Эла Шандар быў асабіста знаёмы з майстрамі, якія ў кастрычніку 1935 г. удзельнічалі ў першым візіце на славацкія землі дэлегацыі савецкіх майстроў слова. Вядома, нас найперш зацікавіў артыкул пра Янку Купалу. Адзначым,

што ёсць разыходжанні ў яго назве: той, якая вынесена на тытульную старонку (“Janko Kupala”), і той, што пададзена як загаловак перад уласна тэкстам (“Janka Kupala – talentovaný básnik bielaruský” – “Янка Купала – таленавіты беларускі паэт”). На сёння звестак пра аўтара артыкула няма. Па ўсёй верагоднасці, арыгінал быў на рускай мове. Перакладчык пазначаны крыптанімам – “iov”.

Пры знаёмстве з гэтым матэрыялам і яго аналізе дарэчная папраўка на час. Адзначым адну з яго несумненных каштоўнасцей: артыкул належыць да лічаных публікацый, якія прэзентавалі творчасць беларускага песняра ў так званым, па сённяшніх азначэннях, далёкім замежжы. У славянскім свеце, як вядома, Купалава ліра знайшла водгалас найперш у чэхаў, потым былі славенцы. Артыкул В. Вярхоўскай першы, што больш-менш цэласна прэзентаваў творчасць Янкі Купалы ў Славакіі, і ці не першы ўвогуле ў краінах пасляваеннай Цэнтральнай і Заходняй Еўропы. Ён нясе адбітак часу, яго ідэалагічная выверанасць у пэўнай ступені была прадвесцем фарміравання агульнай ідэалогіі “лагера сацыялістычных краін”.

Аўтар гэтых радкоў не ставіў на мэце ў дадзенай публікацыі дэталёва прадставіць свае высновы, кантэкстуальныя назіранні. У такіх выпадках, на нашу думку, варта вытрымаць пастаупальнасць і карэктнасць у абыходжанні з наноў адкрытай першакрыніцай. Таму, напрыклад, і захаваны адзінкавыя памылкі друку пры перадачы ўласных імёнаў і назваў. Мэта публікацыі – вярнуць у купалазнаўчы ўжытак забыты тэкст. Што мы і робім.

* * *

*Янка Купала (Іван Дуцэвіч)* (так у тэксце. – М. Т.) *нарадзіўся ў 1882 годзе ў фальварку Вязанка* (так у тэксце. – М. Т.) *(Беларусь) у сям’і дробнага арандатара. Яго бацька часта*

*пераязджаў з месца на месца ў пошуках зямельнага надзелу і працы. Гэтыя змены побыту пазнаёмілі будучага паэта з беларускім народам, які жыў пры царскім рэжыме пад падвойным прыгнётам: сацыяльным і нацыянальным.*

*Паколькі Янка Купала быў з сялянская сям'і, якая не мела сваёй уласнасці, ён вельмі хутка спазнаў усю глыбіню людской несправядлівасці, прыгнёту, прыніжэння чалавечай годнасці. Спазнаў цану трагедыі народа.*

*У сваім першым зборніку вершаў, які выйшаў у 1908 годзе пад назвай “Жалейка”, ён з вялікай сілай выказаў думкі і пачуцці свайго народа.*

*Пра яго верш “А хто там ідзе?” у 1911 г. Максім Горкі напісаў: “Можа быць, што гэты верш стане на пэўны час гімнам беларусаў”. У 1910 годзе выйшаў другі зборнік яго вершаў “Гусляр” (“Huslista”), а ў 1913 годзе зборнік “Шляхам жыцця” (“Drahému životu”), – з гэтымі кнігамі да яго прыйшла слава найлепшага беларускага паэта.*

*Як ёсць уважлівы, гучны ён становіцца вядучым паэтам – трыбунам, выразнікам найважнейшых думак і пачуццяў свайго народа.*

*Цяжка, амаль немагчыма знайсці такія вершы Янкі Купалы, у якіх паэт адышоў бы ад тэмы сваёй зямлі, ад яе горкай праўды. Кожнае сваё слова ён прысвячаў служэнню свайму народу, стараючыся дапамагчы яму выйсці на новыя, светлыя шляхі.*

*Незнішчальнай сілай, напоўненай жыццесцвярджэннем, прасякнута кожнае слова купалаўскай паэзіі. Гэтым можна патлумачыць яе шырокую папулярнасць сярод чытачоў. За гады савецкай улады дасягнуў талент Янкі Купалы свайго найбольшага росквіту. Шырока-далёка вядомыя яго паэмы “Над ракой Арэсай”, “Горад Барысаў”, вершы і песні “Табе, наш настаўнік”, “Сын прыйшоў на пабыўку”, “Алеся”.*

*Янка Купала – сапраўды нацыянальны паэт. У яго вершах перад намі жыва паўстае Беларусь. У іх чуецца шум беларускіх дуброў, звон палявых званочкаў, спеў птушак, цішыня світанку і гром навальніцы.*

*У іх апісана гісторыя беларускага народа.*

*Творчасць Купалы даўно перарасла рамкі вузканацыянальнай літаратуры і стала прызнанай часткай агульначалавечай культуры.*

*Савецкая ўлада высока ацаніла творчасць Купалы. У 1940 годзе яму была прысуджана Сталінская прэмія за зборнік вершаў "Ад сэрца".*

*Купала шмат зрабіў для росту сучаснай беларускай літаратуры, развіцця сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Вялікую дапамогу аказаў ён маладым паэтам.*

*Яго дабратворны ўплыў праявіўся не толькі ў паэзіі, але і ў драматургіі, мастацкай прозе, у тэатральным мастацтве, а таксама ў беларускай музыцы і жывапісе.*

*Вельмі многа зрабіў паэт для знаёмства свайго народа з культурнымі каштоўнасцямі сусветнай культурнай скарбніцы.*

*Ён перакладаў на беларускую мову найлепшыя творы нацыянальных літаратур савецкіх народаў і некаторых заходніх паэтаў.*

*Купалавы творы шырока-далёка вядомыя не толькі ў межах Беларусі альбо Савецкага Саюза, яны перакладзены на многія еўрапейскія і амерыканскія мовы.*

*Гітлер марыў пра закабаленне беларусаў, але вельмі пралічыўся.*

*Беларускі народ не падаў на калені!*

*У тыле ворага змагаліся партызаны-беларусы, у шэрагах Чырвонай Арміі па-геройску змагаліся салдатыбеларусы.*

*У тыя памятныя дні паэт гаварыў:*

*“Калі вораг сарве яблык, саспелы ў нашым садзе, ён разарвецца ў яго руках гранатай!*

*Калі ён сажне жменю нашых цяжкіх каласоў, зярняты вылецяць і скосяць яго свінцовым дажджом!*

*Калі ён падыдзе да нашых чыстых студняў, яны перасохнуць, каб не даць яму вады!”**

*У цяжкі для Радзімы год, ужо знаходзячыся пры смерці, Купала заклікаў беларускі народ да неаслабнай нянавісці і змагання супраць нямецкіх варвараў* [12, с. 10 – 11].

Пераклаў са славацкай мовы МіколаТРУС.

**Літаратура**

1. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. – Мінск : Маст. літ., 2002. – Т. 8.
2. Чарота, І. Янка Купала і Югаславія (З невядомага і малавядомага) / І. Чарота // Маладосць. – 2007. – № 6. – С. 70 – 78.
3. A. K. Taras Ševčenko / A. K. // Bratislava – Moskva. – 1946. – № 4-5. – S. 20 – 21.
4. Balakšejev, M. Štátný súbor národného tanca SSSR pod umeleckým vedením Igora Mojsejeva / M. Balakšejev // Bratislava – Moskva. – 1946. – № 2-3. – S. 14 – 19.
5. O sovietskej literatúre (Prednáška gen. sekr. Sväzu sovietskych spisovateľov A. A. Fadejeva) // Bratislava – Moskva. – 1946. – № 10. – S. 9 – 13.
6. Šándor, E. Bratislava – Moskva / E. Šándor. – Bratislava, 1937.
7. Šándor, E. Generál-poručík A. Gundurov medzi nami / E. Šándor // Bratislava – Moskva. – 1946. – № 7-8. – S. 5 – 7.
8. Šándor, E. Moje dojmy z ciest po ZSSR / E. Šándor. – Bratislava, 1936.
9. Šándor, E. Pokračujeme / E. Šándor // Bratislava – Moskva. – 1946. – № 1. – S. 1.
10. Šándor, E. Zpráva o činnosti Spoločnosti pre kultúrne a hospodárske styky s SSSR / E. Šándor // Bratislava – Moskva. – 1945. – № 2-3. – S. 28 – 30.
11. Úvod [без назвы і аўтарства] // Bratislava – Moskva. – 1945. – № 1. – S. 1.
12. Verchovskaja, V. Janka Kupala – talentovaný básnik bieloruský / V. Verchovskaja // Bratislava – Moskva. – 1945. – № 1. – S. 10 – 11.

* Словы з артыкула Янкі Купалы “Германский фашизм – злейший враг белорусского народа”. Упершыню надрукаваны ў газеце “Правда” ў 1941 г. (№ 197, 18 ліпеня).


F 1-10, / ...

BRATISLAVA-MOSKVA

Ревю Общества культурной и экономической связи с СССР в Братиславе

Časopis Spoločnosti pre kultúrne a hospodárske styky s SSSR v Bratislave

OBSAH:

*Pokračujeme:* (Elo Šándor.)
*Janko Jesenský:* Na bratislavských cintorínikoch.
*Janko Jesenský:* Socha Masarykova.
*Elo Šándor:* Prívet k robotníctvu závodu Görz v Bratislave.
*Blahoslav Hečko:* Alexej Nikolajevič Tolstoj.
*Elo Šándor:* Zemljak.
*V. Verchovskaja:* Janko Kupala.
*An. Michajlov:* Nová Moskva.
*A. Gorskij:* Systém národného vzdelania v SSSR.
*Grig. Michajlov:* Sväz sovietskych komponistov.
*N. Stepanov:* Básne poetov — frontových vojakov.
*Prof. E. Šamurin:* Celosväzový knižný palác.
Organizačné zprávy.

*Ročník I* | *November 1945* | *Číslo 1*

Тытульная старонка часопіса “Брацілава – Масква”.

# Некаторыя падрахункі паездкі Янкі Купалы па Славакіі (Чэхаславакіі) у 1935 г.

Купалазнаўства – прыцягальная і практычна невычэрпная галіна беларускага літаратуразнаўства. У мацерыковым абсягу тэм і праблем замежныя паездкі песняра займаюць асобнае месца. Яны не заўсёды фіксуюцца ў творчасці, але гэта цікавы і недастаткова даследаваны пласт нашай дыпламатыі. Такія візіты прэзентавалі маладую Беларусь, яны замацаваны поціскамі рук класіка беларускай літаратуры і вядучых мастакоў слова іншанацыянальных літаратур.

За апошнія гады падобныя тэмы, думаецца, сталі надзвычай актуальнымі для нашай незалежнай краіны. Руплівцы даследчыкі, з'яўляюцца новыя факты – і багацее ўяўленне пра гісторыю беларускай прысутнасці ў свеце.

### Народныя паэты Беларусі ў складзе дыпламатычных дэлегацый 1935 г.: перадгісторыя

Грамадска-палітычная сітуацыя ў Еўропе сярэдзіны 30-х гг. XX ст. у гістарыяграфіі характарызуецца як крызісная. Галоўнай небяспекай для еўрапейскіх краін таго часу была відавочна агрэсіўная палітыка Германіі.

Гісторыя знешняй палітыкі і дыпламатыі СССР таго перыяду пазначана імкненнем сцвердзіць у Еўропе

сваю канцэпцыю калектыўнай бяспекі. Адпаведная ініцыятыва была прапанавана ў Лізе Нацый.

У якасці рэалізацыі канцэпцыі вясной 1935 г. СССР заключыў дагаворы аб узаемнай дапамозе з Францыяй і Чэхаславакіяй. У рамках дамоў актывізавалася супрацоўніцтва не толькі ў ваеннай галіне, але і ў культурнай сферы.

Яшчэ ў студзені 1935 г. дэлегацыя чэхаславацкіх журналістаў і пісьменнікаў наведала СССР. Са зваротным візітам дэлегацыя савецкіх майстроў пяра два тыдні ў кастрычніку гэтага года правяла ў Чэхаславакіі. Як вядома, у складзе дэлегацыі быў і Янка Купала.

21 – 25 чэрвеня 1935 г. у Парыжы праходзіў Міжнародны кангрэс у абарону культуры. У кангрэсе ўдзельнічала 230 пісьменнікаў з 35 краін. У іх ліку Якуб Колас. Сродкі перыядычнага друку СССР паведамлялі, што форум адбываецца на фоне ідэалагічнага размежавання ў шэрагах інтэлігенцыі капіталістычных краін. На форуме збяруцца перадавыя пісьменнікі ўсяго свету: *“Яны азнаёмяць кангрэс са становішчам у сваіх краінах і выпрацуюць агульныя формы барацьбы за культуру, супраць капіталістычнага выраджэння і фашысцкага варварства”* [5, с. 1].

Апошнім часам рассакрэчаны архіўныя матэрыялы пра акалічнасці арганізацыі тых місій. Найперш маюцца на ўвазе апублікаваныя дакументы Палітбюро ЦК ВКП(б) [1; 7]. Гэтыя матэрыялы разам з артыкуламі тагачаснага айчыннага і замежнага перыядычнага друку ствараюць цікавую і неадназначную карціну падзей.

Першапачаткова склад дэлегацыі на кангрэс у Парыжы быў зацверджаны прэзідыумам праўлення ССП СССР 5 красавіка 1935 г. На ім было таксама вырашана прасіць ЦК выдзеліць адно месца Беларусі. Пытанні арганізацыйных момантаў, складу дэлегацыі канчаткова

вырашаліся на пасяджэннях Палітбюро ЦК ВКП(б). М. Горкі, як вядома, не паехаў на кангрэс па стане здароўя. Пасля неаднаразовых карэкціровак рашэннем Палітбюро ад 21 мая 1935 г. гэтая місія папоўнілася Ф. Панфёравым і Я. Коласам.

У канчатковым выглядзе савецкая дэлегацыя была прадстаўлена наступнымі пісьменнікамі: В. Алазан, І. Бабель, У. Іваноў, М. Кальцоў, Г. Караваева, А. Карняйчук, У. Кіршон, Я. Колас, А. Лахуці, І. Лупал, І. Мікітэнка, Ф. Панфёраў, П. Панч, Б. Пастарнак, Г. Табідзэ, А. Талстой, П. Тычына, М. Ціханаў, А. Шчарбакоў, І. Эрэнбург.

Савецкія газеты падрабязна асвятлялі правядзенне кангрэса. Увага акцэнтавалася на тым, што скліканне гэтага форуму – ідэя вядучых замежных пісьменнікаў (Р. Ралана, А. Барбюса, А. Мальро, Ж.-Р. Блока, В. Маргерыта, А. Жыда, Л. Арагона), горача падтрыманая пісьменнікамі іншых краін. Сярод тэматычных блокаў дакладаў кангрэса загадзя былі аб'яўлены наступныя: "Гуманізм і нацыянальнасць", "Пісьменнік і працоўныя", "Нацыянальная культура і класы", "Вайна і культура", "Літаратура нацыянальных меншасцей", "Характар мастацкай свабоды", "Прамыя і ўскосныя формы цэнзуры" і інш.

Якуб Колас выступіў з прамовай "Магутная савецкая рэчаіснасць жывіць нашы мыслі і нашы пачуцці" на дзённым пасяджэнні кангрэса 24 чэрвеня, галоўная ўвага якога сканцэнтравалася на развіцці нацыянальных літаратур. Уражанні пра паездку ў Парыж пісьменнік выклаў у допісах: "Падарожжа ў Парыж" ("Звязда", 1935, № 164, 21 ліп.), "На парыжскім бруку" ("Звязда", 1935, № 230, 9 кастр.). Яго прамова на кангрэсе была ўпершыню надрукавана ў газеце "Літаратура і мастацтва" 6 ліпеня 1935 г. (№ 35).

Склад дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў у Чэхаславакію быў вызначаны Палітбюро ЦК ВКП(б) 18 верасня 1935 г. У пастанове запісана наступнае: «*Паслаць у пачатку кастрычніка ў Чэхаславакію савецкіх журналістаў і пісьменнікаў у наступным складзе: 1. Міхаіл Кальцоў (старшыня дэлегацыі), 2. Асінскі ад "Известий", 3. Багавой ад "Правды", 4. Ганна Караваева, 5. Марыета Шагінян – пісьменніца, ад "Литературной газеты", 6. Кавальскі – ад ТАСС, 7. Таран – ад "Вісти", 8. Мікітэнка (украінскі пісьменнік), 9. Янка Купала (беларускі пісьменнік), 10. Аляксей Талстой, 11. Фадзееў – пісьменнік, 12. Міронаў. Адпусціць "Жургазу" на расходы па паездцы 9.500 залатых рублёў, з іх 3.500 руб. і 5 тыс. савецкіх рублёў у распараджэнне т. Кальцова на агульныя расходы па паездцы, у тым ліку і на чыгуначныя білеты і 6.000 зал. рублёў для выдачы па 500 зал. рублёў кожнаму ўдзельніку дэлегацыі на яго асабістыя расходы*» [7, с. 197].

У лісце ад 21 верасня 1935 г. на імя членаў Палітбюро Л. Кагановіча і М. Яжова А. Шчарбакоў хадайнічаў пра ўдакладненні і змены ў складзе дэлегацыі. Яго просьба зводзілася да дадатковага прыняцця пунктаў пастановы ад 18.09.1935 г.: «*1. Уключыць у склад дэлегацыі пісьменніка Трацякова.*

*Трацякоў, з'яўляючыся нам. старшыні Інтэрнацыянальнай камісіі пры Праўленні Саюза пісьменнікаў, вядзе актыўную і карысную работу, у яго даволі шырокія міжнародныя сувязі. Неўключэнне Трацякова ў склад дэлегацыі на кангрэс у Парыж было расцэнена ім як акт недаверу. Так-сяк тады яго ўдалося ўгаварыць.*

*Калі няма якіх-небудзь асаблівых прычын, то я пераканальна прашу ў склад дэлегацыі Трацякова ўключыць.*

*2. Уключыць у склад дэлегацыі Лявонава. У Парыж яго не пасылалі. Пісьменнік жа ён буйны.*

*Зараз Лявонаў скончыў новы раман "Дарога на акіян", раман, які, па водгуку шэрагу тт.*[таварышаў], *з'яўляецца найлепшым з таго, што напісаў Лявонаў, і стане буйной літаратурнай падзеяй.*

*3. Замест Караваевай, якая нядаўна была ў Парыжы, – паслаць Сейфуліну або В. Герасімаву.*

*Сейфуліна асабліва востра і хваравіта перажывала неўключэнне яе ў склад дэлегацыі ў Парыж*» [7, с. 196 – 197].

Хадайніцтва А. Шчарбакова было задаволена толькі часткова. У склад дэлегацыі ўключылі пісьменніка Сяргея Траццякова.

Кароткія справаздачы-ўражанні пра падарожжа па Чэхаславакіі Янка Купала прадставіў у артыкулах "У Чэхаславакіі" ("Звязда", 1935, 23 кастр.) і "Падарожжа па Чэхаславакіі" ("Літаратура і мастацтва", 1935, 29 кастр.). Адчуваецца агульная ідэалагічная зададзенасць апісанняў убачанага беларускімі пісьменнікамі. Асабліва гэта датычыцца абмалёўкі варожай тады для Савецкага Саюза Польшчы. Я. Купала двойчы паўтарыў, што гэтая краіна *"робіць уражанне не то памёршай, не то паміраючай"*.

## Некалькі жывінак замежных камандзіровак класікаў

Асобныя пісьменнікі (М. Кальцоў, А. Талстой, Г. Караваева, І. Мікітэнка) патрапілі ў абедзве дэлегацыі. У справаздачных допісах Якуб Колас з гумарам падаў каларытныя партрэты некаторых сяброў па пяры.

Жартаўлівы настрой Якуба Коласа ў гэтым выпадку, думаецца, дазваляў настроіцца на адпаведную

танальнасць і некаторым маладзейшым беларускім пісьменнікам. Вядомы факт – эпіграма Кандрата Крапівы, змешчаная разам з сяброўскім шаржам Валянціна Волкава ў газеце “ЛіМ” 16 верасня 1935 г.:

*Быў я ў Парыжы на кангрэсе –*
*То ў Загібельцы, браце, лепш:*
*Грыбоў няма ў Булонскім лесе,*
*А ў Сене – хоць бы адзін лешч.*

Роўна праз месяц на старонках таго ж выдання, як кажуць, дасталася Я. Купалу. Газета змясціла сяброўскі шарж на яго мастака В. Волкава і эпіграму “Адзначым факт” Я. Коласа:

*Адзначым факт ва ўсякім разе –*
*Ці то нам, можа, сон прысніўся:*
*Нібыта Янка наш у Празе*
*Прамовай доўгай разразіўся.*

І яшчэ адзін займальны штрых. Пісьменнік Ян Скрыган, які пасля заканчэння БДУ (1932) працаваў у рэдакцыі газеты “Літаратура і мастацтва” і знаходзіўся ў гушчы літаратурнага і калялітаратурнага жыцця, узгадваў пра Я. Купалу пасля памятнай паездкі ў 1935 г.: *“Калі* [Янка Купала] *прыехаў з кангрэса ў Чэхаславакіі – не абмінуў запрасіць у госці Сымона Баранавых і яшчэ не памятаю каго. Стаміўся, занудзіўся па доме. Відаць, што быў закаханы ў Аляксея Талстога, пра яго гаварыў найбольш. Паказаў падарункі: зімовыя чаравікі на фетравай падкладцы, маленечкі патэфон. Прайграў некалькі пласцінак. А напаследак участаваў чэхаславацкаю мятнаю гарэлкаю ў кантовай пляшцы”* [6, с. 161 – 162].

Некаторыя пакупкі з той Купалавай паездкі можна і сёння пабачыць сярод мемарыяльных рэчаў экспазіцыі музея песняра ў Мінску. Экскурсаводы абавязкова звернуць увагу наведвальнікаў на рэчы, адметныя сваёй жыццёвай абаяльнасцю: ліхтарык і гальштук, які можна насіць на два бакі (на той час вельмі модная дэталь мужчынскага гардэробу ў еўрапейскіх краінах).

## Забытыя славацкія старонкі летапісу жыцця і творчасці Янкі Купалы

У асвятленні візіту Янкі Купалы ў Чэхаславакію ў складзе дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў уласна чэшскі складнік у купалазнаўчай літаратуры мае свае набыткі. Хоць вычарпанай гэтую тэму палічыць ніяк нельга. Абставіны ж цэлага тыдня знаходжання дэлегацыі ў Славакіі савецкі друк практычна праігнараваў. Можам меркаваць, што на тое былі палітычныя прычыны. Ды і сам пясняр у справаздачных артыкулах пра славацкія дні і ўражанні фактычна нічога не напісаў. Магчыма, гэта засталося ў планах, магчыма, была перапіска з некаторымі славацкімі калегамі, але клопаты юбілейнага года, вядомыя пакручастыя зрухі гісторыі ў наступныя гады ламалі планы. Што наракаць, тады ламаліся не толькі планы, але і жыцці. Думаецца, славацкія ўражанні сталі аднымі з самых светлых імгненняў-успамінаў пісьменніка. Але гэта ў сферы тонкага, асабістага. Для даследчыкаў жа выяўляецца неапрацаваная дзялянка.

Цыкл артыкулаў “Янка Купала ў Славакіі ў 1935 г.”, распачаты на старонках часопіса “Роднае слова” ў № 4 за 2007 г., дазволіў падняць цалік. Таксама як артыкулы Івана Чароты, багатыя на візуальную прэзентацыю,

думаецца, пераканалі купалазнаўцаў у прадуктыўнасці пошукаў у славацкім кірунку.

Зразумела, самы аўтарытэтны падрахунак летапісу жыцця і творчасці паэта прадстаўляе Поўны збор твораў у 9 тамах. Звернемся да асвятлення ключавых момантаў візіту ў Чэхаславакію ў 1935 г.:

«*Кастрычнік, 5 – 20.* У складзе дэлегацыі пісьменнікаў і журналістаў, у якую ўваходзілі М. Кальцоў (кіраўнік дэлегацыі), А. Талстой, А. Фадзееў, Г. Караваева, І. Мікітэнка і іншыя, падарожнічаў па Чэхаславакіі.

*Кастрычнік, 6.* Дэлегацыю прыняў міністр замежных спраў Чэхаславакіі Э. Бенеш.

*Кастрычнік, 8.* Выступіў у Міністэрстве замежных спраў Чэхаславакіі.

*Кастрычнік, 9.* Выступіў у Празе на сустрэчы з чэшскімі пісьменнікамі.

*Кастрычнік, 11.* З членамі дэлегацыі наведаў Пльзень. Агледзелі бровар і цэхі завода “Шкода”.

*Кастрычнік, 13.* “Rude pravo” змясціла інфармацыю пра паездку савецкай дэлегацыі, вершы Я. Купалы “Старыя акопы” і “Дзве дзяўчыны” ў перакладзе на чэшскую мову І. Барта.

*Кастрычнік, 16.* У “Літаратуры і мастацтве” сяброўскі шарж на Я. Купалу мастака В. Волкава, эпіграма Я. Коласа “Адзначым факт”…

*Кастрычнік, 17.* На курорце П’ешцяны. Наведалі таксама г. Модра. *ЭД, с. 405, 484.*

*Кастрычнік, 20.* Праз Мінск праехала дэлегацыя пісьменнікаў і журналістаў СССР, якая вярталася з Чэхаславакіі. Я. Купала застаўся дома. *“ЛіМ”, 23 каст.*» [3, с. 229 – 230].

Паколькі акадэмічнае выданне спасылаецца на энцыклапедычны даведнік, звернемся і да яго:

*“БРАЦІСЛАВА, горад у ЧССР, сталіца Славацкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Купала ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў і журналістаў наведаў Браціславу ў кастрычніку 1935, пабываў на прамысловых прадпрыемствах горада”* [8, с. 94].

*«МОДРА, горад у ЧССР. Купала ў час паездкі па Чэхаславакіі ў складзе савецкай дэлегацыі 17.10.1935 наведаў Модру, дзе адбылася сустрэча з прадстаўнікамі гарадскіх улад і культурных арганізацый горада. Члены дэлегацыі агледзелі майстэрні славацкай керамікі, пабывалі ў дзяржаўнай вінаробча-пладаводчай школе. Пра гэта паведамлялі 18.10.1935 газеты “Slovenský denník” (“Славацкі дзённік”) і “Ľudový denník” (“Народны дзённік”)»* [8, с. 405].

Вынікам нашага даследавання сталі наступныя “рэанімаваныя” славацкія эпізоды жыцця Янкі Купалы. У спісе літаратуры прыведзены матэрыялы славацкай перыёдыкі тых часоў, якія былі асновай для такіх фактаграфічных высноў:

*Кастрычнік, 15.* У 19.45 дэлегацыя прыбыла цягніком у Браціславу. Урачыстая сустрэча гасцей з Савецкага Саюза на чыгуначным вакзале, зладжаная гарадскімі ўладамі, славацкімі калегамі па пяры, працоўнымі Браціславы. Спыніліся ў гатэлі “Карлтан” (“Carlton”). А 21-й гадзіне ў гонар гасцей даваў урачыстую вячэру Сіндыкат чэхаславацкіх журналістаў.

*Кастрычнік, 16.* Першая палова дня прысвечана экскурсіі па Браціславе. Сярод наведаных мясцін і ўстаноў – прыстань на Дунаі, Цэнтральны кааператыў (Ústredné družstvo), школы, студэнцкі інтэрнат і інш.

У другой палове дня дэлегацыя перамясцілася ў мястэчка Святы Юр. Пра гэтую падзею ёсць запіс мясцовага храніста ў “Памятнай кнізе горада”. Госці з СССР пакінулі ў ёй аўтографы, Янка Купала ў тым ліку.

Наступны горад у праграме знаёмства з памятнымі мясцінамі Славакіі ў той дзень – Модра. Тут былі агледжаны керамічная майстэрня і школа, якой госці падаравалі прывезеныя з сабой кнігі.

Дзень завяршыўся знаёмствам з курортным горадам Пешцяны. Кіраўніцтва курорта ў гонар гасцей дало ўрачыстую вячэру ў рэстаране гатэля "Thermia Palace". Адным з выступоўцаў на ёй быў Янка Купала, пра што пісалі газеты "Slovenský deník" і "Slovenské národné noviny". У памятнай кнізе гэтага гатэля прадстаўнікі дэлегацыі пакінулі аўтографы, Янка Купала ў іх ліку.

*Кастрычнік, 17.* Знаёмства дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў з краявідамі і дастапомнасцямі славацкіх Высокіх Татраў. У першай палове дня былі агледжаны Ломніца, Татранская котліна, Бельская пячора, Ждзяр. Абед прайшоў у гатэлі "Palace" у Новым Смокаўцы. Пасля абеду дэлегацыя наведала горнае возера Штрбскае плеса, санаторый імя Масарыка ў Вышніх Гагах, турыстычны цэнтр у Новым Смокаўцы, у якім гасцям быў прапанаваны гукавы этнаграфічны фільм "Зямля спявае" рэжысёра Карала Рыцкі. Урачыстая вячэра ў гатэлі "Palace", арганізаваная дырэкцыяй дзяржаўных курортаў.

*Кастрычнік, 18.* Наведанне дзіцячага аздараўленчага цэнтра ў Дольным Смокаўцы і ад'езд пражскім хуткім цягніком у Мараўскую Астраву.

**Літаратура**


1. Власть и художественная интеллигенция : Документы ЦК РКП(б) – ВКП(б), ВЧК – ОГПУ – НКВД о культурной политике. 1917 – 1953 / под ред. акад. А. Н. Яковлева; сост. А. Артизов, О. Наумов. – М. : МФД, 2002. – 972 с. – (Россия. XX век. Документы).
2. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. – Мінск : Маст. літ., 2002. – Т. 8. – 462 с.
3. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. – Мінск : Маст. літ., 2003. – Т. 9, кн. 2. – 414 с.

4. Международный конгресс писателей в защиту культуры, 1-й. Париж. 1935. Доклады и выступления / ред. и предисл. И. Луппола; пер. Э. Триоле. – М. : Гослитиздат, 1936. – 487 с.
5. Международный конгресс писателей в Париже // Литературная газета. – 1935. – 20 июня. – С. 1.
6. Скрыган, Я. Пра дзядзьку Янку / Я. Скрыган // Успаміны пра Янку Купалу / Склад. А. Кулакоўскі і Н. Цвірка. – Мінск : Маст. літ., 1982. – С. 161 – 163.
7. "Счастье литература". Государство и писатели. 1925 – 1938 гг. Документы / Сост. Д. Л. Бабиченко. – М. : Российская политическая энциклопедия (РОССПЭН), 1997. – 319 с.
8. Янка Купала : Энцыклапедычны даведнік / БелСЭ; рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. – Мінск : БелСЭ, 1986. – 727 с.
9. Чарота, І. Неспадзяваная рэтраспекцыя замежнай паездкі песняра / І. Чарота // Культура. – 2007. – 1 – 7 верасня. – С. 20 – 22.
10. Чарота, І. Янка Купала ў Славакіі / І. Чарота // Полымя. – 2007. – № 7. – С. 114 – 118.
11. ak. Dva dni so sovietskymi novinármi / ak // Slovenský deník. – 1935. – 19 októbra. – S. 2.
12. ak. Veselý večer s ruskými spisovateľmi / ak // Slovenské národné noviny. 1935. – 19 októbra. – S. 4.
13. Kahanček. Hostia z Ruska v Bratislave / Kahanček // Slovenský deník. – 1935 – 17 októbra. – 1935. – S. 3.
14. Najväčší zisk sovietskej delegácie // Ľudový denník. – 1935. – 20 októbra. – S. 4
15. rk. Cesta ruských novinárov a spisovateľov po Slovensku / rk // Slovenský deník. – 1935. – 18 októbra. – S. 1.
16. Ruskí hostia v Bratislave // Slovenský deník. – 1935. – 17. októbra. – S. 1.
17. Sovetski hostia v Bratislave // Slovenská politika. – 1935. – 17 októbra. – S. 1.
18. Sovietski hostia v Piešťanoch // Ľudový denník. – 1935. – 20 októbra. – S. 2.
19. Sovietski novinári v Piešťanoch // Slovenský deník. – 1935. – 22 októbra. – S. 3.
20. Sovjetskí spisovatelia a novinári v Bratislave // Robotnícke noviny. – 1935. – 17 októbra. – S. 2.
21. Urýchlený kurz sovjetských novinárov o Československu // Robotnícke noviny. – 1935. – 16 októbra. – S. 4.
22. Verchovskaja, V. Janka Kupala – talentovaný básnik bieloruský / V. Verchovskaja // Bratislava – Moskva. – 1945. – № 1. – S. 10 – 11.
23. V Sv. Jure a v Modre // Ľudový denník. – 1935. – 18 októbra. – S. 2.
24. Vzácní hostia // Robotnícke noviny. – 1935. – 16 októbra. – S. 1.





Асабістыя рэчы паэта. Фрагмент экспазіцыі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.



Янка Купала 1935 г.



1935 год у жыцці і творчасці песняра. Фрагмент экспазіцыі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

# З рэцэнзій на манаграфію “Янка Купала ў Славакіі”

31 ліпеня 2012 г. у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску адбылася прэзентацыя манаграфіі “Янка Купала ў Славакіі” Міколы Труса, прымеркаваная да 130-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры і Года кнігі. Прадмову да кнігі напісаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Мар’ян Сэрватка, які выступіў на імпрэзе з прывітальным словам.

У мерапрыемстве бралі таксама ўдзел дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка, загадчык кафедры славянскіх літаратур БДУ прафесар Іван Чарота, дацэнт кафедры рускай мовы і культуры Каталіцкага ўніверсітэта ў Ружамберку (Славакія) Вікторыя Ляшук, галоўны дырэктар галоўнай дырэкцыі замежнага вяшчання Беларускага радыё Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь Навум Гальпяровіч, намеснік галоўнага рэдактара часопіса “Роднае слова” Марыя Кныш, дацэнт кафедры рэдакцыйных і выдавецкіх тэхналогій БДТУ Уладзімір Куліковіч, іншыя вядомыя навукоўцы і дзеячы культуры.

***

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы была прадстаўлена кніга-дослед “Янка Купала ў Славакіі” кандыдата філалагічных навук Міколы Труса. На прэзентацыі прысутнічаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славацкай Рэспублікі ў Беларусі Мар’ян Сэрватка, які, дарэчы, з’яўляецца аўтарам прадмовы да кнігі.

Узгадаўшы, што толькі за час яго знаходжання ў Беларусі выйшла восем кніг, прысвечаных беларуска-славацкім сувязям: палітычным, партнёрскім, культурным, – спадар Мар'ян Сэрватка спыніўся ўласна на даследчай працы Міколы Труса:

– Мяне здзівіла, як многа раней невядомых матэрыялаў пра візіт Купалы ў Славакію знойдзена, і я вельмі рады, што дзякуючы Міколу Трусу пра гэты візіт даведаюцца людзі.

Паездка Янкі Купалы ў Славакію ў кастрычніку 1935 года ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў і журналістаў доўгай не была. Аднак гэтае амаль пратакольнае мерапрыемства, як аказалася, выклікала вялікую зацікаўленасць у славацкай інтэлігенцыі. Безумоўна, увагу славакаў прыцягнулі найперш вядомыя творцы: публіцысты Міхаіл Кальцоў і Ганна Караваева, пісьменнікі Аляксей Талстой, Аляксандр Фадзееў, Іван Мікітэнка, наш Янка Купала. <…>

Коратка, дакладна і з незвычайным густам пабудаваў аўтар кнігі свой аповед пра знаходжанне ў Славакіі Купалы. Слайды са славацкімі фотаздымкамі членаў дэлегацыі, гасцявыя кнігі, у якіх яны пакінулі свае запісы, гістарычныя і сучасныя выявы гатэляў, дзе спыняліся савецкія пісьменнікі, аб'ектаў, якія ім паказвалі, дамоў, дзе яны сустракаліся з калегамі па пяры, на фоне папулярнай славацкай музыкі 1930-х гадоў незвычайна ярка прадставілі прысутным эпоху, у якую адбывалася дзеянне, і краіну, якую пабачыў Купала. <…>

Тое, што кніга напісана ў папулярным, даступным для шырокіх колаў стылі, дадае ёй варстасцей.

– Мне вельмі хацелася б, каб гэтая цікавая праца была выдадзена і ў Славакіі, – выказаў сваё пажаданне спадар Мар'ян Сэрватка.

*Ірына Масляніцына.* Некалькі дзён з жыцця // Літаратура і мастацтва. – 2012. – 3 жн.

***

…М. Трус пераадолеў магчымыя сумненні сваіх папярэднікаў у купалазнаўстве. Напэўна, хтосьці і раней задаваўся пытаннем прысутнасці Янкі Купалы ў Славакіі. Але ж адвагу, даследчыцкія старанні стрымлівала зусім непрацяглае знаходжанне беларускага паэта ў Браціславе ды іншых гарадах Славакіі. Усяго ж некалькі дзён гасцявання: 15 – 18 кастрычніка 1935 года… Адсутнасць дзённікавых запісаў у Янкі Купалы… Нават "славацкія калегі, – піша М. Трус, – засцерагалі мяне перад марнасцю пошукавых клопатаў, маўляў, усё, што тычыцца славацка-савецкіх сувязей у сацыялістычныя часы, сабрана і апублікавана". Але літаратуразнаўца праявіў разважлівасць і настойлівасць. Найперш – у развагах пра тое, што "ніколі не трэба ўспрымаць тэму як вычарпаную", ды і нельга было не ўлічваць ранейшыя забароны і засцярогі: на прадмет, што дазвалялася цэнзурай друкаваць, а што не магло прайсці ў друк з-за ідэалагічных меркаванняў. Настойлівасці ў пошуку драбніц фактаграфічнага матэрыялу спрыяла і разуменне таго, што многія рэчы з часам пераацэньваюцца. Калі падзеі з'яўляюцца вельмі блізкімі, то не заўсёды адразу асэнсоўваеш іх значнасць. Напрыклад, у рускім літаратуразнаўстве цяпер робяцца новыя крокі ў спасціжэнні лёсаў А. Пушкіна, М. Лермантава, Л. Талстога, іншых класікаў. <…>

Кніга "Янка Купала ў Славакіі" М. Труса – яшчэ і напамін пра тое, што варта большую ўвагу аддаваць стасункам нашых класікаў з шырокім светам. Хіба ж не маюць патрэбы ў грунтоўнай распрацоўцы наступныя тэмы: "Максім Гарэцкі ў Вільні", "Янка Купала ў Казані", "Янка Купала ў Чэбаксарах", "Якуб Колас у Ташкенце", "Уладзімір Караткевіч у Кіеве", "Уладзімір Караткевіч у Маскве", "Уладзімір Караткевіч ва Уладзівастоку"?.. Тым

болей, што падставы на тое ў выглядзе асобных артыкулаў, згадак у кнігах, манаграфіях на іншыя тэмы ёсць. Метадалогію навуковага, тэарэтычнага пошуку ў многім падказвае праца “Янка Купала ў Славакіі” М. Труса.

*Максім Ладымераў.* Сардэчная цікавасць простых людзей // Літаратура і мастацтва. – 2012. – 21 верас.

***

Кніга беларускага філолага Міколы Труса напісана на стыку гісторыі і гісторыі літаратуры. З аднаго боку, аўтар імкнуўся паказаць пэўную падзею ў біяграфіі знакамітага беларускага паэта Янкі Купалы, а з другога – сітуацыю, у якой жылі і дзейнічалі прадстаўнікі культуры ў БССР (СССР) і Чэхаславакіі. У значнай ступені аўтар дабіўся пастаўленай мэты. <…>

Савецкая дэлегацыя наведала некалькі славацкіх гарадоў (Браціслава, Святы Юр, Модра, Пешцяны і інш.), дзе тым ці іншым чынам пакінула пасля сябе звесткі. Пазнаёміўшыся з архіўнымі дакументамі і славацкімі перыядычнымі выданнямі, аўтар змог па крупінках сабраць матэрыял, звязаны з гэтай паездкай. Варта адзначыць, што М. Трус робіць акцэнт не столькі на асобе Я. Купалы, колькі на адлюстраванні атмасферы, у якой той знаходзіўся. Гэта і зразумела: матэрыялу непасрэдна пра беларускага паэта няшмат, а таму паказаць яго дзейнасць амаль немагчыма. Можна меркаваць, што менавіта з гэтай прычыны ў кнізе больш замалёвак з гісторыі чэхаславацкага (славацкага) жыцця, апісання гарадоў, дзе пабывала дэлегацыя, і іх знакамітых ураджэнцаў. Значнае месца аўтар адводзіць і пераказу зместу паведамленняў славацкіх і чэхаславацкіх газет, адзначэнню мясцовай спецыфікі ў падачы матэрыялу. <…>

Асобнай увагі заслугоўваюць фотаздымкі, змешчаныя ў кнізе. Гэта сапраўдная знаходка як для даследчыкаў біяграфіі Я. Купалы, так і для славакістаў, багемістаў, русістаў. У пераважнай большасці здымкі паходзяць з асабістага архіва аўтара і публікуюцца ўпершыню. Яны раскрываюць асобныя сюжэты з жыцця беларускага паэта, знаёмяць са славацкімі і чэхаславацкімі перыядычнымі выданнямі, з паказам у іх візіту савецкай дэлегацыі, стаўленнем да яе ў цэлым і да некаторых персон. Інтарэс выклікаюць і змешчаныя ў кнізе дакументальныя здымкі 1920 – 1930-х гг., якія адлюстроўваюць мясцовы каларыт, пабачаны пісьменнікамі-гасцямі, і дазваляюць зразумець умовы жыцця міжваеннай Славакіі. <…>

На вялікі жаль, у Беларусі даследаванне славацкай гісторыі носіць толькі фрагментарны характар, хоць нашы краіны маюць шмат супольнага. Хочацца спадзявацца, што манаграфія М. Труса дасць штуршок не толькі да больш глыбокага спасціжэння біяграфіі Янкі Купалы і іншых беларускіх пісьменнікаў, але і да вывучэння славацкай гісторыі.

*Любоў Козік.*

Беларускі Гістарычны Агляд. –
2012. – Т. 19. – Сш. 1–2 (36–37). – С. 387 – 389.

***

2012 год быў багаты на юбілеі слынных беларускіх пісьменнікаў. Гэта добрая нагода з пазіцыі сучаснасці звярнуцца да іх спадчыны, па-новаму асэнсаваць яе, успомніць падзеі жыццёвага і творчага шляху песняроў, а магчыма, і запоўніць некія лакуны ў нашых ведах пра лёс знакамітых суайчыннікаў, сістэматызаваць разрознены матэрыял, звязаны з пэўнымі старонкамі біяграфіі гэтых пісьменнікаў.

Асобным вектарам вывучэння і аналізу творчасці прадстаўнікоў беларускага прыгожага пісьменства можна назваць славянскі кірунак: што за сувязі яднаюць нашых паэтаў, празаікаў з рознымі еўрапейскімі краінамі, як іх там ведаюць, перакладаюць, якімі шляхамі-дарогамі прайшліся беларусы па землях розных народаў, якія чалавечыя і творчыя кантакты завязалі – усё гэта важная частка прысутнасці беларускай літаратуры ў славянскай і сусветнай культурных прасторах. Менавіта гэтаму і прысвечана манаграфія “Янка Купала ў Славакіі” кандыдата філалагічных навук, дацэнта, загадчыка кафедры беларускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта Міколы Валянцінавіча Труса.

У цэнтры ўвагі даследчыка невядомыя старонкі жыцця Янкі Купалы – некалькі дзён падарожжа па Славакіі ў кастрычніку 1935 г. у складзе дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў. Даследаванне беларускага навукоўцы базуецца на матэрыялах тагачаснага славацкага перыядычнага друку, у якім падрабязна, дэталёва асвятляўся дыпламатычны візіт. М. Трус паказвае дыскусійнасць стаўлення славацкай прэсы да гэтай падзеі. Матэрыялы былі сабраны і вывучаны літаратуразнаўцам падчас шматлікіх паездак па Славакіі, працы ў славацкіх бібліятэках і архівах. Увогуле ж, манаграфія – плён шматгадовай збіральніцкай і даследчыцкай працы М. Труса, вынік яго шчырых намаганняў і вышукаў, размоў з рознымі людзьмі ў самой Славакіі.

Асобныя фрагменты манаграфіі неаднойчы былі апрабаваныя ў беларускіх навуковых часопісах і на міжнародных канферэнцыях. Аўтар вядзе аповед на фоне падзей нацыянальнага культурнага жыцця 1930-х гг., міжнароднага супрацоўніцтва. М. Трус акрэслівае кола славацкіх знаёмых Янкі Купалы. Падрабязна апісвае

славацкія сустрэчы беларускага пісьменніка: Гана Грэгарава, Ян Понічан, Гейза Вамаш, сям'я Шандараў. Аўтар праводзіць чытача па ўсіх мясцінах Славакіі, звязаных з вандроўкамі слыннага беларускага песняра: Браціслава, Святы Юр, Модра, Пешцяны, Высокія Татры. Малюе шырокі культурны кантэкст.

Манаграфія Міколы Труса – важкі ўнёсак у шматбаковыя беларуска-славацкія культурныя, навуковыя, літаратурныя сувязі. Пра тое, што гэта менавіта так, сведчыць інтарэс да кнігі славацкага боку. Прадмову да манаграфіі напісаў Мар'ян Сэрватка, доктар філасофіі, кандыдат навук, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь. Ён выказаў вялікую падзяку аўтару за шматгадовыя даследаванні беларуска-славацкіх літаратурных і культурных зносін.

Асобна хацелася б вылучыць багатае аздабленне кнігі шматлікімі фотаздымкамі і аўтографамі, якія сталі вынікам росшукавай працы беларускага навукоўцы і былі дагэтуль не вядомыя культурнай грамадскасці. М. Трус стварыў своеасаблівы "славацкі дзённік" беларускага песняра і ўпрыгожыў, падмацаваў яго багатым візуальным матэрыялам.

Манаграфія "Янка Купала ў Славакіі" Міколы Труса адкрывае і сістэматызуе практычна ўсё, што тычыцца паездкі Янкі Купалы ў Чэхаславакію ў 1935 г., фактагічна багата і па-навуковаму кампетэнтна асвятляе пытанні ўзаемадачыненняў беларускай і славацкай культур у акрэсленым аспекце. Яна можа быць названа значнай з'явай купалазнаўства і славянскай літаратуразнаўчай навукі ўвогуле.

*Алена Вострыкава.* Славацкі "дзённік" Янкі Купалы // Роднае слова. – 2013. – № 1. – С. 30.

***

Нам вельмі дорага і значна ўсё, што датычыць Янкі Купалы. Кожная падзея, нават кожны эпізод з яго жыцця паўней і прывабней раскрывае вобраз славутага беларускага песняра. <…>

Пасол Мар'ян Сэрватка пры нашай сустрэчы ўручыў мне кнігу і ўзрушана сказаў:

– Пра Янку Купалу. Аказваецца, у 1935 годзе ён падарожнічаў па Славакіі, але ж цяпер пра тое чамусьці забыліся. Тут усё напісана падрабязна і вельмі цікава.

Кніга так і называецца: "Янка Купала ў Славакіі". Я перачытаў яе некалькі разоў, бо і для мяне гэтая падзея з біяграфіі нашага народнага паэта стала нечаканым і хвалюючым адкрыццём. Скажам адразу шчырае дзякуй аўтару Міколу Трусу, загадчыку кафедры беларускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта, дацэнту, за няпростыя росшукі і глыбокае даследаванне гэтай важнай для нас тэмы. <…>

Пытаюся ў Міколы Труса, што ён адчуваў, калі даследаваў тыя невядомыя абставіны з жыцця Янкі Купалы.

– Улучанасць у літаратурны працэс, – адказвае. – Бо адна справа, калі ты чытач. І зусім іншая, калі трымаеш надзвычай каштоўныя дакументы ў руках і разумееш, што ўпершыню адкрываеш нешта вельмі цікавае і важнае і далей нясеш людзям. Такія моманты – самыя шчаслівыя ў жыцці даследчыка. Бо цяпер знайсці нешта новае з жыцця Янкі Купалы і Якуба Коласа вельмі складана. І чым больш аддаляюцца ў часе ад нас нашы славутыя песняры, тым больш важкія такія творчыя знаходкі.

*Міхаіл Шыманскі.* Узноўленае мінулае //
Рэспубліка. – 2013. – 1 чэрв.

***

Манаграфія “Янка Купала ў Славакіі” (2012) загадчыка кафедры беларускай філалогіі БДТУ дацэнта М. В. Труса ўжо атрымала станоўчыя водгукі ў беларускіх навуковых выданнях. Ухвальны розгалас пашырыўся на ўсю масмедыйную прастору Беларусі, а таксама замежжа (перыядычны друк, радыё, тэлебачанне, інтэрнэт).

Напрыканцы 2014 г. у адным з самых прэстыжных навуковых выданняў Славацкай Рэспублікі – “Slavica Slovaca” – была апублікавана рэцэнзія “Класік беларускай літаратуры Янка Купала ў Славакіі” Іваны Сліўковай.

Міждысцыплінарны славістычны часопіс “Slavica Slovaca” – супольнае выданне Славацкага камітэта славістаў і Славістычнага інстытута імя Яна Станіслава Славацкай акадэміі навук. Гэта прызнаная навуковая платформа для абмену вопытам у нацыянальным і міжнародным славістычным кантэксце. Часопіс выходзіць 2 разы на год, змяшчае матэрыялы на ўсіх славянскіх, а таксама англійскай, нямецкай, французскай мовах; шырока прадстаўлены ў міжнародных бібліятэчных базах: C.E.E.O.L, CEJSH, DOAJ, CSA.

Славацкая даследчыца І. Сліўкова – кваліфікаваны славіст і беларусіст – вельмі дэталёва, па раздзелах разгледзела беларускую манаграфію М. Труса, пачынаючы ад уступнага слова Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Мар’яна Сэрваткі. У высновах рэцэнзіі адзначаецца: «Манаграфія “Янка Купала ў Славакіі” – гэта каштоўная крыніца інфармацыі пра славацка-беларускія адносіны; Бібліяграфічны спіс публікацый М. Труса па тэме славацка-беларускіх адносін (35 найменняў)

сведчыць пра кампетэнтнасць аўтара выказвацца па гэтай тэме і ўзмацняць крохкі шкілет славацка-беларускіх культурных кантактаў».

Прызнанне славацкай навуковай думкай //
Сайт Беларускага дзяржаўнага
тэхналагічнага ўніверсітэта. – 13.01.2015.

**На прэзентацыі кнігі "Янка Купала ў Славакіі" Міколы Труса.**
**Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы.**
**Мінск. 31 ліпеня 2012 г.**




Прамова пасла Славакіі Мар'яна Сэрваткі.



Выступае прафесар Іван Чарота.



Паэтычнае слова Навума Гальпяровіча.




Аўтограф для Ганны Запартыкі.



Уважлівыя калегі. На пярэднім плане: Вікторыя Ляшук, Алена Вострыкава, Уладзімір Кулікові.

# Францішак Ціхі і Янка Купала: невядомыя старонкі славянскіх літаратурных сувязей 1920 – 1930-х гг.

Гэты артыкул падрыхтаваны сумесна з Вікторыяй Ляшук, дацэнтам кафедры рускай мовы і культуры Каталіцкага ўніверсітэта ў Ружамберку (Славакія). Пяпярэдне, 19 чэрвеня 2014 г. на XI Міжнародных Купалаўскіх чытаннях у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы (Мінск) навуковай грамадскасці былі прадстаўлены сенсацыйныя знаходкі, зробленыя ў Славакіі, – два невядомыя аўтографы Янкі Купалы, якія ўяўляюць сабой дарчыя надпісы на кнігах Збору твораў паэта 1925 – 1926 гг., адрасаваныя чэшскаму славісту Францішку Ціхаму ў 1927 г.

Беларусазнаўчы рахунак чэшскага славіста Францішка Ціхага (поўнае імя – Францішак Рут Ціхі) складаюць мастацкія пераклады – паэтычныя і празаічныя – твораў Я. Коласа, А. Дудара, А. Гурло, М. Машары, А. Моркаўкі, а таксама літаратуразнаўчыя і мовазнаўчыя публікацыі, раскіданыя па навуковых зборніках і ў перыядычным друку Чэхаславакіі 1920 – 1930-х гг.

У гісторыі купалазнаўства імя чэшскага перакладчыка Ф. Ціхага таксама даволі вядомае, прадстаўленае на розных ўзроўнях бачання: канстатацыі, тэксталагічнага аналізу, кантэкстуальнага разгляду ў беларускай даведачнай літаратуры [1, с. 130, 349, 375, 434, 471; 2,

с. 521] і асобных публікацыях даследчыкаў чэшска-беларускіх літаратурных сувязей – А. Мажэйкі [3, с. 111 – 115], В. Нікіфаровіча [4, с. 136 – 137], М. Чмаравай [5, с. 111 – 115], М. Шчура [6, с. 405 – 406] і інш.

Актуальным сёння застаецца выяўленне, сістэматызацыя, аналітычнае асэнсаванне ўсяго зробленага чэшскім славістам на ніве беларусістыкі. Трэба адзначыць, што на міжнародным парытэтным узроўні тэма "Францішак Ціхі і Беларусь" яшчэ папросту не зафіксавана. Яе распрацоўка можа даць цікавы плён, які здольны фактаграфічна істотна ўзбагаціць беларускую прысутнасць міжваеннага перыяду ў славянскай / еўрапейскай культурнай прасторы.

Даследаванне ўскладняецца некалькімі аспектамі, звязанымі з маштабнымі зменамі геапалітычнай кан'юнктуры XX ст., якія, зрэшты, і даюць некаторае тлумачэнне незафіксаванасці і нераспрацаванасці названай тэмы. За апошнія дзесяцігоддзі адбыліся істотныя змены фокуса асэнсавання беларуска-славянскіх сувязей мінулых часоў і найноўшай гісторыі: ад дзяржава- да нацыяцэнтрызму і фарміравання тоеснасці погляду дзяржава / нацыя.

Чэхаславацкая рэспубліка (ЧСР) 1920 – 1930-х гг. складалася з некалькіх частак, у якіх з рознай ступенню актыўнасці і маштабнасці ішлі працэсы нацыянальнага будаўніцтва: Чэхія, Маравія, Славакія і Падкарпацкая Русь. Даследаванні чэшска-беларускіх сувязей гэтага часу маюць свой набытак, славацкі кірунак у беларускім літаратуразнаўстве апошнім часам пачынае інтэнсіўна і даволі плённа распрацоўвацца [7], пры гэтым Падкарпацкая Русь міжваеннага перыяду, нягледзячы на больш блізкую кроўную еднасць усходнеславянскіх народаў, для нас застаецца "зямлёй невядомай".

Гэта адна з прычын няпоўнага бачання ў Беларусі і за мяжой усёй шматграннай дзейнасці Ф. Ціхага.

Паводле чэшскіх крыніц, адзіная публікацыя, прысвечаная вучонаму, – кароткі даведкавы артыкул – датуецца 1923 г. [8]; асноўная навуковая праца вучонага сканцэнтравана ў шматтомным выданні "Отаў навуковы слоўнік новага часу" ("Ottův slovník naučný nové doby"; Praha, 1930 – 1934). Пры падагульненні фрагментарных звестак перад намі паўстае наступная інфармацыя.

**Францішак Рут Ціхі** (чэшск. *František Rut Tichý*; 1886 – 1968) – чэшскі педагог, пісьменнік, перакладчык, літаратуразнаўца. Паводле цывільнай прафесіі – настаўнік сярэдняй школы. Аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў (пісаў пад псеўданімам Здэнэк Броман – *Zdeněk Broman*): "Ружовая і белая кніжка" ("Růžová a bílá knížka"; 1910, 1914); "Апавяданні і песні" ("Povídky a písně", 1916); "Крывавыя раны" ("Krvácející rány", 1920). Перакладаў на чэшскую мову творы балгарскіх, бельгійскіх, нямецкіх, украінскіх пісьменнікаў.

Пры звароце да іншых крыніц згаданыя "праз коску" нацыянальныя зацікаўленні Ф. Ціхага паўстаюць куды больш узбуйнена, а сама асоба славіста прадстаўляецца ў арэоле аднаго з заснавальнікаў чэшскай і славацкай украіністыкі, арганізатара нацыянальнай асветы і перыядычнага друку ў Падкарпацкай Русі міжваеннага перыяду.

## Падкарпацкая Русь і Францішак Ціхі

Назва *Падкарпацкая Русь* (*Podkarpatská Rus*) замацавана найперш у чэшскай і славацкай традыцыі. Цягам стагоддзяў часткі гэтай адметнай гісторыка-

геаграфічнай вобласці ў Цэнтральнай Еўропе ўваходзілі ў склад розных дзяржаў, таму ў пісьмовых крыніцах яны фіксуюцца па-рознаму: Карпацкая Русь, Вугорская Русь, Закарпацце, Карпацкая Украіна, Прэшаўская Русь і інш. Саманазва аўтахтоннага русінскага / украінскага насельніцтва сваёй зямлі – *Карпатька Русь* / *Карпатська Русь*.

У міжваенны перыяд адміністратыўным цэнтрам Падкарпацкай Русі быў г. Ужгарад, сёння гэта цэнтр Закарпацкай вобласці Украіны*. У той час ішоў актыўны працэс русінскага / украінскага нацыянальнага будаўніцтва, на які накладала моцны адбітак эканамічная адсталасць аграрнай Падкарпацкай Русі ў параўнанні з іншымі землямі Чэхаславакіі, рэлігійная і палітычная раз'яднанасць: фарміравалася сістэма нацыянальнай сярэдняй адукацыі, масмедыйная прастора; стваралася сетка культурна-асветніцкіх устаноў; замацоўвалася мясцовая палітычная парадыгма і яе сувязі з Прагай і нацыянальнымі рухамі ЧСР. У гэтых працэсах Ф. Ціхі адыгрываў вельмі важную ролю.

Новай рэчаіснасці, даволі спрыяльнай для нацыянальнага жыцця ў параўнанні з мінулымі часамі, патрабаваліся спецыялісты. Вопыт чэшскага славіста – сцверджанага педагога, мовазнаўцы (багеміста, германіста па адукацыі) – аказаўся вельмі запатрабаваным.

У выніку ўкраінская даведачная літаратура ў параўнанні з чэшскай (для якой Ф. Ціхі, мяркуем, застаўся прадстаўніком перыферыі культурнага жыцця) дае значна больш прадстаўнічую інфармацыю, зыходзячы з важнасці працы грамадскага і культурнага дзеяча ў гісторыі нацыянальнай культуры: Францішак Ціхі (укр. *Франтішек*

* Адна з вуліц украінскага Ужгарада цяпер носіць імя Францішка Ціхага.

*Тіхий) – «…чэшскі і ўкраінскі пісьменнік, філолаг-украініст, педагог родам з Чэхіі. У 1922 г. як дырэктар Калегіяльнай Гімназіі ў Прэшаве ўпершыню завёў навучанне ўкраінскай мове, у тым жа годзе выдаў першы зборнік вершаў А. Духновіча; у 1923 г. рэдактар першага на Закарпацці ўкраінскага штодзённіка "Русин" (Ужгарад). У 1930-х гг. Ціхі пераехаў у Прагу; у 1950 – 1960-х гг. браў удзел у культурна-навуковай дзейнасці прэшаўскіх украінцаў, выдаў "Povĕsti z Podkarpatské Rusi" (1930). Ціхі аўтар манаграфіі "Vývoj současného spisovného jazyka na Podkarpatské Rusi" (1938) і шматлікіх артыкулаў пра закарпацкіх дзеячаў, помнікі пісьменства, фальклор і мову бачванскіх русінаў, украінскую літаратуру, украінска-чэшскія і ўкраінска-славацкія сувязі, нізкі ўкраіназнаўчых артыкулаў у чэшскай энцыклапедыі "Ottův slovník naučný nové doby". Ціхі перакладаў на чэшскую мову творы Т. Шаўчэнкі, Лесі Украінкі, І. Франка, І. Даніловіча-Карытнянскага і інш.; рэдагаваў даведнік "Praktická učebnice ukrajinského jazyka" (1939)»* [9, с. 3219].

## Славакія і Францішак Ціхі

Славацкі г. Прэшаў (славацк. *Prešov*; укр. *Пряшів*) у пэўнай ступені з'яўляецца пераемнікам культурных і навуковых традыцый Падкарпацкай Русі ў складзе міжваеннай Чэхаславакіі, універсітэцкі горад, цэнтр даследавання культуры русінаў / украінцаў. Менавіта тут у 1986 г. пачаўся рэнесанс украіністычнай спадчыны Ф. Ціхага. Да 100-годдзя вучонага былі падрыхтаваны даклады вядучых славацкіх славістаў*

* У машынапісным варыянце даклады захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве Прэшава (Štátny archiv Prešov, fond Evanjelické kolégium Prešov).

Любіцы Баботавай (*Ľubica Babotová*) і Мікулаша Мушынкі (*Mikuláš Mušinka*). Даследчыкамі Ярмілай Крэдатусавай (*Jarmila Kredátusová*) і Юраем Крэдатусам (*Juraj Kredátus*) падрыхтавана бібліяграфія прац Ф. Ціхага, якая налічвае звыш 200 адзінак. Стаўленне навуковай грамадскасці да шматграннай працы педагога, вучонага ёміста характарызуе назва даклада "Францішак Ціхі – несправядліва забыты даследчык украінскай культуры" М. Мушынкі.

Асабісты архіў і бібліятэчныя зборы Ф. Ціхага сёння захоўваюцца ў розных краінах. Яшчэ пры жыцці вучонага Музей украінскай культуры ў Свідніку (Славакія) атрымаў шмат каштоўных матэрыялаў і рукапісаў, сярод якіх нявыдадзеная анталогія "500 гадоў літаратуры закарпацкіх украінцаў". У 1968 г. рукапісны архіў патрапіў у зборы Помніка народнага пісьменства ў Празе, кнігі былі перададзены ў Дзяржаўную навуковую бібліятэку ў Прэшаве.

## Францішак Ціхі і Беларусь

У фондах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы захоўваюцца непублікаваныя мемуарныя запісы **"Мае беларускія ўспаміны"** (1964) Ф. Ціхага (пераклад з чэшскай мовы Л. Ванковіча), у якіх аўтар засведчыў гісторыю сваёй зацікаўленасці беларускай літаратурай: «*Першыя беларускія кнігі я набыў сабе ў 1923 годзе ў Ужгарадзе. Гэта былі сшыткі Л. Родзевіча "Беларусь" і "Досьвіткі", выдадзеныя ў Вільні ў 1922 г., даволі скупыя. У час, калі сябар Мікола Шыманка далучыў мяне да беларусазнаўства, я жыў у Браціславе, у Славакіі, і не меў шчасця сустрэцца з паэтам Янкам Купалам у часе яго пражскага візіту. Аднак ён ушанаваў мяне пасылкаю*

*свайго "Збору твораў" з такім прысвячэннем: "Высокапаважанаму праф. Ціхаму на добры ўспамін з пашанай. Я. Купала. Менск. 1.XII.1927"*» [10, арк. 39].

Такім чынам, перад намі аўтарытэтнае сведчанне і некрануты кірунак навуковых пошукаў: украінскі Ужгарад пачатку 1920-х гг., дзе вольна прадаваліся беларускія кнігі, адбываліся тыпалагічна блізкія беларускім працэсы нацыянальнага будаўніцтва, актыўна працаваў і шмат публікаваўся Ф. Ціхі. Навуковы этыкет вымагаў таго, што адрасат у адказ на пасылку і персанальнае ўшанаванне дарчым аўтографам павінен адказаць удзячным лістом, таму, магчыма, была перапіска.

Мікола Шыманка – адзін з прадстаўнікоў беларускага студэнцтва ў Чэхаславакіі 1920-х гг., актыўны прапагандыст нацыянальнага пісьменства новай сацыялістычнай рэчаіснасці. Пасля вучобы перабраўся ў БССР, быў рэпрэсаваны. Пакінуў успаміны пра Янку Купалу і Якуба Коласа, перадаў шэраг цікавых матэрыялаў у музеі песняроў.

Беларускі даследчык А. Мажэйка пісаў: "Імкненне да больш блізкага знаёмства з нашым народам і яго мовай прывяло праф. Ціхага ў Беларусь. У канцы 30-х гадоў ён наведаў заходнія вобласці Беларусі і пасля даў навуковае апісанне нашай мовы" [3, с. 115]. Ва ўспамінах Ф. Ціхі ўдакладніў гэты эпізод свайго жыцця:

«*На канікулах у 1936 г. я імкнуўся трапіць для навуковых заняткаў у Мінск, аднак савецкая місія адмовіла мне тады ў візе. Некалькі тыдняў я правёў сярод беларусаў у Вільні. У асобе гандляра кнігамі Яна Станкевіча я са здавальненнем сустрэў прыемнага доктара пражскага ўніверсітэта, выдатнага філолага, які ў 1934 г. апублікаваў у пражскай "Славіі" цудоўны*

*трактат "Přispěvky k dějinám běloruskeho jazyka na základě rukopisu Al-Kitab" («Да пытання гісторыі беларускай мовы на падставе рукапісу "Аль Кітаб"»).*

*Пані Станкевіч была чэшкай з Прагі, у Вільні яна была выкладчыкам гандлёвай школы. Яна з дзецьмі знаходзілася на канікулярным адпачынку ў вёсцы. Станкевіч быў дома адзін і запрасіў мяне, каб я ў яго жыў. Запрашэнне я прыняў з удзячнасцю. Тым з большай удзячнасцю, што ў асобе Станкевіча я сустрэў выдатнага дарадчыка і памочніка ў сваіх беларускіх доследах*» [10, арк. 39].

На развітанне Я. Станкевіч падараваў чэшскаму калегу адбітак адной са сваіх публікацый, а вынікам віленскіх кансультацый і далейшай працы стаў аглядны артыкул "Беларуская літаратурная мова" Ф. Ціхага, што ўвайшоў у зборнік "Літаратурныя славянскія мовы" (Прага, 1938) і быў ухвалены навуковай грамадскасцю.

Францішак Ціхі падзяліўся некаторымі сакрэтамі сваёй творчай майстроўні: «*У сваёй перакладчыцкай рабоце я пачынаю так, што выбраныя вершы чытаю ўголас да таго часу, пакуль не пачне вырысоўвацца новы верш на маёй роднай мове. Затое ўдалым вынікам гэтага метаду з'явілася захаванне рытму арыгінала класічнага верша Я. Купалы "А хто там ідзе", што не ўдалося ні майму папярэдніку ў гэтай справе Адальфу Чэрнаму, ні паслядоўніку Камілю Беднаржу. Я перакананы, што гэта пацвердзіць музыка да тэксту "беларускага гімна", якой я, на жаль, дагэтуль не ведаю. Быў бы ўдзячны, калі б мяне з ім пазнаёмілі*» [10, арк. 40].

У пасткрыптуме запісаў Ф. Ціхі выступіў з наступнай ініцыятывай: «*Прапаную выдаць у бібліятэцы сусветных твораў "Беларускі гімн" з нотамі. Ва ўступе*

*можна будзе працытаваць, між іншым, вядомае выказванне пра "Беларускі гімн" у лісце М. Горкага да М. Кацюбінскага з Капры 21.XI.1910*» [10, арк. 40].

## Невядомыя аўтографы Янкі Купалы

Выяўленне невядомых аўтографаў Я. Купалы – гэта і збег абставін, і даследчыцкая ўдача, але яшчэ ў большай, заканамернай ступені – адзін з плённых вынікаў сістэмнай, шматгадовай працы па даследаванні беларуска-славацкіх літаратурных, культурных сувязей, падрыхтоўцы ва ўніверсітэтах Славацкай Рэспублікі кваліфікаваных калег – філолагаў-беларусістаў.

У артыкуле мы пастараліся тэзісна ўзнавіць храналогію буйных (геапалітычных) і на фоне іх дробных (прыватных) падзей. Гэта не быў мэтанакіраваны пошук рарытэта, а даследчыцкі шлях ад знаходкі да актуалізацыі мінулага, замацавання новых кірункаў архіўных росшукаў, заахвочвання да сістэмнага збору матэрыялу і яго аналітычнага бачання ў новым ракурсе, адпаведным часу.

Два невядомыя дарчыя подпісы (Ф. Ціхі ва ўспамінах пісаў пра адзін) зроблены на двух тамах Збору твораў Я. Купалы 1925 – 1926 гг., якія захоўваюцца ў Дзяржаўнай навуковай бібліятэцы ў Прэшаве (Štátna vedecka knižnica v Prešove).

Кнігі сшыты ў канвалют (напэўна, таму зарэгістраваны ў бібліятэчным каталозе як адна); маецца экслібрыс прыватнай бібліятэкі былога ўладальніка – Францішка Ціхага (Здэнэка Бромана).

Тэксты аўтографаў ідэнтычныя: *"Высокапаважанаму проф. Ціхаму на добры ўспамін з пашанай Янка Купала. Менск I/XII.-27 г."*.

Выяўленне невядомых дарчых подпісаў у бібліятэцы Славацкай Рэспублікі мае некалькі найбольш відавочных значэнняў: 1) наносіць на геаграфічную карту патэнцыйнай даследчыцкай працы славацкі г. Прэшаў і ўкраінскі г. Ужгарад; 2) заклікае да скрупулёзнай працы ў замежных архівах і бібліятэках па выяўленні, сістэматызацыі, аналізу ўсіх беларусазнаўчых матэрыялаў; 3) дэманструе плённасць зладжанай, каардынаванай працы даследчыкаў у архівах і бібліятэках навукова-даследчых і культурна-асветніцкіх установ розных краін.

**Літаратура**


1. Янка Купала: Энцыклапедычны даведнік / БелСЭ; рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. – Мінск: БелСЭ, 1986. – 727 с.
2. Беларускія пісьменнікі: Бібліяграфічны слоўнік: у 6 т. / Ін-т літ. імя Я. Купалы АН Рэспублікі Беларусь, Беларус. энцыкл.; пад рэд. А. В. Мальдзіса. – Мінск: БелЭн, 1994. – Т. 3. – 585 с.
3. Мажэйка, А. Беларуская літаратура ў чэшскіх перакладах / А. Мажэйка // Садружнасць літаратур; рэд. Н. С. Перкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968. – С. 103 – 134.
4. Нікіфаровіч, В. Дарогі ў шырокі свет: Старонкі літаратурных узаемасувязей / В. Нікіфаровіч. – Мінск: БДУ, 1979. – 192 с.
5. Чмарава, М. І. Шляхі ўзаемнага пазнання : беларуская літаратура ў Чэхаславакіі (1920 – 1945): Манаграфія / М. І. Чмарава. – Магілёў: МДУ імя А. А. Куляшова, 2004. – 136 с.
6. Шчур, М. Беларусь у праскім часопісе “Slovanský přehled” / (1925 – 1938) / М. Шчур // Запісы 35 / Беларускі інстытут навукі й мастацтва. – New York – Miensk. – 2012. – С. 401 – 441.
7. Трус, М. Янка Купала ў Славакіі : Манаграфія; навук. рэд. І. А. Чарота / М. Трус. – Мінск: Рэдакцыя часопіса “Роднае слова”, 2012. – 176 с.
8. Frabša, F. S. Čeští spisovatelé dnešní doby / F. S. Frabša. – Praha : Lidová Tribuna (Rosendorf), 1923. – S. 139 – 140.
9. Енциклопедія українознавства / Наукове Товариство ім. Шевченка; головний редактор проф. д-р Володимир Кубійович. – Paris – New York: Молоде Життя, 1980. – Т. 9. – 3600 с.
10. Ціхі, Ф. Мае беларускія ўспаміны / Ф. Ціхі. – ЛМЯнК. – Фонд Уш. – Воп. XIII-д6. – Адз. зах. 27. – Л. 39 – 40.



Францішак Рут Ціхі. 1930-я (?) гг. З фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.






Высокапаважанаму праф. Ціхаму на добры ўспамін з пашанай Я. Купала Менск 1/XII-27 г.

ЯНКА КУПАЛА

ЗБОР ТВОРАЎ

ТОМ ПЕРШЫ

*ЖАЛЕЙКА-ГУСЬЛЯР*

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК — 1925




Першы том Збору твораў Янкі Купалы 1925 г. з дарчым подпісам аўтара прафесару Францішку Ціхаму.





ЯНКА КУПАЛА

ЗБОР ТВОРАЎ

ТОМ ДРУГІ

ШЛЯХАМ ЖЫЦЬЦЯ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1926




Другі том Збору твораў Янкі Купалы 1926 г. з дарчым подпісам аўтара прафесару Францішку Ціхаму.




Францішак Рут Ціхі. Фотаздымак з дарчым подпісам Міколу Шыманку. 1964 г. З фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.

# 1935 / 2015: вяртанне (Інтэрв'ю перад дарогай)

*Праца Міколы Труса "Янка Купала ў Славакіі" (2012) – адна з самых цікавых манаграфій апошняга часу. Падрабязнае апісанне вандроўкі савецкай дэлегацыі ў Славакію ў 1935 г. – магчымасць распавесці пра культурную і палітычную сітуацыю ў абедзвюх краінах, а таксама прадставіць Купалу не ў звыклым вобразе Песняра, а як гістарычную асобу, пра якую захавалася нямала згадак. Мікола Трус – кандыдат філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта, намеснік старшыні Таварыства дружбы "Беларусь – Славакія". Размова з даследчыкам прысвечана яго навуковай дзейнасці, а таксама беларуска-славацкім культурным сувязям.*

**– Мікалай Валянцінавіч, чым тлумачыцца ваша цікавасць да Славакіі, як пачалося гэтае захапленне?**

– Захопленасць Славакіяй, а таксама даследаванне беларуска-славацкіх сувязей звязана з прафесійнай і навуковай дзейнасцю. Спачатку вабіла тое, наколькі падобныя гістарычныя лёсы нашых народаў. Часам іх называюць *меншымі*, а мне даспадобы слова *мінарытарныя* – як найбольш паліткарэктнае з існуючых сёння гісторыка-культурных вызначэнняў.

Варта было наведаць краіну, спраўдзіць адчуванні, атрыманыя з пісьмовых крыніц, каб сімпатыя пераўтварылася ў трывалы грунт навуковых росшукаў. Адзначым, што беларуска-славацкія сувязі ўзбагачаюць і вывучаюць загадчык кафедры славянскіх літаратур БДУ прафесар

Іван Чарота, дацэнт Алена Вострыкава, дацэнт Вікторыя Ляшук, паэт і даследчык Сяргей Панізнік ды іншыя.

**– Прайшло ўжо тры гады, як выйшла ваша манаграфія "Янка Купала ў Славакіі". Як паставілася да гэтага выдання навуковая грамадскасць?**

– Паводле былога пасла Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Мар'яна Сэрваткі, манаграфія "Янка Купала ў Славакіі" спарадзіла своеасаблівую ланцуговую рэакцыю. Яна стала адмысловым зыходным пунктам для шэрагу культурных славацка-беларускіх праектаў, у рэалізацыі якіх з нашага боку рэй вядзе Дзяржаўны літаратурны музей Я. Купалы на чале з дырэктарам Аленай Ляшковіч.

З вялікай прыемнасцю хочацца засведчыць, што ў асобе шаноўнага Мар'яна Сэрваткі мы займелі яшчэ аднаго ўплывовага сябра нашай краіны за мяжой, які паслядоўна і плённа рупіцца пра развіццё славацка-беларускіх культурных сувязей.

Манаграфія выклікала даволі шырокі рэзананс у навуковых і культурніцкіх колах Беларусі і Славакіі. Ухвальная словы на карысць яе зместу і фармату падачы ілюстрацыйнага матэрыялу прагучалі на старонках многіх беларускіх газет. Інфармацыйна-азнаямленчых допісаў у айчынных і славацкіх СМІ набярэцца не менш за паўтара дзясятка. У Славакіі станоўчая рэцэнзія на беларускае выданне была апублікаваная ў прэстыжным навуковым славістычным часопісе "Slavica Slovaca" (І. Сліўкова). Карыстаючыся нагодай, хачу падзякаваць калегам за ўвагу да кнігі, добрыя словы і каштоўныя парады.

**– У манаграфіі вы адкрылі шэраг невядомых старонак у гісторыі беларуска-славацкіх культурных сувязей. Якія пытанні ў гэтым кірунку даследаванняў бачацца вам асабліва актуальнымі?**

– Варта прызнаць, што сярод традыцыйных і часта ўжывальных вызначэнняў нацыянальнай прысутнасці ў Еўропе і свеце са складнікам *узаема-* (сувязі, дачыненні, уплывы і г. д.) не хапае зыходнага, базіснага, немудрагелістага па сваім гучанні – *узаемаведанне*. Напрыклад, у Славакіі Янка Купала рэпрэзентаваны ледзь не выключна ў анталогіях савецкай паэзіі, даведніках – і абсалютна ў духу свайго часу. Сёння можам сказаць, што вельмі тэндэнцыйна, – як тыповы савецкі паэт, які ўсхваляў поспехі сацыялістычнага будаўніцтва і калектывізацыі. Класіка славацкай літаратуры – падмурак нацыянальнай ідэнтычнасці – прадстаўлена ў Беларусі, трэба прызнаць, таксама даволі слаба. І гэта не выключэнне, а тыповая і агульная праблема сённяшняй недастатковасці тых праяў узаемаведання, якія звыкла завуцца мастамі дружбы.

Прысутнасць Янкі Купалы ў кастрычніку 1935 года ў Славакіі ў складзе дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў дазваляе весці гаворку пра славацкую літаратуру і культуру, прадстаўленую ў канкрэтных імёнах і фактах, у абсалютна новым ключы. Гэта ўжо не абстрагаваны экскурс здалёк у гісторыю іншага народа, а канцэптуальна новы алгарытм разгляду – ад факта; асвятленне канкрэтнага знаёмства, замацаванага поціскам рукі класіка беларускай літаратуры. Пры гэтым гаворка пра некаторых славацкіх пісьменнікаў і літаратурную сітуацыю сярэдзіны 1930-х гадоў набывае адмысловую сяброўскую цеплыню, а пэўныя тэмы міжнацыянальных адносін – жыццёвую пульсацыю, надзённасць. На прыкладзе візіту 1935 г. мы маем справу з народнай дыпламатыяй – дзейснай сілай умацавання культурных сувязей.

**– Як была ўспрынятая ваша праца ў Славакіі?**

– Ведаеце, купалаўскія паэтычныя словы, звернутыя да Маладой Беларусі, – займаць свой "пачэсны

пасад між народамі” – застаюцца істотнымі і сёння. Але наш час вельмі дынамічны і вельмі прагматычны.

Дзялянка, на якой я даўно працую, – гэта выкладчыцкая справа і літаратуразнаўства. Манаграфія “Янка Купала ў Славакіі” ствaралася па ўласнай ініцыятыве, на энтузіязме, выдавалася за ўласны кошт. Яе выхад у 2012-м, юбілейным купалаўскім, годзе для мяне асабіста быў вельмі важным. Такім чынам аб’ектыўна сведчылася, што з майго сціплага боку беларуска-славацкі кірунак гісторыка-літаратурных даследаванняў – не прыватная дэкларацыя аб намерах, а сур’ёзная праца, мяркуючы па рэцэнзіях, – даволі важкая і цікавая.

У манаграфіі рознабакова асветлена купалаўская паездка па Славакіі: прадстаўлены невядомыя здымкі, аўтографы беларускага песняра і прадстаўнікоў савецкай дэлегацыі, сабраны і абагулены матэрыялы тагачаснага славацкага друку. У выніку нязмушана вымаляваўся адмысловы купалаўскі турыстычны маршрут: Браціслава – Святы Юр – Модра – Пешцяны – Высокія Татры. Для Славакіі, вядомай сваімі курортамі і камфортным адпачынкам, сёння гэта таксама немалаважна.

Для славацкіх навукоўцаў усходнеславянскі вектар гісторыі міжкультурных сувязей вельмі добра распрацаваны і закранае найперш рускую і ўкраінскую літаратурную класіку. Часта ён абапіраецца на непасрэднае знаёмства дзеячаў нацыянальнай культуры з выбітнымі замежнымі пісьменнікамі. Напрыклад, лекарам і сакратаром Льва Талстога быў славак Душан Макавіцкі.

Трэба прызнаць, што ў гэтым плане пачэсныя, “пасадныя” месцы ўжо даўно заняты. Але новы віток еўрапейскай гісторыі дае ўнікальныя магчымасці, якімі варта скарыстацца. У Славакіі, Беларусі, у іншых краінах апошнія дзесяцігоддзі ідуць актыўныя працэсы

новага прачытання сваёй культурнай спадчыны – на хвалі вяртання імёнаў, твораў, вызначэння іх месца ў нацыянальнай і сусветнай культурнай парадыгме. Зараз магчыма і неабходна не толькі сведчыць, але і браць удзел у асэнсаванні аб'ёмістага рухомага матэрыялу, яго мадэрновай "фармоўцы", якая ў нашым выпадку звязана з міжнароднымі культурнымі дачыненнямі.

**– Ці не было жадання даследаваць іншыя падарожжы паэта?**

– Вядома, Янка Купала наведваў розных краіны: толькі ў Чэхаславакіі ён пабываў тройчы (1925, 1927, 1935). Сёння купалазнаўства – сцверджаная галіна літаратуразнаўства, усе візіты класіка літаратуры зафіксаваны і збольшага апісаны, не была пад грыфам сакрэтнасці і яго вандроўка 1935 года. Справа ў іншым. Я імкнуўся паказаць, што вядомыя тэмы не вычарпаны як радовішча, наадварот, сёння варта і магчыма прадставіць вядомыя падзеі куды больш падрабязна, дыскусійна, дынамічна – і гэтым ажывіць, надаць новы імпульс нашаму бачанню мінулага, асабліва звязанаму з умацаваннем сваёй культурнай прысутнасці ў свеце. Мной створаны своеасаблівы даследчыцкі гісторыка-культурны прэцэдэнт. Гэта не падвядзенне рысы, а пачатак, запрашэнне да працы з замежнымі архівамі, якія, нягледзячы на пакручастую гісторыю XX стагоддзя, няблага захаваліся. Манаполій на тэмы існаваць не можа. Мяркую, знойдуцца аўтары, якія, улічыўшы мой вопыт, асветляць Купалавы замежныя падарожжы больш дасканала і арыгінальна. Хочацца спадзявацца, што гэта будуць не толькі прыватныя ініцыятывы энтузіястаў ад навукі…

*Гутарыў Янка НАТАВЕЦ*
Літаратура і мастацтва. 19.06.2015 г.

# Славацкімі шляхамі Янкі Купалы: па слядах міжнароднага праекта

Вывучэнне фактаў культурных узаемадачыненняў, як і вызначэнне месца нацыянальнай культуры ў свеце, можна сцвярджаць, – адна з прыярытэтных задач сучаснай гуманітарыстыкі. На ўласным даследчыцкім і выкладчыцкім вопыце аўтар гэтых радкоў неаднаразова пераканаўся ў недастатковай прадстаўленасці літаратурнай класікі – падмурку нацыянальнай ідэнтычнасці – у розных культурных кантэкстах. І гэта агульная карціна, характэрная найперш для народаў, паводле традыцыйных вызначэнняў, меншых, мінарытарных.

Найбольш перспектыўным і дзейсным шляхам запаўнення такіх культуралагічных лакун бачыцца нам вывучэнне непасрэдных стасункаў пісьменнікаў, эпізодаў асабістага знаёмства з замежнымі краінамі. Так, адзін з нядаўна распрацаванага цаліку – прысутнасць Янкі Купалы ў кастрычніку 1935 г. у Славакіі ў складзе дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў – дазваляе весці гаворку пра славацкую літаратуру і культуру, пададзеную ў канкрэтных імёнах і фактах, у абсалютна новым ключы. Гэта ўжо не абстрагаваны экскурс здалёк у гісторыю іншага народа, а канцэптуальна новы алгарытм разгляду – ад факта; асвятленне канкрэтнага знаёмства, замацаванага поцiскам рукі класіка беларускай літаратуры.

У ходзе паездкі аўтара гэтых радкоў па Славакіі ў снежні 2006 – студзені 2007 гг. у архівах і бібліятэках гэтай краіны былі выяўлены матэрыялы, якія дазволілі дэталёва

ўзнавіць маршрут і абставіны побыту дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў. Пасля іх апрацоўкі на старонках "Роднага слова" спакваля друкаваліся асобныя артыкулы з далучэннем да тэксту візуальных знаходак (2007, №№ 4, 10; 2008, №№ 1, 3, 4, 6, 8, 9, 11, 12). Падагульненнем сабраных і прааналізаваных матэрыялаў стала манаграфія "Янка Купала ў Славакіі" [1], што выйшла да 130-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры.

Як адзначыў былы пасол Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Мар'ян Сэрватка ў прывітальнай тэлеграме з нагоды 70-гадовага юбілею купалаўскага музея ў Мінску, манаграфія спарадзіла "своеасаблівую ланцуговую рэакцыю". Яна стала зыходным пунктам для шэрагу культурных славацка-беларускіх праектаў, у рэалізацыі якіх з беларускага боку вядзе рэй Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы на чале з дырэктарам Аленай Ляшковіч.

Манаграфія выклікала даволі шырокі рэзананс у навуковых і культурніцкіх колах Беларусі і Славакіі. Ухвальная словы пра яе змест і фармат падачы выяўленых матэрыялаў прагучалі на старонках газет "ЛіМ" (М. Ладымераў), "Рэспубліка" (М. Шыманскі), часопісаў "Роднае слова" (А. Вострыкава), "Беларускі Гістарычны Агляд" (Л. Козік). У Славакіі станоўчая рэцэнзія на беларускае выданне была апублікавана ў прэстыжным навуковым славістычным часопісе "Slavica Slovaca" (І. Сліўкова) [2]. А інфармацыйна-азнаямленчых допісаў пра манаграфію "Янка Купала ў Славакіі" ў беларускіх і славацкіх СМІ набярэцца не менш за два дзясяткі.

У манаграфіі прасочаны ўсе кропкі паездкі па Славакіі: пададзены невядомыя здымкі, аўтографы беларускага песняра і прадстаўнікоў савецкай дэлегацыі, сабраны і абагульнены матэрыялы тагачаснага

славацкага друку. Нязмушана вымаляваўся купалаўскі турыстычны маршрут: Брацілава – Святы Юр – Модра – Пешцяны – Высокія Татры.

Манаграфія падвяла рысу пад выяўленымі і апрацаванымі архіўнымі матэрыяламі, але стала не завяршэннем, а пачаткам, генератарам адмысловага сілавога поля міжнародных навуковых і культурна-асветніцкіх ініцыятыў, у якіх адыграў сваю заўважную ролю навуковы і метадычны часопіс "Роднае слова". Так, на старонках выдання быў апублікаваны першы пераклад на славацкую мову купалаўскага верша "А хто там ідзе?", зроблены паслом М. Сэрваткам, – побач з матэрыяламі, якія акрэслілі значныя заслугі дыпламата-перакладчыка, філолага па адукацыі, ва ўмацаванні славацка-беларускага супрацоўніцтва, розныя грані яго грамадска-культурнай чыннасці [3; 4]. Сёння можна засведчыць, што ў асобе шаноўнага пасла Мар'яна Сэрваткі мы займелі яшчэ аднаго ўплывовага сябра нашай краіны за мяжой, які паслядоўна і плённа рупіцца пра развіццё славацка-беларускіх культурных сувязей. Такім чынам поруч з афіцыйна-дзяржаўнай дыпламатыяй сцвярджалася, набывала моц на абсягах купалазнаўства дыпламатыя народная – дзейсная сіла ўмацавання культурных сувязей.

Па ініцыятыве Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы 20 – 27 чэрвеня 2015 г. быў ажыццёўлены беспрэцэдэнтны міжнародны культурна-адукацыйны і выставачны праект "Славацкімі шляхамі Янкі Купалы", прысвечаны 80-годдзю візіту ў Славакію першага народнага паэта Беларусі ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў і журналістаў. Дэкларавананая мэта акцыі – знаёмства з адным з найбольш значных эпізодаў у станаўленні беларуска-славацкіх культурных сувязей, узаемная прэзентацыя сучасных беларускай і славацкай культур і літаратур. Куратарамі праекта сталі Алена Ляшковіч, дырэктар музея Янкі

Купалы, і Мар'ян Сэрватка, пасол, супрацоўнік Міністэрства замежных і еўрапейскіх спраў Славацкай Рэспублікі.

Ініцыятыву Купалаўскага музея падтрымалі 23 дзяржаўныя і грамадска-культурныя інстытуцыі Беларусі і Славакіі, толькі пералік якіх сведчыць пра ўвагу з боку ўладных структур, а значыць, дазваляе спадзявацца на перспектыўнасць і далейшую сур'ёзную падтрымку падобных пачынанняў. З беларускага боку ў праекце ўдзельнічалі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы, Другі агульнанацыянальны канал (АНТ), Першы нацыянальны канал Беларускага радыё, а таксама газеты "Звязда", "Літаратура і мастацтва", "СБ. Беларусь сегодня", "Культура". Славацкі бок прадстаўлялі Саюз славацкіх пісьменнікаў, газета "Literárny týždenník", Літаратурны і музычны музей Дзяржаўнай навуковай бібліятэкі ў Банскай Быстрыцы, Літаратурны фонд Славацкай Рэспублікі.

Праект адбыўся пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Славацкай Рэспубліцы, Пасольства Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, а таксама ганаровага консула Рэспублікі Беларусь у Славацкай Рэспубліцы Мар'яна Мурына.

Сёння можна гаварыць адносна праекта як падзеі, што адбылася, і, падкрэслім яшчэ раз, стала беспрэцэдэнтнай міжнароднай акцыяй. Постфактум ёсць неабходнасць звярнуцца да ключавых этапаў падрыхтоўкі і рэалізацыі праекта, яго масмедыйнага асвятлення, бачных вынікаў у блізкай і далёкай перспектыве. Для аўтара гэтых радкоў гэта была ўнікальная магчымасць спраўдзіць некаторыя моманты манаграфіі "Янка Купала ў Славакіі", пабываць там, дзе ўрачыста прымалі класіка беларускай літаратуры, і куды патрапіць простаму энтузіясту-даследчыку аніяк не выпадала.

Культурная грамадскасць Славакіі і Беларусі была загадзя праінфармавана адносна праекта "Славацкімі шляхамі Янкі Купалы". Інтэрв'ю з М. Сэрваткам і А. Ляшковіч апублікавала газета "Literárny týždenník", інфарматыўныя матэрыялы з'явіліся напярэдадні паездкі ў газетах "СБ. Беларусь сегодня" [5], "Literárny týždenník" [6; 7], "Літаратура і мастацтва" [8; 9], "Звязда" [10]. У "ЛіМе" была надрукавана падборка славацкіх вершаў пад назвай "Да Святла!" [11] у перакладах Т. Сівец, П. Макаля, У. Караткевіча, Хв. Жычкі. Намаганнямі супрацоўнікаў музея песняра ўбачыў свет рэкламны буклет праекта [12] – вялікафарматнае выданне з паралельнымі тэкстамі на беларускай і славацкай мовах, адметнае выдатным паліграфічным выкананнем і зместавай напоўненасцю.

"Славацкі шлях…" 2015 года ў многім будаваўся на паралелях з 1935-м: той жа маршрут, склад дэлегацыі (журналісты, пісьменнікі). Прынцыповае адрозненне заключаецца ў тым, што савецкі візіт 80-гадовай даўнасці быў акцыяй палітычнай, а яе асвятленне ў Савецкім Саюзе было вытрымана ў рамках тагачаснай дзяржаўнай ідэалогіі. Новая паездка была заснавана на магчымасцях народнай дыпламатыі і мела выключна культурна-асветніцкі характар. Акрамя журналістаў і пісьменнікаў, у склад беларускай дэлегацыі ўваходзілі педагогі, навукоўцы, супрацоўнікі Купалаўскага музея. Ход візіту асвятляўся самімі ўдзельнікамі акцыі: на радыё (Н. Баўкалава), тэлебачанні (А. Мацяс, Ю. Ілбоўнікаў), у газетах "СБ. Беларусь сегодня" (Л. Рублеўская), "Літаратура і мастацтва" (Т. Сівец).

У ходзе рэалізацыі праекта адбыліся сустрэчы з адміністрацыяй гарадоў, у якіх пабываў Янка Купала, навуковай і творчай інтэлігенцыяй Славакіі. Гэта было знаёмства з мінулым і сучасным культур двух славянскіх

народаў. Былі дасягнуты дамоўленасці аб ушанаванні купалаўскага маршруту памятнымі знакамі. Пра кожную сустрэчу, знаёмства варта весці асобную гаворку, што і было папярэдне здзейснена на старонках часопіса "Роднае слова" (2015, №№ 7 – 12), з выкарыстаннем матэрыялаў фотатэкі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы і асабістага збору аўтара гэтых радкоў.

**Літаратура**

1. Трус, М. Янка Купала ў Славакіі / М. Трус; навук. рэд. І. А. Чарота; уступ. слова М. Сэрваткі. – Мінск: Рэдакцыя часопіса "Роднае слова", 2012. – 176 с.
2. Slivková, I. Klasik bieloruskej literatúry Janka Kupala na Slovensku [Рэцэнзія на манаграфію М. Труса "Янка Купала ў Славакіі" (2012)] / I. Slivková // Slavica Slovaca. – 2014. – № 2. – S. 193 – 195.
3. Трус, М. Грані дыпламатычных місій Марыяна Сэрваткі / М. Трус // Роднае слова. – 2013. – № 10. – С. 25 – 26.
4. Сэрватка, М. Званар, які слухае час: вершы / М. Сэрватка; пер. са славацкай мовы М. Труса // Роднае слова. – 2013. – № 10. – С. 27. ["Стары званар"; "Рукі"; "Маці"; "Місіянер у тэлефоннай капліцы…"].
5. Рублевская, Л. В Словакию, на встречу с Купалой / Л. Рублевская // СБ. Беларусь сегодня. – 2015. – 16 чэрв.
6. Janko Kupala na Slovensku // Literárny týždenník. – 17.06.2015. – S. 11.
7. Úvod v knihe M. Trusa *Janko Kupala na Slovensku* od PhDr. Mariána Servátku, CSc., veľvyslanca SR v Bieloruskej republike v rokoch 2008 – 2013 // Literárny týždenník. – 17.06.2015. – S. 11.
8. Явіч, Я. Паўтарыць маршрут Купалы / Я. Явіч // Літаратура і мастацтва. – 2015. – 19 чэрв. – С. 6.
9. Натавец, Я. 1935 / 2015: Вяртанне [Інтэрв'ю з загадчыкам кафедры беларускай філалогіі БДТУ М. В. Трусам] / Я. Натавец // Літаратура і мастацтва. – 2015. – 19 чэрв. – С. 8.
10. Кацяловіч, І. Янка Купала. Славацкім шляхам песняра / І. Кацяловіч // Звязда. – 2015. – 20 чэрв.
11. Да Святла! [Вершы славацкіх паэтаў у перакладах Т. Сівец, П. Макаля, У. Караткевіча, Хв. Жычкі.] // Літаратура і мастацтва. – 2015. – 19 чэрв. – С. 10 – 11. [Мірaслаў Белік, Борыс Брэндза, Петэр Мішак, Штэфан Цыфра, Ян Тазберык, Міраслаў Валек, Ян Панічан, Андрэй Плаўка, Уладзімір Райсел, Мілан Руфус, Ян Шымановіч, Гелена Крыжанава-Брындзова, Уладзімір Рой].
12. Славацкімі шляхамі Янкі Купалы = Po stopách Janka Kupalu na Slovensku / склад.: А. Ляшковіч, М. Плаўская, Н. Саевіч, В. Цыханавецкая; навук. рэд.: А. Ляшковіч, М. Трус;练перакл. на славацк. мову В. Нямчокава. – Мінск: Дзяржаўны літаратурны музей Я. Купалы, 2015. – 39 с.




Вокладка манаграфіі “Янка Купала ў Славакіі” Міколы Труса. 2012 г.




Маршрут паездкі дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў па Славакіі ў 1935 г.

Вокладка буклета “Славацкімі шляхамі Янкі Купалы”. 2015 г.

Удзельнікі міжнароднага праекта “Славацкімі шляхамі Янкі Купалы” на плошчы Гвездаслава. Браціслава. 22.06.2015 г. Злева направа: Мікола Трус, Наталля Стрыбульская, Анатоль Бутэвіч, Мар'ян Сэрватка, Алена Ляшковіч, Аляксандр Мацяс, Таццяна Сівец, Людміла Рублеўская, Наталля Баўкалава, Вольга Пархімовіч.

# Браціслава

Першым пунктам афіцыйных сустрэч на карце ўдзельнікаў міжнароднага праекта “Славацкімі шляхамі Янкі Купалы” была сталіца краіны – Браціслава. Вечарам 21 чэрвеня 2015 г. дэлегацыя размясцілася ў гатэлі “Ibis”, што знаходзіцца ў гістарычнай частцы горада. Маючы трохі вольнага часу, мы маглі настроіцца на няспешную плынь размеранага жыцця горада на Дунаі.

З абставінамі побыту савецкай дэлегацыі пісьменнікаў і журналістаў у Браціславе ў 1935 г. зацікаўлены чытач можа дэталёва азнаёміцца па ранейшай роднасловаўскай публікацыі [1] і ў раздзеле манаграфіі “Янка Купала ў Славакіі” [2, с. 26 – 42]. Спрактыкаваныя ў пісьменніцкай справе ўдзельнікі праекта прысвяцілі свае допісы першым славацкім уражанням. Аўтар гэтых радкоў, маючы досвед архіўнай і музейнай працы, трымаўся свайго звыклага правіла – найперш сведчыць падзею. Першы дзень славацкіх сустрэч быў пазначаны афіцыйным прыёмам дэлегацыі ў Прымацыяльным палацы Браціславы.

Прымацыяльны палац (славацк. *Primaciálny palác*) лічыцца самым шыкоўным і прыгожым у сталіцы Славакіі. Пабудаваны ў 1778 – 1781 гг. у стылі класіцызму як рэзідэнцыя архіепіскапа і прымаса Венгрыі.

З палацам звязаны некаторыя вехавыя падзеі еўрапейскай гісторыі. Калі Браціслава (Пажоны)* была сталіцай Венгерскага каралеўства, тут спыняліся будучыя манархі напярэдадні каранацыі ў саборы Святога Марціна.

* Афіцыйную назву *Браціслава* горад займеў у 1919 г. У венгерскай культурнай традыцыі гістарычная назва горада – Пажоны, у аўстрыйскай – Прэсбург, Прэшпарк.

У Люстранай зале палаца 26 снежня 1805 г. быў падпісаны знакаміты Прэсбургскі мір паміж Францыяй і Аўстрыяй, які стаў вынікам так званай бітвы трох імператараў пад Аўстэрліцам – Напалеона Банапарта, Франца II Габсбурга, Аляксандра I. У 1848 г. кароль Фердынанд V Габсбург падпісаў дэкрэт аб адмене прыгоннага права ў Венгрыі. У пачатку 1990-х гг. у Прымацыяльным палацы месцілася першая рэзідэнцыя Прэзідэнта Славацкай Рэспублікі. Цяпер у ім знаходзіцца рэзідэнцыя мэра Браціславы, адбываюцца ўрачыстыя прыёмы на вышэйшым узроўні.

Прымацыяльны палац мае ўнікальныя мастацкія зборы. Тут размешчана карцінная галерэя. У двары знаходзіцца фантан святога Георгія ў стылі рэнесансу. Падчас рэстаўрацыі палаца ў 1903 г., калі ён быў куплены горадам, у тайніках за сценамі былі знойдзены каштоўныя габелены XVII ст., вытканыя для Карла I на англійскай каралеўскай мануфактуры ў Мортлэйку паблізу Лондана. Унікальнасць знаходкі ў тым, што сёння гэта адзіная камплектная серыя габеленаў у свеце, якая адлюстроўвае старажытнагрэчаскі міфалагічны сюжэт – прыгожае і трагічнае каханне жрыцы храма Афрадыты Геро і юнака Леандра. Тэма гэтага антычнага міфа, блізкага да легенды, знайшла шырокае адлюстраванне ў еўрапейскім выяўленчым мастацтве і літаратуры. Да яго звярталіся прызнаныя майстры слова розных эпох і нацыянальных традыцый: Крыстафер Марла, Фрыдрых Шылер, Афанасій Фет, Аляксандр Купрын, Міларад Павіч і інш.

16 кастрычніка 1935 г. у Прымацыяльным палацы Браціславы ўрачыста прымалі дэлегацыю савецкіх журналістаў і пісьменнікаў. Зусім лагічна, што пасланцы краіны Саветаў у сваіх публікацыйных справаздачах пазбягалі тэм, звязаных з гісторыяй імперый (часамі прыгнёту і сацыяльнай несправядлівасці), але

цалкам верагодна, што экскурсія для іх будавалася на вышэйпералічаных момантах. Славацкія журналісты адзначалі паслядоўную ўвагу пісьменніка Аляксея Талстога, прызнанага майстра гістарычнага жанру, да вехавых падзей еўрапейскай мінуўшчыны. Эпізод з габеленамі ўключыла ў свае падарожныя допісы Ганна Караваева, на той час галоўны рэдактар часопіса "Молодая гвардия", аўтар успамінаў пра Янку Купалу.

У 1920-я гг. увага да старажытнагрэчаскай міфалогіі з тыпалагічна блізкімі драматычнымі любоўнымі калізіямі наўпрост адлюстравалася ў перакладчыцкай практыцы беларускай песняра. У 1921 – 1926 гг. ім была перастворана з польскай мовы паэтычная сімвалісцкая драма "Эрос і Псіха" (1904) Ежы Жулаўскага, пастаўленая ў 1926 г. тэатральнай студыяй пры БДТ-2 у Віцебску. Паводле літаратуразнаўчай характарыстыкі В. Гапавай, гэтым перакладам "Купала імкнуўся ўзбагаціць нацыянальную літаратуру, уключаючы яе ва ўзаемадзеянне з літаратурамі славянскага свету, пашыраў беларускую лексіку абстрактным рамантычна ўзвышаным слоўным радам" [3, с. 677].

Беларускую дэлегацыю праекта "Славацкімі шляхамі Янкі Купалы" 22 чэрвеня 2015 г. у Прымацыяльным палацы вітала віцэ-мэр Браціславы Івета Плшэкава. Быў зачытаны зварот Міністра культуры Славацкай Рэспублікі. З прамоўленых слоў, вытрыманых у найлепшых традыцыях дыпламатыі, запомніўся заклік да разбурэння стэрэатыпаў у міжнародных адносінах, узаемнага спазнання, супрацоўніцтва.

Пані віцэ-мэр Плшэкава была першай афіцыйнай асобай Славакіі, якая падтрымала ініцыятыву ўшанавання беларускага паэта ў Браціславе, дзе ўжо ёсць памятныя знакі мінулай прысутнасці класікаў сусветнай

культуры – Брамса, Бетховена, Моцарта, Гётэ і інш. Адным з апошніх быў уганараваны ўкраінскі вандроўны пісьменнік і філосаф Грыгорый Скаварада.

Пасля афіцыйнага прыёму ў Прымацыяльным палацы экскурсію па Браціславе, праведзеную шэф-рэдактарам газеты "Literárny týždenník" Штэфанам Цыфрам, беларуская дэлегацыя, абнадзееная перспектывай усталявання памятнай дошкі беларускаму песняру, успрымала з асаблівай цікавасцю і энтузіязмам. Не аднойчы ўвага экскурсантаў з Мінска нязмушана спынялася на пазнаках каранацыйнага шляху венгерскіх манархаў да сабора Святога Марціна – уманціраваных у гарадскі брук вузкіх старажытных вуліц маленькіх залатых каронах…

У той жа дзень адбылася творчая сустрэча ў Саюзе славацкіх пісьменнікаў (ССП). Сабралася зацікаўленая аўдыторыя, пераважна людзі сталага веку, для якіх супрацоўніцтва з былымі рэспублікамі Савецкага Саюза памятнае шэрагам ініцыятыў і асабістымі знаёмствамі. Гэтым разам акцэнтавалася неабходнасць супрацоўніцтва ў новых гістарычных умовах. Са слоў ганаровага старшыні ССП Яраслава Рэзніка: «Гаворачы пра новы этап, я маю на ўвазе, што мы не пачынаем з нуля. Нашы літаратурныя кантакты маюць відавочныя доказы свайго функцыянавання ва ўзаемнай рэцэпцыі нашых літаратур. Мы ў Славакіі вельмі добра ведаем творчасць трох найлепшых беларускіх паэтаў – Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Танка. З другога боку, мы ўдзячныя вам за выданне анталогіі "Славацкая паэзія", якая выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" (Мінск, 1990). <…> Я сам двойчы наведаў вашу чароўную радзіму і велічны Мінск. Першы раз гэта было 500-годдзе ключавой фігуры вашай нацыянальнай культуры – Францішка Скарыны. Дагэтуль жывуць у маёй

душы ўспаміны пра цудоўныя культурныя і мастацкія мерапрыемствы, якія былі падрыхтаваныя з гэтай нагоды. Як зрэнку вока захоўваю я велічную і фундаментальную гістарычную манаграфію, выдадзеную тады. У рамках праграмы візіту я наведаў свяшчэннае для вас месца – Хатынь. Калі перад маімі вачыма ўстаюць гэтыя незабыўныя хвіліны, у мяне мімаволі наварочваюцца слёзы суперажывання з тымі пакутамі, якія цярпелі вашы продкі ад фашысцкіх забойцаў».

Сімвалічна, што візіт савецкіх журналістаў і пісьменнікаў у 1935 г. праходзіў пад знакам барацьбы за мір, неабходнасці аб’яднання міжнародных сіл перад нарастаннем фашысцкай пагрозы. Невыпадкова ў славацкай прэсе майстроў пяра з СССР часта называлі “місіянерамі міру”. У 1939-м перасцярогі трагічна спраўдзіліся. Сённяшнія словы аднаго са старэйшых славацкіх пісьменікаў пераконваюць у тым, што найважнейшым агульным на міжнародным узроўні фокусам асэнсавання мінулага і сучаснага еўрапейскай гісторыі застаецца Другая сусветная вайна. У беларускіх рэаліях, як вядома, Вялікая Айчынная вайна ў парадыгме мастацкага светабачання ўдзельнікаў і сведкаў мінулых падзей спарадзіла фенаменальную з’яву ў сусветным пісьменстве XX – XXI стст. – адмысловы нацыянальны эпас.

Міждзяржаўную культурную важкасць сустрэчы забяспечваў удзел Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Славацкай Рэспубліцы Уладзіміра Серпікава, які вітаў прысутных, зачытаў ліст міністра культуры Беларусі Барыса Святлова. Была таксама агучана тэлеграма міністра замежных спраў Славакіі Міраслава Лайчака.

Ад імя гаспадароў выступалі Мар’ян Сэрватка, Яраслаў Рэзнік, Міраслаў Белік, Ян Тазберык, Ладзіслаў

Сэрдагелы, Штэфан Цыфра, Соня Швачова, Сяргей Макара. Ад беларускай дэлегацыі мелі слова Алена Ляшковіч, Анатоль Бутэвіч, Мікола Трус, Таццяна Сівец, Людміла Рублеўская.

Артыстычна і запамінальна прагучаў верш “Санет да Арфея” М. Беліка, прысвечаны І. Бродскаму, у выкананні перакладчыка – галоўнага рэдактара “Літаратуры і мастацтва” Т. Сівец:

*Настаўнік, не ведаю, ці адшукалі спакой*
*Вы*
*там, дзе Арфей, Эўрыдыка, дзе Божая*
*амбасада.*
*Я Вам лісты адпраўляў, але лепш данясу*
*самастойна,*
*бо Вы ж заняты – у вас, можа,*
*дом та – з садам.*
*Дзе Вы, Настаўнік, куды пракладаеце*
*мост свой?*
*“Мост па-над безданню”*
*(як тут не азірнуцца?)…*
*Калі табе дзевяноста,*
*усё надзвычайна проста –*
*і можна вяртацца,*
*ды лепей ужо – не вярнуцца…*
*Тое калісьці было ўжо, здаецца, з Рыльке:*
*“Праставалосая, як учарашні дождж*
*непатрэбная,*
*сталася маім коранем”…*
*Я азіраюся – на Арфея і (што за*
*прыклад!)…*
*Уздыхаю пакорліва,*
*ды вяртаюся – да Эўрыдыкі!*

Сапраўдным сюрпрызам сустрэчы стала прэзентацыя двухмоўнага выдання “Узаемнае спазнанне культурных каштоўнасцей: Беларусь і Славакія” [4], спецыяльна з гэтай нагоды падрыхтаванага паэтам і перакладчыкам Сяргеем Макарам, які выступіў у зборніку у некалькіх іпастасях – аўтар ідэі, укладальнік, адказны рэдактар, выдавец.

Адкрывае кнігу верш “А хто там ідзе?” – у арыгінале і ў новым перакладзе на славацкую мову (!) Наталлі Корынай (*Natália Korina*), пяру якой належыць таксама аглядны артыкул “Да гісторыі славацка-беларускіх сувязей”.

У выданні змешчаны прывітальныя словы да беларускай дэлегацыі сакратара Саюза славацкіх пісьменнікаў (ССП) Яна Тазберыка (*Ján Tazberík*), ганаровага старшыні ССП Яраслава Рэзніка (*Jaroslav Rezník*), сябра ССП Сяргея Макары (*Sergej Makara*), галоўнага рэдактара газеты “Literárny týždenník” Штэфана Цыфры (*Štefan Cifra*). Прыведзены фрагменты інтэрв’ю М. Сэрваткі і А. Ляшковіч, поўны тэкст якіх у 2014 г. апублікаваў “Literárny týždenník”. Яраслаў Рэзнік падрыхтаваў краязнаўчы допіс “Купалаўскі шлях па Славакіі”. Асобна пададзены «Праграма візіту беларускай дэлегацыі “Па слядах Янкі Купалы ў Славакіі”» і “Спіс удзельнікаў беларускай дэлегацыі”. Адмысловую паэтычную сэрцавіну кнігі, у якой сышліся славацка- і беларускамоўныя тэксты, стварыў верш “Забыць Венецыю” Людмілы Рублеўскай, у перакладзе Юрая Андрычыка (*Juraj Andričík*) – “Pustiť von z hlavy Benátky”.

Сяргей Макара закрануў актуальныя праблемы сучаснасці, неабходнасць вывучаць, памятаць гістарычны вопыт славянскіх народаў у сучасным зменлівым свеце, які спарадзіў новыя пагрозы і выклікі: “Мы

ўсведамляем, што свет развіваецца разам з цывілізацыяй. Аднак трывожным сігналам з'яўляецца аднабаковасць глабалізацыйных працэсаў, выкарыстанне сілы пад маркай аб'яднання з несумненным імкненнем моцных дзяржаў падпарадкаваць сабе іншыя. Гэта рыхтуе глебу для страты суверэнітэту і распаду слабейшых дзяржаў, што тычыцца і славянскага свету, якому пагражае страта самабытнай ідэнтычнасці, а з-за *раздробленасці* – і свайго існавання. Страціць духоўную спадчыну, якую стагоддзямі стваралі славянскія народы, было б непапраўнай стратай не толькі для трохсотмільённага славянскага свету, але і для будучага цывілізацыйнага развіцця ўсяго чалавецтва. Духоўная спадчына славян у кантэксце еўрапейскай і сусветнай культуры мае неацэнную каштоўнасць, таму яе трэба не толькі ахоўваць, але і памнажаць. Яна з'яўляецца вынікам творчасці кожнага паасобку і ўсіх разам славянскіх народаў. Бо кожны народ зрабіў свой значны ўклад у яе развіццё" [4, с. 8].

З выступленнем С. Макары, яскравага прадстаўніка культурнага памежжа, сябра Саюза ўкраінскіх пісьменнікаў Славакіі [5, с. 297], да славацка-беларускага дыялогу нязмушана далучыўся ўкраінскі голас. Удзельнікі сустрэчы атрымалі ў падарунак, акрамя ўрачыста прэзентаванага выдання, яго нядаўна выдадзеную першую кнігу прозы на ўкраінскай мове "Я виріс в Карпатах" [6]. Заключныя словы пісьменніка на славацка-беларускай сустрэчы ў Саюзе славацкіх пісьменнікаў былі аднадушна сустрэтыя і ўхваленыя ўсімі прысутнымі:

«У заключэнне дазвольце яшчэ пажадаць, каб гэтая наша – веру, што не апошняя – сустрэча пацвердзіла слушную думку Максіма Танка, выказаную ў вершы "Калі хочаце авалодаць нашай мовай": каб авалодаць

мовай, не вучыце яе па слоўніках і граматыках, якія могуць мяняцца, але

*“Па поціску рук,*
*што… сябрам*
*Дараць на ільняных ручніках*
*Хлеб і соль,*
*Сваё сэрца*
*І дружбу”.*

Для ўсіх нас было б карысна, калі б гэтае цудоўнае пажаданне праз нашыя адкрытыя сэрцы ўзаемна ажыццявілася ў нашых справах…»

**Літаратура**


1. Трус, М. Браціслава вітае ганаровых гасцей / М. Трус // Роднае слова. – 2007. – № 10. – С. 79 – 83.
2. Трус, М. Янка Купала ў Славакіі / М. Трус; навук. рэд. І. А. Чарота; уступ. слова М. Сэрваткі. – Мінск: Рэдакцыя часопіса “Роднае слова”, 2012. – 176 с.
3. Янка Купала: энцыкл. даведнік / БелСЭ; рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. – Мінск: БелСЭ, 1986. – 727 с.
4. Vzájomné poznanie kultúrnych hodnôt: Bielorusko a Slovensko=Узаемнае спазнанне культурных каштоўнасцей: Беларусь і Славакія / Autor koncepcie a zostavovateľ, zodpovedný redactor doc. PhDr. Sergej Makara, PhD. – Banská Bystrica – Poniky: JC Partner, s.r.o. Poniky, 2015. – 56 s.
5. Slovník slovenských spisovateľov 20. storočia / Spracovali A. Maťovčík (zostavovateľ), P. Gabadaj, M. Ďurovčíková, P. Parenička, T. Winkler. – Bratislava: Vydavateľstvo Spolku slovenských spisovateľov, 2001. – 527 s.
6. Макара, С. Я виріс в Карпатах / С. Макара. – Poniky: JC Partner, s.r.o. Poniky, 2015. – 54 с.



Прадстаўнікі дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў і журналістаў на дунайскай прыстані. Браціслава. 16.10.1935 г.



Беларуская дэлегацыя на дунайскай прыстані. Браціслава. 22.06.2015 г.



Беларуская дэлегацыя разам са старшынёй Саюза славацкіх пісьменнікаў Міраславам Белікам (трэці злева) перад Прымацыяльным палацам.



Габеленавая зала Прымацыяльнага палаца ў Браціславе.



Даследчык Мiкола Трус i вiцэ-мэр Брацiславы Iвета Плшэкава.



З прывiтальным словам выступае старшыня Саюза славацкiх пiсьменнiкаў Мiраслаў Белiк, перакладае Наталля Корына.



У кулуарах Саюза славацкіх пісьменнікаў. Злева направа: даследчык Мікола Трус, лектар Алена Калечыц, пісьменнік Анатоль Бутэвіч, пасол Уладзімір Серпікаў.



Выступае славацкі і ўкраінскі пісьменнік Сяргей Макара.

**Vzájomné poznanie kultúrnych hodnôt: Bielorusko a Slovensko**



**Banská Bystrica – Poniky 2015**

**ISBN 978-80-89752-06-5**

Вокладка зборнiка “Узаемнае спазнанне культурных каштоўнасцей: Беларусь i Славакiя”. 2015 г.

# Сваты Юр

Сваты Юр (славацк. *Svätý Jur*, у мінулым *Jur pri Bratislave*) – невялікі горад (5500 жыхароў) за 14 *км* ад сталіцы Славакіі, назва яго цалкам запазычана ад імя нябеснага заступніка – Святога Юрыя (Георгія-Пераможцы), у гонар якога тут у старажытнасці быў узведзены храм.

У IX – X стст. на месцы сучаснага горада існавала славянскае вялікамараўскае гарадзішча. Доказную базу пад гэтае сцверджанне падвялі археолагі, сярод іх была беларуска з паходжання. У 1950 – 1960 гг. археалагічнымі раскопкамі ў Святым Юры кіравала Людміла Краскоўская (Вільня, 1904 – Браціслава, 1999), выпускніца Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі (Даўгаўпілс, Латвія) і Карлава ўніверсітэта (Прага, Чэхія), дачка беларускага і ўкраінскага грамадска-культурнага дзеяча Івана Краскоўскага, сяброўка паэта Уладзіміра Жылкі. Л. Краскоўская – чалавек незвычайнага лёсу, заслужаны, акрамя ўсяго іншага, перад беларускай і ўкраінскай культурай – прысвяціла ўсё сваё жыццё славацкай навуцы (археалогіі, нумізматыцы) і музейнай справе [1]. Менавіта такія аргументы, як прызнаная прафесійная дзейнасць гэтай першай жанчыны – кандыдата гістарычных навук у Чэхаславакіі, – робяць гісторыю славацка-беларускіх стасункаў персаніфікаванай, а таму больш блізкай: з разуменнем ілюзорнасці межаў і вялікіх адлегласцей, не толькі генетычнай роднаснасці двух славянскіх народаў, але і блізкасці па супольнай працы.

За працяглую гісторыю (першая згадка ў пісьмовых крыніцах датуецца 1209 г.) Сваты Юр зазнаў росквіт і заняпад: у 1647 г. атрымаў статус свабоднага

каралеўскага горада, у 1663 і 1704 гг. быў знішчаны турэцкімі і венгерскімі войскамі, шмат разоў выгараў ад пажараў.

Размешчанасць Святога Юра на стратэгічных і гандлёвых шляхах, у зайздросна выгодных для гаспадарання ўмовах вымушала населены пункт быць някідкім па архітэктуры, прыземістым, не супернічаць у росце з вакольнымі Карпатамі. Веліччу вылучаюцца толькі касцёлы, большай часткай пабудаваныя ў XVII – XVIII стст.

Месцазнаходжанне горада прадвызначыла яго першачарговую далучанасць да некаторых выгод тэхнічнага прагрэсу: у 1840 г. першая чыгунка на славацкіх землях звязала Браціславу менавіта са Святым Юрам; спачатку вагон цягнулі дзве пары коней, а ў 1873 г. іх замяніў паравоз.

Сёння Святы Юр – прызнаны цэнтр вінаробства ў Славакіі і за яе межамі. Традыцыя вырошвання вінаграду і вырабу якасных напояў налічвае тут больш за 700 гадоў.

Менавіта мясцовае віно, а таксама народную музыку і спевы найперш нахвальвала дэлегацыя савецкіх пісьменнікаў і журналістаў 16 кастрычніка 1935 г. Па свежых слядах візіту гэта адзначала тагачасная славацкая прэса, зафіксавалі ў падарожных нататках Ганна Караваева [2] і Сяргей Траццякоў [3]. Рэтраспектыва некаторых святаюрскіх падзей прадстаўлена ў асобным раздзеле манаграфіі "Янка Купала ў Славакіі" [4, с. 43 – 54].

Мясцовы храніст Юрай Павэлэк зрабіў у "Памятнай кнізе горада Святы Юр" наступны запіс: *"Дня 16 кастр.[ычніка] меў Св.[яты] Юр ганаровы візіт: савецкіх журналістаў і пісьменнікаў, якія завіталі ў нашу рэспубліку. Іх подпісы ў гэтай кнізе на стар.[онцы] 35 увекавечаны.*

*Ад горада іх вітаў уладны камісар Антон Лёвенштайн. На прывітальнае слова адказаў старшыня дэлегацыі пісьменнік Аляксей Талстой. У іх гонар горад даваў банкет у гасцініцы Франц.[ыска] Ліярскага (каля евангел.[ісцкага] касцёла). Госці паглядзелі сярод іншага піўніцу ў Палфіцкім касцёле"* [5, с. 60].

Аляксей Талстой, прыняты святаюрскім хранiстам за старшыню, сапраўды вылучаўся сярод калег па пяры каларытнай паставай і, магчыма, пісьменніцкай вядомасцю ў еўрапейскіх краінах. У сапраўднасці, на чале дэлегацыі быў Міхаіл Кальцоў, як яго прэзентавалі ў той час у Савецкім Саюзе, – "журналіст № 1", адзін з найбольш уплывовых грамадска-культурных дзеячаў у сферы арганізацыі міжнароднага супрацоўніцтва. Старонка з аўтографамі гасцей, пра якую пісаў Ю. Павэлэк, у "Памятнай кнізе..." мае назву "Візіт савецкіх журналістаў у Св. Юры 16.X.1935" [5, с. 35].

У час працы над манаграфіяй аўтар гэтых радкоў, шукаючы і сістэматызуючы матэрыялы пра святаюрскі побыт савецкай дэлегацыі 16.10.1935 г., працаваў амаль выключна з браціслаўскімі архівамі. Вылучыць час на прыватную турыстычную паездку ў Святы Юр, дзе, як мне паведамілі, няма архіваў, было вялікай раскошай для даследчыка-энтузіяста. 23 чэрвеня 2015 г. надарылася магчымасць пабачыць горад на свае вочы. Для беларускай дэлегацыі быў арганізаваны прыём на самым высокім узроўні. Удзельнікаў праекта "Славацкімі шляхамі Янкі Купалы" вітаў у будынку магістрата, а потым суправаджаў у час экскурсіі па горадзе мэр (славацк. *primátor*) Святога Юра Шыман Габура (славацк. *Šimon Gabura*). Сустрэчы з кіраўніцтвам наступных гарадоў (Модры, Пешцян) пацвердзілі першае ўражанне ад святаюрскага знаёмства – перад намі былі прадстаўнікі

новай генерацыі славацкіх кіраўнікоў: сучасныя, крэатыўныя, адкрытыя да супрацоўніцтва.

Першым пунктам нашай цікавай, але абмежаванай у часе святаюрскай культурнай праграмы было наведанне самай старажытнай дастапомнасці горада – гатычнага касцёла Святога Юра XIII ст., які ўражвае сваёй строгай, някідкай знешняй прыгажосцю і ўнутраным афармленнем. Касцельны алтар 1527 г. з белага пясчаніку, як нам распавялі, – унікальная мастацкая работа ў маштабе ўсёй Цэнтральнай Еўропы. Вартымі яго прыгажосці сталі каляровыя вітражы, створаныя ў 1950 г. па эскізах вядомага мастака Янкі Алексы (славацк. *Janko Alexy*), між іншым, аднаго з новых знаёмых Янкі Купалы ў час візіту 1935 г.

Не меншае ўражанне зрабіла на ўсіх прысутных драўляная званіца XVII ст., а таксама звон 1400 г., паводле мясцовай легенды, закапаны ў час турэцкай захопніцкай навалы, а потым выпадкова знойдзены на пашы. Беларускі гімн “Магутны Божа…”, што імправізавана прагучаў на званіцы, быў даволі гарманічна і незвычайна эфектна падхоплены рэхам старажытнай медзі славацкага звона.

Удзельнікі праекта “Славацкімі шляхамі Янкі Купалы” засталіся эмацыйна захопленымі не толькі мастацкай аздобай фарнага касцёла, непараўнальнай цеплынёй старадаўніх бярвёнаў званіцы, але і натхнёным расповедам маладога святара, для якога гэта быў першы год пастырскай службы, а мы – першыя госці з далёкай і малазнаёмай Беларусі.

Старажытны гатычны храм – адмысловая архітэктурная візітоўка горада – не мог застацца абыдзеным увагай і ў кастрычніку 1935 г. Можна меркаваць, што тактоўныя арганізатары ад славацкага боку палічылі

за лепшае не правакаваць высокіх гасцей з атэістычнай краіны абавязковым аглядам культавай пабудовы, а госці – не акцэнтаваць увагу на гэтым у сваіх падарожных допісах.

Пра наведанне Янкам Купалам піўніцы Палфіцкага (ад імя фундатара Палфі) касцёла XVII ст. вядома пэўна і па пісьмовых крыніцах, і па фотаздымках. Туды на экскурсію адправілася і наша дэлегацыя. У вінных старадаўніх скляпеннях захоўваюцца бочкі, якія сёння ўжо не выкарыстоўваюцца ў вытворчасці напояў, а выконваюць ролю экспанатаў: розных памераў дубовыя ёмістасці, абпаленыя знутры ў адпаведнасці з тэхналогіяй надання святаюрскаму віну непаўторнага смаку і паху.

Вельмі цікавую, з дасціпным гумарам экскурсію для мінскіх гасцей правяла старшыня святаюрскага сельскагаспадарчага кааператыва Ганна Слезакава (славацк. *Anna Slezáková*), якая зусім не здзівілася нашай інфармацыі пра тое, што тут 80 гадоў таму быў беларускі пясняр Янка Купала. Маўляў, нічога дзіўнага, у нас пабывалі многія знакамітыя людзі з розных краін, і ўсім нашы віны прыйшліся даспадобы, а ў кастрычніку, калі тут гасцявала дэлегацыя пісьменнікаў і журналістаў з СССР, якраз час маладога віна. Зрэшты, аўтарытэт гістарычных падзей не адышоў на другі план, і ў якасці завяршальнай кропкі сустрэчы нам з гумарам было прапанавана пакаштаваць, відаць, спецыяльна прыпасены на гэты выпадак гатунак напою, – “архіўнае” віно.

Праверыць сцверджанне пані старшыні і пераканацца ў яго праўдзівасці нам надарылася на дэгустацыі ў святаюрскім рэстаране, дзе “прафесар вінных спраў”, як прадставіў шаноўнага кампетэнтнага самелье пасол

Мар'ян Сэрватка, падрабязна і захоплена распавёў пра шэраг гатункаў непаўторных мясцовых напояў.

Святаюрскія ўражанні ўдзельнікаў праекта "Славацкімі шляхамі Янкі Купалы", можна сказаць, найлепшым пазітыўным чынам супалі з эмоцыямі дэлегацыі 1935 г. – прынамсі, тымі, якія тэкстава засведчылі мясцовыя журналісты і ўдзельнікі падзей, візуальна зафіксавалі фотакарткі. Пра тое, што нацыянальны менталітэт, мова братняга славянскага народа асабліва прыйшліся да душы класіку беларускай літаратуры красамоўна гавораць здымкі. На адным з іх усе прысутныя зняты ў нязмушанай абстаноўцы з каларытным гаспадаром вінаградніку, чый патрэт намалявала Г. Караваева: "*…пажылы мужчына, худы і стройны, як юнак. На ім быў шыракаполы лямцавы капялюш і беласнежная кашуля, на якую звісалі доўгія запарожскія вусы*". Міхась Кальцоў зняты ў абдымках з селянінам, а Янка Купала (амаль заўсёды дыпламатычна стрыманы пры фатаграфаванні) паклаў сівавусаму гаспадару вінаградніку руку на плячо.

**Літаратура**


1. Трус, М. Берагіня гістарычнай памяці: Старонкі жыцця Людмілы Краскоўскай / М. Трус // Роднае слова. – 2009. – № 4. – С. 18 – 21.
2. Караваева, А. В стране гуситов. Дорожные дневники / А. Караваева // Молодая гвардия. – 1936. – № 9. – С. 30 – 53.
3. Третьяков, С. Страна-перекресток / С. Третьяков // Огонёк. – 1936. – № 21. – С.8 – 10.
4. Трус, М. Янка Купала ў Славакіі / М. Трус; навук. рэд. І. А. Чарота; уступ. слова М. Сэрваткі. – Мінск: Рэдакцыя часопіса "Роднае слова", 2012. – 176 с.
5. Pamätná kniha mesta Svätý Jur. Obecná kronika. – Diel I. Od 1. januára 1934 do 31. decembra 1946. – 500 s.



Старая вуліца Святога Юра. 1930-я гг.



Каля піўніцы Палфіцкага касцёла. Янка Купала чацвёрты злева на пярэднім плане. Святы Юр. 16.10.1935 г.



З гаспадаром вінаградніку. Янка Купала стаіць другі справа, праваруч ад яго – Ганна Караваева. 16.10.1935 г.



Урачысты абед у Святым Юры. 16.10.1935 г.

Návšteva sovětských novinárov v Sv. Juri 16. X. 1935 :

M Koltzov

Alexei Tolstoi

G. Vasilkovsky

V. Ossinsky

Janka Kupala

A. Fadejev

Olga Fandorová

Аўтографы гасцей у “Памятнай кнізе горада Святы Юр”.



Беларуская дэлегацыя на ўрачыстым прыёме ў мэра Святога Юра Шымана Габуры (у першым радзе трэці злева). 23.06.2015 г.




Абмен падарункамі ў мэрыі Святога Юра. Шыман Габура і Алена Ляшковіч.




Фарны касцёл у Святым Юры. Паштоўка. 1922 г.



Па дарозе да касцёла Святога Юра.



Людміла Рублеўская на драўлянай званіцы касцёла Святога Юра.



Беларуская дэлегацыя каля Палфіцкага касцёла.
Першая злева Ганна Слезакава.



У скляпах піўніцы Палфіцкага касцёла.
Алена Ляшковіч і Мар'ян Сэрватка.

# Модра і Людавіт Штур

Горад Модра, вядомы па пісьмовых крыніцах з XII ст., знаходзіцца за 30 *км* ад Браціславы – адзін з цэнтраў малакарпацкага вінаробства, вядомы адмысловай керамікай, адметны літаратурна-мастацкімі традыцыямі, апошні прытулак славацкага *будзіцеля* XIX ст. (у нашым кантэксце – *адраджэнца*) Людавіта Штура. Знаёмству з гэтым горадам быў прысвечаны роднасловаўскі артыкул аўтара гэтых радкоў [1] і спецыяльны раздзел манаграфіі "Янка Купала ў Славакіі" [2, с. 55 – 68].

У 1935 г. дэлегацыя савецкіх журналістаў і пісьменнікаў наведала Модру ў другой палове дня 16 кастрычніка. Гэта быў непрацяглы прыпынак з аглядам керамічнай майстэрні, сустрэчай з прадстаўнікамі мясцовых культурных арганізацый. Ад таго часу славацкі горад пабагацеў на дастапомнасці. У 1965 г. тут быў адкрыты музей Л. Штура. Маем надзею, што ў нядоўгім часе візіт беларускага песняра таксама будзе ўшанаваны памятным знакам.

Беларускую дэлегацыю, удзельнікаў міжнароднага праекта "Славацкімі шляхамі Янкі Купалы" 23 чэрвеня 2015 г. прымаў і суправаджаў мэр Модры спадар Юрай Петракавіч (славацк. *Juraj Petrakovič*). Як і 80 гадоў таму, была наведана керамічная майстэрня, дзе нас чакала змястоўная экскурсія, а таксама цудоўныя вырабы тутэйшых майстроў, якімі так захапляюцца замежныя госці.

Вялікую цікавасць і шчырае замілаванне выклікала галерэя народнага мастака Ігнаца Бізмаера (славацк. *Ignác Bizmayer*), што была адчынена ў 1994 г. у межах мерапрыемстваў міжнароднага кангрэса керамістаў. Народная стыхія і любоў да роднага краю, увасобленыя ў творах прызнанага славацкага майстра, гарманічна пераклікаюцца са

светапоглядам і ідэйна-эстэтычнымі дамінантамі літаратурнай творчасці першага народнага паэта Беларусі. Канцэптуальнасць тэматычных цыклаў керамікі І. Бізмаера як найлепш падкрэсліваецца інтэр'ернымі магчымасцямі круглай вартавой вежы XVII ст., у якой размешчана галерэя. У цэнтры і на сценах залаў экспануюцца работы сакральнай, *збойніцкай* тэматыкі, а таксама цыклы "Год на вінаградніку", "Вясельныя пары" і інш.

Гісторыя літаратурнай Модры звязана найперш з імем Людавіта Штура (славацк. *Ľudovít Štúr*; 1815 – 1856), публіцыста, паэта, кадыфікатара славацкай літаратурнай мовы. Штураўцы – так называецца пакаленне нацыянальных грамадска-культурных дзеячаў, якое гуртавалася вакол гэтай пасіянарнай асобы. У Модры дзейнічае Славацкі нацыянальны музей – Музей Людавіта Штура (*Slovenské národné múzeum – Múzeum Ľudovíta Štúra*). Дырэктар музея пані Вера Янчавічова (славацк. *Viera Jančovičová*) асабіста пазнаёміла беларускую дэлегацыю з экспазіцыяй музея славацкай керамічнай пластыкі і галерэяй Ігнаца Бізмаера.

Модранскі перыяд пісьменніка пачаўся ў 1853 г., ён пазначаны паэтычнай творчасцю, фальклярыстычнымі даследаваннямі, а таксама напісаннем палітычнага трактата "Славянства і свет будучыні" (*"Slovanstvo a svet budúcnosti"*), які называюць публіцыстычным тастаментам аўтара. Менавіта гэтую працу чакаў пакручасты выдавецкі і інтэрпрэтацыйны лёс. З мэтай пашырэння чытацкай аўдыторыі яна была напісана на нямецкай мове, па-славацку выйшла толькі ў 1993 г. і сёння суайчыннікамі ацэньваецца як "спрэчная Штурава праца" (Петэр Каша) [3, с. 37].

У Расіі трактат Л. Штура выйшаў у перакладзе на рускую мову яшчэ ў 1867 г. У прадмове гісторык-славіст

Уладзімір Ламанскі хваласпеўна прадставіў і аўтара, і плён яго працы: "…есть возможность Русским читателям ознакомиться с предсмертным произведением одного из благороднейших и даровитейших Славянских деятелей новейшего времени. Сочинение это с необычайною ясностью ставит и разбирает самые коренные и жгучие вопросы относительно всех Славянских племен без изъятия" [4, с. 1]. Ініцыятарам выдання не магла не імпанаваць тая адмыловая гістарычная місія, якую аўтар адводзіў Расіі і праваслаўю ў будучым дзяржаўным светаўпарадкаванні. Твор славацкага будзіцеля тыпалагічна ўзмацняў пазіцыі вядучых рускіх славянафілаў – Канстанціна і Івана Аксакавых, Івана і Пятра Кірэеўскіх, Міхаіла Пагодзіна, Аляксея Хамякова.

Выданне трактата Л. Штура было паўторана ў Расіі ў 1909 г. [5] – у перыяд новага ўздыму нацыянальна-вызваленчых рухаў народаў Еўропы. Таму можна меркаваць, што без знаёмства з ім не абыходзілася ні адно сур'ёзнае даследаванне славянскага пытання пачатку XX ст.

Увага да жыцця і творчасці Л. Штура ва ўсходнеславянскім кантэксце актуалізоўвалася ў сувязі з юбілейнымі датамі. Такім чынам убачыла свет перакладная кніга Уладзіміра Матулы [6], зборнік артыкулаў "Людавіт Штур і яго час" [7], падрыхтаваны Інстытутам славяназнаўства і балканістыкі РАН. У наш час фундаментальная, нацыятворчая місія будзіцеля факусуецца на вызначэнні: "Штур быў адным з прызнаных правадыроў славацкага нацыянальна-вызваленчага руху, арганічна звязанага з ключавым этапам гісторыі славацкага народа – кульмінацыйным перыядам фарміравання славацкай нацыі. Яго філасофскія і эстэтычныя погляды адыгралі важную ролю ў станаўленні нацыянальнай ідэалогіі славакаў" (Л. Смірноў) [7, с. 3].

Варта прыгадаць, што славацкая тэматыка наогул, асоба і творчасць нацыянальнага будзіцеля ў прыватнасці ўжо колькі гадоў як набылі трывалую ўвагу ў Беларусі, пасля-доўна разглядаліся на старонках часопіса "Роднае слова", у тым ліку ў фармаце міжнароднага навуковага супрацоўніцтва. Грамадска-культурная дзейнасць Л. Штура была прадстаўлена ў агляднай публікацыі, прысвечанай славацкаму рамантызму [8]. Дацэнт Прэшаўскага ўніверсітэта (Славакія) Петэр Каша прапанаваў беларускай аўдыторыі найноўшыя нацыянальныя інтэрпрэтацыі жыцця і творчасці класіка [3]; славацкаму чытачу даследчык прэзентаваў манаграфію кантэкстуальнага характару [9]. Лінгвістычныя погляды Л. Штура – аб’ект увагі кампаратыўных славістычных прац Вікторыі Ляшук [10; 11].

Сёння даследчыцкая ўвага да гісторыі беларуска-славацкіх культурных узаемадачыненняў акцэнтуе ўвагу найперш на нацыянальнай класіцы (адраджэнцтве / будзіцельстве), грамадска-культурнай дзейнасці Янкі Купалы і Людавіта Штура – несінхроннай у часавым вымярэнні, але выключнай па значнасці ў станаўленні нацыянальнай ідэалогіі, нацыятворчасці.

У 1935 г. дэлегацыя савецкіх журналістаў і пісьменнікаў наведала Модру напярэдадні 120-годдзя з дня нараджэння Л. Штура. У чэрвені 2015-га горад грунтоўна рыхтаваўся да 200-годдзя, пра што сведчылі маштабныя рамонтныя і рэстаўрацыйныя работы ў гістарычным цэнтры, старажытным гатычным касцёле XIV – XVII стст., самім музеі Л. Штура. Беларуская дэлегацыя ўрачыста ўшанавала памяць славацкага будзіцеля ўскладаннем кветак да надмагільнага помніка.

Вельмі цікавай і змястоўнай атрымалася сустрэча з мясцовай творчай інтэлігенцыяй. Супрацоўнікі музея Янкі Купалы наладзілі відэапрэзентацыю, прысвечаную

дзейнасці беларускай культурна-асветніцкай установы. Аўтар гэтых радкоў распавёў пра візіт 1935 г., свае модранскія ўражанні і архіўныя знаходкі. Таццяна Сівец чытала перастворыныя ёй па-беларуску вершы славацкіх аўтараў. Людміла Рублеўская і Анатоль Бутэвіч разважалі наконт сённяшняй запатрабаванасці гістарычнай прозы, сучаснага постмадэрнісцкага дыскурсу. З творчасцю модранскага пісьменніцкага асяродку і літаратурнай сітуацыяй у краіне наогул прысутых пазнаёмілі славацкія калегі. Дух народнай дыпламатыі, сяброўскую нязмушанасць атмасферы сустрэчы падтрымалі беларускія і славацкія народныя песні.

30 кастрычніка 2015 г. у мінскім Доме дружбы адбылася ўрачыстая вечарына "Гонар славацкага народа", прымеркаваная да 200-годдзя з дня нараджэння Людавіта Штура. Мерапрыемста адбылося па ініцыятыве Мікалая Труса, намесніка старшыні Таварыства дружбы "Беларусь – Славакія", загадчыка кафедры беларускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта (БДТУ), які прадставіў даклад з прэзентацыяй пра жыццё і творчасць Л. Штура, быў вядучым юбілейнай урачыстасці.

У вечарыне бралі ўдзел навукоўцы, выкладчыкі-славісты, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі: паэт і даследчык Сяргей Панізьнік, дацэнт кафедры славянскіх літаратур Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Алена Вострыкава, выкладчыкі кафедры агульнага і славянскага мовазнаўства БДУ Вера Немчакава (Славакія) і Павел Рааго, салістка Беларускай дзяржаўнай філармоніі Таццяна Матафонава, а таксама студэнты-славакісты філалагічнага факультэта БДУ: Вера Петрашкевіч, Аліса Волкава, Алеся Пісарчык, Дыяна Харытановіч. Інфармацыйную падтрымку мерапрыемству аказалі газета "СБ. Беларусь сегодня", часопіс "Роднае слова", афіцыйны сайт БДТУ.

**Літаратура**

1. Трус, М. Янка Купала і Людавіт Штур: рэха знаёмства са славацкай Модрай / М. Трус // Роднае слова. – № 3. – 2008. – С. 25 – 28.
2. Трус, М. Янка Купала ў Славакіі / М. Трус; навук. рэд. І. А. Чарота; уступ. слова М. Сэрваткі. – Мінск: Рэдакцыя часопіса "Роднае слова", 2012. – 176 с.
3. Каша, П. Постмадэрнісцкі вобраз славацкага / славянскага будзіцеля Людавіта Штура / П. Каша // Роднае слова. – 2009. – № 6. – С. 37 – 38.
4. Штур, Л. Славянство и мир будущего / Л. Штур // Издание императорского общества истории и древностей российских при Московском университете. – Москва: Университетская типография, 1867. – 191 с.
5. Штур, Л. Славянство и мир будущего / Л. Штур. – Изд. 2-е, с биографией Л. Штура и дополнительными примечаниями проф. Т. Д. Флоринского и портретом автора. – СПб.: Общество ревнителей русского исторического просвещения в память Императора Александра III, 1909. – 176 с.
6. Матула, В. Людовит Штур (1815 – 1856 гг.) / В. Матула; науч. ред. Л. Голотик, перев. со словац. Л. Матуловой. – Братислава: изд-во Словац. акад. наук., 1956. – 79 с.
7. Людовит Штур и его время : сборник статей / Рос. акад. наук, Ин-т славяноведения и балканистики. – М. : ИСБ, 1992. – 119 с.
8. Трус, М. Славацкі рамантызм / М. Трус // Роднае слова. – 2006. – № 2. – С. 19 – 22.
9. Káša, P. Medzi textami a kultúrami : Slovenská literature prvej polovice 19. storočia v stredoeurópskom kontexte / P. Káša. – Prešov: Filozofická fakulta Prešovskej university. 2011. – 194 s. (Acta Facultatis Philosophicae Universitatis Prešoviensis).
10. Ляшук, В. Апрацоўка празаічных фальклорных тэкстаў у аспекце моўнай канцэнтрацыі (на матэрыяле беларускай і славацкай моў) / В. Ляшук // Вестник МГЛУ. Серия 1. Филология. – 2006. – № 5. – С. 182 – 190.
11. Ляшук, В. Славістычная інтэрпрэтацыя катэгоры "жывая мова" ў тыпалагічным ракурсе / В. Ляшук // Slavistika v premenách času (štúdie z jazykovednej a literárnovednej komparatistiky): Zborník príspevkov z medzinárodnej vedeckej konferencie (23. – 24. apríla 2009 r., Prešovská univerzita v Prešove). – Prešov: Vydavatelstvo Prešovskej university, 2009. – S. 130 – 138. (Acta Facultatis Philosophicae Universitatis Prešoviensis).



Сустрэча дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў каля керамічнай майстэрні. Янка Купала трэці злева. Модра. 16.10.1935 г.



Беларуская дэлегацыя з мэрам г. Модры Юраем Петракавічам (сядзіць у першым радзе). 23.06.2015 г.



У керамічнай майстэрні.



Модранская
кераміка.



Вартавая вежа XVII ст., у якой размешчана галерэя Ігнаца Бізмаера.



Дырэктар музея Л. Штура Вера Янчавічова.



Тэматычны цыкл фігурнай керамікі "Год на вінаградніку" І. Бізмаера.



Экспазіцыйная зала музея Л. Штура з рэліквіямі ў шкляной шафе.




Музейная рэліквія: косць Л. Штура.





Изданіе Общества ревнителей русскаго историческаго просвѣщенія
ВЪ ПАМЯТЬ
Императора Александра III.
На средства фонда имени графа П. С. Строганова и И. П. Хрущова.

# СЛАВЯНСТВО И МІРЪ БУДУЩАГО.

ПОСЛАНІЕ СЛАВЯНАМЪ СЪ БЕРЕГОВЪ ДУНАЯ
ЛЮДЕВИТА ШТУРА.

ПЕРЕВОДЪ НЕИЗДАННОЙ НѢМЕЦКОЙ РУКОПИСИ, СЪ ПРИМѢЧАНІЯМИ
В. И. ЛАМАНСКАГО.

ВТОРОЕ ИЗДАНІЕ
съ біографіей Л. Штура и дополнительными примѣчаніями проф. Т. Д. Флоринскаго
и портретомъ автора
подъ редакціей К. Я. Грота и Т. Д. Флоринскаго.



С.-ПЕТЕРБУРГЪ.
1909.

Тытульная старонка трактата “Славянства і свет будучыні”
Л. Штура ў другім рускамоўным выданні. 1909 г.
З фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.



Кветкі ад беларускай дэлегацыі на магілу Л. Штура.

# Пешцяны

Горад Пешцяны (славацк. *Piešťany*) знаходзіцца за 86 *км* ад Браціславы; размешчаны на беразе ракі Ваг, найдаўжэйшай славацкай ракі. Сёння, як і тады, калі тут пабываў Янка Купала [1; 2, с. 69 – 88], горад найперш вядомы свету сваім курортам. У міжваенны перыяд славутыя пешцянскія купелі прынялі звыш 10 тыс. гасцей з розных еўрапейскіх краін, сярод іх былі такія выбітныя асобы, як спявак Рыхард Таўбер, актрыса Хені Портэн, кампазітар Франц Легар, пісьменніца Сельма Лагерлёф, мастак Альфонс Муха і інш.

У 1935 г., пагасцяваўшы ў Святым Юры і Модры, дэлегацыя савецкіх пісьменнікаў і журналістаў прыбыла ў Пешцяны ўвечары 16 кастрычніка. Афіцыйная сустрэча праходзіла ў зале гатэля “Thermia Palace”. Шаноўных гасцей прывітаў стараста горада, на прывітальныя словы адказаў кіраўнік дэлегацыі Міхаіл Кальцоў. Потым госці агледзелі дастапомнасці курортнага вострава. Заключнай кропкай візіту савецкай дэлегацыі стала вячэра, арганізаваная кіраўніцтвам курорта.

Нягледзячы на непрацягласць знаходжання дэлегацыі ў Пешцянах (усяго адзін вечар), славацкія журналісты, прываблёныя шырокай славай курорта, аддалі пешцянскаму гасцяванню асаблівую ўвагу. Асабліва шчыравалі ў абмалёўцы дэталяў кастрычніцкія нумары за 1935 г. газет “Ľudový denník”, “Slovenský deník”, “Slovenske narodne noviny”. Паводле допісаў, з тостамі на вячэры выступілі практычна ўсе прадстаўнікі савецкай дэлегацыі. Газета “Slovenske narodne noviny” між іншым пісала: *“На вячэры слова меў і паэт-беларус Янка Купала, якога ўгаварыць выступіць, як казалі астатнія ўдзельнікі, – гэта майстэрства”*.

Удзельнікі міжнароднага культурнага праекта “Славацкімі шляхамі Янкі Купалы” наведалі Пешцяны 24 чэрвеня 2015 г. Беларускую дэлегацыю прымаў у сваёй рэзідэнцыі мэр горада Мілаш Тамайка (славацк. *Miloš Tamajka*). Ідучы па слядах дыпламатычнай савецкай місіі 1935 г., мы наведалі Бальнеалагічны музей, а таксама мемарыяльную кватэру Івана Краскі, адчыненую для наведвальнікаў у 1976 г., якая знаходзіцца ў юрысдыкцыі названай культурна-асветніцкай установы.

Выбітны паэт, вядомы пад псеўданімам Іван Краска (славацк. *Ivan Krasko*, сапр. *Ján Botto*; 1876 – 1958), стала пасяліўся ў Пешцянах у 1943 г. У гісторыі літаратуры ён пазіцыянуецца як адзін з найбольш яркіх прадстаўнікоў Славацкай мадэрны – адмысловага пакалення творцаў канца XIX – пачатку XX ст., арыентаваных на кардынальнае абнаўленне паэтыкі нацыянальнай літаратуры [3; 4].

Славацкая мадэрна тыпалагічна блізкая да падобных з’яў у іншых славянскіх традыцыях азначанага часу; у назвах некаторых з іх таксама прысутнічае вызначальны наднацыянальны складнік *мадэрна* – Чэшская мадэрна, Славенская мадэрна, Млода Польска і інш. Агульныя кропкі перасячэння ідэйна-эстэтычных поглядаў Славацкай мадэрны і беларускай літаратуры нашаніўскага перыяду адлюстраваны ў мадэрнісцкіх творчых практыках, звязаных, найперш, з паэзіяй Я. Купалы, М. Багдановіча, З. Бядулі і інш.

Літаратуразнаўчым прэцэдэнтам кампаратыўнага даследавання дзвюх нацыянальных мастацкіх рэалізацый пачатку XX ст. можна назваць працу “Славацкая і беларуская літаратура ў кантэксце еўрапейскага сімвалізму” Пятра Васючэнкі [5], упершыню агучаную ў фармаце даклада на Міжнароднай навуковай канферэнцыі ў Прэшаўскім універсітэце ў 2000 г. У ёй у кантэкстуальным

бачанні, праз прызму тыпалагічных сыходжанняў і нацыянальна-аўтарскай спецыфікі, якраз і была разгледжана творчасць Івана Краскі і Янкі Купалы.

На творчым рахунку І. Краскі “мадэрнавага”, самага яркага перыяду творчасці два асноўныя паэтычныя зборнікі – “Nox et solitudo” (“Ноч і самота”, 1909) “Verše” (“Вершы”, 1912). Лёсам маладога паэта апекаваўся прызнаны майстра славацкай літаратуры Светазар Гурбан-Ваянскі [6]; заўзяты прыхільнік рускага мастацкага слова, ён паўплываў на выбар іменнай часткі псеўданіма свайго пратэжэ – Іван, дапамог выдаць першы зборнік І. Краскі, напісаў да яго прадмову. У новых грамадска-палітычных рэаліях пасляваеннага часу паэт захаваў свае аўтарытэтныя пазіцыі. У 1946 г. І. Краска быў уганараваны званнем *Národný umelec* (беларускі адпаведнік – народны паэт).

У пешцянскай мемарыяльнай кватэры паэта знаходзіцца бібліятэка, якая налічвае 1438 адзінак захоўвання. Тут багата прадстаўлена славацкая і замежная літаратура, творы рускіх пісьменнікаў XIX – першай паловы XX ст. [7, с. 13 – 91]. У каталогу кніжнага збору пад №№ 47 і 513 значацца дзве кнігі Ганны Караваевай, выдадзеныя ў 1953 г. у Браціславе на славацкай мове, – “Родны дом” (“Rodný dom”) і “Пачатак” (“Rozbeh”). Наяўнасць гэтых выданняў побач з агульнапрызнанай рускай літаратурнай класікай (Пушкіным, Дастаеўскім, Горкім, Маякоўскім і інш.), мяркуем, тлумачыцца той ідэалагічнай роляй, якую выконвала творчасць Г. Караваевай – удзельніцы савецкай пісьменніцкай місіі 1935 г., лаўрэата Сталінскай прэміі 1951 г. – у пасляваенных еўрапейскіх краінах “народнай дэмакратыі”.

Наступнымі пунктамі праграмы беларускай дэлегацыі былі сустрэча з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі ў гарадской бібліятэцы і адкрыццё выстаўкі “Славацкія

сустрэчы Янкі Купалы" Літаратурнага і музычнага музея Дзяржаўнай навуковай бібліятэкі ў Банскай Быстрыцы, што да гэтага ўжо неаднаразова экспанавалася ў Беларусі і Славакіі і выклікала жывую зацікаўленасць у гэтых краінах. Месца правядзення мерапрыемстваў – бібліятэка – не магло не зацікавіць спецыфікай арганізацыі сваёй прафесійнай дзейнасці, арыгінальным дызайнерскім рашэннем некаторых чытацкіх залаў, асабліва прызначаных для дзіцячай аўдыторыі.

Моцна ўразіў агляд пешцянскіх купеляў і шыкоўных апартаментаў гатэля "Thermia Palace", даступных у мінулым толькі абранай, арыстакратычнай публіцы, сёння пабываць тут – пытанне грошай і часу.

У саміх Пешцянах і на купельным востраве беражліва захоўваюць традыцыі, сведчанні гісторыі курортнага места. Аўтар гэтых радкоў пабываў тут у студзені 2007 г. і быў прыемна здзіўлены, як густоўна быў аформлены тэкст госця-энтузіяста, даследчыка з Беларусі на асобнай старонцы ў кнізе запісаў ганаровых гасцей, той самай, дзе паставілі свае аўтографы прадстаўнікі савецкай дэлегацыі (у іх ліку Янка Купала) у 1935 г. Цяпер там зафіксаваны наступны тэкст: *"Зачараваны і захоплены прыгажосцю Пешцянаў, шчырасцю і добразычлівасцю славакаў. Тут можна лекаваць не толькі цела, але і душу. Я шчаслівы, што давялося прайсці дарогамі і сцежкамі беларускага генія – Янкі Купалы, які наведаў гэтую блаславёную старонку ў 1935 годзе. Няхай многія гады пульсуе цудадзейная пешцянская вада, б'юць з-пад зямлі гаючыя крыніцы. Шчаслівы той народ, якому Бог падараваў такія дзівосы!*

*З паклонам ад Беларусі*
*дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта*
*Мікола Трус. 26.01.2007 г."*

Дырэктар “Thermia Palace” Ёзаф Провазка (славацк. *Josef Provázka*) ласкава дазволіў прысутным пагартаць старонкі яшчэ адной рэліквіі – першай кнігі запісаў, дзе ў 1917 г. пакінулі побач свае подпісы аўстрыйскі імператар Карл I, кайзер Германіі Вільгельм II і балгарскі цар Фердынанд I.

Зачараваныя гасціннасцю мясцовых жыхароў, эмацыйна захопленыя ўбачаным, мы, думаецца, трохі наблізіліся да адкрыцця таямніцы “гаваркосці” Я. Купалы ў Пешцянах. Беларуская дэлегацыя пакідала гэты славацкі горад і купельны востраў натнёная перспектывамі далейшага супрацоўніцтва.

**Літаратура**


1. Трус, М. “Угаварыць яго выступіць – гэта майстэрства”: Янка Купала ў Пешцянах / М. Трус // Роднае слова. – 2008. – № 4. – С. 15 – 19.
2. Трус, М. Янка Купала ў Славакіі / М. Трус; навук. рэд. І. А. Чарота; уступ. слова М. Сэрваткі. – Мінск : Рэдакцыя часопіса “Роднае слова”, 2012. – 176 с.
3. Felix, J. Ivan Krasko na pozadí francúzskeho symbolizmu // Literárne križovatky / J. Felix. – Bratislava, 1991. – S. 219 – 256.
4. Šmatlák, S. Dejiny slovenskej literatúry II (19. storočie a prvá polovica 20. storočia) / S. Šmatlák. – Bratislava, 2001. – 559 s.
5. Васючэнка, П. Славацкая і беларуская літаратура ў кантэксце еўрапейскага сімвалізму / П. Васючэнка // Slovensko-bieloruské jazykové, literárne a kultúrne vzťahy: Zborník príspevkov z medzinárodného vedeckého seminára (20. – 21. septembra 2000; Filozofická fakulta Prešovskej university v Prešove). – Prešov, 2003. – S. 57 – 64.
6. Трус, М. Светазар Гурбан-Ваянскі і Максім Багдановіч: Знаёмства славацкай і беларускай літаратур праз адзін твор / М. Трус // Роднае слова. – 2011. – № 4. – С. 8 – 13.
7. Krupa, V. Básnik Ivan Krasko a jeho knižnica / V. Krupa, M. Klčo. – Piešťany, 2006. – 109 s.



Савецкая дэлегацыя перад гатэлем “Thermia Palace”. Янка Купала ў другім радзе чацвёрты злева. 16.10.1935 г.



Абмен падарункамі. Алена Ляшковіч і Мілаш Тамайка.

Экскурсію па Бальнеалагічным музеі праводзіць дырэктар Уладзімір Крупа.





Мемарыяльны пакой паэта Івана Краскі.



Аляксандр Мацяс ацэньвае арыгінальнае афармленне адной з залаў пешчянскай бібліятэкі.



Перад уваходам на каланадны мост да купельнага вострава.



Вікторыя рэгія – далікатная госця з Паўднёвай Амерыкі, візітоўка купельнага вострава.



Гатэль “Thermia Palace”.



З дырэктарам гатэля “Thermia Palace” Ёзафам Провазкам (стаіць пасярэдзіне).



Першая Памятная кніга гатэля “Thermia Palace”.




Старонка Памятнай кнігі з аўтографамі Карла I, Вільгельма II, Фердынанда I. 1917 г.



За тэкстам памятнага запісу. Злева направа: Анатоль Бутэвіч, Людміла Рублеўская, Таццяна Сівец, Алена Ляшковіч.




Беларуская дэлегацыя перад гатэлем “Thermia Palace”. 24.06.2015 г.

# Ждзяр і Высокія Татры

Апошняй кропкай у праграме славацкага візіту савецкай дэлегацыі ў 1935 г. былі Высокія Татры – велічныя горныя вароты Славакіі. Дакладней гэта можна назваць шматкроп'ем: і па колькасці наведаных аб'ектаў, і па сцісласці інфармацыі ў тагачасным перыядычным друку, – што заўсёды інтрыгуе і пакідае месца для роздуму, заклікае да пошуку. Сёння не выяўлена ні аднаго здымка ці аўтографа, звязанага з апошнімі днямі славацкага побыту, у адрозненне ад даволі прадстаўнічай фактаграфіі папярэдніх прыпынкаў дэлегацыі ў розных гарадах краіны.

На гэтым этапе, уласна турыстычным, цалкам звязаным з адладжаным адпачынкам на ўлонні прыроды, умелі цаніць спакой гасцей. Дэлегацыю сустракалі і суправаджалі высокія чыноўнікі ад аздараўленчай індустрыі. Але, бадай, толькі адна газета захавала сваю "акрэдытацыю" на права асвятлення высакататранскага побыту – "Slovenský deník" [1].

Славацкае перыядычнае выданне падало пералік месцаў, якія 17 – 18 кастрычніка 1935 г. наведала дэлегацыя савецкіх журналістаў і пісьменнікаў. З населеных пунктаў гэта Татранская Ломніца, Ждзяр, Новы Смокавец, Дольны Смокавец, Вышнія Гагі; з прыродных дастапомнасцяў – Татранская котліна, Бельская пячора, Штрбскае плеса (возера); з ліку новабудоў – дарога Свабоды, Масарыкаў санаторый, Шробараў дзіцячы аздараўленчы цэнтр і інш.

Спынілася дэлегацыя ў гатэлі "Palace" ў Новым Смокаўцы. Тут адбылася і дэманстрацыя этнаграфічнай дакументальнай стужкі "Зямля спявае" К. Пліцкі.

Убачанае на экране дэталёва апісала Ганна Караваева; з занатаванага галоўным рэдактарам часопіса "Молодая гвардия": *"...дзявочая песня звініць і ліецца, сонца іскрыцца, звабліва шумяць веснавыя воды. Цяпло. Свята. Ідылія. Зямля спявае..."* [2, с. 16].

Віртуозы пяра з Савецкага Саюза глядзелі фільм на той час проста паспяховага рэжысёра, а з вышыні сённяшняга рэтраспектыўнага бачання – класіка жанру, прызнанага майстра "дакументальнай паэзіі".

Карал Пліцка (славацк. *Karol*, чэшск. *Karel Plicka*; 1894 – 1987) – славацкі і чэшскі рэжысёр, фатограф, фалькларыст. Адзін з заснавальнікаў Акадэміі музычных мастацтваў у Празе, народны мастак (*Národný umelec*, 1968) Чэхаславацкай рэспублікі .

Еўрапейская вядомасць і прызнанне прыйшлі да К. Пліцкі менавіта ў міжваенны перыяд. У 1920-я гг. ён стаў заснавальнікам архіва дакументальнай фатаграфіі ў Маціцы Славацкай, кожнае наступнае дзесяцігоддзе пазначана выхадам яго знакавых фотаальбомаў, прысвечаных дастапомнасцям славацкіх і чэшскіх земляў.

Дакументальная фільмаграфія К. Пліцкі прадстаўлена некалькімі стужкамі. Вехавай падзеяй у творчасці мастака стаў выхад карціны "Зямля спявае" ("Zem spieva", 1933), якая на біенале ў 1934 г. атрымала кубак Венецыі. Асновай дзеяння і галоўным героем у фільме стала вясковае жыццё з прыродным колабегам ад канца зімы да восені. У штодзённасці К. Пліцка ўбачыў адмысловы манументалізм, а таксама "шляхетнасць, вечную маладосць, вечнае жыццё славацкага люду" (Л. Баран).

18 кастрычніка 1935 г. падарожжа савецкай дэлегацыі працягвалася ў кірунку Мараўскай Астравы, Чэхіі

і вяртання на радзіму. А шматвектарная грамадская думка Славакіі, развярэджаная актуальнымі пытаннямі ўнутранай і знешняй палітыкі, яшчэ доўга віравала артыкуламі, рознымі ацэнкамі візіту. У тагачаснай бурлівай плыні чэхаславацкай публікацыйнай актыўнасці нам удалося "намыць" шчопцю архіўных залацінак, з іх найдаражэйшая – невядомае інтэрв'ю Я. Купалы, дадзенае 18 кастрычніка 1935 г. чэшскай газеце "Lidové noviny" і паўторанае праз два дні славацкай газетай "Ľudový denník" [3, с. 99 – 101].

На шляху факталагічнага ўзнаўлення тэмы "Янка Купала ў Славакіі", прадстаўленай у роднасловаўскай публікацыі [4] і манаграфіі аўтара гэтых радкоў [3, с. 89 – 106], вяршыні Высокіх Татраў былі ў свой час узяты толькі завочна, праз тагачасны перыядычны друк. У чэрвені 2015 г. надарылася магчымасць на свае вочы пабачыць многае з таго, што назіраў класік беларускай літаратуры і чым, можна меркаваць, не мог не захапляцца.

Беларуская дэлегацыя прыбыла ў Высокія Татры 25 чэрвеня 2015 г., спынілася ў гатэлі "Villa Krejza" ў Новым Смокаўцы. Першы татранскі візіт быў у гэты дзень у вёску Ждзяр, своеасаблівы музей пад адкрытым небам, дзе нас гасцінна прымаў староста Павал Бекеш (славацк. *Pavol Bekeš*).

Стагоддзямі жыхары вёсак Высокіх Татраў выжывалі ў суворых прыродных умовах. Велічныя краявіды радавалі вока, вабілі заможных паляўнічых, але малазямелле, халодны клімат прыносілі нястачу ў кожную мясцовую хату.

У 1920 – 1930-я гг. жыццё вёскі карэнным чынам мянялася, што было звязана з хуткі развіццём турыстычнай справы краю [5, с. 48 – 53]. На гэткім мадэрновым

пад'ёме і заспела Ждзяр у кастрычніку 1935 г. савецкая дэлегацыя, якой прыйшліся даспадобы і самабытная драўляная архітэктура, і адметныя народныя танцы.

Беларуская дэлегацыя ў 2015 г. мела даволі часу, каб уважліва пазнаёміцца з экспазіцыяй ждзярскага музея, прыняць удзел у інсцэніроўцы татранскага вяселля. Захопленыя з сабой беларускія строі хутка асвоіліся ў славацкай этнаграфічнай абстаноўцы, дастасаваліся да мясцовай каляровай гамы.

Сёння Высокія Татры – гэта не толькі назва горнага масіву, але і горада, які аб'яднаў некалькі населеных пунктаў. Мэр Высокіх Татраў Ян Мокаш (славацк. *Ján Mokoš*) 26 чэрвеня ўрачыста прымаў у сваёй рэзідэнцыі беларускую дэлегацыю. Вялася зацікаўленая гаворка пра сучасную арганізацыю турызму і адпачынку, высокіх гасцей горада (напрыклад, каралеву Англіі Елізавету II), мясцовыя дастапомнасці і перспектывы супрацоўніцтва. Дамінантай выступу мэра было выказванне, якое там заўсёды навідавоку і на слыху: "Tatry nás spájajú" ("Татры нас яднаюць").

Пасля афіцыйнага прыёму адбылася сустрэча з прадстаўнікамі мясцовай творчай інтэлігенцыі. Высокія Татры спарадзілі цікавы этнаграфічны феномен – *носіча*. Менавіта так называюцца людзі, якія на сабе дастаўляюць грузы ў цяжкадаступныя горныя раёны. Сёння гэта хутчэй спартыўнае спаборніцтва, а не прафесійны занятак, але татранскаму носічу прысвечана экспазіцыя аднаго з мясцовых музеяў, яго занятак шануецца як адна з цікавостак краю, у вывучэнні якой ёсць свае спецыялісты.

Завяршыў татранскі побыт беларускай дэлегацыі пад'ём канатнай дарогай на Скальнае плеса. У 1935 г. сюды яшчэ ўзыходзілі толькі альпіністы. Цяпер

з аглядных пляцовак высокіх гор адкрываюцца цудоўныя краявіды, крыштальна чыстая вада невялікага возера настройвае на сузіральны лад, роздум пра вечнае, заўсёдную прыцягальнасць слядоў мінулага і недасяжнасць вяршынь літаратурнай класікі… 27 чэрвеня беларуская дэлегацыя, перапоўненая славацкімі ўражаннямі, выправілася ў зваротны шлях.

Міжнародны культурны праект “Славацкімі шляхамі Янкі Купалы” завяршыўся, стварыўшы важны прэцэдэнт народнай дыпламатыі ў найноўшай гісторыі міжнацыянальных сувязей. Для ўдзельнікаў акцыі на карце Славацкай Рэспублікі цяпер не толькі геаграфічныя пазнакі населеных пунктаў, але і знаёмыя пульсоўныя кропкі, звязаныя з асабістымі эмоцыямі, а таксама імкненнем узнавіць мінулае, паяднанае з жыццём класіка беларускай літаратуры.

Першаснае справаздачнае падсумаванне вынікаў наступнае.

• У памяць пра традыцыю, закладзеную савецкай дэлегацыяй у 1935 г., у 2015-м у кожным населеным пункце была пакінута невялікая бібліятэчка беларускіх кніг.

• Адбыліся новыя знаёмствы, абмеркаваны перспектывы беларуска-славацкага культурнага супрацоўніцтва – і ўсё гэта адрасна, замацавана поціскам сяброўскіх рук.

• На ўзроўні кіраўніцтва славацкіх гарадоў атрымана папярэдняя згода на ўсталяванне памятных дошак і знакаў пра візіт Янкі Купалы ў 1935 г.

Папярэднія вынікі праекта былі калегіяльна і прадстаўніча абмеркаваны на круглым стале, які адбыўся ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы (мадэратар Людміла Рублеўская). Вынікі пасяджэння, у якім

бралі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, прадстаўлены на старонках газеты "СБ. Беларусь сегодня" [6].

Вельмі аўтарытэтна, вынікова падвялі рысу пад абмеркаваннем словы пасла Міністэрства замежных і еўрапейскіх спраў Славацкай Рэспублікі Мар'яна Сэрваткі: "Я пераканаўся, што калі нават невялікая група людзей нешта робіць ад усяго сэрца, з натхненнем, то яны робяць больш, чым цэлая структура. Я бачыў цудоўную рэакцыю славакаў на ваш праект. Прызнаюся, непакоіўся, што мае землякі не зразумеюць вашу прапанову аб усталяванні мемарыяльных дошак у памяць Купалы. Але ўсе прынялі!" [6, с. 13].

**Літаратура**

1. Cesta ruských novinárov a spisovateľov po Slovensku // Slovenský deník. – 18.10.1935. – S. 1.
2. Караваева, А. Земля поет / А. Караваева // Огонёк. – 1935. – № 36. – С. 16.
3. Трус, М. Янка Купала ў Славакіі / М. Трус; навук. рэд. І. А. Чарота; уступ. слова М. Сэрваткі. – Мінск: Рэдакцыя часопіса "Роднае слова", 2012. – 176 с.
4. Трус, М. На вастрыі палітыкі і дыпламатыі: Апошнія дні ў Славакіі. Забытае інтэрв'ю Янкі Купалы 1935 г. / М. Трус // Роднае слова. – 2008. – № 6. – С. 20 – 25.
5. Kollárová, Z. Dedičstvo goralov… Ždiar / Z. Kollárová [a kolektív]. – Ždiar, 2013. – 175 s.
6. Рублевская, Л. Имена, которые объединяют / Л. Рублевская // СБ. Беларусь сегодня. – 2015. – 30 кастр. – С. 12 – 13.



Драўлянае татранскае дойлідства. Высокія Татры. Ждзяр.



З старастам вёскі Ждзяр Павалам Бекешам (трэці справа).



Славацкае вяселле ў беларускім выкананні. Злева направа: Мікола Трус (малады), Вольга Пархімовіч (маладая), Алена Ляшковіч (сваццця), Аляксандр Мацяс (сват).



З мэрам г. Высокія Татры Янам Мокашам.



Беларуская дэлегацыя на Скальным плеса. Высокія Татры.

## СПІС ІЛЮСТРАЦЫЙ

С. 52. Мястэчка Сьвяты Юр. Панарама. Здымак 1920 – 1930-х гг. *Са збору М. Труса.*

Старая святаюрская вуліца. 1920 – 1930-я гг. *Са збору М. Труса.*

С. 53. Муніцыпальны дом у мястэчку Святы Юр. 1938 г.

На чыгунцы ў мястэчку Святы Юр. Янка Купала – у цэнтры групы, за Ганнай Караваевай. *З фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Першая публікацыя: Трус М. Памятнае гасцяванне ў славацкім мястэчку Святы Юр // Роднае слова. – 2008. – № 1. – С. 36 – 38.*

С. 54. Святаюрская ўрачыстая памятка. Янка Купала на пярэднім плане злева (у профіль, з капелюшом у руках). *З фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Першая публікацыя: Чарота І. Неспадзяваная рэтраспекцыя замежнай паездкі песняра // Культура. – 2007. – 1 – 7 верасня. – С. 20 – 22.*

С. 55. З гаспадаром вінаградніку. Янка Купала – стаіць другі справа. За сталом: першы справа – гаспадар вінаградніку, другі – Міхаіл Кальцоў, трэці – Петэр Ілямніцкі. *З фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Першая публікацыя: Чарота І. Неспадзяваная рэтраспекцыя замежнай паездкі песняра // Культура. – 2007. – 1 – 7 верасня. – С. 20 – 22.*

Абед у мястэчку Святы Юр. *З фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Першая публікацыя: Чарота І. Неспадзяваная рэтраспекцыя замежнай паездкі песняра // Культура. – 2007. – 1 – 7 верасня. – С. 20 – 22.*

С. 56. Тытульная старонка "Памятнай кнігі мястэчка Святы Юр". *Публікуецца ўпершыню.*

Аўтографы прадстаўнікоў дэлегацыі і славацкіх калег у "Памятнай кнізе мястэчка Святы Юр". *Першая публікацыя: Трус М. Памятнае гасцяванне ў славацкім мястэчку Святы Юр // Роднае слова. – 2008. – № 1. – С. 36 – 38.*

С. 57. Старонка "Памятнай кнігі мястэчка Святы Юр" з запісам пра наведванне дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў.

С. 66. Людавід Штур. 1840-я гг. Мастак Ёзаф Клеменс.

С. 67. Модранская гімназія XIX ст.

Памятная дошка на будынку Модранскай гімназіі.

С. 68. Сустрэча дэлегацыі каля модранскай керамічнай майстэрні. *Першая публікацыя: Чарота І. Неспадзяваная рэтраспекцыя замежнай паездкі песняра // Культура. – 2007. – 1 – 7 верасня. – С. 20 – 22.*

Модранская кераміка.

С. 69. Надмагільны помнік Л. Штуру. Скульптар Ёзаф Костка. *Фота М. Труса.*
Помнік на магіле Л. Штура. *Фотаздымак з газетнай публікацыі 1935 г.*

С. 70. Помнік Людавіту Штуру і яго паплечнікам. Скульптар Фрыца Моташка. *Фота М. Труса.*

С. 71. Музей Л. Штура ў Модры. *Фота М. Труса.*
Мемарыяльны пакой Л. Штура ў музеі пісьменніка. *Фота М. Труса.*

С. 83. Чалавек, які ломіць кастыль. Скульптурная выява перад каланадным мостам. Сучасны выгляд.
Каланадны мост пра раку Ваг. Сучасны выгляд.

С. 85. *Альфонс Муха.* Слаўся, добраславёная крыніца здароўя!
Інтэр’ер рэстарана гатэля “Termia Palace”. Пачатак 1930-х гг.
*Янка Алексы.* Горцы (Hôrni chlapci). 1927 г. *Публікуецца па выданні “Slovenská moderna. Maliarstvo 20. a 30. rokov” (Bratislava, 1991).*

С. 86. Урачысты здымак перад гатэлем “Termia Palace”. У першым радзе сядзяць (злева направа): Л. Вінтэр, Г. Васількоўскі, М. Кальцоў, А. Талстой, М. Остэн (жонка М. Кальцова), Г. Караваева, С. Траццякоў. За С. Траццяковым стаіць Я. Алексы. У трэцім радзе другі злева Э. Шандар, Янка Купала – у другім радзе ў цэнтры, за А. Талстым. *З фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Першая публікацыя: газета “Slovenský deník” (22.10.1935).*
Гатэль “Termia Palace”. Сучасны выгляд. *Фота М. Труса.*

С. 87. Урачыстая вячэра ў рэстаране гатэля “Termia Palace”. Янка Купала ў глыбіні залы на другі бок стала. Леваруч ад яго Г. Вамаш і Г. Васількоўскі (чытае). *З фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Першая публікацыя: Чарота І. Неспадзяваная рэтраспекцыя замежнай паездкі песняра // Культура. – 2007. – 1 – 7 верасня. – С. 20 – 22.*
Гатэль “Slovan” (былы “Grand Hotel Royal”). Сучасны выгляд.

С. 88. «Памятная кніга гатэля “Termia Palace”». *Публікуецца ўпершыню.*
Аўтограф Фёдара Шаляпіна ў «Памятнай кнізе гатэля “Termia Palace”». *Публікуецца ўпершыню.*

С. 89. Тытульная старонка «Памятнай кнігі гатэля “Termia Palace”», афармленая Вольгай Масарыкавай, дачкой першага прэзідэнта Чэхаславацкай Рэспублікі Томаша Гарыка Масарыка. 1928 г. *Публікуецца ўпершыню.*

С. 90. Аўтографы дэлегацыі ў «Памятнай кнізе гатэля "Termia Palace"». *Першая публікацыя: Трус М. "Угаварыць яго выступіць – гэта майстэрства : Янка Купала ў Пешцянах // Роднае слова. – 2008. – № 4. – С. 15 – 19.*

С. 91. Эдуард і Гана Бенешы. 1934 г.
Аўтографы Эдуарда і Ганы Бенешаў у «Памятнай кнізе гатэля "Termia Palace"». *Публікуецца ўпершыню.*

С. 105. Пастух-русін. Кадр з фільма "Зямля спявае". (Рэжысёр К. Рыцка).
Штрбскае плеса.

С. 106. Ждзяр. Сучасны выгляд.
Санаторныя будынкі ў Новым Смокаўцы. Сучасны выгляд.

С. 107. Палітычная карыкатура "Голуб міру" ("Nastup", 1935, № 3).

С. 108. Старонка з інтэрв'ю Янкі Купалы.
Янка Купала. "Lidové noviny". 17 кастрычніка 1935 г.

С. 109. Дэлегацыя савецкіх журналістаў і пісьменнікаў на мінскім вакзале. *"ЛіМ", кастрычнік 1935 г.*
Дэлегацыя савецкіх журналістаў і пісьменнікаў. Чэхаславакія, 1935 г. *З фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Публікуецца ўпершыню.*

С. 120. Гана Грэгарава з дачкой Дагмар. 1935 г.
Ян Понічан. 1930-я гг.

С. 121. Гейза Вамаш. 1930-я гг.
Гейза Вамаш, Гана Грэгарава, Ціда Ё. Гашпар. 1930-я гг.

С. 137. Эла Шандар.
Вокладка кнігі "Вопыт падарожжа па СССР" Элы Шандара. 1936 г.

С. 138. Вольга Шандарава. 1935 г.
Вольга Шандарава-малодшая. 1935 г.

С. 139. Старонка ўспамінаў Вольгі Шандаравай пра Янку Купалу. *З фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Публікуецца ўпершыню.*

С. 140. Уладзіслава Луцэвіч, палкоўнік Зубараў, Анастасія Дзятлоўская. Сочы, 1953 г. *З фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Публікуецца ўпершыню.*

С. 150. Тытульная старонка часопіса "Браціслава – Масква".

С. 162. Якуб Колас і Янка Купала. 1935 г. *З фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.*

С. 163. Асабістыя рэчы паэта. *Фрагмент экспазіцыі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.*

С. 164. Янка Купала 1935 г.
1935 год у жыцці і творчасці песняра. *Фрагмент экспазіцыі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.*
С. 174. Прамова Пасла Славакіі Мар'яна Сэрваткі.
С. 175. Выступае прафесар Іван Чарота.
Паэтычнае слова Навума Гальпяровіча.
С. 176. Аўтограф для Ганны Запартыкі.
Уважлівыя калегі. На пярэднім плане: Вікторыя Ляшук, Алена Вострыкава, Уладзімір Кулаковіч.
С. 187. Францішак Рут Ціхі. 1930-я (?) гг. *З фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.*
С. 188. Першы том Збору твораў Янкі Купалы 1925 г. з дарчым подпісам аўтара прафесару Францішку Ціхаму.
С. 189. Другі том Збору твораў Янкі Купалы 1926 г. з дарчым подпісам аўтара прафесару Францішку Ціхаму.
С. 190. Францішак Рут Ціхі. Фотаздымак з дарчым подпісам Міколу Шыманку. 1964 г. *З фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.*
С. 202. Вокладка манаграфіі "Янка Купала ў Славакіі" Міколы Труса. 2012 г.
С. 203. Вокладка буклета "Славацкімі шляхамі Янкі Купалы". 2015 г.
Удзельнікі міжнароднага праекта "Славацкімі шляхамі Янкі Купалы" на плошчы Гвездаслава ў Браціславе. 22.06.2015 г.
С. 213. Прадстаўнікі дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў і журналістаў на дунайскай прыстані ў Браціславе, 16.10.1935 г.
Беларуская дэлегацыя на дунайскай прыстані Браціславы, 22.06.2015 г.
С. 214. Беларуская дэлегацыя разам са старшынёй Саюза славацкіх пісьменнікаў Міраславам Белікам (трэці злева) перад Прымацыяльным палацам.
Габеленавая зала Прымацыяльнага палаца ў Браціславе.
С. 215. Даследчык Мікола Трус і віцэ-мэр Браціславы Івета Плшэкава.
З прывітальным словам выступае старшыня Саюза славацкіх пісьменнікаў Міраслаў Белік, перакладае Наталля Корына.
С. 216. У кулуарах Саюза славацкіх пісьменнікаў. Злева направа: даследчык Мікола Трус, лектар Алена Калечыц, пісьменнік Анатоль Бутэвіч, пасол Уладзімір Серпікаў.
Выступае славацкі і ўкраінскі пісьменнік Сяргей Макара.
С. 217. Вокладка зборніка "Узаемнае спазнанне культурных каштоўнасцей: Беларусь і Славакія". 2015 г.

С. 224. Старая вуліца Святога Юра. 1930-я гг.
Каля піўніцы Палфіцкага касцёла. Янка Купала чацвёрты злева на пярэднім плане. Святы Юр. 16.10.1935 г.
С. 225. З гаспадаром вінаградніку. Янка Купала стаіць другі справа, праваруч ад яго. – Ганна Караваева. 16.10.1935 г.
Урачысты абед у Святым Юры. 16.10.1935 г.
С. 226. Аўтаграфы гасцей у "Памятнай кнізе горада Святы Юр".
С. 227. Беларуская дэлегацыя на ўрачыстым прыёме ў мэра Святога Юра Шымана Габуры (у першым радзе трэці злева). 23.06.2015 г.
Абмен падарункамі ў мэрыі Святога Юра. Шыман Габура і Алена Ляшковіч.
С. 228. Фарны касцёл у Святым Юры. Паштоўка. 1922 г.
Па дарозе да касцёла Святога Юра.
С. 229. Людміла Рублеўская на драўлянай званіцы касцёла Святога Юра.
Беларуская дэлегацыя каля Палфіцкага касцёла. Першая злева Ганна Слезакава.
С. 230. У падвалах піўніцы Палфіцкага касцёла. Алена Ляшковіч і Мар'ян Сэрватка.
С. 237. Сустрэча дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў каля керамічнай майстэрні. Янка Купала трэці злева. Модра. 16.10.1935 г.
Беларуская дэлегацыя з мэрам г. Модры Юраем Петракавічам (сядзіць у першым радзе). 23 чэрвеня 2015 г.
С. 238. У керамічнай майстэрні.
Модранская кераміка.
С. 239. Вартавая вежа XVII ст., у якой размешчана галерэя Ігнаца Бізмаера.
Дырэктар музея Л. Штура Вера Янчавічова.
Тэматычны цыкл фігурнай керамікі "Год вінаградніку" І. Бізмаера.
С. 240. Экспазіцыйная зала музея Л. Штура з рэліквіямі ў шкляной шафе.
Музейная рэліквія: косць Л. Штура.
С. 241. Тытульная старонка трактата "Славянства і свет будучыні" Л. Штура ў другім рускамоўным выданні. 1909 г. *З фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.*
С. 242. Кветкі ад беларускай дэлегацыі на магілу Л. Штура.
С. 248. Савецкая дэлегацыя перад гатэлем "Thermia Palace". Янка Купала ў другім радзе чацвёрты злева. 16.10.1935 г.
С. 249. Абмен падарункамі. Алена Ляшковіч і Мілаш Тамайка.

Экскурсію па Бальнеалагічным музеі праводзіць дырэктар Уладзімір Крупа.

С. 250. Мемарыяльны пакой паэта Івана Краскі.
Аляксандр Мацяс ацэньвае арыгінальнае афармленне аднoй з залаў пешцянскай бібліятэкі.

С. 251. Перад уваходам на каланадны мост да купельнага вострава.
Вікторыя рэгія – далікатная госця з Паўднёвай Амерыкі, візітоўка купельнага вострава.

С. 252. Гатэль “Thermia Palace”.
З дырэктарам гатэля “Thermia Palace” Ёзафам Провазкам (стаіць пасярэдзіне).

С. 253. Першая Памятная кніга гатэля “Thermia Palace”.
Старонка Памятнай кнігі з аўтографамі Карла I, Вільгельма II, Фердынанда I. 1917 г.

С. 254. За тэкстам памятнага запісу. Злева направа: Анатоль Бутэвіч, Людміла Рублеўская, Таццяна Сівец, Алена Ляшковіч.
Беларуская дэлегацыя перад гатэлем “Thermia Palace”. 24 чэрвеня 2015 г.

С. 261. Драўлянае татранскае дойлідства. Ждзяр.
З старастам вёскі Ждзяр Павалам Бекешам (трэці справа).

С. 262. Славацкае вяселле ў беларускім выкананні.
З мэрам г. Высокія Татры Янам Мокашам.

С. 263. Беларуская дэлегацыя на Скальным плеса ў Высокіх Татрах.

## РЭГІСТР СЛАВАЦКІХ ПЕРЫЯДЫЧНЫХ ВЫДАННЯЎ 1935 года

Зыходнай інфармацыйнай базай для стварэння рэгістра славацкай перыёдыкі міжваеннага перыяду паслужыла даведачнае выданне "Бібліяграфія славацкіх і іншамоўных газет і часопісаў 1919 – 1938 гадоў"*. Прыведзеныя ў выданні звесткі ўдакладнены пры непасрэднай працы аўтара манаграфіі з газетамі і часопісамі па прынцыпе "дэ візу".

Складальнікамі згаданага выдання вылучаны тры тэматычныя раздзелы: І. Пралетарскія і камуністычныя газеты і часопісы ў Славакіі ("Robotnícke a komunistické noviny a časopisy na Slovensku"); ІІ. Газеты і часопісы рэфармісцкіх і буржуазных партый ("Noviny a časopisy reformistických a buržoáznych strán"); ІІІ. Часопісы эканамічныя, літаратурныя, навуковыя і іншыя ("Časopisy hospodárske, literárne, vedecké a iné.").

У падборы інфармацыі не спатрэбілася рабіць папраўку на ідэалагічныя дамінанты сацыялістычнага часу. Нягледзячы на вонкавыя камуністычныя прыярытэты, даведачнае выданне 1968 года падае неабходную аб'ектыўную інфармацыю.

Мы палічылі лагічным вылучыць два раздзелы. У першым прадстаўлена інфармацыя пра выданні, публікацыі якіх цытуюцца ў манаграфіі. Менавіта на старонках гэтых газет і часопісаў праходзіла найбольш падрабязнае і паслядоўнае асвятленне візіту савецкіх журналістаў і пісьменнікаў, вяліся спароджаныя ім дыскусіі. Таму інфармацыйныя блокі ў дадзеным выпадку маюць пашыраны фармат, уключаюць звесткі пра галоўных рэдактараў (рэдактараў, уласнікаў, выдаўцоў) выданняў у 1935 годзе.

У другім раздзеле пададзены поўны спектр грамадска-палітычных выданняў, а таксама перыёдыкі, арыентаванай на асвятленне культурнага, навуковага, рэлігійнага жыцця Славакіі згаданага часу.

Агульныя для раздзелаў прынцыпы: захаванне аўтэнтычнай назвы, а таксама назвы падзагалоўка перыядычнага выдання (даецца пераклад на беларускую мову), падача звестак пра выдаўцоў (партыя, таварыства, аб'яднанне і г. д.), часавая лакалізацыя выхаду газеты ці часопіса.

---

*Bibliografia slovenských a inorečových novín a časopisov z rokov 1919 – 1938. Zostavili Mária Kipsová a kolektiv, predhľad napísala Elena Jakešová. – Vydala Matica slovenská v Martine, 1968. – 1088 s.

Раздзел I

"Ľudový denník" (1933 – 1936), газета камуністычнай партыі Чэхаславакіі (выходзіла без падзагалоўка). Пад такой назвай выданне ўбачыла свет 15 ліпеня 1933 г., пераняўшы эстафету ад леварадыкальнага штотыднёвіка "Pravda chudoby". Выдавец і рэдактар – Штэфан Маяр (Štefan Major).

"Nástup", часопіс "маладой славацкай аўтаномнай генерацыі" (časopis "mladej slovenskej autonomistickej generácie"; 1933 – 1938). Адказны рэдактар, уласнік і выдавец – Ян Дзюрчанскі (Ján Ďurčanský).

"Robotnícke noviny", газета чэхаславацкай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі ў Славакіі (denník československej sociálne demokratickej strany robotníckej na Slovensku; 1919 – 1938). Галоўны рэдактар – Францішак Зімак (František Zimák).

"Slovák", палітычны і грамадскі штотыднёвік (politický a spoločenský týždenník; 1919 – 1938). Орган Славацкай народнай партыі Андрэя Глінкі (Hlinkova slovenská ľudova strana). Галоўны рэдактар – Карал Сідар (Karol Sidor).

"Slovenská politika", орган Рэспубліканскай земляробчай партыі (Аграрная партыя) (organ Republikánskej zemedelskej strany, Agrárna strana; 1921 – 1938). Галоўны рэдактар – Францішак Вотруба (František Votruba). Адказныя рэдактары – Францішак Весе-лы (František Veselý) і Францішак Вотруба (František Votruba).

"Slovenský deník"*, орган Славацкай нацыянальнай рады (organ Slovenskej národnej rady; 1918 – 1938). Галоўны рэдактар – Карал Гушак (Karol Hušek).

"Slovenský robotník" (1933 – 1938), газета Славацкага хрысціянска-сацыяльнага прафсаюзнага аб'яднання (Slovenské kresťansko-sociálne odborové sdruženie). Галоўны рэдактар – Руда Чавайскі (Rudo Čavojský).

"Zprávy mesta Bratislavy" (1924 – 1938), дзяржаўны часопіс рэгіянальнага характару, муніцыпальнае выданне Браціславы. Назва дубліравалася на нямецкай і венгерскай мовах. Выдавец – рада горада Браціславы. Галоўны рэдактар – Ёзаф Скалскі (Jozef Skalský).

Раздзел II

"Ľudová politika", газета чэхаславацкай народнай партыі (denník čsl. strany ľudovej; 1925 – 1938).

"Ľudový denník", часопіс славацкага працоўнага народа (časopis slovenského pracujúceho ľudu; 1933 – 1936).

---

*Паводле сучаснага славацкага правапісу – "Slovenský denník".

“Ľudový chýrnik”, штотыднёвік “Ľudovej politiky” (týždenník “Ľudovej politiky”; 1926 – 1938).

“Munkás”, газета чэхаславацкай камуністычнай партыі. Выходзіла на венгерскай мове (a Kommunisták Csehszlovákiai pártjának hetilapja; 1922 – 1937).

“Národný socialista”, арганізацыйны веснік чэхаславацкай народна-сацыялістычнай партыі Славакіі (organizačný vestník čsl. strany národne-socialistickej pre Slovensko; 1933 – 1935).

“Národný týždenník”, незалежны палітычны і грамадскі штотыднёвік (neodvislý politický a spoločenský týždenník; 1929 – 1938).

“Pravda chudoby”, штотыднёвік славацкага працоўнага народа (týždenník slovenského pracujúceho ľudu; 1932 – 1935).

“Rozsievač”, набажэнскі часопіс баптыстаў (náboženský časopis baptistov; 1919 – 1938).

“Rozvoj”, часопіс навучэнцаў сярэдніх школ (časopis stredoškolských študentov; 1923 – 1938).

“Slovák na stráži”, народны двухтыднёвік (ľudový dvojtýždenník; 1932 – 1936).

“Slovenská pravda”, грамадскі, эканамічны і палітычны штотыднёвік Усходняй Славакіі (spoločenský, hospodársky a politický týždenník východného Slovenska; 1920 – 1936).

“Slovenská reč”, месячнік пытанняў літаратурнай мовы (mesačník pre záujmy spisovného jazyka; 1932 – 1938).

“Slovenská tribúna”, непартыйны двухтыднёвік (politicky nestranný dvojtýždenník; 1933 – 1938).

“Slovenská vlasť”, цэнтральны часопіс Славацкага земляробчага таварыства (ústredný časopis Slovenskej Roľníckej Jednoty; 1919 – 1938).

“Slovenské mlynárské noviny”, галіновы орган Саюза дробных млынароў Славакіі і Падкарпацкай Русі (úradný organ Svätu malomlynárov pre Slovensko a Podkarpatskú Rus; 1925 – 1938).

“Slovenské národné noviny”, незалежная газета (nezávislý denník; 1935 – 1936).

“Slovenské pohľady”, літаратурна-мастацкі часопіс (časopis pre literature a umenie; 1919 – 1938).

“Slovenský doplomatár”, дадатак да “Sborníka muzealnej slovenskej spoločnosti” (príloha “Sborníka muzealnej slovenskej spoločnosti”; 1931 – 1935).

“Zprávy katolíckej školskej rady na Slovensku”, набажэнскі рымска-каталіцкі часопіс для моладзі (náboženský rim.-kat. časopis pre mládež; 1929 – 1936).

«Zprávy pre vodcov “Sdruženia kat. mládeže na Slovensku”», дадатак да часопіса “Zprávy katolíckej školskej rady na Slovensku” (príloha k “Zprávam katolíckej školskej rady na Slovensku”; 1935 – 1936).

## ІМЕННЫ ПАКАЗАЛЬНІК

## АСНОЎНЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ *МІКОЛЫ ТРУСА* Ў ГАЛІНЕ БЕЛАРУСКА-СЛАВАЦКІХ ЛІТАРАТУРНЫХ, КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЕЙ


1. Грамадска-культурная чыннасць беларускай і расійскай эміграцыі ў Чэхаславакіі. 1921 – 1938 : Каталог. Выстава ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі (27 мая – 3 ліпеня 2002 г.) / Нацыянальны цэнтр па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Федэральная архіўная служба Расіі; склад. : Т. Р. Воранава, А. М. Гесь, Н. П. Дзюба, Г. В. Запартыка [і інш.]. – Мінск, 2002. – 87 с. [Матэрыялы са збору М. Труса: паштоўка з выявай Студэнцкага дома ў Празе (1920-я гг.); паштоўка з выявай студэнцкай сталоўкі ў Празе (1920-я гг.); кніга ўспамінаў Людмілы Краскоўскай на ўкраінскай мове "З давніх часів" (Славакія, Прэшаў, 1999); фотаздымак паэта Уладзіміра Жылкі (1922); фотаздымак Людмілы Краскоўскай (1932) і інш.]
2. Людміла Краскоўская : жыццё і дзейнасць на беларуска-ўкраінска-славацкім культурным памежжы // Slovensko-bieloruské jazykové, literárne a kultúrne vzťahy : Zborník príspevkov z medzinárodného vedeckého seminára, 20. – 21. Septembra 2000 // Acta facultatis philosophicae universitatis prešoviensis : Literárnovedný zborník 15. – Prešov, 2003. – S. 84 – 89.
3. 100-я ўгодкі "Славацкай Нестаркі" // Беларусы ў свеце : бюлетэнь інфармацыйнага цэнтра МГА «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"». – 2004. – № 7 (ліпень). – С. 8.
4. *Андрэй Сладковіч*. З паэмы "Марына" : пераклад са славацкай М. Труса // Роднае слова. – 2006. – № 2. – С. 22.
5. *Ян Бота*. З паэмы "Смерць Яношыка" : пераклад са славацкай М. Труса // Роднае слова. – 2006. – № 2. – С. 22.
6. Беларуская прысутнасць у міжваеннай Чэхаславакіі праз прызму аднаго лёсу (да 100-годдзя з дня нараджэння Людмілы Краскоўскай) // Дыяспара. Культуралогія. Гісторыя : матэрыялы IV Міжнароднага кангрэса беларусістаў "Беларуская культура ў кантэксце культур еўрапейскіх краін" (Мінск, 6 – 9 чэрвеня 2005 г.) / пад рэд. А. Мальдзіса, А. Смаленчука. – Мінск : Рэд. газ. "Голас Радзімы", 2006. – 360 с. (Беларусіка=Albaruthenika; кн 28). – С. 63 – 67.
7. Prvé preklady Vajanského v Bielorusku (Первые переводы Ваянского в Беларуси) // Významové a výrazové premeny v umení 20. storočia : Materiály z medzinárodnej vedeckej konferencie, ktorá sa uskutočnila v dňoch 8.-9.9.2005 na Filozofickej fakulte Prešovskej univerzity v Prešove; Acta facultatis philosophicae

unversitatis Prešoviensis : Literárnovedný zborník 16 (AFPh UP 119/201). – Prešov, 2005. – S. 483 – 487.
8. Славацкі рамантызм // Роднае слова. – 2006. – № 2. – С. 19 – 22.
9. Янка Купала ў Славакіі. Пачатак знаёмства // Роднае слова. – 2007. – № 4. – С. 76 – 78.
10. Браціслава вітае ганаровых гасцей // Роднае слова. – 2007. – № 10. – С. 79 – 83.
11. Янка Купала ў Славакіі ў 1935 г. // Slovensko-slovanské jazykové, literárne a kultúrne vzťahy : Zborník príspevkov z medzinárodnej vedeckej konferencie 4. – 7. Októbra 2006; Acta facultatis philosophicae unversitatis Prešoviensis : Slavistický zborník 6 (AFPhUP 163/245). – Prešov, 2007. – S. 424 – 431.
12. Памятнае гасцяванне ў славацкім мястэчку Святы Юр // Роднае слова. – 2008. – № 1. – С. 36 – 38.
13. Янка Купала і Людавіт Штур : Рэха знаёмства са славацкай Модрай // Роднае слова. – 2008. – № 3. – С. 25 – 28.
14. "Угаварыць яго выступіць – гэта майстэрства" : Янка Купала ў Пешцянах // Роднае слова. – 2008. – № 4. – С. 15 – 19.
15. На вастрыі палітыкі і дыпламатыі : Апошнія дні ў Славакіі. Забытае інтэрв'ю Янкі Купалы 1935 г. // Роднае слова. – 2008. – № 6. – С. 20 – 25.
16. Славацкія сустрэчы Янкі Купалы : Гана Грэгарава, Ян Поні-чан, Гейза Вамаш // Роднае слова. – 2008. – № 8. – С. 18 – 21.
17. Славацкія сустрэчы Янкі Купалы : Сям'я Шандар // Роднае слова. – 2008. – № 9. – С. 21 – 26.
18. Навуковы падрахунак беларусістыкі ў Славакіі : рэцэнзія // Роднае слова. – 2008. – № 9. – С. 44.
19. Янка Купала і беларуская тэматыка на старонках славацкага часопіса "Браціслава – Масква" // Роднае слова. – 2008. – № 11. – С. 19 – 21.
20. Некаторыя падрахункі паездкі Янкі Купалы па Чэхаславакіі ў 1935 г. // Роднае слова. – 2008. – № 12. – С. 15 – 18.
21. Янка Купала ў Славакіі ў 1935 г. : матэрыялы перыёдыкі, архіўных крыніц // Пра час "Узвышша" : матэрыялы Узвышаўскіх чытанняў (Мінск, 2007). Вып. 4 / уклад. Г. В. Запартыка, У. Г. Кулажанка; навук. рэд. М. І. Мушынскі. – Мінск : РІВШ, 2008. – С. 95 – 102.
22. Беларуская прысутнасць у міжваеннай Чэхаславакіі : у дадатак да Пражскага эпісталярыю // Роднае слова. – 2009. – № 2. – С. 75 – 77.
23. Падзвіжніцкія шляхі роду Краскоўскіх : разгорнуты каментарый да Пражскага эпісталярыю // Роднае слова. – 2009. – № 3. – С. 24 – 29.

24. Берагіня гістарычнай памяці : Старонкі жыцця Людмілы Краскоўскай // Роднае слова. – 2009. – № 4. – С. 18 – 21.
25. Слядамі “Ветразяў Адысея” : Старонкі даследчыцкага пошуку Уладзіміра Калесніка // Роднае слова. – 2009. – № 9. – С. 9 – 11.
26. Перапіска Уладзіміра Калесніка і Людмілы Краскоўскай 1960-х гг. // Роднае слова. – 2009. – № 9. – С. 11 – 13.
27. *“Ваша інфармацыя для мяне надзвычай каштоўная”* : Перапіска Уладзіміра Калесніка і Людмілы Краскоўскай 1970-х гг. // Роднае слова. – 2009. – № 10. – С. 22 – 27.
28. *“...Каб не разбурыўся беларускі Пантэон”* : Лісты Уладзіміра Калесніка да Людмілы Краскоўскай пачатку 1990-х гг. // Роднае слова. – 2009. – № 11. – С. 15 – 18.
29. Ключавыя пытанні славянскага адраджэння першай трэці XX стагоддзя : беларускі кантэкст // Slavistika v premenách času (štúdie z jazykovednej a literárnovednej komparatistiky) : Zborník príspevkov z medzinárodnej vedeckej konferencie 23. – 24. apríla 2009 pri príležitosti 100. výročia narodenia prof. Štefana Tóbika, CSc.; 40. výročia založenia lektorátu poľského jazyka na FF UPJŠ / PU; 15. výročia založenia Katedry slavistiky Filozofickej fakulty FF UPJŠ / PU. – Prešov : Vydavateľstvo Prešovskej univerzity v Prešove, 2009. – S. 296 – 303.
30. Паездка Янкі Купалы ў Чэхаславакію // Купала і Колас, вы нас гадавалі : дакументы і матэрыялы : у 2 кн. / уклад.: В. Д. Селяменеў, В. У. Скалабан; рэд. калегія: М. І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2010. – С. 222 – 225. (Сумесна з В. У. Скалабанам). – Кн. 1. 1909 – 1939.
31. Важкі ўклад у лінгвістычную кампаратывістыку : Пра манаграфію “Фальклорны вектар у кадыфікацыі беларускай і славацкай моў” В. Ляшук (Славакія, Прэшаў, 2009) // Роднае слова. – 2010. – № 10. – С. 59.
32. Светазар Гурбан-Ваянскі і Максім Багдановіч : Знаёмства славацкай і беларускай літаратур праз адзін твор // Роднае слова. – 2011. – № 4. – С. 8 – 13.
33. Ваянскі (Vajanski) Светазар // Максім Багдановіч : энцыклапедыя / склад. І. У. Саламевіч, М. В. Трус; рэдкал. : Т. У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. – С. 128.
34. “Юдава поле” [Пра пераклад аднайменнага апавядання славацкага пісьменніка С. Гурбана-Ваянскага, які прыпісваецца М. Багдановічу] // Максім Багдановіч : энцыклапедыя / склад. І. У. Саламевіч, М. В. Трус; рэдкал. : Т. У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. – С. 577.
35. Славацкі батлеем : Гісторыя, рэгіянальныя асаблівасці, сучасныя формы бытавання // Роднае слова. – 2012. – № 3. – С. 92 – 94.

36. Янка Купала ў Славакіі : манаграфія; навук. рэд. І. А. Чарота. – Мінск: Рэдакцыя часопіса “Роднае слова”, 2012. – 176 с.
37. Дарэктарства: ад народнай педагогікі да нацыянальнай ідэнтычнасці // Роднае слова. – 2012. – № 10. – С. 34 – 36.
38. Плён даследчыцкіх росшукаў: невядомае інтэрв’ю Янкі Купалы 1935 г. // Беларусь на скрыжаванні стагоддзяў: ад класікі да сучаснасці : матэрыялы Міжнар. навук. канф., г. Мінск, 1-2 лістап. 2012 г. / Бел. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка; рэдкал. В. Д. Старычонак, Т. У. Балуш, І. М. Гоўзіч і інш.; адк. рэд. В. Д. Старычонак. – Мінск : БДПУ, 2012. – С. 227 – 230.
39. Янка Купала і Славакія // Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа ў сістэме дзяржаўна-культурных і духоўна-эстэтычных прыярытэтаў XXI стагоддзя : Матэрыялы Міжнар. навук. канферэнцыі (да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа), Мінск, 26–26 верас. 2012 г. / Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нац. акадэміі навук Беларусі, Ін-т. мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. – Мінск : Права і эканоміка, 2012. – 239 с. – С. 40 – 44.
40. БДТУ – Славакія // Тэхнолаг. – 24.06.2013. – № 5. – С. 3.
41. Славацкі погляд на найноўшую беларускую паэзію : Пра кнігу “Беларуская паэзія на пераломе стагоддзяў” І. Сліўковай // Роднае слова. – 2013. – № 6. – С. 22.
42. Славацкія адрасы Янкі Купалы: сінхронны і дыяхронны аспекты бачання // Янка Купала: дыялог з XXI стагоддзем : X Міжнародныя Купалаўскія чытанні, прысвечаныя 130-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы : матэрыялы навуковай канферэнцыі (Мінск, 20‒21 чэрвеня 2012 года) / уклад. А. С. Дражына, А. Р. Ляшковіч; рэд. кал.: В. П. Рагойша (гал. рэд.), А. С. Дражына, А. Р. Ляшковіч. – Мінск: А. М. Вараксін, 2013. – С. 264 – 276.
43. Янка Купала ў Славакіі: метадалагічны дыскурс даследавання тэмы // Труды БГТУ. – 2013. – № 5 (161). – С. 138 – 141.
44. Грані дыпламатычных місій Марыяна Сэрваткі // Роднае слова. – 2013. – № 10. – С. 25 – 26.
45. Сэрватка М. Званар, які слухае час : вершы / М. Сэрватка; пераклад са славацкай мовы М. Труса // Роднае слова. – 2013. – № 10. – С. 27. [“Стары званар”; “Рукі”; “Маці”; “Місіянер у тэлефоннай капліцы…”].
46. Славацка-беларускі паэтычны зборнік “Obnova-Аднаўленне” Яна Замбара і Вікторыі Ляшук // Роднае слова. – 2014. – № 1. – С. 26 – 27.
47. З гісторыі роду Краскоўскіх // Запісы 36 / Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва=Belarusan Institute of Arts and Sciences; рэд.

калегія: Томас Э. Бэрд (гал. рэд) [і інш.]. – New York – Miensk, 2013. – С. 163 – 171.
48. Старонкі жыцьця й архіўныя зборы Людмілы Краскоўскай // Запісы 36 / Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва=Belarusan Institute of Arts and Sciences; рэд. калегія: Томас Э. Бэрд (гал. рэд) [і інш.]. – New York – Miensk, 2013. – С. 172 – 215.
49. З кагорты пакліканых Украінай: Мікола Бітынскі і Людміла Краскоўская // Роднае слова. – 2014. – № 6. – С. 92 – 95.
50. Францішак Ціхі і Янка Купала : Невядомыя старонкі славянскіх літаратурных сувязей 1920 – 1930-х гг. // Роднае слова. – 2014. – № 8. – С. 15 – 18.
51. Купаліяна і беларусістыка ў творчай і навуковай дзейнасці Францішка Ціхага // Праблемы рэцэпцыі і інтэрпрэтацыі спадчыны Янкі Купалы : XI Міжнародныя Купалаўскія чытанні, прысвечаныя 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 70-годдзю заснавання Дзяржаўнага літаратурнага музея Я. Купалы : Матэрыялы навуковай канферэнцыі (Мінск, 19 чэрвеня 2014 г.). – Мінск, 2014. – С. 60 – 67.
52. Брацілаўскі архіў Людмілы Краскоўскай: беларускія і ўкраінскія зборы дакументаў // Запісы 37 / Беларускі інстытут Навукі й Мастацтва. – New York – Miensk, 2014. – С. 637 – 644.
53. 1935 / 2015: Вяртанне (Інтэрв'ю перад дарогай) // Літаратура і мастацтва. – 19.06.2015.
54. Славацкімі шляхамі Янкі Купалы: па слядах міжнароднага праекта // Роднае слова. – 2015. – № 7. – С. 89 – 91.
55. Славацкімі шляхамі Янкі Купалы: Брацілава // Роднае слова. – 2015. – № 8. – С. 81 – 85.
56. Славацкімі шляхамі Янкі Купалы: Святы Юр // Роднае слова. – 2015. – № 9. – С. 80 – 83.
57. Славацкімі шляхамі Янкі Купалы: Модра і Людавіт Штур // Роднае слова. – 2015. – № 10. – С. 92 – 94.
58. Славацкімі шляхамі Янкі Купалы: Пешцяны // Роднае слова. – 2015. – № 11. – С. 89 – 91.
59. Славацкімі шляхамі Янкі Купалы: Ждзяр, Высокія Татры // Роднае слова. – 2015. – № 12. – С. 81 – 83.
60. Мар'ян Серватка. Мабільная сувязь з вечнасцю. Вершы / Пераклад са славацкай М. Труса // Полымя. – 2017. – № 6. – С. 91 – 94. ("Стары званар", "Рукі", "Місіянер у тэлефоннай будцы", "Эсэмэска, адрасаваная Яму").
61. Славацкі падарунак : [Пра зборнік вершаў "А хто там ідзе" Янкі Купалы ў перакладзе на славацкую мову (Брацілава, 2017)] // Полымя. – 2017. – № 7. – С. 163 – 164.

Манаграфія “Купалаўскія адрасы ў Славакіі” М. Труса падрыхтавана ў аддзеле беларускай літаратуры XX і XXI стст. Інстытута літаратуразнаўства імя Я. Купалы Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Ажыццёўлена ў рамках:

- напісання доктарскай дысертацыі “Беларуская літаратура ў міжкультурным дыялогу першай трэці XX стагоддзя” (навуковы кансультант – С. С. Лаўшук, член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар);
- выканання навуковай тэмы “Беларуская літаратура XX – XXI стст.: рэцэпцыя глабальнага і прэзентацыя самабытнага”, задання “Развіццё сучаснай беларускай літаратуры: ідэйныя пошукі, жанравая структура, нацыянальная адметнасць”;
- рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы навуковых даследаванняў на 2016 – 2020 гг. “Эканоміка і гуманітарнае развіццё беларускага грамадства”.

